**Алена Струвэ. Турма, мужчына і жанчына. Як сядзяць у сучаснай Беларусі.** (Бібліятэка Свабоды, XXI стагодзьдзе) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2018. 434 с.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Алена Радкевіч*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

У кнізе «Турма, мужчына і жанчына. Як сядзяць у сучаснай Беларусі» — дакумэнтальныя споведзі людзей з крымінальным досьведам, удзельнікаў перадачы «Свабода ў турмах», якая выходзіла на Радыё Свабода ў 2011–2017 гг. Калі сабраць усіх зьняволеных у Беларусі разам, атрымаецца невялікі горад са сваімі традыцыямі і парадкамі, дзе ёсьць месца гору і радасьці, подласьці і высакародзтву, каханьню і нянавісьці, хваробам і сьмерці, палітычным і пабытовым канфліктам, творчасьці, гумару.


FOL

ISBN 978-0-929849-20-1

# ЗЬМЕСТ

## Турма мае пачатак, але ня мае канца

— У Беларусі ня могуць сядзець, як у Швэцыі, — кажа Зьміцер Дашкевіч.

Палітвязень Дашкевіч, які  прайшоў, здаецца, усе турмы і калёніі ад Горадні да Мазыра, зьведаў ад турэмнай адміністрацыі ўсе формы пакараньня, ад псыхалягічнага гвалту, пазбаўленьня спатканьняў да карцэра, які за кратамі ажаніўся, страціў маці і яго не пусьцілі на пахаваньне, які гаварыў з зэкамі і наглядчыкамі па-беларуску і па-беларуску маліўся, які бачыў усе аблічча жыцьця за  калючым дротам і не падпісаў паперку, якая вярнула б яго па гэты бок свабоды, пра турэмную рэформу сказаў так:

— Адну траціну вызваліць адразу, бо сядзяць ні за што, другой траціне даць па срацы і адправіць да мамкі, а рэшту — сапраўдных злачынцаў — трымаць за кратамі.

Турма — натуральная частка любой дзяржавы. Кодэкс Хамурапі, якому амаль чатыры тысячы гадоў, і крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь выконваюць адну задачу — кажуць сваім грамадзянам, што можна рабіць,  чаго нельга.

Справа ў тым, што́ і як кажуць. У старажытным Бабілёне нормай лічылася аддаць вока за вока, у антычнай Грэцыі на зьмену ідэі помсты прыйшла ідэя пакараньня, элемэнты сучаснай турэмнай сыстэмы, дзе спалучаюцца пакараньне і выпраўленьне, зьявіліся ўжо ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI стагодзьдзі. Статут ВКЛ вызначаў верхнюю мяжу зьняволеньня – адзін год і шэсьць тыдняў, але мала хто выходзіў зь цямніцы здаровым: голад, холад, вільгаць, цемра, ланцуг на шыі.



Сучасная пэнітэнцыярная сыстэма Беларусі нагадвае машыну часу, якая працуе стацыянарна: тут паняцьці часоў Хамурапі суседнічаюць з правіламі Мандэлы, як называюць мінімальныя стандарты ААН што да абыходжаньня са зьняволенымі.

У Швэцыі сядзяць па-швэдзку, але галоўнае там — ня душ у камэрах, доступ да мэдыцыны або адукацыі, а стаўленьне да забойцаў, гвалтаўнікоў, рабаўнікоў, зладзеяў, наркаманаў як да людзей, мужчын і жанчын.

— Яны ўчынілі злачынствы і нясуць пакараньне, але застаюцца ў ліку людзей, — кажа Дашкевіч.

Турма мае пачатак, але ня мае канца — ня ў простым сэнсе рэцыдываў, а таму, што яна — частка грамадзтва, і яе ўплыў не канчаецца за калючым дротам. Узровень цывілізаванасьці грамадзтва вызначае ўзровень цывілізаванасьці турмы — і наадварот.

У катэгорыі бяды турма стаіць адразу перад сьмерцю. А ўсё, што стаіць перад сьмерцю, называецца жыцьцём.

Гэтая кніга — пра жыцьцё.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

# Пра «Свабоду ў турмах»

Я не зьбіраюся даваць ацэнак героям гэтай кнігі. У ёй — дакумэнтальныя споведзі людзей з крымінальным досьведам, тых, хто некалькі гадоў (2011–2017) браў удзел у перадачы «Свабода ў турмах», якая выходзіла на Радыё Свабода.

Чалавек не абавязаны некаму падабацца ці не падабацца, адметнасьць кожнага ў тым, які ён насамрэч. Нашы кантакты абмяжоўваліся «аднатэмнай тэрыторыяй». Часам на нейкі момант паміж намі ўзьнікаў давер, і суразмоўцы раскрываліся як вельмі неадназначныя асобы.

У расказах тых людзей, большасьць зь якіх мелі за плячыма немалыя турэмныя тэрміны, а некаторыя і цяпер за кратамі, не было змагарскага патасу, а быў погляд на турму знутры, свая оптыка, якая паказвала далёка ня толькі «фасад» праблемы. Цікавасьць выклікалі і водгукі крымінальнікаў пра палітвязьняў, якіх у той час было поўна па беларускіх турмах.

Вядома, што дзеля самых розных прычын распаведы ні саміх герояў кнігі, ні іхных родных ды блізкіх, ні тых, хто працаваў і працуе ў турмах, у тым ліку і замежных, ня могуць прэтэндаваць на поўную аб'ектыўнасьць, вялікую шчырасьць ды адкрытасьць. На просьбу многіх даём толькі імёны бяз прозьвішчаў, часам зьмененыя.

Старт праекту Радыё Свабода прыпаў на самы пачатак 2011 году — час, калі ў краіне ўзьнялася грамадзкая цікавасьць да гэтай тэмы. Нагодай сталі масавыя арышты ў сувязі са сьнежаньскімі падзеямі 2010 году на плошчы Незалежнасьці ў Менску. Менш як за месяц беларускія вязьніцы, паводле зьвестак праваабаронцаў ды незалежных СМІ, перапоўніліся, а ў сьледчых ізалятарах арыштанты мусілі спаць па чарзе ўдзьве і нават у тры зьмены.



Многія сваякі і сябры арыштаваных паведамлялі на Свабоду і ў іншыя беларускія СМІ, што цягам некалькіх дзён ня маюць ніякіх зьвестак пра тое, дзе, у якім менавіта астрогу іх блізкія. А даведаўшыся ўрэшце адрасы СІЗА, многія сем'і цягам месяцаў ня мелі ніякага ўяўленьня пра тое, як адчуваюць сябе іх родныя. Лісты з волі і на волю да адрасатаў не даходзілі, спатканьняў не давалі.

І гэта тычылася «палітычных», заклапочанасьць наконт якіх выказвалі ня толькі іх родныя, але і журналісты, праваабаронцы, амбасадары розных краін. Што тады казаць пра сытуацыю з астатнімі, нашмат менш абароненымі вязьнямі! На Радыё Свабода трапляла інфармацыя, што родныя такіх людзей часам па некалькі месяцаў увогуле ня ведалі, куды тыя зьніклі.

За сем гадоў, што выходзіла ў эфір «Свабода ў турмах», перадача набыла немалую колькасьць новых знаёмых з кола асуджаных ды іх сем'яў. Яны сталі суаўтарамі шмат якіх перадач.

Тыя, хто сядзеў працяглы тэрмін, безумоўна, уносілі ў моўную тканку радыёпраграмы свой спэцыфічны каларыт. Тое была абсалютна разьняволеная мова, з сваімі слэнгам, выклічнікамі, паўзамі, недамоўкамі, агаворкамі, «плыньню сьвядомасьці», тое, што пры больш працяглым знаёмстве з чалавекам дапамагае лепш раскрыць яго асобу, псыхатып, асабліва, калі гэта ўсяго толькі тэлефонны кантакт. У перакладзе на паперу шмат што, на жаль, страцілася.

Зьвесткі на волю нашы турэмныя карэспандэнты перадавалі самымі рознымі шляхамі, безумоўна, яны рызыкавалі. Вялікая падзяка ўсім, з кім разам рабілася гэтая «народная перадача». Як і тым, хто дасы-

лаў у рэдакцыю свае водгукі або пакідаў камэнтары на інтэрнэт-форуме «Свабоды ў турмах»

Ні перадачы, ні кніга не атрымаліся б без удзелу і дапамогі аўтара ідэі, дырэктара беларускай службы Радыё Свабода Аляксандра Лукашука, журналістаў — Сяргея Астраўцова, Алеся Асіпцова, Анатоля Гатоўчыца, Алега Грузьдзіловіча, Алеся Дашчынскага, Іны Студзінскай, Алены Сьцяпанавай. Сюжэты некаторых зь іх таксама ўключаныя ў гэтую кнігу. Вельмі ўдзячная таксама кінадакумэнталісту Леаніду Міндліну ды журналісту Васілю Сямашку, якія дазволілі мне пакарыстацца іх журналісцкімі архівамі.

Асаблівая падзяка рэдактару Алене Радкевіч, чыё імя як суаўтара кнігі, як я лічу, мусіць стаяць на вокладцы. Прыношу ёй спачуваньні ў сувязі з тым, што ёй выпала цяжкая доля азнаёміцца з усімі (!) аўтарскімі варыянтамі будучай кнігі і кожны раз, ня страчваючы вытрымкі і такту, бясконца ўдасканальваць тэкст.

# ТУРМЫ І ЗОНЫ

Тэрыторыя ЗК
Зэкі і зэчкі
Злачынствы і пакараньні
Правілы Мандэлы

## І пра радасьць, і пра гора ў сваім жыцьці чалавек сьпявае песьні.

«Цюрма, цюрма — якое слова,
Для всех пазорна і страшно,
А для мяне зусім другое,
Зь цюрмой я пазнаёміўся даўно.
Прывык к жалезным я рашоткам,
Прывык к цюрэмнаму пайку,
Прывык к ваеннаму сьвістку.
Стаіць ў вугле вушак з вадою
І прыбіто калечка у сьцяне.
Але ўсягда са мной знаходзіцца,
Што палагаецца ў цюрме».

Такія гарадзкія арыштанцкія рамансы, як гэты, запісаны ў Беларусі фальклёрна-этнаграфічнай экспэдыцыяй — частка культуры ўмоўнага турэмнага гораду. Бо калі зыходзіць з афіцыйнай колькасьці «насельніцтва» беларускіх месцаў зьняволеньня — больш за трыццаць чатыры тысячы чалавек, то гэта якраз роўна такому гораду, як Ліда, Ворша ці Маладэчна. Зразумела, з нашмат большай шчыльнасьцю людзей на адзін квадратны кілямэтар.

Ва ўмоўным турэмным горадзе больш за шэсьцьдзесят пэнітэнцыярных установаў самых розных відаў. Гэта, напрыклад, дзесяць так званых «клясычных» адасобленых турэмных збудаваньняў камэрнага тыпу. Зь іх шэсьць СІЗА, або сьледчых ізалятараў, і тры непасрэдна турмы — папраўчыя ўстановы з самым жорсткім рэжымам пакараньня.

На тэрыторыі ўмоўнага гораду таксама 20 калёніяў. Зь іх 16 папраўчых, адна выхаваўчая (для непаўналетніх), тры калёніі-пасяленьні, дзе асуджаных утрымліваюць без аховы, але пад наглядам, паколькі тыя працуюць па-за межамі тэрыторыі. Ёсьць яшчэ 29 установаў адкрытага тыпу, так званая «хімія», або «інтэрнат для зьняволеных», дзе самы мяккі рэжым утрыманьня, і, нарэшце, восем лячэбна-працоўных прафіляктарыяў (лечебно-трудовых профилакториев — ЛТП) для алькаголікаў. Іх колькасьць расьце.



На чале ўсёй гэтай турэмнай гаспадаркі стаіць Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў (ДВП), які належыць да структуры Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі.

У саму структуру дэпартамэнту ўваходзяць 7 упраўленьняў:

— апэратыўна-рэжымнай работы
— арганізацыі папраўчага працэсу
— ідэалягічнай работы і кадравага забесьпячэньня
— арганізацыі вытворчасьці і працоўнага выкарыстаньня
— тылавога забесьпячэньня з аддзелам арганізацыі мэдычнага забесьпячэньня спэцкантынгенту
— арганізацыі вытворчасьці і працоўнага выкарыстаньня спэцкантынгенту
— выкананьня прысудаў

Статыстычная інфармацыя аб пэнітэнцыярнай сыстэме Беларусі закрытая для грамадзтва, але паводле таго, што прасачылася ў СМІ, усяго ў Беларусі каля 7 тысячаў супрацоўнікаў пэнітэнцыярнай сыстэмы, суадносіны колькасьці зэкаў да пэрсаналу — 5:1.

## Тэрыторыя ЗК

Часта блытаюць паняцьці «турма» і «зона», хоць абодва азначаюць месцы пазбаўленьня волі з найбольш жорсткім, у параўнаньні зь іншымі пэнітэнцыярнымі ўстановамі, утрыманьнем.

Што тычыцца агульнага паміж імі, то і турма, і зона ізаляваныя ад вонкавага сьвету дротам ды непранікальным мурам, тут свая ваенізаваная ахова, свой строгі прапускны рэжым, рубяжы бясьпекі, аўтаматчыкі з сабакамі.

Адрозьненьняў, аднак, значна больш.

Турма — гэта агульнае паняцьце, якое выкарыстоўваецца ў дачыненьні да ўстановаў для тых, хто ўчыніў, або падазраецца ва ўчыненьні крымінальнага злачынства, і адпаведна, згодна зь дзейнымі законамі, грамадзтва мае патрэбу ў іх ізаляцыі.

Вонкава — гэта адасобленае збудаваньне з закратаванымі вокнамі, якое забясьпечвае так званы “крыты рэжым”. Жыцьцёвая прастора вязьня абмежаваная чатырма сьценамі камэры. Таксама абмежаванае і ягонае перамяшчэньне — вязень мае права на адну гадзіну ў суткі для шпацыру ў турэмным дворыку.

Астатнія 23 гадзіны (за выключэньнем часу, праведзенага са сьледчымі, адвакатам ці рэдкага спатканьня з блізкім празь перагародку і тэлефон) зьняволены павінен знаходзіцца ў невялікай “камэры-камуналцы” з двух’яруснымі ложкамі. Гэта для яго адначасна і спальня, і кухня, і прыбіральня, і курылка, і месца адпачынку.

Зона — гэта выключна размоўны тэрмін, які ўжываецца як сынонім паняцьцю «папраўчая калёнія». Вонкава яна нагадвае ізаляваны пасёлак тэрыторыяй прыкладна 15 га, часам больш, часам менш.

Тут свая акрэсьленая інфраструктура. Жылыя зоны з баракамі або інтэрнатамі, адміністрацыйны будынак, працоўныя зоны, падсобная гаспадарка, крамы-шапікі, мэдчастка, месцы для заняткаў спортам, пральні з лазьняй, кацельня. На тэрыторыі большасьці папраўчых установаў ёсьць храмы. У Гомельскай жаночай калёніі № 4 ёсьць Дом малюткі — для дзетак арыштантак ва ўзросьце да трох гадоў.

Рэжым утрыманьня ў калёніі, як правіла, вальнейшы за турэмны. Вязьні адносна свабодна перамяшчаюцца ў межах зонаў, ходзяць на працу, могуць наведваць клюб і бібліятэку, займацца спортам.

Зьняволеныя жанчыны ў Беларусі складаюць менш за 10% ад агульнай колькасьці ўсіх турэмных насельнікаў, то бок прыкладна 3 тысячы. Самым юным арыштантам у краіне — 14 гадоў, самым старым — ад 80-ці і вышэй.



Зьняволеных мужчын і жанчын у пэнітэнцыярных установах сучаснай Беларусі трымаюць паасобку. Ва ўмовах камэрнага тыпу — у сьледчых ізалятарах (да суду), а таксама турмах (сюды з папраўчых калёній накіроўваюць за парушэньне рэжыму) — арыштанты і арыштанткі хоць і пад адным дахам, але цалкам ізаляваныя адны ад адных. Што да «зоны», дык тыя падзеленыя на выключна жаночыя і выключна мужчынскія.

У калёніях-пасяленьнях ды ўстановах адкрытага тыпу, у якасьці назваў якіх усё яшчэ выкарыстоўваюцца савецкія абрэвіятуры ІКП («исправительные колонии-поселения») ды ІУОТ («исправительные учреждения открытого типа») здараюцца выключэньні.

У калёніі-пасяленьні ў Ветцы ды адкрытай папраўчай установе ў Асіповічах мужчын ды жанчын трымаюць разам у адным будынку, але на розных паверхах ці канцах калідора. Знаходжаньне разам у адных пакоях не вітаецца адміністрацыяй, але і не забараняецца.

Таксама сядзяць асобна і непаўналетнія злачынцы рознага полу. Хлопчыкі ад чатырнаццаці да васямнаццаці (у асобных выпадках верхняя ўзроставая мяжа дасягае 21–23 гадоў) утрымліваюцца ў бабруйскай выхаваўчай калёніі. Да 2007 году такіх установаў было тры.

Для непаўналетніх дзяўчат-крымінальніц існуе асобны атрад пры жаночай папраўчай калёніі № 4 у Гомлі. Да 2007 году для іх на тэрыторыі гомельскай «чацьвёркі» дзейнічала выхаваўчае аддзяленьне для дзяўчат.

Паводле міжнароднай базы дадзеных World Prison Brief за 2016 год, у выхаваўчых установах у Бабруйску (хлопцы) і ў Гомлі (дзяўчаты) утрымлівалася да трохсот падлеткаў.

Згодна з ацэнкамі ААН, гэта высокі паказчык. Паводле колькасьці малых зьняволеных (25 на 100.000 дзіцячага насельніцтва) Беларусь сярод краін Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы і СНД мела другую пазыцыю пасьля Альбаніі (112).

Прыкладна палова падлеткаў, якія прайшлі выхаваўчую ўстанову, трапляе потым у дарослыя калёніі.

## Зэкі і зэчкі

З часоў СССР на турэмнай тэрыторыі Беларусі захоўваецца старая савецкая турэмная культура. Так арыштантаў ды арыштантак у турэмным асяродзьдзі па-ранейшаму называюць «зэкамі» ды «зэчкамі». Ад скарачэньня савецкага наватвору «зьняволены каналаармеец» («ЗэКа», «З/К»), якое выкарыстоўвалі ў дакумэнтах ад 1920-х да пачатку 1960-х гг.

Па-ранейшаму ў асяродзьдзі крымінальнікаў-мужчын, хоць і значна менш, чым у часы СССР, гучыць характэрная, неперакладальная на іншыя мовы «феня», захоўваецца «каставая» сыстэма ды «зладзейскія паняцьці». Аднак апошняе тычыцца ўсё ж мужчынскіх турмаў.

Зьняволеныя мужчыны — «зэкі» — тэрмін «зэчка» ўжываюць у некалькіх значэньнях.

Вядома, найперш гэта зьняволеная жанчына. Але таксама «зэчкай», паводле былых арыштантаў, называюць гідкую вынаходку савецкіх часоў — алюмініевы кубак: калі гатуеш у ім гарбату, кубак распаляецца так, што не дакрануцца, але ўсярэдзіне напой халодны.

Яшчэ «зэчка» — гэта частка летняга лягернага адзеньня: баваўняная кепка.

Нарэшце, апошнім часам, найчасьцей у Расеі, выраз «зэчка» ўжываюць (паводле аналёгіі, як «салдат — салдатка») у дачыненьні да «зэкаўскіх» жонак, маці, сясьцёр ды дачок — тых, каго традыцыйна можна сустрэць у чэргах каля турмаў ды калёній.



Самі арыштанткі, за рэдкім выключэньнем, да турэмна-блатной лексыкі, як і да іншых атрыбутаў лягернай субкультуры, ставяцца нашмат халадней, чым зьняволеныя мужчыны. У жаночых турмах няма характэрнай для мужчынскіх «чырвонай» ды «чорнай» афарбовак, уласных «масьцей» ды кастаў (пра асаблівасьці мужчынскіх турмаў будзе ніжэй), няма «галоўнай» або «каранаванай «зэчкі».

Блатная мова калі і гучыць на жаночай беларускай зоне, то надзвычай рэдка, як правіла, ад рэцыдывістак. Мужчынскія турмы маюць акрэсьленую «вэртыкальную герархію», а прынцып жаночай турмы, наадварот, гарызантальны. Тут прынята жыць так званымі «сем'ямі».

## Злачынствы і пакараньні

Беларусак і беларусаў асуджаюць прыкладна за тыя самыя злачынствы: крадзяжы, рабункі, распаўсюд наркотыкаў, хуліганства, бытавыя забойствы (найчасьцей у стане алькагольнага ап'яненьня), няплату аліментаў. Вялікі адсотак (у мужчын больш за 30%, а ў жанчын каля 50%) складаюць асабліва цяжкія злачынствы — забойствы, а таксама калецтвы, якія вядуць да сьмерці.

Сярод спэцыфічна жаночых цяжкіх злачынстваў — дзетазабойства. Як правіла, учыняюць яго маладыя дзяўчаты, якія ня маюць сям'і, дастатковага матэрыяльнага забесьпячэньня, уласнага жытла.

Калі «Свабода ў турмах» ладзіла традыцыйнае для гэтай перадачы вулічнае апытаньне ў Гомлі і Магілёве — гарадах, дзе месьцяцца жаночая ды мужчынская калёніі, — большасьць рэспандэнтаў выказалася за тое, каб закон караў усіх аднолькава, незалежна ад полу, а за дзетазабойства каб давалі нашмат больш жорсткія прысуды, чым цяпер.

У Беларусі суды звычайна ставяцца да жанчын мякчэй, чым да мужчын. За няжорсткія злачынствы — напрыклад, крадзяжы — жанчын значна часьцей, чым мужчын, асуджаюць без пазбаўленьня волі або караюць умоўна. Таксама заканадаўства забараняе прысуджаць жанчынам пажыцьцёвае і сьмяротнае пакараньне, тое, што ўжываецца ў дачыненьні да мужчын.

Апошняй з жыхарак Савецкай Беларусі, каму прысудзілі расстрэл, была Антаніна Макарава зь Лепелю — «Тонька-кулямётчыца», якая пры немцах расстрэльвала мірных жыхароў на Браншчыне. Доўгі час ёй удавалася хавацца, выкрылі яе выпадкова. Прысуд быў вынесены ў 1978 годзе.

Самы жорсткі вырак, які ў незалежнай Беларусі можа выносіцца жанчыне-злачынцы — гэта пазбаўленьне волі на 25 гадоў. У 2016-м на 19 гадоў турмы асудзілі 23-гадовую Юлію Астапенку. Да крымінальнай адказнасьці яе прыцягнулі паводле арт. 328, ч. 5 Крымінальнага кодэксу — распаўсюд наркотыкаў, які пацягнуў за сабой сьмерць спажыўца (ад псыхатропаў памёр 16-гадовы хлопец). Такі самы прысуд атрымаў яе прыяцель Аляксандар Чарапко. Асуджаныя таксама мусілі выплаціць маці загінулага хлопца кампэнсацыю за маральныя страты.

Жанчын, за рэдкім выключэньнем, пры злосным парушэньні правілаў унутранага распарадку ў калёніі не пераводзяць, як мужчын, на больш жорсткі турэмны рэжым. Апошнімі гадамі зафіксаваныя адзінкавыя выпадкі, калі арыштанткі адбывалі пакараньне «на турме» ў Магілёве. У 2016 годзе такіх жанчын было дзьве, у 2017-м — адна.

## Правілы Мандэлы

Як і іншыя пэнітэнцыярныя сыстэмы сьвету, Беларусь прызнае ў якасьці ўнівэрсальнага турэмнага стандарту «Мінімальныя стандартныя правілы абыходжаньня са зьняволенымі». У 2015 годзе Генэральная Асамблея ААН прадставіла абноўленыя «Мінімальныя стандарты», што ўлічваюць сусьветную практыку ў сфэры працы пэнітэнцыярных установаў і адлюстроўваюць новы падыход да кіраваньня турмамі ў XXI стагодзьдзі.



Дакумэнт, названы «Правіламі Мандэлы» (у гонар першага чарнаскурага прэзыдэнта Паўднёвай Афрыкі Нэльсана Мандэлы, які правёў у зьняволеньні 27 гадоў), дэкляруе прынцып гуманнага абыходжаньня са зьняволенымі і абараняе годнасьць людзей, якія апынуліся за кратамі. Сярод іншага:

— у турмах забароненая любая дыскрымінацыя (паводле расавай прыкметы, полу, мовы і г. д.);

— мужчыны і жанчыны, падсудныя і асуджаныя, малалетнія і дарослыя вязьні, простыя сядзельцы і рэцыдывісты павінны ўтрымлівацца асобна;

— кожнаму ЗК у ідэале павінна належаць асобная «камэра ці пакой», а пры ўтрыманьні ў агульных камэрах — асобны ложак;

— асьвятленьне камэр павінна дазваляць чытаць і працаваць «безь небясьпекі для зроку», а іх «кубатура» і вэнтыляцыя адпавядаць санітарным нормам;

— прыбіральні неабходна трымаць у чысьціні, вязьні павінны мець да іх бесьперашкодны доступ;

— асуджаным гарантуецца магчымасьць мыцца найменей раз на тыдзень, мужчынам — рэгулярна галіцца;

— харчаваньне павінна быць рэгулярным і «дастатковым для падтрыманьня здароўя і сілаў», а вада — даступная ў любы момант;

— зьняволеныя маюць права штодня найменей адну гадзіну гуляць на адкрытым паветры або займацца фізычнымі практыкаваньнямі;

— асобы, пазбаўленыя волі, маюць поўнае права на такія самыя стандарты ў сфэры аказаньня мэдычнай дапамогі, як і іх суграмадзяне на волі;

— зьняволеныя зь ВІЧ павінны мець доступ да антырэтравірусных прэпаратаў, адпаведным лячэньнем

павінны быць забясьпечаныя хворыя на сухоты і розныя хранічныя захворваньні, а таксама нарказалежныя;

— ва ўсіх турмах неабходна мець штатнага лекара агульнай практыкі. Акрамя таго, зьняволеныя павінны атрымліваць прафэсійную стаматалягічную дапамогу;

— асуджаныя павінны мець магчымасьць рэгулярна асабіста кантактавацца з роднымі і сябрамі, даведвацца навіны са СМІ ці «іншымі спосабамі, кантраляванымі адміністрацыяй»;

— у кожнай турме мусіць быць бібліятэка;

— вязьні абавязаныя працаваць, але праца не павінна прыносіць пакуты і яе варта «справядліва аплачваць»;

— пры пакараньні зьняволеных варта пазьбягаць жорсткасьці, прыніжэньня іх чалавечай годнасьці і цалкам выключыць цялесныя пакараньні, зьмяшчэньне ў «цёмныя камэры», кайданы і ланцугі;

— забараняецца выкарыстаньне адзіночнага зьняволеньня ў дачыненьні да жанчын і дзяцей;

— жаночыя турэмныя ўстановы павінны мець адмысловыя памяшканьні для неабходнага лячэньня і догляду за цяжарнымі жанчынамі і парадзіхамі. Там, дзе гэта магчыма, варта клапаціцца аб тым, каб роды адбываліся не ў турэмным, а ў цывільным шпіталі;

— клопат пра жанчын, якія знаходзяцца ў зьняволеньні, і нагляд над імі варта ўскладаць толькі на супрацоўнікаў жаночага полу.

У цэлым, на думку ААН, турэмны рэжым павінен мінімальна адрозьнівацца ад жыцьця на волі, каб «не зьнішчаць у асобе чалавека за кратамі пачуцьця адказнасьці і чалавечай годнасьці».

Правілы Мандэлы носяць рэкамэндацыйны характар і часткова выконваюцца ў Беларусі.

# МУЖЧЫНСКАЯ ЗОНА

«Чырвонае» і «чорнае»
Без «аўтарытэтаў»
Касты і масьці
«Гражданин начальник»
Крах «паняцьцяў»
Дзеля зладзейскай ідэі
Як былы блатны стаў «мужыком»
Маральны гвалт
Чырвона-чорны колер

**Сярэдні беларускі ЗК сёньня — гэта мужчына 35–40 гадоў. Але шмат маладзейшых: кожнаму трэцяму няма і 30.**

Беларускія вязьні-мужчыны, акрамя СІЗА ды турмаў, а таксама ўстановаў адкрытага тыпу, утрымліваюцца у 13 папраўчых калёніях. У мужчынскай зоне ўжо няма так званых «казармаў», або расьсяленьня атрадамі да 100 чалавек у адным памяшканьні. Рэдка дзе, у старых карпусах, селяць разам па 50 чалавек (паўатрада). Найчасьцей расьсяляюць па кубрыках на 10–20–30 зьняволеных.

Нормы паводзінаў асуджаных рэгулююцца правіламі распарадку, зацьверджанымі МУС.

У гэтым пераліку 12 пунктаў так званага «дазволу», якія перагукаюцца з правіламі Мандэлы — такія, як права на ветлівае абыходжаньне з боку адміністрацыі ўстановы, права на ахову здароўя і асабістую бясьпеку, права насіць спартовае адзеньне і абутак падчас спартовых мерапрыемстваў і г. д.

Каб пералічыць забароны, спатрэбіліся 33 пункты: напрыклад, недапушчальна ляжаць на ложках у пэрыяд ад пад'ёму да адбою. Парушэньне гэтага пункту вельмі часта вядзе да розных штрафных санкцыяў, у тым ліку да накіраваньня вязьня ў ШЫЗА.

Рэгулюецца сэкс — «забаронена займацца мужалоствам, лесьбіянствам ды ўчыняць распусныя дзеяньні», хоць адміністрацыя насамрэч нярэдка заплюшчвае вочы на такія заняткі.

Некалькі пунктаў прысьвечаныя непасрэдна ўзаемаадносінам паміж асуджанымі ды супрацоўнікамі папраўчых установаў. Так асуджаныя абавязаныя пры сустрэчы з супрацоўнікамі ды іншымі асобамі, якія наведваюць калёнію, устаць, каб прывітацца, зьвяртацца на «вы» і называць «грамадзянін», «грамадзянка» і далей па званьні альбо займанай пасадзе.



Супрацоўнікі ўстановы, у сваю чаргу, павінны зьвяртацца да асуджаных на «вы» і называць іх «асуджаны», «асуджаная», «грамадзянін», «грамадзянка» і па прозьвішчы.

Супрацоўнікам катэгарычна забараняецца ўступаць з асуджанымі і іх сваякамі ў якія-небудзь адносіны, не рэглямэнтаваныя крымінальна-выканаўчым заканадаўствам і адпаведнымі правіламі.

## «Чырвонае» і «чорнае»

Ад часоў СССР мужчынская турэмна-лягерная сыстэма ў большасьці краін постсавецкай прасторы мае, так бы мовіць, два колеры. Чырвоны — калі строга захоўваецца рэжым, вызначаны Папраўча-працоўным кодэксам, унутранымі загадамі ды інструкцыямі, калі ня толькі фармальна, але рэальна ўстановай кіруе міліцэйская адміністрацыя («грамадзяне начальнікі»). Чорны — калі зладзейскія традыцыі ды правілы («паняцьці») дамінуюць над міліцэйскімі і ўладу за кратамі нефармальна трымаюць апазыцыйна настроеныя да адміністрацыі асуджаныя на чале з «аўтарытэтамі».

На практыцы «чырвонае» і «чорнае» прысутнічалі і паціху суіснавалі ледзь ня ў кожнай турэмна-лягернай установе. Найчасьцей удзень за кратамі кіравала адміністрацыя, а ўначы — так званыя «злодзеі ў законе», «блатныя».

У Беларусі адносная раўнавага ў зонах двух колераў, паводле «сядзельцаў са стажам», трымалася недзе да 2005–2010 гадоў. Сёньня беларуская турэмна-лягерная сыстэма лічыцца адной з самых «чырвоных» на тэрыторыі былога СССР.

# Без «аўтарытэтаў»

## *Ад былога турэмніка*

Палкоўнік міліцыі, былы начальнік СІЗА № 1 на Валадарскага («Валадаркі») ды калёніі ў Навасадах Алег Алкаеў зьвязвае адсутнасьць крымінальных аўтарытэтаў з пасьпяхова праведзенай у нулявыя прэзыдэнцкай барацьбой за «чырвонае» адзінаўладзьдзе за кратамі ды ўвядзеньне жорсткіх законаў супраць крыміналу.

**— Няма крымінальных аўтарытэтаў у Беларусі сёньня, а калі яны і ёсьць, то ніякага ўплыву на сытуацыю ў турмах ужо ня маюць. Законы тут жорсткія. Можа, калі тыя «зладзеі» былі, было крышку вясялей. Яны ня шкодзілі і нават неяк разумна ўсё трымалі.**

**Яны мелі сваю «зладзейскую» касу, своеасаблівы фонд узаемадапамогі для злачыннай супольнасьці — «абшчак», сродкі зь якога ішлі, між іншым, на падтрымку зьняволеных, якія апынуліся ў цяжкай сытуацыі — напрыклад, у сьледчым ізалятары (СІЗА), штрафным памяшканьні камэрнага тыпу (ПКТ), у спэцпалатах турэмнага шпіталя, дзе лячылі вязьняў турэмнага, асаблівага і пажыцьцёвага рэжымаў, таксама на подкуп адміністрацыі і г. д.**

**Для «аўтарытэтаў» было выгадна, каб зэкі, хоць гэта і супярэчыла некаторым «паняцьцям», працавалі ды выконвалі плян. Яны пра гэта не казалі, вядома, нікому. Аднак паводле іхніх паняцьцяў было так: калі зэкі гуляюць у карты, зь любога выйгрышу недзе дзесяць адсоткаў — «на абшчак», гэта значыць ім — «зладзеям у законе». А аддаваць не было з чаго, таму трэба было плян выконваць, каб грошы былі. А калі «на абшчак» не аддаў, то былі вялікія праблемы ў бандыта. І выходзіла, што зладзеі стымулявалі працу. Дзіўны спосаб, але ён дзейнічаў.**

**Вядома, начальнік не мірыўся: яму няёмка было, калі дублёр нейкі ў зоне кіруе. З другога боку, што такое зона? Ноччу толькі дзяжурны афіцэр і шэсьць кантралёраў. На пяць тысяч чалавек, да прыкладу. Таму ноччу зона, канечне, належала бандытам. Калі яны былі разнашэрсныя, то было многа праблем, рэзалі, забівалі. Было лягчэй, калі адзін зонай кіраваў па вечарах, па начах.**

**Старыя зладзеі, кшталту Дзеда Хасана, Япончыка, якіх ужо пазабівалі, праблемаў не стваралі. У іх было адно правіла: каб на руках не было крыві. Яны нікога не забівалі асабіста, самі. На сёньня значэньне гэтых аўтарытэтаў, вядома, прыніжана. А маладняк — ужо іншай фармацыі. Зьявіліся «беспредельщики» маладыя, я іх ужо ня ведаў, я пятнаццаць гадоў не пры справах.**

66-гадовы палкоўнік унутранай службы Алег Алкаеў больш за 30 гадоў прапрацаваў у пэнітэнцыярнай сыстэме СССР, а ад пачатку 1990-х — Беларусі. У СІЗА № 1 у Менску кіраваў камандай, якая выконвала сьмяротныя прысуды. У 2001-м выступіў з выкрыцьцём адносна выкраданьня і меркаванага забойства вядомых беларускіх палітыкаў, пасьля чаго эміграваў у Нямеччыну, дзе атрымаў палітычны прытулак.



# Касты і масьці

## *Ад былога рэцыдывіста*

Адзін з герояў ды кансультантаў «Свабоды ў турмах», у мінулым неаднойчы суджаны Зьміцер Вольны тлумачыць каставую герархію турмы:

**— Турма — гэта кансэрватыўная структура, а таму, нават пры фактычнай адсутнасьці прызнаных крымінальных аўтарытэтаў («зладзеяў»), за кратамі ў Беларусі, як і ў іншых постсавецкіх краінах, існуе своеасаблівая каставая герархія. Так, самую высокую прыступку ў ёй займаюць прафэсійныя злачынцы, або «блатныя» (яны называюць сябе «брадзягамі»).**

Блатны павінен прызнаваць турэмны закон, прытрымлівацца "правільных паняцьцяў", мець "чыстае", не зьвязанае з працай на ўладу мінулае, не працаваць у зоне. Раней дапускалася, што блатныя могуць выходзіць на працу ў тым выпадку, калі яна не дае афіцыйнай улады над астатнімі вязьнямі. Але і гэтае правіла перастала сёньня быць безумоўным.

**— Далей ідзе асноўны працоўны касьцяк усіх лягераў — «мужыкі», то бок не прафэсійныя злачынцы, а звычайныя зьняволеныя, якіх большасьць.**
**Потым тыя, хто адкрыта супрацоўнічае з адміністрацыяй — «казлы», ад турэмнікаў яны атрымліваюць пасады кшталту днявальных, заўгасаў і г. д. У «чырвонай» беларускай зоне гэтая «масьць» паступова пачынае выцясняць «блатных» з вышэйшай прыступкі ў турэмнай герархіі.**
**І, нарэшце, найніжэйшая, самая бяспраўная і недатыкальная каста — «апушчаныя», або «петухі». Яны мусяць займацца самай прыніжальнай з гледзішча арыштанцкай маралі працай — мыць прыбіральні ды чысьціць сьметніцы, сталавацца асобна ад іншых зьняволеных, спаць ды жыць за кратамі на адмыслова прызначаных ім месцах. Прадстаўнікі гэтай «масьці», калі яны маюць нетрадыцыйную сэксуальную арыентацыю, могуць адпаведным чынам абслугоўваць іншых зэкаў.**



**Існуюць яшчэ розныя прамежкавыя групы, куды ўваходзяць тыя вязьні, якія парушылі «паняцьці». Напрыклад, «шныры» — своеасаблівыя služkі прадстаўнікоў вышэйшых кастаў. Яны за плату мыюць за іншымі посуд, адзеньне і г. д. Ёсьць «адсаджаныя» — часова прызнаныя недатыкальнымі, пакуль пытаньне іх пераводу ў найніжэйшую касту ня вырашыцца канчаткова. Характэрная асаблівасьць гэтай герархіі тая, што статус можа толькі паніжацца. І што істотна: за кратамі ўсе зэкі паміж сабой адзін да аднаго зьвяртаюцца выключна на «ты».**

Як колішні ЗК зь вялікім стажам Зьміцер Вольны зьведаў самыя розныя турэмныя рэжымы. Утрымліваўся, напрыклад, на самым суворым зь іх — асаблівым, які праіснаваў у Глыбоцкай калёніі да сярэдзіны нулявых.

**— Я сядзеў там на пачатку 2000-х. Зразумела, тады шмат што было ня так, як за старымі часамі. Кантынгент вязьняў істотна амаладзіўся. Аднак традыцыі, атмасфэра мінулых гадоў тады ўсё яшчэ захоўваліся. Калі я пытаўся ў старых сядзельцаў, як прынята гаварыць у нашай субкультуры, "за мінулае" (ня "пра", а менавіта "за"), заўсёды чуў адказ, што раней было лепш. Напэўна, таму, што самі былі маладзейшыя, іхняе жыцьцё было ў разгары.**
**Тады на зоне гучала сапраўдная феня, злачынствы дзяліліся на "прыстойныя", калі размова ішла пра нейкае віртуознае махлярства, пра "шчыпачоў", "шніпераў" і г. д., і — "непрыстойныя", калі гэта былі пэдафілы, наркагандляры, нелюдзі. Адпаведнае было і стаўленьне да такіх сядзельцаў.**

Зьміцер, 40-гадовы мужчына, які цяпер жыве на Захадзе і вядзе абсалютна іншае, законапаслухмянае жыцьцё, ня мае ніякай настальгіі ні па тых часах, ні па пазьнейшых. Ён толькі кажа, што, на жаль, «значная частка турэмнай публікі ўсё больш “збыдляецца”. Аднак, напэўна, тут справа ня толькі ў турэмных парадках, але і шмат у чым яшчэ».

## «Гражданин начальник»

### *Ад журналіста, былога зэка*

У канцы мінулага стагодзьдзя журналіст Васіль Сямашка быў асуджаны за хуліганства. Сядзець давялося ў калёніі, якой цяпер ужо няма — УЖ 15/1 у Менску на Кальварыйскай, а таксама ў СІЗА на Валадарскага.

Цягам апошніх 20 гадоў практычна ўсё за кратамі захавалася ў нязьменным выглядзе, мяркуе Васіль Сямашка.

Калёнія на Кальварыйскай, паводле журналіста, мела выключна чырвоную афарбоўку. Яна мала адрозьнівалася ад цяперашніх зон. Хіба вонкава нешта зьмянілася. Ад 2000-х для абіўкі гнілых турэмных сьценаў пачалі выкарыстоўваць танныя сучасныя аддзелачныя матэрыялы кшталту плястыкавага сайдынгу. Лямпачкі пачалі ўкручваць энэргазьберагальныя, плястыкавы посуд замяніў алюмініевы. У астатнім — безь пераменаў.

Многія «блатныя», адчуўшы каньюнктуру, рабіліся «казламі». Уладкоўваліся заўгасамі, брыгадзірамі. Разам з астатнімі ЗК галасна віталі турэмнае кіраўніцтва словамі: «Здравия желаю, гражданин начальник!»

Маючы паўнамоцтвы ад турэмнага начальства, прымушалі зэкаў выконваць патрабаваньні адміністрацыі. Нягледзячы на чырвоную афарбоўку, каставасьць як



была, так і застаецца. Аднак замест «паняцьцяў» усе разам з экс-«блатнымі» падпарадкоўваюцца нормам паводзінаў асуджаных папраўчых установаў.

Журналіст узгадвае, як падчас ягонага сьледзтва на «Валадарцы» ў 1997–1998 гадах «грамадзянінам начальнікам» быў палкоўнік міліцыі Алег Алкаеў, зэкі зьвярталіся да яго толькі так.

Насельнікаў камэр загадзя папярэджвалі, што зойдзе кіраўніцтва. Камэру трохі прыбіралі. Шыхтаваліся. Віталі начальства хорам, але не раўлі, як у войску.

**— Не было на «Валадарцы» вайсковай паказухі. Чуў, што вайскова-парадны стыль вітаўся ў СІЗА ў Жодзіне, але я там ня быў. Турэмныя начальнікі бываюць розныя — хваткія, жорсткія, хітрыя, цынічныя. Шчасьце, калі чалавек на гэтай пасадзе яшчэ і разумны ды добра ведае закон — бо, як паказвае практыка, ва ўмовах беларускай турмы нават апошняе не абавязкова.**

Як кажа журналіст, зьняволеныя са стажам, параўноўваючы ранейшае і пазьнейшае кіраўніцтва «Валадаркі», казалі, што Алкаеў сярод ЗК лічыўся нядрэнным турэмнікам. Прынамсі, да яго ў менскім СІЗА рэжым утрыманьня быў значна больш жорсткім:

**— Канец 1990-х стаў для «Валадаркі» часам найбольшых пераменаў. За кратамі апынулася багата камэрсантаў, палітычных дзеячоў, дзяржаўных чыноўнікаў. Яны моцна зьмянілі традыцыйны кантынгент арыштантаў — дзесяцігодзьдзямі гэта збольшага былі дробныя зладзеі ды рабаўнікі, часам бытавыя забойцы, публіка, якая ня можа пахваліцца высокім інтэлектам. Сур’ёзных злачынцаў тады на «Валадарцы» было мала.**
**Аднак потым сярод зьняволеных зьявіліся вядомыя, уплывовыя людзі, праблема жудасных турэмных**

**умоваў трапіла ў прэсу. Давялося нешта рабіць. Пэўныя пытаньні разьвязаць было вельмі проста, чым і скарыстаўся начальнік турмы Алег Алкаеў. Ён проста адмяніў некаторыя зьдзеклівыя забароны і здабыў сабе гэтым славу «справядлівага гаспадара».**

Паколькі дзяржава не магла нармальна карміць зьняволеных, Алкаеў даў такое права іх сваякам. Вага дазволеных да перадачы прадуктаў павялічылася з васьмі кілаграмаў на месяц да трыццаці. Кілё ежы на дзень плюс тое, што яшчэ даюць у турме — гэта ня толькі магчымасьць лепш харчавацца, гэта іншая псыхалягічная абстаноўка ў камэры, бо сыты чалавек — дабрэйшы.

Дагэтуль зрабіць дадатковую харчовую перадачу для свайго сямейніка можна было праз апэратыўнага афіцэра за 20 даляраў на месяц. Гэта пры тым, што пры такой таксе апэратыўнікі яшчэ і «надкусвалі» гэтыя левыя перадачы. Натуральна, большасьць службоўцаў турэмнай сыстэмы ў штыхі ўспрынялі алкаеўскую харчовую рэформу.

Вялікай палёгкай для сваякоў стала і іншае новаўвядзеньне «грамадзяніна начальніка». Алкаеў распарадзіўся прымаць перадачы цягам усяго працоўнага тыдня. Раней на гэта адводзіліся строга вызначаныя дні і гадзіны. Перад турмой утвараліся велізарныя чэргі. Многія, у тым ліку хворыя, пажылыя, іншагародныя, займалі ў іх месца яшчэ з ночы.

Вельмі важным для зьняволеных было рашэньне зьняць з вокнаў камэраў «расьнічкі» — своеасаблівыя жалюзі з мэталічных палос таўшчынёй два-тры мілімэтры, так што лапік неба можна было ўбачыць, толькі прысеўшы перад акном на кукішках. «Расьнічкі» мала таго, што не прапускалі дзённага сьвятла, але і не давалі насельнікам перапоўненых камэр нармальна дыхаць.



Праўда, пасьля ад’езду Алкаева ў Нямеччыну ягоны наступнік, «грамадзянін начальнік» Мікалай Саевіч, распарадзіўся зноў навесіць «расьнічкі».

## Крах «паняцьцяў»

### *Ад былога «мужыка»*

Мянчук Алег Б., як і Васіль Сямашка, сядзеў аднойчы. Але ўжо ў другой палове нулявых — пачатку дзясятых. Паводле яго, ён трапіў за краты «ў той цікавы час, калі відавочныя перамены адбываліся ня толькі ў грамадзтве, але і на зоне». Замест «зладзейскіх паняцьцяў» усталявалася міліцэйская ўлада, усё меншай станавілася ўласьцівая для савецкіх турмаў згуртаванасьць сярод ЗК.

Шмат сядзельцаў, расказваў Алег, «адкрыта супрацоўнічалі з адміністрацыяй і не хавалі гэтага», а «мянты» стварылі такую сытуацыю, калі «для зьняволеных страўнік зрабіўся важнейшы за ідэю», людзі пачалі «стукаць», «пляваць адны на адных». Асабліва гэта пачало заахвочвацца пасьля таго, як у калёніі зьявіліся палітвязьні.

**— У калёніі, куды я сеў за бойку, я ніколі не належаў да так званых «блатных», сьвядомых крымінальнікаў. На зоне я быў, як і большасьць зэкаў, «мужыком», працаваў на промцы. Але лічу: пакуль у пэнітэнцыярнай сыстэме не праведзеныя кардынальныя рэформы, нельга зьнішчаць «паняцьці» (ва ўсякім разе, большасьць зь іх), якія існуюць у асяродзьдзі зьняволеных. Гэта свайго кшталту кодэкс правілаў ЗК, каб ніхто нікому не перашкаджаў жыць у адной клетцы.**

**Напрыклад, калі ты ня мыесься, калі ты смуроднік, то, калі ласка, жыві ня разам з усімі ў бараку, а на ўваходзе. Ня лезь у спальню, дзе людзі будуць**

**пакутаваць ад тваёй прысутнасьці. Тое самае — ня крадзь у іншых сядзельцаў з прычыны ўласнага кішкаблудзтва. Інакш за гэта будзеш строга пакараны. Паводзь сябе прыстойна, як належыць ва ўмовах мікрасоцыюму, паважай іншых.**

**Яшчэ ёсьць такія рэчы, як шмон, калі прыходзяць абшукваць. Са мной гэта часта адбывалася. Сэкцыя на 70 чалавек, а ў мяне пастаянна так раскідвалі рэчы, што ручнік знаходзіш у адным баку памяшканьня, шкарпэтку ў іншым, майка ўвогуле невядома дзе. Яшчэ спэцыяльна патопчуцца ботамі па чыстых рэчах. Вось такімі дробнымі паскудзтвамі і дастаюць. Зьбіваць, катаваць — не. Гэтая практыка на «Віцьбе» спынілася ў 2007-м.**

Алег кажа, што перад сваім вызваленьнем сказаў міліцыянтам, якія спрабавалі сапсаваць яму жыцьцё ў калёніі: «Турэмны тэрмін мае адзін істотны плюс: ён няўмольна ідзе да фінішу і заканчваецца. Што б ты ні рабіў — ціха сядзіш, танцуеш, сьпяваеш, нават задам наперад ходзіш. Галоўнае — ня быць сволаччу».

Падчас апошняй нашай размовы Алег зазначыў, што турэмная гаспадарка ў Беларусі квітнее, што ў той самай «Віцьбе», напрыклад, будуюцца новыя карпусы, рамантуюцца старыя.

**— Усё робіцца дзеля таго, каб было больш месцаў. Таму калі нехта спадзяецца, што па яго ня прыйдуць, скажу: не спадзявайцеся! Пакуль ня возьмем у свае рукі ўласную будучыню і пакуль наш лёс будуць вырашаць марыянэткавыя суды.**

Што стала з Алегам потым — невядома.



## Дзеля зладзейскай ідэі

### *Ад «брадзягі»-рэцыдывіста*

Ігару М. цяпер за сорак. Ён другі раз сядзіць на турэмным рэжыме ў Горадні. Усяго за кратамі — раз пяты, а мо і шосты. У 2013-м выйшаў на волю, а праз два гады сеў зноў. Прафэсійны крымінальнік. Упершыню трапіў у няволю «па малалетцы». Судзілі за хуліганства, махлярства. Самы суровы вырак — дванаццаць гадоў — апошні. За распаўсюд наркотыкаў.

Ня выключана, што пры іншым зьбегу сямейных ды жыцьцёвых абставін ён мог бы абраць зусім іншы шлях. Ён меў схільнасьць вучыцца і неблагія літаратурныя здольнасьці. Нават вельмі няпростыя ды сумныя рэчы ён выкладаў з гумарам, а гэта рэдкая якасьць ня толькі для турэмных людзей.

Ігар быў адным з самых першых і самых актыўных аўтараў «Свабоды ў турмах» зь месцаў пазбаўленьня волі, ягоныя лісты часта гучалі ў эфіры.

*Ад Ігара М.*

**— Маім пакаленьнем перапоўненыя турмы. Вакол мяне людзі з рознымі крымінальнымі артыкуламі: крадзяжы, рабаваньні, махлярствы. Наркотыкі. Не скажу, што гэтыя людзі нічога не ўчынілі. Інакш мяне папракнуць юрысты. У кожнага свая трагедыя і пазыцыя ў адносінах да таго, што здарылася зь ім.**

**Тут, у Івацэвіцкай калёніі № 5, я сядзеў і раней, 10 гадоў таму. Усё было інакш. У мяне на тумбачцы не стаяў, як цяпер, бел-чырвона-белы нацыянальны сымбаль, я не пісаў тады на сьценах: «Жыве Беларусь!». Тады, у 2001-м, ніхто з зэкаў не цікавіўся навінамі ў краіне, дзелячы іх на праўдзівыя, апублікаваныя ў «Народнай волі» і тагачаснай «БДГ»,**

**і сумнеўныя, перададзеныя па БТ. Тады тут гэта было важна для адзінак. Сёньня — наадварот. Чаму ўсё так зьмянілася? Гэта іншыя злачынцы? Разабраўшыся ў сабе, думаю, я разумею і іх.**

**Грамадзянская сталасьць прыходзіць да кожнага парознаму. У адных гэта пачуцьцё, выхаванае бацькамі ці настаўнікамі. Іншыя пражывуць жыцьцё, так і не здабыўшы гэтага. Просты прыклад — мая мама. Выдатная велікадушная жанчына, якая, як і цэлае пакаленьне нашых бацькоў, некалі з трымценьнем глядзела на партрэты правадыроў, як і ўсе, галасавала на чарговых выбарах за таго, на каго паказвае партыя.**

**Я замілоўваюся, калі яна, прыйшоўшы на спатканьне да мяне ў турму на Валадарскага, на пытаньне, за каго будзеш галасаваць, адказвае: «Вядома, за Лукашэнку!» І, хітра прыкрыўшы рукою трубку сувязі, праз шкло падае мне сыгналы, што не за яго. Паказваючы галавою ў бок ахоўніка, які можа падслухаць, і ў яе праз гэта будуць непрыемнасьці на працы.**

**З 19 сьнежня 2010 году я не прыбіраю з тумбачкі маленькі бел-чырвона-белы сьцяг. Гэта мая асабістая акцыя, пазыцыя. Тут разам са мной «жыве Беларусь». Тут я адкрыта гэта кажу. Тыя, хто мяне ахоўвае, бачаць гэта і ведаюць.**

На той час Івацэвіцкая калёнія ўмоўна была падзеленая на дзьве часткі, працоўную і непрацоўную. Першую займалі пераважна «мужыкі», непрацоўную — «блатныя». «Зладзейскія паняцьці» ўсё яшчэ мелі вагу.

Сам Ігар пазыцыянаваў сябе «брадзягам» — тым, хто паводле традыцыяў крымінальнага сьвету павінен быў несьці зладзейскае слова ў турэмныя масы. Расказваў, што «брадзягі» ўсё жыцьцё цярпяць за зладзейскую ідэю. А адміністрацыя спрабуе іх зламаць.



Згодна з «паняцьцямі», Ігар, як і належыць «блатным», ніколі не супрацоўнічаў з адміністрацыяй, ня «стукаў» на іншых, за ўсе свае тады амаль сорак гадоў нідзе не працаваў і не зьбіраўся працаваць, ніколі ня быў жанаты, хоць і меў каханак. За кратамі яго як «нязгоднага» часта каралі штрафным ізалятарам, зьбівалі, аднак дзеля зладзейскай ідэі, казаў ён, гэта можна вытрымаць.

Як і іншыя «прасунутыя блатныя», якія ледзь ня суткамі бавілі час у сеціве, Ігар «чаціўся» ў розных сацыяльных сетках, зразумела, не раскрываючы, дзе ён. Час ад часу міліцэйскія кантралёры праводзілі ў атрадах ператрусы — «шмоны». Як і іншых, у каго знаходзілі мабільны тэлефон, Ігара таксама кідалі ў ШЫЗА. Аднак сутак праз дзесяць, пры вяртаньні ў атрад, у парушальнікаў зьяўляліся новыя «трубкі». І ўсё паўтаралася.

Паміж чатамі Ігар пісаў нататкі ў незалежныя мэдыі, у тым ліку, і на Свабоду. Паведамляў пра чарговы свой зварот у адну зь міжнародных структур, у якім апісваў свой несправядлівы прысуд ды бяспраўную сытуацыю беларускіх зьняволеных, паведамляў пра тое, як адчувае сябе пасьля ўскрыцьця венаў палітвязень Мікалай Аўтуховіч, які на той момант утрымліваўся таксама ў Івацэвічах.

Ігар распавядаў, што «за час прэзыдэнцкага праўленьня турма страціла свой сапраўдны дух ды ператварылася ў абы-што»:

**— Калі раней пэўныя пытаньні мог вырашыць так званы «смотрящий», які рабіў усё па справядлівасьці, то цяпер усім кіруюць людзі ў форме. Яны робяць стаўку на арыштанцкае стукацтва ды «беспредел» актывістаў, тое, што раней з гледзішча арыштанцкай маралі лічылася непрымальным. Моцных духам вязьняў спрабуюць зламаць і нават пазбавіць здароўя, каб на волі, дзе**

**цягам дзесяцігодзьдзяў ішла выбракоўка альфа-самцоў, дамінавалі выключна прыстасаванцы.**

На конкурс турэмнай літаратуры імя Францішка Аляхновіча на найлепшы літаратурны твор, напісаны за кратамі, ён ужо з волі даслаў пару сваіх турэмных апавяданьняў. Журы некалькі разоў спрабавала зьвязацца зь ім, але беспасьпяхова. Праз некалькі месяцаў стала вядома, што ён пад сьледзтвам — па справе, зьвязанай з наркотыкамі.

Вядома, што згодна з «блатнымі» паняцьцямі ўжываць, а тым больш распаўсюджваць наркотыкі, недапушчальна. Праўда, на судзе Ігар адкідаў усе абвінавачаньні. Тым ня менш яго зноў асудзілі. Прычым, на вельмі працяглы тэрмін. У адным зь лістоў ён напісаў, што ягоны прысуд — «гэта помста ўладаў за ягонае блогерства». За параўнальна кароткі тэрмін у новым месцы пазбаўленьня волі ён пасьпеў адседзець некалькі месяцаў у ШЫЗА, ПКТ, а потым быў пераведзены ў Горадзенскую турму на тры гады.

**— Зразумела, у параўнаньні з папраўчай калёніяй у «крытцы» (Горадзенская турма. — *Аўтар*) нашмат больш абмежаваньняў. Аднак наўрад ці можна сказаць, што гэта істотна горш за калёнію, хоць камэрна-турэмны рэжым, зразумела, самы жорсткі паводле Крымінальна-выканаўчага кодэксу.**

**Але ж у турме адчуваеш сябе найбольш свабодным. Таму што гэта апошні прыпынак, далей не завозяць. Далей за турэмны рэжым нічога няма. Напрыклад, у калёніі даводзіцца даражыць пэўнымі рэчамі. Тым самым сьвежым паветрам. Прамаўчыш іншым разам, праглынеш несправядлівасьць, ня скажаш начальству тое, што хацелася б і трэба сказаць.**

**У «крытцы» мусіш адбыць ад году да трох, а потым назад. Тут сядзіш з такімі самымі, як і ты. 10–15 чалавек у камэры. Праўда, ёсьць тэлевізар, нават прыстаўка з гульнямі. І ў кантралёраў той самы прынцып — не правакаваць. Інакш яны такое ў адказ атрымаюць! Турма жыве адным арганізмам: калі кагосьці нават з падсьледных паб'юць, дык камэры пачынаюць выбіваць дзьверы, пратэставаць.**



## Як былы блатны стаў «мужыком»

*Ад Аляксандра К.*

Аляксандар упершыню за краты трапіў падлеткам, яшчэ пры Саветах, сядзеў, паводле ягоных словаў, ледзь не ва ўсіх турэмных установах.

**— Турма мяняецца, і разам з гэтымі зьменамі робіцца іншым і стаўленьне да «паняцьцяў», няпісаных правілаў ды нормаў паводзінаў у крымінальнай супольнасьці.**

Паводле Аляксандра, некаторыя старыя зэкі настальгуюць па былых часах, калі дзейнічалі «паняцьці».

Як на яго погляд, дык тое, што цяпер у беларускіх турмах практычна ўсё вырашае адміністрацыя, таксама правільна: «Зэкі зусім не анёлы, як яны збольшага любяць расказваць пра сябе. У 50% выпадкаў гэтая публіка сядзіць і думае, як бы ўчыніць нешта незаконнае — напрыклад, наладзіць перадачу з волі на зону тэлефонаў, наркаты, яшчэ нечага». Адміністрацыя пільнуе, робіць адпаведныя захады. Але ж сваімі рукамі караць не зьбіраецца. І, як і раней, даручае вырашыць пытаньне з парушальнікамі тым самым «блатным».

**— Што рабілася ў месцах пазбаўленьня волі ў 1990-я ды нулявыя, сёньня нават і ўявіць сабе немагчыма. Карупцыя квітнела. Той самы Алкаеў пры той сыстэме таксама ня мог быць «белым ды пухнатым». Чаго толькі не было! Зэкі працавалі на адміністрацыю, як рабы на гаспадароў. Рабілі для іх мэблю з высакаякаснага дрэва, рамантавалі машыны, пілавалі, рэзалі, зварвалі і г. д. Нарката гуляла. За добрыя грошы можна было набыць алькаголь, зброю, замовіць прастытутку.**

**У адной з калёній строгага рэжыму начальніца мэдсанчасткі мела сапраўдны гарэм з маладых, здаровых ды прывабных зэкаў. Гэтыя фаварыты атрымлівалі стымулятары без усялякіх праблемаў. Ведаю, бо сам быў удзельнікам тых падзеяў. Калі па шчырасьці, то апошнім часам шмат што на зоне, асабліва ў бытавым пляне, сапраўды стала лепш.**

Аляксандар некалі сам належаў да касты «блатных». Аднак потым перагледзеў уласныя жыцьцёвыя пазыцыі і стаў «мужыком». Такое здараецца.

Падчас апошняй адседкі працаваў, імкнуўся не парушаць правілаў унутранага распарадку. З адміністрацыяй, аднак, не супрацоўнічаў. Сядзеў за правіны ў штрафных ізалятарах. Праўда, да артыкулу 411, які нярэдка за «злоснае непадпарадкаваньне рэжыму» даюць так званым «асабліва непаслухмяным», пераводзячы іх на год з атраду ў памяшканьне камэрнага тыпу (ПКТ), гэтым разам не дайшло. «Відаць, устаноўкі такой цяпер на мяне не было», — лічыць Аляксандар.

Паводле яго, «пра многае з таго, што бачыш на зоне цяпер, раней і падумаць ня мог».

**— Напрыклад, тыя самыя «апушчаныя» на зоне некалі былі цішэй вады, ніжэй травы. Але ж цяпер... Вядома, турэмнікі па-ранейшаму накіроўваюць іх «у петушатню» — кубрыкі ў атрадах, дзе асобна ад іншых зэкаў месьціцца ніжэйшая каста. Але ж цяпер гэтая катэгорыя адчувае сябе нашмат больш упэўнена. Каб раней хто зь іх паспрабаваў не прапусьціць уперад у сталоўку «мужыка»! Цяпер гэта лёгка. Яны ведаюць, як сябе з кім паводзіць. Аблізваюць адміністрацыю, некаторых іншых, каго баяцца.**



Зэк старой фармацыі, Аляксандар ставіцца да «апушчаных» гэтаксама, як і большасьць. Ня можа сабе ўявіць, як гэта — дакрануцца да такога чалавека ці ягоных рэчаў, есьці зь ім з аднаго посуду. Так, былі спробы саджаць людзей з гэткім статусам разам з усімі за адзін стол. Мыць прыбіральню прымушалі ня толькі «петухоў», а ўсіх. І людзі ў выніку «ўскрываліся» (рэзалі вены ці жывот). Гэта традыцыі, якія ўсё яшчэ жывуць. Тым ня менш само жыцьцё прымушае сёньня шмат што пераглядаць.

**— Цяпер, калі шмат гадоў адседзеў за кратамі, шмат на што глядзіш па-іншаму. Раней, калі я трапляў у месцы пазбаўленьня волі маладым, то блатаваў, быў прасякнуты той рамантыкай. Не разумеў, што раблю. Мне казалі старэйшыя «корашы» — вось гэта рабіць можна і трэба, а гэта забаронена. Напрыклад, нельга прыбіраць, хоць гэта і супярэчыла майму сялянскаму выхаваньню — хлапчуком я дапамагаў родным.**

**Але сьвята верыць у прынцыпы «блатных», якія цяпер таксама працуюць на адміністрацыю, сёньня я б ужо не сьпяшаўся. Усё мяняецца на зоне. Таго аўтарытэту, які ў іх быў раней сярод крымінальнікаў, яны ўжо ў Беларусі з самых розных прычын ня маюць.**

Паводле Аляксандра, асноўныя правілы жыцьця за кратамі для чалавека, які хоча захаваць годнасьць, тыя самыя, што і на волі:

— **Жыві сабе ды выконвай вядомыя агульначалавечыя прынцыпы: не забіваць, ня красьці, не чыніць шкоды іншаму. Гэтага нельга пераступаць і ў вялікім сьвеце, і ў войску, і ў турме.**

На пачатку 2018-га, праз год пасьля вызваленьня з-за кратаў, Аляксандар ажаніўся і ўпершыню стаў бацькам. Назад у турму абсалютна ня хоча.

## Маральны гвалт

### *Ад праваабаронцы*

Колішні кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Плятформа» Андрэй Бандарэнка адбываў турэмнае пакараньне за хуліганства ўжо ў «посталкаеўскі» час. Гэта было ў 2009–2011 і 2014–2017 гадах. У інтэрвію розным выданьням ён, параўноўваючы абодва пэрыяды, кажа, што ўмовы ўтрыманьня за кратамі, уключна з сангігіенай ды харчаваньнем, заўважна паляпшаюцца ва ўсіх турэмных установах.

— **Самая вялікая праблема беларускай мужчынскай зоны — гэта так званы «маральны ГУЛАГ», дзе мэта пакараньня — не перавыхаваць асуджанага і вярнуць яго ў грамадзтва паўнавартасным чалавекам, а маральна прынізіць, нават маральна забіць чалавека і ператварыць яго ў жывога робата, гатовага падпарадкоўвацца любым загадам.**

Да маральнага прыніжэньня ў сучасных мужчынскіх зонах Андрэй адносіць зьдзекі і зьбіцьцё, якое, як ён лічыць, «санкцыянаванае турэмным начальствам», а



таксама бязьлітасныя «каставыя» рытуалы, наданьне таму або іншаму вязьню ніжэйшага турэмнага статусу. Сёньня ў беларускай турме гэта, праўда, не выглядае так па-дзікунску, як, напрыклад, у расейскай «чорнай зоне», дзе чалавека могуць сэксуальна гвалтаваць; тым ня менш «праз каставую сыстэму вязьня могуць раздушыць», кажа ён.

— **На беларускай зоне ў гэтым пляне цяпер крыху лягчэй, бо ўжо няма так званых «блатных», якія прапаведуюць крымінальны лад жыцьця. Такіх прафэсійных крымінальнікаў збольшага накіроўваюць на турэмны рэжым, дзе адміністрацыя мусіць у пэўнай ступені падладжвацца пад гэты спэцкантынгент, які супрацьстаіць уладзе і міліцыі. У любым выпадку нейкі папраўчы працэс цалкам адсутнічае і ў турме, і ў калёніі. Тут можна толькі жадаць, каб чалавек, які трапіў за краты, выйшаў адтуль ня горшым, чым заехаў.**

Пасьля вызваленьня Андрэй Бандарэнка стаў адным з сузаснавальнікаў арганізацыі «Нью-Плятформа інавэйшн», якая займаецца адстойваньнем правоў зьняволеных у беларускіх турмах.

## Чырвона-чорны колер

### *Ад анархістаў*

Былы палітвязень Мікола Дзядок, які адседзеў як фігурант «справы анархістаў» (у 2011-м іх абвінавацілі ў пашкоджаньні шэрагу дзяржаўных будынкаў) каля пяці гадоў у розных калёніях ды турмах, кажа, што насамрэч цяперашняя айчынная «чырвоная» пэнітэнцыярная сыстэма не такая простая, як можа здавацца на першы погляд:

**— Відаць, сур’ёзныя міліцэйскія аналітыкі доўга і грунтоўна працавалі над тым, каб зламаць сыстэму «чорную». Аднак яе ня цалкам зламалі, каб заняніць сваёй, новай, а пакінулі шэраг карысных для сябе інстытутаў так званай блатной культуры. Напрыклад, дзікунскую каставую сыстэму, якая паходзіць зь сярэднявечча. Там ёсьць свае прастытуткі ды служкі, бо так прасьцей кіраваць.**

У сваёй кніжцы «Фарбы паралельнага сьвету» Мікола Дзядок ставіць, між іншым, і такое пытаньне: чаму беларуская пэнітэнцыярная сыстэма, якая змагаецца зь перажыткамі злачыннага сьвету, ніяк ня можа супрацьдзейнічаць існаваньню кастаў і ў адпаведнасьці з правіламі ўнутранага распарадку ўсталяваць на зоне строгую ды жорсткую дысцыпліну? Адказ палітвязьня такі: «Цяперашняй сыстэме гэтага проста ня трэба».

Мікола Дзядок спасылаецца на вядомыя яму прыклады, калі сама меней тром палітвязьням, зразумела, не бязь ведама адміністрацыі, спрабавалі навесіць статус «апушчаных». Нехта з «блатных» ці «казлоў», напрыклад, выстаўляў чалавеку абвінавачаньне кшталту: сядзеў у адной камэры зь некім зь «петухоў», або піў зь імі з аднаго кубка, або меў зь імі зносіны на волі. Абвінавачаньні ня мелі нічога агульнага з рэальнасьцю. Але ж знаходзіліся зэкі, гатовыя пацьвердзіць, што гэта было на іх вачах.

**— Калі існуе выразная ўстаноўка зьверху на адпаведнае вырашэньне пытаньня з надта нязручным вязьнем, рознага кшталту сьведкі заўсёды знойдуцца.**

Паводле Міколы Дзядка, створаныя калісьці ў зладзейскім сьвеце «паняцьці» ды міліцэйскія правілы ўнутранага распарадку цяпер хутчэй узаемна інтэграваліся, чым канфрантуюць між сабой. І той, і другі бок маюць ад гэтага пэўную выгаду. «У выніку ўсе задаволеныя. Акрамя, вядома, «мужыкоў» — тыя, як водзіцца, апынуліся паміж двух агнёў і фактычна ў падвойным падначаленьні».



Тым часам другі колішні палітвязень, таксама фігурант справы анархістаў Ігар Аліневіч, які адседзеў за кратамі прыкладна такі самы тэрмін, што і Мікола Дзядок, узгадвае выпадак, калі, не без рэкамэндацыяў зьверху, «братва» спрабавала «абяліць» асуджанага за згвалтаваньні пэдафіла.

Тады ў іхні атрад даставілі вязьня, у чыёй справе стаяла: групавы сэксуальны гвалт дзяцей. З гледзішча «паняцьцяў» — адзін з самых страшных грахоў для арыштанта. Але ж блатныя суправадзілі сядзельца пастановай, што зь ім усё нармальна і трэба лічыць яго «мужыком».

У Ігаравым атрадзе, які адрозьніваўся ад іншых высокім узроўнем, так бы мовіць, «неблатной» самаарганізацыі, такія рэкамэндацыі выклікалі абурэньне, кажа Ігар. За адным сталом з гвалтаўніком-пэдафілам сядзець ніхто не хацеў. Нават тыя самыя служкі-шнyры байкатавалі яго, адмаўляючыся браць ягоныя цыгарэты. Празь некалькі месяцаў асуджаны ня вытрымаў такога жыцьця і быў ізаляваны ў адзіночцы БУРу (барака ўзмоцненага рэжыму).

У сваім артыкуле «Па той бок плота» асуджаны анархіст на падставе ўласнага турэмнага досьведу дае шэраг рэкамэндацый тым, хто ўпершыню апынуўся за кратамі, але хоча выйсьці адтуль незламанай асобай.

Адна зь іх: не далучацца ні да «чорных», ні да «чырвоных». Бо падачкі ад той або іншай групы псуюць чалавечую годнасьць больш, чым рэпрэсіі. На зоне ўвогуле трэба дыстанцыявацца ад розных груповак. Калі некага трымацца, дык «мужыкоў». Гэтыя людзі вельмі часта застаюцца без падтрымкі з волі, яны робяць на прамзоне, рэжуць лыжкі, прыгожа падпісваюць паш-

тоўкі, але пры гэтым захоўваюць сваю годнасьць ды не ідуць у служкі, як тыя самыя «шныры», хоць гэта і магло б палепшыць іх становішча.

Таксама ні ў якім разе нельга ігнараваць спэцыфічныя арыштанцкія нормы. У тым ліку — ведаць пра стасункі з асобамі зь ніжэйшым турэмным статусам ды не карыстацца іх паслугамі, раіць Ігар Аліневіч.

# Жаночая зона

**Сярэдняя беларуская «зэчка» — жанчына дзетароднага ўзросту: дзьве траціны зь іх маглі б на волі нараджаць дзяцей. Праўда некаторыя нараджаюць і за кратамі.**

Пакараныя няволяй беларускі ўтрымліваюцца пераважна ў дзьвюх закрытых папраўчых установах — у Гомельскай жаночай калёніі № 4 для першаходак і ў Рэчыцкай ПК № 24 — для паўторна асуджаных, а таксама ва ўстановах адкрытага тыпу — «хімія», калёніяпасяленьне.

Асуджаная жанчына падпарадкаваная тым самым рэжымным патрабаваньням, што і мужчына: адзіная форма адзеньня, неабходнасьць шыхтавацца, адсутнасьць асабістых рэчаў (акрамя зафіксаваных у пераліку, які ў жанчын амаль супадае з мужчынскім). Зьняволеная мае гэтулькі ж спатканьняў, пасылак, тыя самыя пакараньні, ажно да штрафнога ізалятара, або ў скароце ШЫЗА.

## Усе жаночыя зоны — «чырвоныя»

### *Ад праваабаронцы*

Тое, што ўсе жаночыя зоны «чырвоныя», на думку маскоўскай праваабаронцы Людмілы Альперн, наканаванае самой прыродай. У сваёй кнізе «Сон і ява жаночай турмы» яна піша:

— **Гэта зьвязана з арганізацыяй жаночай псыхікі, існаваньнем асобы ў прасторы зоны. Для мужчын форма існаваньня ў выглядзе аднаполых калектываў — нармальная. Гэты калектыў адразу ж герархічна структуруецца, і ў выніку ўзьнікае вэртыкаль. Жаночая супольнасьць не такая. Жанчына існавала больш у прыватнай прасторы.**

**Калі браць публічную прастору, то да такой формы існаваньня жанчыне, адрозна ад мужчыны, трэба прыстасоўвацца. Вэртыкальныя стасункі ў іх не крышталізуюцца. Ствараюцца гарызантальныя сувязі, якія для жанчыны больш натуральныя. Гэта прыводзіць да таго, што жаночая супольнасьць за кратамі няздольная да супольнага супраціву.**



Сярод абавязковых няпісаных правілаў, якія павінны выконвацца на жаночай зоне, — падпарадкаваньне зэчак так званай «старэйшай». Гэтая жанчына адказвае за парадак, каб у турэмнай камэры ці атрадзе калёніі не было забароненых прадметаў, каб сукамэрніцы выконвалі розныя прадпісаньні адміністрацыі.

Звычайна гэткія пасады займаюць жанчыны з «багатым» крымінальным ці турэмным досьведам. Адзін тып: зэчка, якой удалося захаваць чалавечыя якасьці і якая асуджае гвалт, дапамагае ў адаптацыі новенькім, сочыць за мірнымі ўзаемаадносінамі. Другі тып: жорсткая зэчка, якая прымушае астатніх «прагінацца пад сябе», рэгулюе іх жыцьцё на зоне.

## Жаночае суіснаваньне

### *Ад турэмнага псыхоляга*

Як мяркуе псыхоляг, былая супрацоўніца пэнітэнцыярнай сыстэмы Ірына, фэномэн жаночага злачынства трэба вывучаць. І псыхолягам, і журналістам, і сацыёлягам.

— **Страціўшы свабоду, некаторыя жанчыны могуць ператварыцца ў жорсткіх фурый ці апусьціцца фізычна ды маральна «ніжэй за плінтус». Толькі той, хто меў кантакт з зэчкамі, разумее, што та-**

**кое калектыў, які складаецца прыкладна з тысячы жанчын-злачынак рознага веку, сярод якіх і «гаспадарніцы», і дзетазабойцы, і наркаманкі, і зладзейкі, і каго толькі няма. Дзень за днём яны гадамі варацца ў сваім наглуха зачыненым катле.**

«За кратамі ўвесь час адчуваецца нейкае напружаньне, — пісала на Свабоду 40-гадовая Валянціна. — Кожнае слова ўспрымаецца ў штыкі, кожнай здаецца, што яе хочуць неяк зьняважыць, абразіць. Нават на волі ў жаночых калектывах пануе нашмат больш агрэсіі, чым у мужчынскіх. За кратамі, да таго ж, даводзіцца станавіцца сьведкай або ўдзельніцай сытуацыяў, калі ўнутраная нябачная агрэсія выліваецца ў агрэсію фізычную. Слова за слова — сварка. Калі даходзіць да бойкі, то адміністрацыя карае. Таму адносіны высьвятляюць у капцёрках, на закрытых тэрыторыях».

### *Ад Дашы Б.*

Асуджаная Гомельскай «чацьвёркі» Даша, якая правяла ў гэтай установе тры гады пачатку 2010-х, кажа, што неаднойчы была сьведкай гэткіх сцэнаў:

**— «Зэчкі» сапраўды могуць скандаліць, абражаць, плявацца. Калі што, бягуць да адміністрацыі скардзіцца, бывае, гэта заканчваецца ШЫЗА. Пры замкнёным турэмным рэжыме ў жаночай агрэсіі няма ніякіх тармазоў. Калі ў мужчын за кратамі гэта рэгулюецца розными правіламі ды «паняцьцямі», то ў жанчын такіх рэгулятараў няма.**

Дашы Б. няма і трыццаці. Вызвалілася з Гомельскай калёніі ў 2014-м. Гэтая прыгожая, сучасная, начытаная дзяўчына расказвае, што за кратамі сядзела аднойчы, аднак суджанасьцяў мела тры, усе зьвязаныя з наркотыкамі.



Першую атрымала ў 17-гадовым узросьце за ўжываньне і захоўваньне, аднак тады ўсё абышлося ўмоўным пакараньнем. Потым было пакараньне ў выглядзе ІТР (исправительные трудовые работы). На час апошняга суду за такое самае злачынства дзяўчыне было за дваццаць.

Даша расказвае, што ў жаночай зоне вялікае значэньне мае, які статус ты меў у грамадзтве да турмы.

**— На зоне вялікае значэньне мае, «хто ты ёсьць». Ці са сталіцы ты, наколькі часта атрымліваеш перадачы, як часта да цябе прыходзіць пошта, якія ў цябе ўласныя рэчы, што ты ясі — свае харчы ці турэмныя. Менавіта паводле такіх паказчыкаў фармуецца стаўленьне турэмнай супольнасьці. Аднак для статусу за кратамі важнае ня толькі датурэмнае становішча, але і твае якасьці як асобы.**

Адзін з паказчыкаў таго, што ў дзяўчыны былі неблагія стасункі зь іншымі зэчкамі, гэта яе прыналежнасьць да так званай «сям'і».

## Жаночая сям'я: не пра «гэта»

«Сям'я» за кратамі, паводле саміх зьняволеных, ня мае нічога агульнага зь лесьбійскімі схільнасьцямі. Гэта перш за ўсё эканамічны саюз, калі жанчыны пачынаюць разам весьці гаспадарку: агульная ежа, рэгулярныя кантакты. Усё на глебе ўзаемных інтарэсаў, бо так лягчэй выжыць у няволі.

Сям'я Дашы складалася з трох дзяўчат. Да турмы ўсе яны вучыліся ва ўнівэрсытэце. Так званымі несямейнымі былі наркаманкі са стажам ды дзетазабойцы.

Апошняй катэгорыяй зьняволеных жанчыны ў турмах пагарджаюць найбольш.

За час адседкі Даша бачыла прадстаўніц самых розных відаў жаночага крыміналу. Акрамя дзетазабойцаў

былі тыя, хто належаў да так званага «матчынага бізнэсу» — гандлю дзецьмі, сэксуальнага спакушэньня малых, уцягваньня іх у палавыя стасункі з дарослымі. У атрадзе разам з Дашай была асуджаная на 20 гадоў жанчына, якая выкінула свайго дзіцёнка з акна: ціхая, увесь час глядзела ў падлогу, быццам баялася астатніх. Яшчэ была адна, якая пусьцілася з сужыцелем у працяглы запой, а дзіця тым часам сканала з голаду. Тая, здавалася, так нічога і не ўсьвядоміла.

Таксама ў СІЗА паказвалі на асобу, якая нібыта займалася пастаўкамі дзяўчат для замежных бардэляў. Яшчэ расказвалі пра арыштантак, якія мелі дачыненьне да гандлю дзіцячымі органамі, але сама Даша за кратамі такіх не сустракала.

Ад старых зэчак, якія правялі ў зьняволеньні гадоў па дваццаць, асуджаная чула, што калісьці арыштантцы за дзетазабойства, як і мужыку-пэдафілу, было лепш на зону не трапляць. На жаночай зоне такіх крымінальніц маглі рытуальна абліць вядром мачы, моцна зьбіць і нават забіць. Ім не было ні даравањня, ні літасьці. Таму яшчэ на пачатку нулявых у лягеры такіх у мэтах бясьпекі трымалі асобна. Сёньня ж дзетазабойцы ў атрадах разам з усімі, а адміністрацыя нават дае ім кіраўнічыя пасады.

Як кажа Даша, сучасныя «зэчкі» не арыентуюцца на зладзейскія «паняцьці», як гэта магло быць калісьці. Ні «аўтарытэты», ні шмат чаго іншага з таго, што зьвязана з мужчынскай крымінальнай субкультурай, для крымінальніц-жанчын не ўласьцівае.

## Лягерныя сяброўкі

Аднойчы Даша паглядзела відэа, прысьвечанае 70-годзьдзю Гомельскай калёніі. Гэта найстарэйшая жаночая турэмная ўстанова ў Беларусі.

Даша лёгка пазнавала карпусы — інтэрнат, фабрыку, школу, мэдчастку, клюб, Дом малюткі, многіх жанчын-сулягерніц. Вядома, сваю былую начальніцу, палкоўніка Сьвятлану Паходаву. Доўгі час яна была адзінай жанчынай у гісторыі краіны, якая стаяла на чале папраўчай установы. Цяпер Паходава на пэнсіі, і на зьмену ёй прыйшоў начальнік-мужчына. Яго Даша зусім ня ведае. А вось Паходава, кажа яна, была добрай кіраўніцай, некаторым дзяўчатам нават замяняла маці.



Калі на відэа зьявіліся кадры з Дому малюткі, што на тэрыторыі калёніі, Даша ўбачыла знаёмую:

**— А вось Люся. За ўчыненае мужу-алькаголіку калецтва сядзець Люсі яшчэ шмат. А дачцэ хутка споўніцца тры гады. Паводле закону, дзеткі «зэчак» могуць знаходзіцца ў Доме малюткі толькі да трох гадоў, а потым іх пераводзяць найчасьцей у дзіцячы дом. Малую Люся зможа ўбачыць гадоў праз восем. Ці пазнае маму дзяўчынка?**

Гісторыя яшчэ адной Дашынай сяброўкі Галіны нечым падобная. Сядзіць паводле арт.139. Забіла былога сужыцеля, бацьку сваёй малой, які прыйшоў высьвятляць адносіны, калі Галіна п'янствавала з новым кавалерам. У выніку разборкі былы трапіў у шпіталь. Потым адтуль пазванілі і сказалі, што памёр.

Дачцэ Галіны, якая цяпер жыве з бабуляй — ужо дзесяць. Сужыцель зьнік. Прывезьці ўнучку зь Віцебшчыны на спатканьне ў Гомель старая ня можа. Па-першае, ёй гэта цяжка фізычна, па-другое, няма і грошай на паездку. Само ж дзіцё яшчэ малое, каб езьдзіць самастойна.

Вопытныя сукамэрніцы, адзначае Даша, лічылі, што сапраўдным забойцам хутчэй за ўсё быў каханак Галіны. Але ён пераканаў жанчыну ўзяць усё на сябе, маўляў, ёй нічога за гэта ня будзе. Галіна так і зрабіла, а ў выніку, што здараецца нярэдка, атрымала «па поўнай».

Яшчэ адна з тых, убачаных на відэа — Марына. Яна ўжо гады два як на волі. Адукаваная, камунікабэльная, неканфліктная. Адсядзела праз мужа за эканамічнае злачынства. Праз год пасьля вызваленьня зноў пакахала, выйшла замуж. Вельмі задаволеная. Гэта, бадай самы шчасьлівы лёс, Даша радуецца за сяброўку.

**— За кратамі здаралася рознае. За час маёй адседкі і пamіралі, і цяжаралі, замуж выходзілі. Нявесту мы ўсім атрадам апраналі і прычэсвалі. Вясельле ў жаночай калёніі — рэч больш рэдкая, чым у мужчынскай. Аднак у выніку гэты шлюб больш трывалы. Чула, што апошнім часам у сацсетках сустракаюцца аб'явы ад маладых мужчын кшталту: «Пазнаёмлюся з асуджанай ці той, якая адбыла тэрмін за кратамі для сур'ёзных стасункаў і супольнага будаўніцтва шчасьлівай сям'і».**

Даша шкадуе, што ў рэпартажы не паказалі іх самадзейны тэатар, які выступаў са сваімі спэктаклямі нават у іншых калёніях. Тэатар дапамог многім зьняволеным — ахвярам сямейнага гвалту і вымушаным забойцам — ачуняць псыхалягічна.

# ДЗІЦЯЧАЯ ЗОНА

**Пасадзіць у Беларусі могуць з шаснаццаці гадоў.**

Адначасна закон вылучае больш за дваццаць злачынстваў, калі трапіць за краты можна ўжо з 14-ці. Гэта забойствы, згвалтаваньні, крадзеж, вымагальніцтва, гандаль наркотыкамі. Апошнім часам дадаліся крадзеж шляхам выкарыстаньня кампутарнай тэхнікі і ўхіленьне ад адбыцьця пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі.

Фармальна максымальны ўзрост у «дзіцячай» калёніі — 21 год. Але і гэтая мяжа можа быць падоўжанай — каб сярод 14-гадовых былі старэйшыя, якія б дапамагалі вырашаць пытаньні, што ўзьнікаюць паміж выхаванцамі і супрацоўнікамі.

Закрытыя ўстановы, дзе адбываюць пакараньне падлеткі, называюцца выхаваўчымі, а іх малыя сядзельцы завуцца выхаванкамі і выхаванцамі, але ніяк не асуджанымі ды не ЗК.

## Выхаванкі. Валянтэрская дапамога

### *Ад грамадзкай дзячкі*

Ад канца 1980-х Ірына Грушавая і яе муж ды паплечнік Генадзь Грушавы (1950–2013) былі вядомыя як стваральнікі фонду «Дзецям Чарнобылю», арганізатары дзіцячага аздараўленьня за мяжой. У 2000-я пры падтрымцы нямецкіх партнэраў дзейнічаў іх праект «Дзявочая турма», мэтай якога была рэсацыялізацыя выхаванак гомельскай дзявочай калёніі. Ірына і цяпер падтрымлівае сувязі зь некаторымі з тых былых выхаванак.

**— Тады быў параўнальна лібэральны час. На самым старце праекту разам з жанчынамі-валянтэркамі мы наведвалі калёнію ледзь ня кожны месяц. Потым нам прапанавалі рабіць гэта радзей. А ў 2007-м увогуле не дазволілі прыяжджаць. Зразумела, ішло гэта не ад адміністрацыі. Ва ўстанове збольшага працавалі вельмі прыемныя жанчыны — выхавацелькі, атрадніцы. Проста быў загад з самога верху. Але наш праект нефармальна пратрымаўся да 2011-га.**

**Дзяўчаты вызваляліся, мы сустракаліся ў Менску, стараліся дапамагчы чым маглі. Падтрымлівалі хворых дзяўчат. Некаторыя выходзілі адтуль з сухотамі, ВІЧ, розьнай хронікай. Праз нямецкія ініцыятывы мы набывалі для іх мэдыкамэнты, нейкую гуманітарку (ежу, адзеньне). У адной дзяўчыны былі вялікія праблемы са здароўем, дык немка з партнэрскай арганізацыі ў Ростаку цягам дзесяці гадоў запрашала яе ў Нямеччыну.**

**Немкі таксама запрашалі на адпачынак юных мам з малымі. Калі дзеткі падрасталі, таксама ўключалі іх у дзіцячыя групы. Адна з тых юных мам нядаўна нарадзіла пятае дзіця. Добрая сям’я. Усё ў жыцьці склалася. Мы перапісваемся ў Фэйсбуку. А вось дзяўчынку Юргіту пазбавілі матчыных правоў. Сьпілася. Яшчэ была Наташа, якая нарадзіла ў калёніі і якую наш праект асабліва падтрымліваў. У яе органы апекі таксама забралі дзіцёнка. Таксама сьпілася.**

Ірына Грушавая цяпер жыве ў Нямеччыне.

## Рэжымная тэрыторыя

### *Ад аўтара*

Так здарылася, што ў 2003 годзе аўтарцы гэтых радкоў у складзе ўдзельніц праекту «Дзявочая турма» давялося наведаць тую выхаваўчую ўстанову

ды пазнаёміцца з Наташай, Юргітай, многімі іншымі дзяўчатамі, якіх падтрымлівала праграма фонду.

Наташа на той час ужо некалькі месяцаў як вызвалілася з-за кратаў разам з сваім немаўляткам-сыночкам. Яе наша нямецка-беларуская група наведала па дарозе ў калёнію.

Для гэтай маленькай сям'і фонду Грушавых удалося «выбіць» пакойчык у фабрычным інтэрнаце на ўскрайку Гомля. Меркавалася, што пасьля трох гадоў дэкрэтнага адпачынку — увесь гэты час праект зьбіраўся падтрымліваць абаіх — мама пойдзе працаваць на фабрыку, а дзіцёнка аддасьць у дзіцячы садок прадпрыемства.

Самая вялікая складанасьць была ў 17-гадовай маме. Яна выглядала на 14, а паводле сацыяльнага разьвіцьця ёй было ўвогуле гадоў дзесяць. Дзяўчынка сядзела за крадзеж. Крала пераважна прадукты. Проста не наелася ў дзяцінстве, асабліва салодкага. Яна магла, ня думаючы, змарнаваць так званы матчын капітал, уключна зь нямецкай дапамогай, на цукеркі, а потым плакаць, што няма за што купіць ежу сабе ды дзіцяці. Спробаў неяк сацыялізаваць гэтую дзяўчынку рабілася шмат.

Сацыялізацыя, навучаньне асуджаных тым элемэнтарным жыцьцёвым рэчам, якіх яны так і не спазналі ў сябе дома, была адной з галоўных задач праекту.

У калёнію ў той дзень валянтэры ехалі, каб адсьвяткаваць дзень народзінаў цэлай групы дзяўчат, якія нарадзіліся вясной. Паколькі наведаць установу можна было ня часта, ладзіліся менавіта сэзонныя імяніны.

Гэта было ня проста паяданьне прывезеных з волі прысмакаў, але і спроба стварыць атмасфэру вялікай сям'і, дзе за сталом разам з дарослымі абмяркоўваліся самыя розныя жыцьцёвыя тэмы. Дзяўчатак вучылі як можна па-сьвяточнаму аформіць пакой, накрыць на стол і як таксама паводзіць сябе за ім. Гэта тое, што абавязкова спатрэбіцца ў будучыні, калі сама дзяўчына марыць мець уласную сапраўдную сям'ю.



На рэжымную тэрыторыю нашу групу на чале з Ірынай Грушавой без праблемаў ды затрымак прапусьцілі праз некалькі кардонаў і ў суправаджэньні апэратыўніцы правялі да дзявочага бараку. Паказалі пакоі, санітарны блёк — умывальнік, здаецца зь дзесяцьцю кранікамі, ды прыбіральню, таксама, здаецца месцаў на дзесяць, добра прадэзінфікаваную хлёркай. Паўсюль была чысьціня.

Кратаў на вокнах не было. Калі не зьвяртаць увагі на калючы дрот, то ўсё як у звычайным дзіцячым інтэрнаце: спальны пакой з акуратна прыбранымі ложкамі, школьныя ўрокі і дзёньнікі з налепкамі ўлюбёных музыкаў ды актораў, абед паводле раскладу, гурткі самадзейнасьці.

Сабраць усіх дзяўчат разам не ўдалося. Магчыма, так і было задумана адміністрацыяй, на што, пэўна, былі прычыны. Адны дзяўчаты прыходзілі, другія сыходзілі. Некаторыя вярталіся са школьных заняткаў, некаторыя, наадварот, ішлі ў прафэсійную вучэльню або на мясцовую швейную фабрыку. Адна непаўналетняя мама і накіроўвалася карміць дзіця ў Дом малюткі, які разьмяшчаўся таксама на тэрыторыі калёніі.

Было відаць, што дзяўчаты вельмі радаваліся гасьцям. Нешта сьпявалі пад гітару, шмат сьмяяліся, задавалі розныя пытаньні немкам.

Зь некім зь іх удалося паразмаўляць, зь некім абмяняліся адрасамі, пасьля чаго было непрацяглае ліставаньне.

Уявіць сабе, што гэтыя падлеткі ўчынілі нешта супрацьпраўнае, было цяжка. Дзяўчаткі падкуплялі сваёй шчырасьцю, непасрэднасьцю, часам наіўнасьцю, некаторыя прасілі прыслаць жуек. Яны ахвотна расказвалі пра сябе, сваё жыцьцё да калёніі, куды трапілі, як ім падавалася, праз неспрыяльны зьбег абставінаў.

Адна, прыгожая цыганка гадоў 16-ці, расказвала, што другі раз была замужам. Першы раз, згодна з цыганскімі традыцыямі, яе выдалі ў 14. Наракала на сям'ю мужа, якая быццам бы прымушала яе красьці ды яшчэ гандляваць ня тым, чым трэба. У яе быў даволі цяжкі позірк. Магчыма, яна валодала гіпнозам.

Другая юная асуджаная, таксама 16-гадовая, паведаміла, што выхоўвалася ў інтэрнаце. Яе бацькоў пазбавілі правоў. Сустракалася з дарослым хлопцам, 28 гадоў, з былых сядзельцаў. Магчыма б ажаніліся, калі б іх разам зь сябрам не ўзялі падчас рабаваньня кіёска.

Да арышту хлопец шмат чаго расказваў ёй пра зону, сапраўдную, дарослую, а не дзіцячую. Потым пасядзела разам з дарослымі зэчкамі ў СІЗА. У сувязі зь перанаселенасьцю сьледчых ізалятараў нярэдка дзецям і дарослым даводзіцца сядзець разам. Калі б можна было выбіраць, казала дзяўчына, то яна лепш сядзела б сярод дарослых.

Старэйшая, 18-гадовая, якую звалі Таня, наадварот, была вельмі радая таму, што яе да канца тэрміну не перавядуць у жаночы барак. Нічога добрага, каб сядзець у тым асяродку, яна ня бачыла.

Таня была безумоўным лідэрам, разумнай, з добрым пачуцьцём гумару. Зь немкамі спрабавала размаўляць па-ангельску, толькі ў рэдкіх выпадках зьвярталася па дапамогу перакладчыц. Адрозна ад іншых, яна мела дакладныя пляны на жыцьцё пасьля вызваленьня. У турэмнай школе была выдатніцай, зьбіралася паступаць ва ўнівэрсытэт.

Перад ад'ездам паразмаўлялі таксама з выхавацелькамі, маладымі, сымпатычнымі жанчынамі. Падзялілася зь імі адчуваньнем, што «нібыта пабывалі ў піянэрлягеры для старшаклясьнікаў». У адказ пачулі: «Калі вы пачытаеце прысуды гэтых дзяўчатак, то пра піянэрлягер забудзеце».

Тыя, хто найбольш спадабаўся ўсім нам, сядзелі за жорсткія забойствы. Сярод іх была Таня. Яна забіла бацьку, нанёсшы яму каля 20 удараў нажом. Але, паводле супрацоўніц калёніі, назваць дзяўчыну забойцай, якая мэтанакіравана пайшла на злачынства, яны ня могуць.



У Танінымм выпадку ахвярай стаў бацька, які, напіўшыся, пачынаў тэрарызаваць сям'ю. У дзень, калі ўсё здарылася, ён спачатку чапляўся да маці, а калі Таня заступілася за яе, пераключыўся на дачку. Таня схапіла нож і біла ім па бацькавым целе, пакуль не абясьсілела.

### *Ад выхавацелькі*

**— Таня мэтанакіраваная, хітрая, але такой жанчыне і трэба быць па жыцьці, учэпістая. Яна ўмее ставіць мэты і дасягаць іх. Яна хоча на волю і, думаю, больш ня сядзе.**

**Збольшага дзеці ідуць на забойства праз глупства, па п'янцы, праз наркату, праз заніжаны падлеткавы самакантроль, маўляў, усё можна, бо я так хачу. Яны толькі потым усьведамляюць, што забітага чалавека, часта блізкага, назад ня вернеш. Зь імі, на жаль, дагэтуль ніхто не займаўся, але яны паддаюцца выхаваньню.**

**А вось з так званымі крадунамі, тымі, хто з малога ўзросту прызвычаіўся красьці, нашмат больш складана. Яны бяз гэтага ўжо ня змогуць, гэта як хвароба. Шмат хто з гэтым артыкулам вернецца ў дарослую зону.**

**Чаму адна зь дзяўчатак так хоча на дарослую зону? Калі браць канкрэтны выпадак, то ёй не хапае новых вострых адчуваньняў. У яе жыцьці шмат што ўжо было. У тым ліку дзіця, якое цяпер мае новую сям'ю. Ёй страшна на волі, а таму падабаецца на нарах. Калі яна трапіць да дарослых злачынак, то хутчэй за ўсё сядзе зноў. І не аднойчы.**

Прыгожая юная цыганка, дарэчы, двойчы суджаная, але першы раз без турэмнага зьняволеньня, трапіла за краты за гандаль наркотыкамі. Сямейны бізнэс, арганізаваны дарослымі, за які ў пэўным крымінальным асяродку адказваюць дзеці. Бацькам ясна, што дзецям дадуць меншы тэрмін. Усё пралічана.

Дзяўчына кажа, што пасьля зоны пойдзе гандляваць легальным таварам. Але ж гэта куды меншыя грошы, ды не такія лёгкія, як па арт. 328. Яна сядзе абавязкова зноў, мяркуюць выхавацелькі. З прычыны свайго атачэньня. Дарэчы, яна ня лічыць сваё злачынства цяжкім, бо нікога не забівала. Яна ня думае, што празь яе многія змаглі падсесьці на наркотыкі, а потым загінуць ад перадазаваньня.

Тры прагнозы атрадніцы, як высьветлілася празь некалькі гадоў, спраўдзіліся. Што стала з Таняй — невядома.

## Сындром пакінутага

### *Ад аўтара. Працяг*

Потым, калі мы вярталіся ў Менск і абмяркоўвалі сустрэчу, адна зь немак, якая была сацыяльным пэдагогам, сказала: «Цяжкія падлеткі ва ўсім сьвеце вельмі падобныя псыхалягічна паміж сабой. Усе яны нібыта апынуліся ў „кайданах“ сындрому пакінутага чалавека, жывуць у стане трывогі, паступова робяцца замкнёнымі, падазронымі. Перажываньні адбіваюцца на твары: найчасьцей у іх вельмі сумныя вочы».

Паняцьце «сындром пакінутага» ўпершыню выкарыстаў швэйцарскі псыхааналітык Карл Густаў Юнг. Псыхолягі ды сацыяльныя пэдагогі з розных краін часта яго згадваюць, калі размова ідзе пра жорсткія злачынствы, учыненыя дзецьмі ды падлеткамі.



Зразумела, ня ўсе дзеці з праблемных сем'яў робяцца злачынцамі, аднак практычна ўсе непаўналетнія, хто ўчыніў злачынства, так ці інакш мелі праблемы ў сям'і. Калі зьнікаюць адносіны з блізкімі людзьмі, хоць фізычна яны побач, калі дзіця ня бачыць любові ад тых, каго само любіць, то адчувае спустошаньне і боль страты.

Непаўналетняя Аня сядзела ў Гомлі, калі там ужо быў атрад зь дзесяці — дванаццаці дзяўчатак, і валянтэры з праекту Грушавых выхаванак ужо больш не наведвалі. Дзяўчына, аднак, ведала некаторых з тых, каму дапамагаў фонд Грушавых. Яны вярнуліся ўжо на дарослую зону.

Саму Аню асудзілі паводле арт. 206 за ўдзел у групавым рабунку па папярэдняй змове.

Аднак сапраўднай прычынай яе турэмнага пакараньня сталі наркотыкі. Рабунак, а перад гэтым дробныя крадзяжы рабіліся дзеля набыцьця дозы. Увогуле, за краты Аня магла трапіць і раней, але з куды больш цяжкім злачынствам — за забойства маці. Ёй не было шаснаццаці, калі аднойчы падчас ломкі пачала патрабаваць у маці грошы на чарговую дозу. Тая адмовіла. Быў нож, была кроў, былі крыкі. На шчасьце, умяшаліся суседзі.

Аня ўзгадвае, што ўпершыню паспрабавала марыхуану, калі ёй споўнілася дванаццаць. Праз пару гадоў сябар, які забясьпечваў яе, сказаў, што для кайфу «травы» патрабуецца шмат, а гераіну зусім мала. У сям'і не было недахопу ў грошах. Дзяўчынка мела кішэнныя, калі не хапала, прадавала нешта з уласных дарагіх рэчаў, а часам крала ў бацькоў. Бацька-бізнэсовец сышоў зь сям'і, маці дзяўчынкі, заглыбленая ва ўласныя перажываньні, заўважыла зьмены ў Ані, калі тая ўжо «сядзела на гераіне».

Для выратаваньня дзяўчынкі яе бацькі зь іх магчымасьцямі, грашыма ды сувязямі чаго толькі не

прадпрымалі. Але нічога не дапамагло. Турма стала іх апошняй надзеяй.

Сама Аня, апынуўшыся за кратамі, паводле яе, неаднойчы каялася ў царкве за ўсе пакуты, якія прынесла бацькам. Узгадваючы той момант, калі ледзь не забіла маці, кажа, што тады ўся яе агрэсія, пра якую яна раней не падазравала, вырвалася вонкі і спыніць гэта яна ніяк не магла. За кратамі Аня зьведала нямала дзяўчатак, якія апынуліся ў падобнай сытуацыі. «Забойца можа быць унутры кожнага з нас. Дастаткова толькі перайсьці нейкую мяжу, цябе ўжо нішто ня спыніць», — перакананая Аня.

Выйшаўшы на волю, дзяўчына зноў узялася за наркотыкі. Да яе гісторыі мы яшчэ вернемся.

Ад сярэдзіны 2010-х на тэрыторыі гомельскай ПК № 4, або «чацьвёркі», утрымліваецца з паўдзясятка непаўналетніх асуджаных. Быў час, калі на так званай «малалетцы» адбывалі пакараньне 80 дзяўчатак.

Цяпер, паводле супрацоўнікаў пэнітэнцыярнай сыстэмы, «зь цяжкімі падлеткамі праводзіцца вялікая праца, у калёнію яны накіроўваюцца ў выключных выпадках». Гэта азначае, што злачынстваў ня стала менш, дзяўчаты па-ранейшаму рабуюць, забіваюць, крадуць, абарот наркотыкаў увогуле вырас — проста выракаў без пазбаўленьня волі стала болей.

## Выхаванцы

У 2007 годзе вырашылі гуманізаваць пакараньне непаўналетніх і, разам зь дзявочай калёніяй, ліквідавалі дзьве выхаваўчыя ўстановы для хлопчыкаў. У выніку засталася толькі адна — ВК № 2 у Бабруйску, разьлічаная на 520 месцаў. Паводле дадзеных МУС на 2016 год, у ёй было 279 выхаванцаў.

Згодна зь міліцэйскімі зводкамі ды справаздачамі, якія друкуюцца афіцыйнымі СМІ, дзіцячая злачыннасьць у краіне, як сярод дзяўчатак, так і сярод хлопчыкаў расьце, павялічваюцца колькасна і так званыя групы рызыкі: безнаглядныя дзеці, дзеці зь няпоўных сем’яў, маленькія ўцекачы з дому.



Вельмі падобныя і ўчыненыя падлеткамі абодвух полаў злачынствы. Паводле МУС, у 2016 годзе пераважная большасьць з 279 юных сядзельцаў была асуджаная за наркотыкі, а таксама крадзяжы, у тым ліку з дапамогай кампутарнай тэхнікі, рабункі, разбой, цяжкія цялесныя пашкоджаньні, забойствы. Учынялі непаўналетнія хлопчыкі і сэксуальныя злачынствы. Пачала праяўляцца тэндэнцыя: усё часьцей злачынцамі робяцца дзеці не з праблемных, а з досыць забясьпечаных сем’яў.

Як сьведчаць некаторыя дасьледаваньні, праведзеныя паводле замовы МУС, у абсалютнай большасьці выпадкаў ахвярамі забойстваў, учыненых непаўналетнімі, становіцца адна асоба, у некаторых — дзьве і болей.

## Справа Даната

Менскі гімназіст Данат Скакун — адзін з найбольш вядомых цяперашніх асуджаных «малалетак», ягоная справа прагрымела ва ўсіх СМІ.

Данат, паводле сьледзтва і суду, замахнуўся на жыцьцё настаўніцы, нанёс ёй мноства ўдараў нажом і такім чынам адпомсьціў ёй за дрэнныя адзнакі. Дзесяцікляснsocьніку прызначылі восем гадоў пазбаўленьня волі.

Такімі злачынствамі на дзіцячай зоне сёньня мала каго зьдзівіш. Калі б не некаторыя акалічнасьці гэтай непразрыстай, на думку многіх, справы.

Аднакляснікамі падлетка з гімназіі, а таксама іх бацькамі ў сацсетках створаны адмысловы акаўнт у яго падтрымку. На старонцы апублікаваныя артыкулы недзяржаўных СМІ, ацэнкі незалежных экспэртаў, дзе выказаны сумнеў адносна вінаватасьці хлопца. Непа-

срэдных сьведкаў здарэньня няма. Прыладу злачынства апэратыўныя супрацоўнікі так і не знайшлі.

Паводле адваката, віна хлопца ў судзе цалкам не была даказаная, само сьледзтва праводзілася са шматлікімі парушэньнямі закону. Шмат прэтэнзіяў да экспэртызы. І шмат пытаньняў да настаўніцы.

Сваю сярэднюю адукацыю гэты здатны да навучаньня хлопец цяпер працягвае за кратамі, у Бабруйскай калёніі. У лістах дадому піша, што ў школе калёніі яму падабаецца. Просіць сваіх маму-тату не хвалявацца, бо ў яго «ўсё добра». Псыхалягічны стан — больш-менш. Як кажа бацька хлопца, «сына нават у СІЗА падтрымлівалі і псыхолягі, і выхавацелі. У калёніі ў нас з Данатам было некалькі спатканьняў. Яму дазволілі ўбачыць бабулю і дзядулю».

## Справа Кірыла

Справа 16-гадовага Кірыла куды больш празрыстая. Кірыл (імя зьмененае) сядзіць за жорсткае зьбіцьцё сябра, які ў выніку застаўся інвалідам. Прысуд атрымаў вялікі. Падчас сьледзтва і ў размове зь дзіцячым псыхолягам, сказаў: зрабіў так, таму што проста пажадаў. Зьбіваць яму было прыемна. Ніякай спагады да пацярпелага не было, раскаяньня таксама.

Кірылава маці Людміла кажа, што да таго, як сын трапіў за краты, ён трымаў у страху ўсю сям'ю. Гэта было нечым неверагодным для ўсіх, бо да пераходнага ўзросту ён быў добрым ды ласкавым хлопчыкам. А з трынаццаці гадоў у яго пачалі назірацца праявы агрэсіі. Сын тады хутка вырас сантымэтраў на дваццаць, фізычна падужэў. Аднойчы прыйшоў дадому п'яны і падняў на бацькоў руку.

Аднак іх супакойвала, што выбухі гневу ў хлопца здараліся нячаста. Вонкава ён выглядаў добрым ды ветлівым, у школе вучыўся добра. Калі сьледчыя пасьля арышту падлетка апытвалі суседзяў пра абставіны ў сям'і, тыя, як адзін, казалі: узорныя бацькі, шмат працуюць, сынок дагледжаны, жывуць добра, у сям'і ўсё ёсьць — машына, лецішча...



Людміла — той рэдкі выпадак, калі маці бачыць ва ўчынку сына і сваю з бацькам віну. «Мы з мужам у маладосьці жылі бедна, — кажа жанчына. — Калі зьявіўся сын, паставілі перад сабой мэту, каб той ніколі не зазнаў галечы. Працавалі па 24 гадзіны ў суткі. Зразумела, стамляліся, нярэдка скандалілі паміж сабой за грошы. У прысутнасьці сына, а той плакаў ды прасіў, каб мы спыніліся. Яму зусім іншае было трэба».

Людмілу вельмі непакоіць, ці стане яе дзіця лепшым пасьля працяглай адседкі. З дапамогай псыхолягаў бацькі імкнуцца пакрысе адбудаваць масток паміж імі і сынам. Гэта добра, лічаць яны, што дзеці ў калёніі ўвесь час занятыя: тут і школа, і спорт, і самадзейнасьць, ёсьць магчымасьць атрымаць запатрабаваную прафэсію.

Сказаць, што ўмовы ўтрыманьня ў калёніі кепскія, ні Людміла, ні яе муж, ні сын ня могуць. Насуперак розным чуткам, дзяцей у калёніі ніхто ня б'е і не гвалтуе. Наркотыкі таксама выключаюцца. Так, ёсьць рэжым, якому трэба падпарадкоўвацца, і гэта цяжка, бо на волі многія да яго не прызвычаіліся. Але зь дзецьмі займаюцца, вывозяць іх на экскурсіі ў горад, імкнуцца нешта ўкласьці ў галовы. Калі казаць пра ежу, дык кормяць добра.

## Пастаянная занятасьць

Грамадзкіх інспэктараў у турмы і калёніі Беларусі ад сярэдзіны нулявых не пускаюць. Аднак, было адно выключэньне.

У 2014 годзе праваабаронца Алёна Красоўская, якая пасьля арышту свайго паплечніка і кіраўніка культурна-асьветніцкай установы «Плятформа» Андрэя Бандарэнкі ўзначаліла гэтае грамадзкае аб'яднаньне,

разам з калегам, колішнім палітвязьнем Мікітам Ліхавідам атрымалі дазвол ДВП на наведаньне турэмных установаў. На пачатку 2015-га Алёна Красоўская падзялілася са «Свабодай у турмах» уражаньнямі ад наведаньня бабруйскай калёніі для хлопчыкаў.

### *Ад праваабаронцы*

**— Бачыць дзяцей у турэмнай робе зь біркамі на грудзях вельмі дзіка. Многія выглядаюць нават маладзейшымі за чатырнаццаць гадоў. Падумаць, што гэта крымінальнікі, у абсалютнай большасьці выпадкаў — немагчыма.**

**Шмат хто зь іх папаўся на крадзяжы, каб купіць, напрыклад, нешта салодкае і адзначыць дзень нарадзінаў. Аднак большасьць кралі, каб набыць дозу. Лічыцца, што калі трапляеш з гэткім артыкулам у чатырнаццаць, то, найверагодней, трапіш паводле яго і пазьней.**

**Зразумела, кожнаму ў вочы мы не зазірнулі, але нейкага адчуваньня, што вакол маленькія зьвяры, не было. Тым ня менш, гледзячы на напружаньне выхавальнікаў, мы разумелі, што гэтыя малыя могуць быць небясьпечнымі.**

Разам зь «ціхімі крадунамі», узгадвала Алёна Красоўская, сустракаліся і вельмі «крутыя малалеткі»:

**— Але калі размаўляеш зь імі і яны расказваюць пра свае злачынствы, у асноўным зьвязаныя з наркотыкамі, проста мову адымае. Расказваюць нават з бравадай, або не ўсьведамляючы, што ўчынілі злачынства, або хаваючы тое, што яны гэта ўсьвядомілі.**

**Аднаго арыштавалі, калі ён меў пры сабе 54 грамы хімічнага рэагенту для вырабу спайсаў. Дык ён расказваў і пра дозы, і колькі з чаго можна зрабіць для продажу, і які прыбытак можна атрымаць. Гэта 16-гадовы хлопец! У другога, ня менш «крутога», я спыталася: навошта гэта табе? Пачула адказ: «А вы за ўсё сваё жыцьцё калі-небудзь бачылі столькі грошай?»**



Яшчэ на пачатку 2010-х абавязковы для ўсіх выхаванцаў распарадак дня выглядаў так:

Пад'ём а 06:20. Далей ранішняя зарадка, мыцьцё. А 07:05 сьняданак. Потым заняткі або ў школе, або ў ПТВ. Школьныя заняткі доўжыліся з 8:00 да 12:40, у ПТВ — з 8:00 да 14:00. Потым выхаванцы ішлі на абед. Пасьля абеду — на працу. Працавалі шэсьць гадзін на суткі. А 22:00 быў адбой.

Шмат што засталося як і раней, за выключэньнем таго, што непаўналетнія «на промцы» ўжо не працуюць. Цяпер у майстэрнях увогуле засталося вельмі мала людзей. Хіба што самыя старэйшыя. Занятасьць асноўнай масы выхаванцаў выглядае так: з раніцы заняткі ў сярэдняй школе, большасьць атрымлівае ў калёніі атэстат. Або навучаньне ў ПТВ. Прычым старшакласьнікі могуць з раніцы наведваць заняткі ў школе, а потым у другой палове дня набываць прафэсійныя веды.

Што тычыцца разумовага ўзроўню дзіцячага турэмнага кантынгенту, то, паводле Алёны Красоўскай, ён самы розны. Ёсьць цэлая кляса, чалавек 25, дзе вучацца дзеці з запаволеным псыхічным разьвіцьцём. Пры гэтым учыненыя імі злачынствы могуць быць вельмі жорсткімі. Такія займаюцца паводле асобнай навучальнай праграмы.

І адначасна ёсьць вельмі таленавітыя дзеці, якія выйграюць на міжшкольных алімпіядах і паказваюць веды, ня горшыя чым у «вольных школьнікаў». Пішуць рэфэраты па рэлігіі, філязофіі, дэманструюць іншыя таленты — пішуць вершы, прозу, ствараюць музычныя гурты.

Вялікі плюс Алёна Красоўская бачыць у тым, што выхаванцы калёніі пастаянна занятыя:

**— Тады яны ня маюць часу вызначаць, хто зь іх больш круты. Зь іншага боку, атрымаўшы спэцыяльнасьць, юнак на волі заўсёды мае больш шанцаў жыць нармальным жыцьцём. Пасьля ўмоўна-датэрміновага, калі спэцыяльнасьць, як кажуць, «амаль у кішэні» і застаецца толькі крыху давучыцца ў вольным ПТВ, многія, на жаль, навучаньне кідаюць.**

Паводле Алёны Красоўскай, практыка паказвае, што ў далейшым жыцьці рэалізуюць сябе далёка ня ўсе.

## Альтэрнатыва

Менская пэнсіянэрка Зоя М. нямала гадоў была народнай засядальніцай у судзе. Сярод шматлікіх спраў, зьвязаных з падлеткавай злачыннасьцю, ёй асабліва запомнілася адна, аб разбоі.

*Ад народнай засядальніцы*

**— Хлопец быў вельмі праблемны. Аднак яму далі прысуд, ніжэйшы за найніжэйшую мяжу — умоўнае пакараньне. Бо ён пераканаў судзьдзяў сваім шчырым раскаяньнем. А потым праз шмат гадоў я сустрэла яго. Жанаты, дзеці, свая аўтамайстэрня. Спакойны, памяркоўны чалавек. Ня ўпэўненая, што ён стаў бы такім, калі б яму тады прысудзілі рэальны тэрмін.**

Былая судовая засядальніца выступае за пошукі альтэрнатывы працяглым турэмным прысудам, а таксама зьняволеньню падлеткаў, калі тыя ўчынілі нязначнае парушэньне або склад іх злачынства цалкам



не даказаны. Яна нічога добрага ня бачыць у тым, што ў суседняй Расеі ў сувязі з ростам жорсткіх злачынстваў сярод непаўналетніх гучаць прапановы адносна зьніжэньня ўзросту судовай адказнасьці і ўвядзеньня турэмнага пакараньня не з чатырнаццаці, як цяпер, а з дванаццаці.

**— Нават калі і зьнізіць гэты крытэр і пасадзіць усіх малалетніх правапарушальнікаў за краты, гэта ня вырашыць праблему. Такія дзеці толькі стануць закладнікамі турэмнай сыстэмы і ня змогуць ужо ніколі вярнуцца да нармальнага жыцьця.**

## Спэцвучэльні

У 2016-м начальнік аддзяленьня Ўпраўленьня арганізацыі папраўчага працэсу Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў Барыс Шульдаў выказаўся адносна плянаў пераўтварыць дзіцячую калёнію у Бабруйску ў выхаваўчы цэнтар. Кшталту тых, што дзейнічаюць сёньня ў шэрагу эўрапейскіх краін. Спачатку выхаванцы такіх цэнтраў адбываюць пакараньне на агульных умовах. Потым, за паўгода да вызваленьня, тых, хто ня меў дысцыплінарных спагнаньняў, пераводзяць на палепшанае ўтрыманьне — у жылыя памяшканьні на чатыры — шэсьць месцаў (цяпер дваццаць — дваццаць пяць чалавек).

Будзе максымальна выключаная турэмная атрыбутыка, каб установа для падлеткаў «зрабілася менш падобнай да ўстановы закрытага тыпу». Умовы пражываньня ў выхаваўчым цэнтры будуць набліжаныя да хатніх: асуджаным дадуць магчымасьць самім весьці побыт, распараджацца грашовымі сродкамі, насіць цывільную вопратку. Павялічыцца колькасьць кароткатэрміновых і доўгатэрміновых спатканьняў. Гэта дазволіць непаўналетнім лепш падрыхтавацца да самастойнага жыцьця на волі, лічыць Барыс Шульдаў.

Паводле адказнага чыноўніка, для таго, каб такое стала магчымым, неабходна ўнесьці зьмены ў нарматыўна-прававую базу, якая рэгулюе адбыцьцё пакараньня непаўналетнімі. Таксама ня трэба эканоміць на інвэстыцыях у такіх дзяцей.

Паралельна з традыцыйнымі ўстановамі пакараньня сыстэмы МУС у Беларусі пад патранатам Міністэрства адукацыі ды Міністэрства аховы здароўя для схільных да крыміналу дзяцей абодвух полаў у Магілёве, Петрыкаве, ды Крывічах на Мядзельшчыне існуюць адмысловыя выхаваўча-навучальныя ды лячэбна-выхаваўчыя вучэльні.

Сёньня ў такіх вучэльнях налічваецца прыкладна дзьвесьце выхаванцаў. Сярод іх шмат тых, хто рэгулярна ўжываў у грамадзкіх месцах алькаголь, наркотыкі, аднак учыняў збольшага няцяжкія злачынствы.

У інтэрвію «Свабодзе ў турмах» юрыст праваабарончага цэнтру «Вясна», у мінулым пасьпяховы адвакат Павал Сапелка выказаў меркаваньне, што адна з праблемаў такіх установаў у тым, што яны ня менш закрытыя для грамадзкага кантролю, чым установы пэнітэнцыярныя.

### *Ад адваката*

**— Нават у дзяржаўных СМІ рэдка калі знойдзеш які рэпартаж з гэткай вучэльні. Як там насамрэч з выхаваньнем, рэабілітацыяй ды сацыялізацыяй праблемных падлеткаў, меркаваць цяжка.**

**Так, там няма кратаў, строгай сыстэмы аховы, аднак падлеткі пастаянна пад кантролем, ходзяць шыхтом, носяць форму. Аднак умовы ўтрыманьня ў гэтых установах так ці інакш уяўляюць сабой форму пазбаўленьня волі. Падлеткі пражываюць у вучэльнях пастаянна, пакідаць іх самастойна ня маюць права. Выезд за тэрыторыю — фактычна форма заахвочваньня.**



**У якасьці пакараньня за нейкія правіны да іх могуць ужывацца, па сутнасьці, меры дысцыплінарнага ўзьдзеяньня. І фактычна зьмяшчэньне ў ізалятар, хоць гэта называецца пакоем рэадаптацыі, неяк так.**

Прадстаўнік дабрачыннага грамадзкага аб’яднаньня «Сьвет бязь межаў» Аляксей Ананенка, чыя арганізацыя ладзіла розныя праекты непасрэдна ў такіх вучэльнях, мае іншую думку. Ён лічыць, што гэтыя ўстановы нельга ставіць у адзін шэраг з калёніямі.

### *Ад сацыяльнага пэдагога*

**— Калі спрабуюць прыраўнаваць, то гэта, напэўна, няправільна. Там асаблівы рэжым утрыманьня, асаблівыя ўмовы выхаваньня, што прапісана ў заканадаўстве. У адрозьненьне ад турмы, гэтыя дзеці могуць у суправаджэньні дарослых хадзіць у горад, удзельнічаць у мерапрыемствах, езьдзіць на экскурсіі, што з дапамогай нашай арганізацыі робіцца досыць актыўна. Ніякіх перашкодаў няма. Мы, напрыклад, праводзім лягер, прыяжджаем з валянтэрамі. Праводзім зь дзецьмі тыдзень розныя мерапрыемствы. Адзінае, чаго яны ня могуць, гэта як дома ўзяць ды пайсьці ў краму альбо на прагулку. У іх вельмі дакладны расклад дня.**

Як зазначае Аляксей Ананенка, пасьля выхаду са спэцвучэльняў, якія зьяўляюцца адукацыйнымі, падлеткі не падлягаюцьназіраньню, як тыя, хто выйшаў зь месцаў зьняволеньня. Яны ў прынцыпе ня лічацца асуджанымі. Ніякіх санкцыяў адносна іх, забароны выезду з краіны няма. Калі яны атрымліваюць прафэсійную адукацыю, то могуць пасьля проста ўладкоўвацца на працу.

Паводле Ананенкі, у гэтых дзіцячых лячэбна-выхаваўчых установах вельмі неблагая мэдычная база ды добрая ЛФК.

**— Гэта неабходна ўсім дзецям, паколькі яны маюць пэўныя асаблівасьці са здароўем. Прынамсі тыя, хто часта піў алькаголь, меў досьвед ужываньня іншых псыхаактыўных рэчываў. Амаль усе курылі. І гэта сапраўдная тэрапія для іх.**

Аляксей Ананенка мае больш як дваццацігадовы досьвед кантактаў з выхаванцамі спэцыяльных установаў. У 1994 годзе, падчас працы над дысэртацыяй аб цяжкіх падлетках, пэўны час жыў у адной са спэцвучэльняў. Уваходзіць у камісію па справах непаўналетніх пры Савеце міністраў.

### *Ад адваката*

Юрыста Паўла Сапелку сама пэрспэктыва прымусовага накіраваньня непаўналетніх нарказалежных у лячэбна-выхаваўчыя ўстановы закрытага тыпу «крыху засмучае». Калі ж казаць пра тое, ці можа лячэньне быць адначасна ізаляцыяй, то гэта з гледзішча закону немагчыма.

**— Ні алькагалізм, ні наркаманія не зьяўляюцца згодна з законам аб ахове здароўя захворваньнем, якое можа лячыцца прымусова. Прымусова лечацца тыя захворваньні, якія могуць быць небясьпечнымі ня толькі для носьбіта, але і для людзей навокал. Гэта сухоты, чума, вэнэрычныя захворваньні. А што да прымусовай дапамогі пры алькагалізьме і наркаманіі, то тут выкарыстоўваецца закон аб ЛТП.**

# ЖЫЛАЯ ЗОНА

**«Каму турма, каму — родная хата», сьцьвярджае арыштанцкі фальклёр.**

І ў трэцім тысячагодзьдзі гэтая «хата» ўсё яшчэ выглядае так: турэмныя камэры выконваюць функцыі курылкі, кухні-сталоўкі, спальні, пакою для адпачынку і прыбіральні. Як адзначае большасьць вязьняў, у турэмных камэрах, як і ва ўсіх памяшканьнях, дзе шмат людзей і няма вэнтыляцыі, можа стаяць смурод сапрэлых шкарпэтак, ляжалых рэчаў, нясьвежых прадуктаў, хворых страўнікаў ды зубоў, нямытых целаў, тытуню.

Былыя вязьні кажуць, што пасьля вызваленьня яшчэ доўга адчуваюць турэмныя пахі, якія цяжка і павольна выветрываюцца з рэчаў ды ніколі не зьнікаюць з успамінаў. Знаёмы пах, прамільгнуўшы ў паветры, прыводзіць на памяць самыя розныя карцінкі з жыцьця за кратамі.

## Турэмныя пахі

### *Ад вязьня-пажыцьцёвіка*

Аляксандар Буд-Гусаім (1958-2017), абвінавачаны ў забойстве, адседзеў на ПЗ (пажыцьцёвым зьняволеньні) больш за 11 гадоў. Быў вызвалены незадоўга да сьмерці. Кароткі час быў адзіным сьведкам таго, як утрымліваюцца ў Беларусі вязьні-пажыцьцёвікі.

**— Калі я сядзеў на пажыцьцёвым у Жодзіне, там былі сабакі, якіх канкрэтна прывучылі рэагаваць на наш зэкаўскі смурод. Аўчаркі ніяк не рэагавалі на міліцыянтаў. Толькі на нашы пахі. Пах камэраў на ПЗ — гэта пах прыбіральні. Там сьмярдзела ўвесь час, нягледзячы на выцяжку. Дыхаць і жыць у такім памяшканьні было немагчыма. Але зэкі мусілі адаптавацца да ўсяго.**



**Узгадваю, як цягам дзесяці першых месяцаў мяне не выводзілі на прагулку, а калі на адзінаццаты вывелі ў дворык, то я, удыхнуўшы паветра, страціў прытомнасьць і ўпаў на зямлю. Апрытомнеў, калі мне паднесьлі нашатыр. Дарэчы, так было і зь іншымі. Той смурод пажыцьцёвага мне мроіцца і дагэтуль. Здавалася б, прайшоў час, нічога ўжо не павінна застацца. Я спаліў усе рэчы, якія былі зьвязаныя зь няволяй... Пастаянна мыюся ў душы, апранаю ўсё абсалютна чыстае. Аднак усё роўна чую той пах.**

Паводле Аляксандра, адчуваньне турэмнага смуроду — гэта нешта кшталту нюхальнай галюцынацыі. Узгадваецца, аднак, і ўлюбёны жодзінскі пах. Перадаць яго вельмі цяжка. Гэта пах лістоў з волі. Часам яму здавалася, што так пахне сама воля.

У мінулым палітвязень, карэспандэнт польскай «Газэты Выборчай» Андрэй Пачобут адседзеў у СІЗА старажытнай гарадзенскай турмы ўсяго некалькі месяцаў. Пачобут сядзеў у корпусе, які завецца «амэрыканкай», у маленькай камэры на чатыры чалавекі. Адгарадзіць прыбіральню там было проста немагчыма. Адседка прыпадала на лета, калі ў турме традыцыйна адключаюць ваду.

**— Гэты пах своеасаблівы. Цяжка яго акрэсьліць, але ні з чым ня зблытаеш. Калі я выходзіў з турмы, то ўсё трэба было мыць, а сумку паставіць на балькон, дзе яна доўга стаяла, каб выветрыўся турэмны смурод.**

**Праз нюхальную памяць прыходзяць успаміны пра турэмны душ. Калі ён ёсьць і ты стаіш пад ім з заплюшчанымі вачыма, то адчуваньне такое, што ты не ў зьняволеньні. Калі цябе выводзяць у душ, а гэта здараецца раз на тыдзень, то там у нейкім растворы ляжаць нажніцы, якімі карыстаецца**

**фактычна ўвесь турэмны корпус. Гэтыя нажніцы — улічваючы, што сярод тых, хто іх ужываў, можа, хворыя на які СНІД ці каросту, — выклікалі ў мяне вельмі гідкае пачуцьцё. Я ніколі да іх не дакрануўся.**

**На лета гарачую ваду адключаюць. У камэрах робіцца вельмі горача ды вільготна, зэкі грэюць ваду і мыюцца над унітазам. Дзякуй Богу, што апошнім часам у горадзенскую турму пачаў прыходзіць прагрэс. На зьмену звычайнай дзірцы ў падлозе — так званаму «ачку» — пачалі ўсталёўваць звыклыя для ўсіх вольных людзей санітарна-гігіенічныя прыстасаваньні ў выглядзе ўнітазаў.**

## «Тупое заканадаўства»

### *Ад экс-турэмніка*

Палкоўнік міліцыі Алег Алкаеў, які больш за 30 гадоў працаваў спачатку ў савецкай, а потым казахстанскай ды беларускай пэнітэнцыярных сыстэмах, у сваіх інтэрвію для «Свабоды ў турмах» адзначаў, што спэцыфічных пахаў у беларускіх вязьніцах магло б ня быць ужо гадоў дваццаць. Калі б на пачатку 1990-х арыентаваныя тады яшчэ на Эўропу дэмакратычны ўрад ды парлямэнт прынялі адпаведныя заканадаўчыя акты.

**— Але ж пытаньнямі рэфармаваньня турэмнай сыстэмы тагачасныя заканатворцы мала цікавіліся. Усё, што прымалася ў гэтым кірунку дэпутатамі і тады, і пасьля, слаба суадносілася з рэальнымі патрэбамі.**

**Вы можаце перагартаць правілы турэмнага распарадку і забесьпячэньня зьняволеных ды іншыя нарматыўныя акты і ня знойдзеце там ані слова пра тое, каб лазьня была часьцей, чым раз на тыдзень, каб начальнік турмы меў законнае права не прымаць да сябе ва ўстановы лішніх людзей і такім чынам не перапаўняць камэры.**



Алег Алкаеў ня стрымліваецца ў выразах:

**— Увесь бытавы нонсэнс ідзе не ад турэмнай адміністрацыі, а ад тупога заканадаўства. Хоць кожны, хто прымае законы, здаецца, разумее, што чалавек зь першага дня турмы павінен спраўляць свае натуральныя патрэбы, што ня кожны можа рабіць гэта на вачах сама меней дзесяці сукамэрнікаў. Гэта катаваньні, якія перарастаюць у небясьпечныя рэчы. Такія, як стасункі паміж зьняволенымі, калі барацьба ідзе за такую, напрыклад, рэч, як туалетная папера. Гэта спараджае зусім іншую асобу, незалежна ад таго, якім гэты чалавек быў на волі. Гэтыя дачыненьні потым у інтарэсах сьледзтва могуць быць павернутыя як заўгодна.**

Таксама вельмі балючай тэмай былі матрацы, кажа Алкаеў. Кожны зь іх быў разьлічаны на дзевяць гадоў (цяпер на пяць гадоў. — *Аўтар*). Сьпісаць яго было нельга раней за тэрмін. «Можаце сабе ўявіць, што ад яго заставалася? Караўка. Ні ваты, нічога там не было. Колькі на ім людзей спала!» — узгадвае былы начальнік СІЗА.

Пазьней, ужо падчас эміграцыі ў Нямеччыне, Алкаеў, знаёмячыся з колішнімі нямецкімі турмамі, якія цяпер сталі музэямі, параўноўваў умовы ўтрыманьня чалавека за кратамі ў абедзьвюх краінах:

**— Турма ў цывілізаванай краіне — гэта пазбаўленьне свабоды перамяшчэньня, а не стварэньне нязручнасьці. Тут у Бэрліне я шмат разоў наведваў турму-музэй Штазі. Камэры для нямецкіх злачынцаў былі разьлічаныя на некалькі чалавек. Там быў**

**унітаз і душ. Тое, што пабудавалі Саветы для сваіх зьняволеных, выглядала, як бэтонны склеп, дзе не было нічога акрамя парашы. І гэта на той самай тэрыторыі! Калі я ўбачыў гэта, адчуў нешта знаёмае ды роднае.**

Алег Алкаеў успамінае сваё ўласнае знаходжаньне ў лягеры для ўцекачоў у Нямеччыне, дзе ён апынуўся ў 2001 годзе.

Яму выдалі патрэбныя рэчы: зубную шчотку (няважна, ці была ў цябе свая), пасту, шампунь. Калі нешта заканчвалася, можна было папрасіць новае. Выдалі пасьцельную бялізну, ручнік, кубак, лыжку. А таксама туалетную паперу. Жанчынам — пракладкі, для дзяцей — пампэрсы. Калі ўсё заканчвалася, можна было папрасіць зноў.

Па сутнасьці, такія самыя правілы ў Нямеччыне дзейнічаюць і ў дачыненьні да арыштантаў.

## Жаночае

### *Ад Марыі К*

На момант вызваленьня з Гомельскай калёніі № 4 ў канцы 2014 году Марыі К. было трыццаць пяць. У сэкцыі атраду, дзе яна ўтрымлівалася, разам зь ёй жыло яшчэ прыкладна трыццаць жанчын.

**— Мыцца дазвалялася раз на тыдзень. Калі хочаш памыцца звыш таго, гэта ўжо парушэньне. Праўда, дадаткова адводзілася пару гадзін на мыцьцё галавы, але там ля пары ўмывальнікаў стаяла сапраўдная бойка. Мыць бялізну можна раз на тыдзень. Каб падмывацца, трэба было зьбіраць бутэлечкі і ісьці ў прыбіральню, дзе не было ніякіх перагародак, нічога. Таму трэба было ўлучыць момант раніцай ці вечарам. Але гэта ж прыбіральня. Усе на цябе гыркаюць, бо сьпяшаюцца.**

**Ніякіх пракладак не выдавалі. Многія з тых, хто ня меў падтрымкі з дому, вымушаныя былі цягнуць са швейнай фабрыкі той самы вацін. Можаце сабе ўявіць, што там падкладалася.**

**Сярод нас было таксама нямала жанчын, якія не прызвычаіліся за сабой сачыць яшчэ на волі. Калі вялікая цесната, то можна ўявіць сабе, чым даводзілася дыхаць штодня. І гэта пры тым, што за кратамі сярод жанчын патрабаваньне да фізычнай чысьціні стаіць куды больш жорстка, чым на волі, і да так званых «чушак» ставяцца з пагардай, ня любяць ды пазьбягаюць.**

Палкоўнік міліцыі Алкаеў узгадвае, як, заходзячы штодня ў перапоўненыя жаночыя камэры, ён бачыў, як многія жанчыны, саромеючыся, спрабавалі схаваць свае замытыя анучкі. Яму было ніякавата ад таго, што ў свае крытычныя дні, якія ў няволі могуць цягнуцца задоўга, жанчыны ніяк не абароненыя фізіялягічна. Сродкі жаночай гігіены не выдаваліся. Толькі вядро гарачай вады на дзень.

Замест туалетнай паперы ў кожную камэру, як жаночую, так і мужчынскую, вязьням уручалі для карыстаньня адну газэту на ўсіх. Усяго нейкіх гадоў дзесяць таму, гэтыя неабходныя кожнаму гігіенічныя сродкі, не былі прапісаныя ў законе.

Яшчэ адна жаночая гісторыя, якую ў сваім лісьце на «Свабоду ў турмах» расказала зьняволеная Рэчыцкай жаночай калёніі. Маладая самотная жанчына, асуджаная ўжо другі раз, пісала, што шукае некага, хто б яе падтрымаў, бо дапамогі няма адкуль чакаць. У калёніі працавала ў швальні.

*Ад Сьвятланы К.*

**— Адчуваю крайнюю патрэбу ў шкарпэтках, ніжнім адзеньні, гігіенічных пракладках. Шкарпэтак засталося дзьве пары, таксама засталося двое трусоў і два станікі. Адно мыю — надзяваю другое. Не кажу ўжо пра тое, што гэтыя выдадзеныя рэчы не на мой памер. Крытычныя дні ў мяне цягнуцца доўга, пераношу цяжка. Пракладак нестае. Даводзіцца карыстацца рознымі анучкамі, часам паперай.**

**Прашу мяне зразумець — сядзець мне яшчэ вельмі доўга. Калі скончыцца мой тэрмін, мне ўжо будзе за сорак. Хацелася б выйсьці з гэтых месцаў нармальнай жанчынай. Тут ёсьць такія, якія запусьцілі сябе да такой ступені, што глядзець страшна. Вядома, гэта дрэнна асуджаць, але падысьці да іх без процівагаза немагчыма. Хоць яны добра забясьпечаныя, пераадзецца і памыцца ў іх ёсьць як. Мала таго, усякія розныя дэзадаранты. Не магу зразумець, чаму яны так сябе паводзяць. Вось так яно.**

Тым часам Алёна Красоўская (пасьля ліквідацыі «Плятформы» яна стварыла новую структуру для абароны правоў вязьняў — «Рэгіён119») прытрымліваецца іншага меркаваньня. Паводле яе, прынамсі ў гомельскай «чацьвёрцы» менавіта пасьля 2013 году адбыліся прыкметныя зрухі ў лепшы бок. Справаздача «Рэгіёну» ў 2016 годзе была выкарыстаная ў дакладзе тагачаснага міністра працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь Марыяны Шчоткінай на 65-й сэсіі Камітэту ў справе ліквідацыі жаночай дыскрымінацыі ў Жэневе.

У 2016 годзе ў інтэрвію «Свабодзе ў турмах» Алена Красоўская расказвала:



**— Цяпер усе жанчыны цалкам забясьпечаныя гігіенічнымі сродкамі. У калёніі пабудаваныя новыя сучасныя карпусы з душавымі кабінамі, і пры жаданьні жанчыны могуць прымаць душ хоць кожны дзень — іншая справа, што мыцца любяць далёка ня ўсе, і некаторым зьняволеным трэба няспынна нагадваць, каб усё ж выконвалі элемэнтарныя правілы жаночай гігіены казармаў.**

Што да другой жаночай калёніі — для паўторна асуджаных у Рэчыцы, то паводле Алёны Красоўскай, там (2016–2017 гг.) умовы застаюцца ранейшыя — такія самыя казарменныя, як і ў мужчын, усё яшчэ стаяць старыя будынкі, у атрадах захоўваецца расьсяленьне па 60–90 жанчын у адным памяшканьні, і праблемы з гігіенай стаяць нашмат вастрэй.

Пабудаваная на пачатку нулявых Рэчыцкая папраўчая ўстанова, першапачаткова была разьлічаная на мужчын. Як лічаць турэмныя псыхолягі, шматгадовая адсутнасьць асабістай прасторы і вымушаная «публічнасьць», ад якой нікуды не падзецца, раніць жанчын нашмат мацней, чым мужчын. Нярэдка гэта выклікае псыхічныя расстройствы.

## 10 гігіенічных пракладак і 25 мэтраў паперы

Усе, што ад прадметаў гігіены да турэмнага адзеньня выдаюць вязьням турэмныя ўстановы, вызначаецца армейскім тэрмінам *«вещевое довольствие»* (рэчавае забесьпячэньне) і рэглямэнтуецца Крымінальна-выканаўчым кодэксам.

Згодна з пастановай Савету міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28.04.2010, норма забесьпячэньня мужчын баваўнянымі трусамі складае — на кожнага сядзельца СІЗА — адну штуку на год, а на кожнага асуджанага

каленіі, адпаведна, дзьве штукі. Норма бавоўняных шкарпэтак — адпаведна, адна пара (для СІЗА) і дзьве пары (для каленіі).

Для жанчын, якія ўтрымліваюцца ў СІЗА — адны трусы і адзін станік на год. Для тых, хто сядзіць у каленіях — адпаведна па дзьве штукі кожнага вырабу.

Гігіенічных пракладак 120 штук на год — 10 на месяц. Туалетнай паперы (як для мужчын, так і для жанчын) па 25 мэтраў — недзе палова рулёну для аднаго чалавека на месяц.

Для параўнаньня: у краінах ЭЗ, а таксама Паўночнай Амэрыкі забесьпячэньне насельнікаў турмаў, інтэрнатаў, шпіталёў пралічваецца з улікам спажываньня туалетнай паперы сярэднестатыстычным жыхаром. У залежнасьці ад краіны — ад трох і болей рулёнаў на месяц.

### *Ад Вячаслава Г.*

Асуджаны Вячаслаў Г. расказвае, што за дзесяць гадоў турмы толькі аднойчы, у 2005-м, яшчэ ў менскай каленіі на Кальварыйскай, атрымаў належныя яму прадметы асабістай гігіены: адну зубную пасту і адну зубную шчотку. Трусы зь нетрывалай тканіны, якая рвецца адразу пасьля першага мыцьця, выдавалі двойчы за ўсю адседку. Столькі ж разоў і майкі, якія ў народзе завуць «алькагалічкамі»:

**— Паводле закону асуджаны павінен атрымаць тры пары шкарпэтак, каб мог іх мяняць. Але ў каленіі табе кажуць: адну пару атрымаеш, а другую — праз чатыры месяцы. Тое самае з гарнітурам «хэбэ». Іх належыць два на два гады. А калі ў асуджанага толькі год — значыць, атрымаеш толькі адзін. Дык у што яму пераапранацца?**

**Добра, што з дому мне ўвесь час ішоў «грэў» (дапамога). Але нават купіць гэта было немагчыма. Ня памятаю, каб у турэмным шапіку прадаваліся шкарпэткі або трусы. Да таго ж большасьць тых, хто сядзіць, не атрымліваюць дапамогі з волі. Самотных людзей за кратамі робіцца ўсё больш. Няцяжка ўявіць сабе, да якога стану можа дайсьці зьняволены чалавек, калі ігнаруюцца яго самыя простыя патрэбы.**



## Калі няма «грэву»

Як быць, калі цябе арыштавалі, дапусьцім, на вуліцы і кінулі ў камэру «ў тым, у чым быў»? Гэта значыць, уся вопратка (разам са споднім бялізнай) толькі ў адным экзэмпляры. Так здарылася зь віцебскім навукоўцам, палітвязьнем Міхаілам Жамчужным.

Жамчужны не належыць да дзёрзкіх злачынцаў. Першы раз быў асуджаны на пяць гадоў паводле эканамічнага артыкулу, за заняткі навукова-практычнай дзейнасьцю. Другі — атрымаў прысуд на шэсьць з паловай гадоў за збор інфармацыі, якая складае службовую таямніцу.

На нейкую дапамогу звонку Міхаіл разьлічваць ня мог. Самы блізкі яго чалавек — маці (яна памерла падчас адседкі сына) — тады была ў шпіталі ў цяжкім стане. Пяць гадоў за кратамі пры поўнай адсутнасьці падтрымкі з волі.

Гады праз два пасьля вызваленьня гісторыя з арыштам паўтарылася. Ізноў жа, затрымалі на вуліцы ў Віцебску, але ўжо летам, сьпякотным жніўнем 2014-га, калі людзі хадзілі ў сандалях, майках ды шортах. Пра тое, што ён апынуўся за кратамі, некалькі месяцаў ніхто ня ведаў.

Доўгі час тагачасныя супрацоўнікі «Плятформы» Алёна Красоўская ды Мікіта Ліхавід вазілі ў Віцебскі СІЗА рэчавыя ды харчовыя перадачы, вырашалі некаторыя іншыя ягоныя пытаньні, напрыклад, наконт аплаты камунальных рахункаў, вяртаньня пазыкаў.

А на чыю падтрымку можа разьлічваць у гэткіх выпадках бяздомнік або звычайны чалавек, які зь нейкіх прычын страціў родных ды сяброў?

Вязень-пажыцьцёвік Аляксей (імя зьменена) з родных на волі мае адну старэнькую маці. Яшчэ адзін блізкі для яго чалавек — колішняя школьная настаўніца, зь якой ён лістуецца. Зь яе дазволу цытуем наступныя радкі зь ліста вязьня-пажыцьцёвіка:

**— Разумею, што мая просьба можа падацца недарэчнай, але маё матэрыяльнае становішча бядотнае. Да непрыстойнасьці. Настаў такі момант, што не магу не пісаць. Відаць, сытуацыя ў краіне вельмі цяжкая, бо мама мая, як я бачу, ужо ня можа мне дапамагаць. Працы на пажыцьцёвым у Жодзіне няма. Можа вы ведаеце адрасы нейкіх арганізацый, якія б маглі даслаць за краты такія рэчы, як трусы, шкарпэткі? Буду вам вельмі ўдзячны за гэта. Яшчэ раз даруйце за такую недарэчнасьць.**

Іншы ліст, які напісаў «Свабодзе ў турмах» зьняволены Сяргей Г.:

**— Вось чалавека асудзілі гадоў на 10, 15, 18 і г. д. Ён прыбыў у калёнію з парай-тройкай маек ды трусоў. Родных, якія б маглі даслаць яму бялізну, няма. Як гэтаму чалавеку жыць?**

**Спасылаючыся на нормы, зацьверджаныя Саўмінам, я напісаў у ДВП. І пра сподняе, якое не атрымліваем, а таксама пра прадметы гігіены — пасту, шчотку, мыла, туалетную паперу. Я спытаўся: чаму гэтага нічога няма? Даюць толькі сабачае мыла. Калі мыеш ім адзеньне, а мы гэта робім раз на тыдзень, яно заўсёды сьмярдзіць псінай. Дык з ДВП мне адказалі: усе нормы зьмяніліся, і вы атрымліваеце ўсё, што вам належыць.**



## Турэмны дрэс-код

Двойчы на год, 15 красавіка і 15 кастрычніка беларускія папраўчыя ўстановы пераходзяць адпаведна на летнюю і зімовую форму адзеньня.

Летам асуджаным, згодна з зацьверджанымі Саўмінам правіламі, выдаецца роба (чорныя баваўняныя штаны ды кіцель, на мове ЗК — «кліфт»), зімой у дадатак да робы — кальсоны, шапка-вушанка са штучнага футра. Летнія кірзавыя чаравікі мяняюць на вышэйшыя зімовыя з тонкай пракладкай, накшталт байкавай. Таксама зэкам выдаюць фуфайкі (за кратамі іх называюць «цялагамі» ад слова «целагрэйка»).

Гэтыя адзежыны, здадзеныя ў абавязковым парадку ў красавіку, — як распавядаюць вязьні, вяртаюцца назад са складоў пакрытыя цьвільлю, бо захоўваюцца ў памяшканьнях зь вялікай вільгацьцю.

Згодна з афіцыйнай разнарадкай, рэчавае забесьпячэньне або поўны камплект зонаўскага адзеньня (чаравікі, роба, целагрэйка, шапка, сподняя бялізна, шкарпэткі) апошнім часам каштавала каля 200–250 беларускіх рублёў. Гэтую суму зэк мусіў сплаціць назад установе.

Як лічаць многія асуджаныя, каштаваць такіх грошай беларуская турэмная вопратка ніяк ня можа. Яна проста няякасная. Да таго ж, зь пералічанай турэмнай амуніцыі вязень атрымлівае далёка ня ўсё, што яму павінны выдаваць.

## Галоўная праблема — абутак

Самай вялікай праблемай як сярод жанчын, так і сярод мужчын на зоне лічыцца абутак.

Асуджаная Гомельскай калёніі Даша ўзгадвала, што нават у самыя моцныя халады жанчына мусіць насіць

спадніцу, бо цяплейшыя штаны забароненыя. Абутак, калі няма каму з дому выслаць боты, — гэта «чувякі», такія чаравікі, якія прамярзаюць, рвуцца. Жанчыны днямі могуць хадзіць з мокрымі халоднымі нагамі, бо сушыць абутак у памяшканьні нельга.

Гэты абутак — суцэльнае пакараньне для людзей з хворымі нагамі, скардзіцца былы зьняволены Вячаслаў.

*Ад Вячаслава Г.*

**— Турэмныя чаравікі абсалютна не разьлічаныя на тых, хто мае плоскаступнёвасьць, грыбок або падагру. У кірзе нага зусім ня дыхае. Раней турэмныя лекары раілі сваякам такіх вязьняў набываць чорныя белвэстаўскія чаравікі, якія больш-менш адпавядаюць прынятаму ўзору, і перадаваць іх у калёніі. Цяпер рэкамэндацыі адносна таго, што насіць, замест лекараў даюць турэмныя начальнікі.**

*Ад Алега Р.*

**— Хадзіць у тым абутку, які нам выдавалі, вельмі нязручна. Розныя «актывісты» маглі атрымаць з волі нармальны чорны абутак і выдаваць за турэмны. Хто не «актывіст» — мог атрымаць зручныя чаравікі толькі праз санчастку ў выпадку, калі тая пацьвердзіць, што ты маеш пэўныя хваробы і табе патрэбны артапэдычны абутак. Але калі ты на дрэнным рахунку ў начальства, то санчастка ня дасьць такой рэкамэндацыі нават самаму хвораму чалавеку.**



*Ад Валера Леванеўскага*

**— Калі ёсьць каму даслаць «унутраную валюту» — можна ў турме, на зоне набыць што заўгодна. Новыя чаравікі — калі ласка! Усё мае сваю цану. Пара чаравікаў, чыста ўмоўна — пяць пачкаў цыгарэт зь фільтрам. Фуфайка новая — дзесяць пачкаў ці дваццаць. Я не курыў, мне цыгарэты дасылалі.**

## Кліфт ад турэмных куцюр'е

Валер Леванеўскі, былы палітвязень з Горадні, адбыў за кратамі два гады за «публічную абразу прэзыдэнта». Ён дагэтуль захоўвае на памяць фігурку сябе самога ў турэмным дрэс-кодзе, якую яму зрабілі ў калёніі перад вызваленьнем з афарбаванага чорнага хлеба.

Леванеўскі застаўся вельмі задаволеным тым турэмным адзеньнем, што зрабілі яму па індывідуальных мерках краўцы з калёніі незадоўга да вызваленьня, якое там завуць як у войску, «дэмбэль». Потым вопратка доўга служыла яму і на волі.

**— У мяне былі памеры крыху большыя за стандартныя. Маё дэмбэльскае адзеньне не зусім адпавядала статуту. Там быў замок, а павінны быць гузікі. Пашылі ад душы, зносу не было. Выкарыстоўваў вопратку гады два-тры як рабочую. Спачатку турэмны кіцель вельмі прыдаўся дома, бо прысуд быў з канфіскацыяй, калі выйшаў, то быў «гол як сакол».**

**Свайго адзеньня ў асуджанага быць не павінна. ЗК цалкам знаходзіцца на забесьпячэньні дзяржавы. Але практыка паказвае, што часам яно адсутнічае: шкарпэткі тыя самыя не выдаваліся ўвогуле. Таму нярэдка за калючым дротам чалавеку даводзіцца дбаць пра сябе самому, разьлічваць на свае сілы.**

**Асуджаныя, асабліва калі маюць падтрымку звонку, навучыліся неяк выкручвацца ў самых розных сытуацыях. Сярод сядзельцаў ёсьць здольныя шаўцы ды краўцы. На прамзоне, кажуць зьняволеныя, тую самую робу на зіму вам клясна пашыюць зь перададзенай з волі плашчоўкі, а вопратку на лета — з фарбаванай прасьціны. Найчасьцей зэкі замаўляюць трусы-сямейнікі. Каштуюць яны нядорага, шыюцца зь фіранак і выглядаюць экстравагантна: у рамонках, хмарках, сонейках, вясёлках.**

Але трэба быць абачлівым, асьцярожным. За парушэньне формы адзеньня ў калёніі караюць значна горш, чым у войску. Тым самым ШЫЗА.

**— Што да самога забесьпячэньня — то многія зэкі ходзяць у старым, завэдзганым. Зімовая форма прадугледжвае шапку і ватнік. Вось якраз яны, як правіла, дастаюцца няновыя, «бэушныя».**

Самае галоўнае, мяркуе былы палітвязень, што ніхто не правярае, ці цалкам паводле нормы атрымліваюць зьняволеныя адзеньне, і паскардзіцца няма каму.

**— Паводле бюджэту ўсё добра праходзіць, сродкаў хапае. Значыць, напрошваецца выснова, што ўсё гэта раскрадаецца ўнутры калёніі. Асабліва на «перасылках» вашывасьць — нармальная зьява. Адзеньне фактычна ня мыецца, не выдаюцца прыналежнасьці — каб яго памыць.**

Так, у калёніі існуе карантын, там адзеньне праходзіць парылку, санапрацоўку. Але выдача новага адзеньня — хутчэй выключэньне.

# ПРАМЗОНА

Турэмны бізнэс
ДВП як буйны працадаўца
Аплата ў турэмнай валюце
«Працаваць мяне так і не прымусілі»
Аб умовах і нормах
Калі калёнія ня хоча разьвітвацца са спэцыялістамі
Жаночая праца
Праца на дзяцей
Праца па блаце
Сямейны бізнэс
Бізнэс зэкаў
Заробкі зьняволеных у іншых краінах

**Слова «праца» ў афіцыйнай назьве калёній няма — яны называюцца проста «папраўчымі». Але выпраўляюць там, апроч рэжыму і выхаваўчых лекцый, менавіта працай. Абавязковай.**

Мінімальныя стандартныя правілы ААН абыходжаньня са зьняволенымі прадугледжваюць:

— за сваю працу зьняволеныя павінны атрымліваць справядлівую плату ў рамках пэўнай сыстэмы.

— у адпаведнасьці з гэтай сыстэмай зьняволеныя павінны мець магчымасьць выдаткоўваць прынамсі частку зробленых імі грошай на набыцьцё дазволеных прадметаў асабістага ўжытку і дасылаць частку сваіх заробкаў сям'і.

— гэтая сыстэма павінна таксама прадугледжваць, што частка зробленых зьняволеным грошай застаецца на захоўваньні адміністрацыі, якая перадае яму гэтыя зьберажэньні ў момант яго вызваленьня.

Паводле зьвестак ДВП за 2016 год, у крымінальна-выканаўчай сыстэме МУС функцыянуюць чатырнаццаць прадпрыемстваў, тры філіялы і дзесяць пазабюджэтных вытворчых майстэрняў. Гэта розныя віды дрэваапрацоўкі і мэталаапрацоўкі, швейная і абутковая вытворчасьць, якая забясьпечвае, у тым ліку, спэцвопраткай сілавікоў ды спартоўцаў, некаторыя іншыя прадпрыемствы.

Сярэдні заробак асуджанага, які працуе ў папраўчай установе, складае 510 дэнамінаваных рублёў. З улікам усякіх выплатаў, асуджаны на рукі атрымлівае 51 рубель.



## Турэмны бізнэс

Галініну мужу Сяргею — 36. За кратамі ўжо 10 гадоў, наперадзе столькі ж. Артыкул вельмі сур'ёзны. Як і пазоў, які суд пастанавіў выплаціць пацярпеламу боку.

*Ад Галіны К.*

**— Каб выплачваць пазоў і адпаведна мець шанец на ўмоўна-датэрміновае вызваленьне, муж не ўхіляецца ні ад якой працы, наадварот — бярэцца за самую цяжкую, часам траўманебясьпечную, бо такая найбольш высока аплачваецца.**

**Сама болей з таго, што ўдалося зарабіць за час адседкі — гэта, у пераліку, прыкладна даляраў 100 на месяц. Але такое бывала рэдка. Найчасьцей плацілі даляраў па 5–10. Калі раней на рукі зэку за мінусам усіх вылічэньняў — пражываньне, сьвятло, вада, адзеньне, харчаваньне — траплялa ня меней за 25% ад заробку, то цяпер, згодна з апошняй пастановай Мін'юсту аб спагнаньні да 90%, у месяц атрымлівае нейкія капейкі.**

**А цяпер палічыце, колькі дзясяткаў гадоў трэба працаваць зьняволенаму за кратамі, каб пагасіць пазоў на тысячы, дзясяткі і нават сотні тысяч рублёў? Правільна, на гэта і ўсяго астатняга жыцьця ў вязьніцы ня хопіць. Дарэчы, высокія даўгі, якія вісяць сёньня на беларускіх зэках, зусім ня рэдкасьць.**

**Лягічна выказаць здагадку: дзяржава ўсё ж зацікаўленая, каб пагашэньне пазову не расьцягнулася на 30–80–100 гадоў. На нармальны розум, зэку трэба прапанаваць лепш аплатную працу ці ўвогуле хутчэй вызваліць яго, каб ён ужо на волі пачаў працаваць на пагашэньне пазову, ня кажучы ўжо пра ўтрыманьне сям'і. На справе, аднак, усё інакш. Хоць дзяржава даволі часта рапартуе**

**пра тое, колькі тысяч паступіла за год ад пагашаных пазоваў. Удаецца такое з дапамогай самага сапраўднага рэкету, які існуе ў зонах.**

Галіна тлумачыць, што ў адпаведнасьці з Крымінальна-выканаўчым кодэксам РБ і Правіламі ўнутранага распарадку папраўчых установаў (ПУР) кожны асуджаны, залежна ад рэжыму ўтрыманьня, мае законнае права на канкрэтную колькасьць ды пэрыядычнасьць такіх выгодаў, як штомесячнае, строга на пэўную суму, атаварваньне ў турэмнай крамцы, кароткія і працяглыя спатканьні з сваякамі, пасылкі, бандэролі.

**— Аднак усё, што належыць чалавеку паводле закону, ператвараецца ў сапраўдны гандаль. Возьмем тыя самыя спатканьні.**

**Залежна ад рэжыму, працяглае спатканьне тэрмінам да трох сутак можна атрымліваць адзін, два, тры ці чатыры разы на год. Колькі менавіта сутак — адны, двое, трое — даць канкрэтнаму асуджанаму, у кожным выпадку вырашае выключна адміністрацыя калёніі.**

**Потым яна чакае рэакцыі сваякоў, для якіх колькасьць адведзеных на сустрэчу дзён вельмі важная. Родныя пачынаюць тэлефанаваць і высьвятляць, у чым праблема. Ім у адказ салодкім галасам прапануюць — прывозьце столькі і столькі на пагашэньне пазову, і мы дамо вам яшчэ дадатковыя суткі, а мо і двое.**

**У выніку харчовая падтрымка вязьня, пагашэньне пазову, папаўненьне яго асабістага рахунку цалкам кладзецца на плечы сваякоў. Не папоўніў рахунак асуджанаму — ні пра якае ўмоўна-датэрміновае і думаць ня варта.**

**Маё пытаньне: чаму я, у якой яшчэ на плячах ляжыць адказнасьць за ўтрыманьне дзяцей і падтрымку бацькоў-пэнсіянэраў, мушу рабіць як ламавы конь, каб гасіць пазоў па крымінальнай справе мужа? А калі я не магу зарабіць патрэбнай сумы, ну вось не магу і ўсё тут? Чаму я павінна садзіцца ў даўгавую турму разам са сваімі дзецьмі? Дайце мужыку любую, але аплатную працу, каб змог за ўсё разьлічыцца сам. Немагчыма такое ў турме — вызваліце яго, хай знойдзе такую працу на волі!**



## ДВП як буйны працадаўца

### *Ад супрацоўніцы ДВП*

Як патрапляюць на працу ў турмы, калёніі, СІЗА — па гэты бок кратаў? Колькі плацяць супрацоўнікам і колькі зэкам?

Бухгальтарка Антаніна, якая працавала у сыстэме Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў, лічыць ДВП адным з буйных працадаўцаў краіны.

Гэтая структура забясьпечвае працоўнымі месцамі ня толькі зьняволеных, але і сыстэму абслугі турмаў, прыкладна ў прапорцыях 5:1. Тых, хто ажыцьцяўляе ахоўныя функцыі, займаецца тылавым, мэдычным, выхаваўчым забесьпячэньнем ды заняты на вытворчасьці, у фінансава-эканамічных аддзелах. Традыцыйна аплата працы працаўнікоў пэнітэнцыярнай сыстэмы вышэйшая, чым у людзей з тымі самымі спэцыяльнасьцямі на волі.

Свайго часу менавіта фінансавы момант стаў галоўнай матывацыяй, чаму Антаніна маладой яшчэ дзяўчынай прыйшла працаваць у калёнію. Гэта было ў сярэдзіне 1980-х.

**— Так, праца была добра аплатная. І людзей з вуліцы, вядома, ня бралі. Лічылася, што табе пашанцавала, калі ты трапіў працаваць у калёнію. Мы ўсе былі азнаёмленыя з правіламі працы ў рэжымнай**

**установе, зразумела, давалі падпіску пра невыдаваньне службовых сакрэтаў.**

Антаніна ўдакладняе, што трапіла на працу не ў апошнюю чаргу таму, што ў гэтай сыстэме працаваў яе бацька. Сярод вольнанаёмных былі і дзеці, і жонкі, і браты-сёстры, і дзядзькі-цёткі, і пляменьнікі-пляменьніцы.

Па сутнасьці, так было і застаецца паўсюль, цяпер нават яшчэ больш, кажа яна. Многія папраўчыя ўстановы месьцяцца далёка ад вялікіх гарадоў, а працаваць у правінцыі асабліва няма дзе. Таму пэнітэнцыярная сыстэма сёньня — гэта і сем'і, і кляны, і працоўныя дынастыі. Не заўсёды важна, якая ў чалавека спэцыяльнасьць. Галоўнае, што ён у выніку, акрамя ўсяго, будзе мець ільготы ды добрую пэнсію.

**— Што тычыцца зьняволеных, то Крымінальна-выканаўчы кодэкс (ч. 1 арт. 98) прадугледжвае, што пры прыцягненьні асуджаных да працы працоўная дамова (кантракт) зь імі не заключаецца. Заробкі тых, хто знаходзіўся за кратамі, залежалі, па-першае, ад віду дзейнасьці і, па-другое, ад таго, ці вылічваліся зь яго абавязковыя выплаты — напрыклад, аліменты. Калі вязень меў дачыненьне да буйных заказаў, што паступалі ў калёнію, і шмат працаваў на «промцы», яму налічваліся добрыя грошы. А калі праца была некваліфікаваная, то сума атрымлівалася мізэрнай.**

Антаніна адзначае, што паводле закону на асабісты рахунак асуджанага павінна было залічвацца ня менш за 25% заробку. Аднак на справе выглядала так:

**— Зь любой сумы адразу ў даход дзяржавы ішло 50%. Потым з рэшты сумы ў разьведзеных, а такіх была большасьць, вылічаліся аліменты. Пасьля былі адлічэньні за харчаваньне, адзеньне, камуналку. У выніку большасьці зьняволеных на картку ішоў мізэр. Хапала на танныя цыгарэты ў мясцовай крамцы.**

**А тыя вязьні, у якіх не было выплатаў на дзяцей, якія рабілі мэблю альбо шмат працавалі ў швейных ці іншых цэхах, вызваляліся зь нейкімі грашыма. Іх «фінансавая падушка» залежала як ад іх саміх, так і ад заказаў вялікіх дзяржаўных прадпрыемстваў. Цяпер, напэўна, ад таго, якая ў калёніі адміністрацыя і як яна можа прыцягнуць да сябе заказчыкаў. Але большасьць, асабліва, калі зьнік СССР, выходзіла ні з чым.**

**Людзі за кратамі сядзелі і працягваюць сядзець «на мінусах» і, адпаведна, зь мінусамі выходзяць. Наколькі я ведаю цяперашнюю сытуацыю, дзяржава гэта потым сьпісвае. У любым выпадку, свае даўгі вязьні не кампэнсуюць.**

Паводле савецкай традыцыі, «працоўная» сфэра беларускай сыстэмы выкананьня пакараньняў застаецца па-за грамадзкім кантролем. Нарматывы аплаты працы вязьняў і нормы прадукцыйнасьці ўсталёўваюцца кіраўніцтвам калёній і нідзе не публікуюцца. Сёе-тое пра гэта можна пачуць хіба што ад былых асуджаных.

**— Вядома, да бухгальтарак з інфармацыяй пра розныя «левыя» справы адміністрацыі ніхто не прыходзіў. Але ж, думаю, гэтыя справы былі. Калі я працавала, то ў беларускіх калёніях здараліся бунты. І падставай для іх, як да нас даходзіла, былі карупцыя, адкаты, паборы. Усё гэта ніколі не фіксуецца ў ведамасьцях.**

## Аплата ў турэмнай валюце

### *Ад Сяргея П.*

Сяргей, 35-гадовы вясковец з Магілёўшчыны, атрымаў за дробнае хуліганства васямнаццаць месяцаў. Сядзеў у Магілёўскай калёніі № 15, працаваў на КСП — кантрольна-сьледавой паласе. Яна знаходзіцца вакол калёніі, там, дзе забароненая зона («запретка»), сыстэма загародак ды платоў, каравульныя вышкі.

КСП прызначаная для фіксаваньня сьлядоў уцекачоў. Звычайна такіх беглых ловяць ледзь ня ў той самы дзень.

**— Я ведаў пра ўсе гэтыя беспасьпяховыя ўцёкі, аднак думка ўцячы не пакідала мяне ўсе паўтара года. На КСП нас працавала 10–11 чалавек. Ва ўсіх былі куды большыя тэрміны, чым у мяне. Напрыклад, у Д. былі 24 гады турмы. Ён увесь час казаў, што гэта як правакацыя. Усяго пяць хвілінаў — і ты на волі. Такія самыя пачуцьці былі ва ўсіх нас. Але размова не пра гэта.**

**Мы працавалі з раніцы і да вечара. Кавалак паласы трэба было ўскапаць на штык рыдлёўкі. А гэта гліна, рыдлёўку немагчыма было ўторкнуць. Потым трэба было забаранаваць граблямі. Цяжкая праца. Пяць мэтраў праходзіш, і ногі ня ходзяць. Але мусіш рабіць.**

Паводле Сяргея, свае месячныя заробкі ён і іншыя хлопцы атрымлівалі ў выглядзе так званай мясцовай валюты — «мукі» (цэляфанавая абгортка ад цыгарэтнага пачка. — *Аўтар*) гарбаты і 9–11 цыгарэт. Ні ў якіх ведамасьцях гэтая праца ня значылася.

**— Турэмную валюту ў свой «крымінальны», як яны казалі банк, рэжымнікі бралі ў зэкаў. У тых, хто атрымліваў пасылку ці перадачу. Чалавек мусіў быў «адшпіліць», хоць гэта магло быць у яго апошнім. Калі не, то сам бачыў, як пасьля адбою адводзілі зэка на рэжымку, калі нікога не было, ды білі па нырках. Бывала, у іх там усе сталы ўгіналіся ад цыгарэт і гарбаты. Гэтым і плацілі заробак на промцы.**

**Аднойчы мне трэба было пераносіць пліты. Там пліта важыла кіляграмаў трыста. Моцна надарваў сьпіну, кажу, што не магу гэта рабіць. А рэжымнік: «Хутчэй працуй, а інакш зараз аб..сцу табе нагу, і паедзеш у гарэм». Гэта значыць, што атрымаеш статус «пеўня». І робіш, бо нічога не дакажаш.**



## «Працаваць мяне так і не прымусілі»

### *Ад «отказника» Алега Міхея*

Мянчук Алег Міхей адседзеў за кратамі Бабруйскай калёніі шэсьць гадоў. Да турмы быў бізнэсоўцам. Меў 13 кіёскаў па здачы шклатары.

Кажа, што ў зоне сабатаваў працу як мог. Заробак 20 даляраў там ужо лічыўся добрым. А за тую працу, на якую зьбіраліся накіраваць яго, плацілі па даляры за два месяцы. Гэта была так званая «гума», калі з бракаваных шын трэба выдзіраць корд, каб потым тую гуму пусьціць у перапрацоўку.

**— У мяне тады была трэцяя група інваліднасьці, я ўтрымліваўся ў інвалідным атрадзе, аднак, тым ня менш, мяне прымушалі працаваць. Але я пастаянна пісаў майстру папярэджаньні аб маім здароўі, не расьпісваўся за тэхніку бясьпекі.**

Быць «отказником» у тых умовах было цяжка. Паводле Алега, яшчэ дзесяць гадоў таму бізнэсу калёніі вельмі спрыяла перанаселенасьць зон. Яшчэ ў 2007-м там сядзелі чатыры тысячы ЗК, а потым іх колькасьць скарацілася да дзьвюх. А працоўных месцаў засталося як і раней.

— **Змагацца зь імі было цяжка, але працаваць я так і ня пачаў. Больш за тое, ужо на волі вярнуў сабе частку пэнсіі за пяць гадоў. Паколькі адміністрацыя ў парушэньне закону ўтрымлівала зь мяне, непрацуючага інваліда, грошы за харчаваньне. Дарэчы, за тую суму, хоць гэта і была маленькая пэнсія, я потым набыў сабе ноўтбук. А ў Бабруйскай калёніі ў гэтай сувязі тады выгналі на працу ўсіх інвалідаў трэцяй групы.**

### *Ад «отказника» Міколы Аўтуховіча*

«Отказником» быў і колішні палітвязень Мікола Аўтуховіч, які ў 2010–2011 гадах сядзеў у Івацэвіцкай калёніі. Працаваць за кратамі адмаўляўся прынцыпова — не хацеў аддаваць грошы ўладзе, якая зьнішчыла ягоны бізнэс. Хоць прапановы з боку адміністрацыі і былі, нават на нейкія «кіраўнічыя» зэкаўскія пасады, кшталту падлікоўца. Але начальства хутка зразумела ягоную пазыцыю і адчапілася.

Тым ня менш Аўтуховіча, які не працаваў, зьмясьцілі на «працоўным» баку лягеру (зона ўмоўна дзялілася на дзьве часткі — працоўную і непрацоўную).

— **У нашым атрадзе такія былі, хто заставаўся і на другую зьмену, калі была магчымасьць грошай болей зарабіць. Мяне разьмясьцілі ў самы паказальны атрад. І праца таксама была: рабілі офісную мэблю, дзьве брыгады ёю займаліся. І плацілі добра. Хлопцы па мільёне тады атрымлівалі, хто ў дзьве зьмены хадзіў (да дэнамінацыі. — *Аўтар*). Хоць былі такія, што і на дзесяць пачкаў «Прымы» не зараблялі за месяц.**



Паводле Аўтуховіча, у Івацэвіцкай калёніі на час ягонай адседкі працоўных атрадаў была прыкладна палова. Але гэта не азначала, што ў такіх атрадах усе працавалі:

— **Працэнтаў трыццаць мелі сталую працу. Зранку сыходзілі, увечары прыходзілі. А ў некаторых была праца такая: сёньня ёсьць што рабіць, заўтра няма, ня пойдзем. Два дні ня ходзяць, тыдзень могуць не хадзіць, бо няма чаго рабіць. Выпадковая праца.**

У другой палове калёніі, дзе ўтрымлівалася пераважна так званая «братва», асуджаныя, паводле Міколы Аўтуховіча, адкрыта выказвалі нежаданьне працаваць на дзяржаву, бо бачылі ў гэтым прыніжэньне сваёй годнасьці. Такая адмова трактуецца заканадаўствам як злоснае парушэньне і караецца.

— **Прафэсійным крымінальнікам, так званым «блатным», ім паводле статусу нельга працаваць. Блатны, які пайшоў працаваць — ужо не блатны. Цяпер такіх за кратамі засталося вельмі мала. Іх, як правіла, у зону не падымаюць. Яны падарожнічаюць па маршруце: ШЫЗА — ПКТ — суд паводле арт. 411 — турма. Бо адмова ад працы — грубае парушэньне рэжыму.**

**Працуюць ня толькі ў калёніях. У Гарадзенскай турме на нашым калідоры было пяць рабочых камэр, дзе сядзелі зэкі, якія працуюць. Вязьням, якіх па восем — дзесяць у працоўных камэрах, нешта даюць, яны працуюць, увечары кантралёры гэта забіраюць. Зэкі яшчэ працуюць у цэхах, дзе прамзо-**

**на турмы. Штосьці майструюць, што зьвязана зь піламатэрыяламі, са сталяркай.**

### *Ад «отказника» Зьмітра Дашкевіча*

Яшчэ адзін «отказник» — грамадзкі актывіст Зьміцер Дашкевіч. Ён двойчы па некалькі гадоў адбыў у калёніях — за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі і нібыта за злоснае хуліганства. Як і Мікола Аўтуховіч, ён, адрозна ад большасьці палітвязьняў, таксама адмаўляўся працаваць за кратамі.

**— На сёньняшні дзень праца за кратамі — гэта нейкая пародыя на само слова «праца». Я памятаю, у Шклове працаваў на пілараме. На працу выводзілі шэсьць дзён на тыдзень, асуджанаму застаецца толькі нядзелька, якая разьбітая на шыхтаваньні, шмоны і гэтак далей. Выходзіш у восем на працу, прыходзіш у шэсьць.**

**І заробак быў эквівалентны там шасьці пачкам «Прымы», у межах аднаго-двух, максымум трох даляраў. Ты прыйшоў у крамку, узяў сабе пяць пачкаў «Прымы» ці бляшанку згушчонкі, і вось гэта тое, што зарабіў за месяц з шасьцідзённай на тыдзень працай. Многія сьведчаць, што існуе там падвойная, таемная бухгальтэрыя.**

**Як я разумею, Працоўны кодэкс ня мае ніякай сілы ў месцах пазбаўленьня волі. Бо, згодна з Працоўным кодэксам, я выбіраю: жадаю працаваць на гэтай працы ці не жадаю, жадаю за тры даляры ці не. У зонах такога выбару няма.**

**Ва ўсіх калёніях, дзе я быў, ледзь ня першае патрабаваньне — павінен выходзіць на «промку». Лічыцца, што зэк, які працуе, перавыхоўваецца. Вось пасадзілі злодзея, яго трэба працай перавыхаваць і вярнуць у грамадзтва.**



**Калі звычайны зэк яшчэ можа дамовіцца, у працы ня ўдзельнічаць, то да палітвязьняў падвышаная ўвага. Ім імкнуцца даць найцяжэйшую працу, якая забірае больш часу. Таму што, натуральна, усе «справаздачацца» чэкістам: што робіць палітвязень — ня піша лісты або кнігу, не агітуе нікога, а абдзірае алюмініевы дрот або цягае бярвеньне.**

**Ну, я калі са сваім тэрмінам «катаўся» гады тры па розных зонах, адмаўляўся. А нехта прымае для сябе рашэньне працаваць.**

Але праца можа і прыніжаць, калі ўмовы нялюдзкія. А менавіта такія апісаў Зьміцер Дашкевіч у сваёй кнізе пра турэмны досьвед «Чарвяк»:

**— Я меў такі досьвед у Горацкай калёніі, у «Чарвяку» напісана пара абзацаў — у якіх умовах, у якім гноі ў прамым значэньні гэтага слова там людзі працуюць.**

**Заводзяць цябе ў цэх, дзе 100–150 чалавек. Пачынаецца дождж, дзіравая столь, усё ліецца на падлогу, усе сядзяць у мазуце, у гразі, гэта такія першабытныя ўмовы, што ў кіно не заўсёды такое ўбачыш. Прыбіральня з умывальнікам: там проста пірамiды эгіпэцкія былі наваленыя выпаражненьняў чалавечых. Дзікунская абстаноўка, я нідзе больш такога ня бачыў, наколькі ў Горацкай калёніі ўсё жахліва.**

## Аб умовах і нормах

### *Ад «ударніка працы» Генадзя Р.*

Асуджаны на чатыры гады за нанясеньне цяжкіх цялесных пашкоджаньняў магілёвец Генадзь адседзеў у Бабруйску палову тэрміну. Выйшаў паводле амністыі. Пры разглядзе пытаньня камісія ўлічыла і

ягоную «ўдарную» працу. Генадзь кажа, што спачатку працаваў у майстэрні калёніі, дзе некалькі асуджаных займаліся мастацкімі вырабамі. Прабыў Генадзь там нядоўга — некалькі дзён:

**— Там была разьба па дрэве, нехта карціны маляваў. Майстэрня была малая. Чалавек дзесяць — пятнаццаць, выбраных з усёй зоны. Потым мяне, нічога ня кажучы, перакінулі паддоны зьбіваць. Далі малаток. Умоваў для працы там не было ніякіх. Стаялі дзьве піларамы 1818 году (*сьмяецца*). Гэта быў не варштат, а жах. Пяць чалавек было на бярвёнах. Яны скочвалі, падавалі. Трое чалавек абслугоўвалі той стары варштат.**

**Укладаньняў ніякіх, а аддачы ад нашай працы — па тры-чатыры фуры ад'яжджалі, нагружаныя нашымі паддонамі. Заробак асуджанага за месяц (на старыя грошы) — 20 тысяч рублёў, паўблёка цыгарэт. Для таго, каб зарабіць на тыя самыя цыгарэты, людзі падпрацоўвалі. Выконвалі працу за кагосьці яшчэ. Замест пятнаццаці паддонаў рабілі трыццаць. Гэта дазвалялася. Як яшчэ можна было зарабіць? Пайшоў нехта на спатканьне, а яго чакае іншы ЗК, каб торбу трыццаць кіляграмаў дапамагчы паднесьці. Вось і падзаробак. Пакуль нехта на спатканьні, я за яго паддоны зьбіў ці скрыні — таксама зарабіў.**

Генадзь зазначае, што пасьля цяжкой фізычнай працы дужа хацелася есьці, але кармілі ў зоне кепска. Цяжэй за ўсё ў калёніі было тым, хто ня меў падтрымкі з волі. Ім даводзілася працаваць удвая болей.

Паводле Генадзя, у Бабруйску ён некаторы час сядзеў разам з Алесем Бяляцкім. Празь нейкі час убачыў у СМІ апублікаваную даведку аб працоўных даходах гэтага палітвязьня ў 2013 годзе. За восем месяцаў (пры сямігадзіннай шасьцідзёнцы) яны склалі 146 тысяч 413



рублёў. Даходы самога Генадзя, нават пазьнейшыя, паводле ягоных словаў, мала чым розьніліся ад даходаў Бяляцкага.

## Калі калёнія ня хоча разьвітвацца са спэцыялістамі

### *Ад былога зэка Івана Рубанава*

Што да якасьці прадукцыі, то яна розная, сьведчаць былыя зьняволеныя. Тая самая мэбля, напрыклад, якая робіцца на заказ так званым VIP-пэрсонам, адпавядае самым высокім стандартам. А вось прадукцыя для шырспажыву часам не вытрымлівае ніякай крытыкі.

Паводле асуджаных, на працу ў калёніях нярэдка кідаюць зусім няздатных людзей. Некваліфікаваная працоўная сіла і ёсьць некваліфікаваная, тым больш у ПК.

Ёсьць пры калёніях, аднак, вытворчасьці, дзе ў зэках-спэцыялістах адміністрацыя зацікаўленая настолькі, што нават ня хоча зь імі разьвітвацца. Напрыклад, аўтамайстэрні. Тут ужо людзі ня проста заўсёды занятыя, але працуюць, парушаючы ўсе магчымыя нормы Працоўнага кодэксу.

Былы асуджаны Івацэвіцкай калёніі Іван Рубанаў, пры вызваленьні з калёніі (2013 год) вынес з-за кратаў флэшку. На ёй было відэа, зробленае ў адной з майстэрняў калёніі. Адзін з працаўнікоў, асуджаны сталага веку, распавёў пра тое, як ён і іншыя зьняволеныя фактычна бясплатна робяць у майстэрнях якасны рамонт прыватных транспартных сродкаў, што належаць кіраўніцтву розных РАУС, а таксама зьбіраюць «зь нічога» рарытэтныя машыны, якія потым трапляюць да калекцыянэраў.

Афіцыйна на паперах афармляецца заказ на 100–150 тысяч рублёў. А робяць на мільёнаў 25–30, калі ня больш. Людзі літаральна суткамі не выходзяць з майстэрні, сьпяць гадзіны па дзьве.

Гэтым людзям, сьцьвярджаў Іван, «скардзіцца на тое, што яны суткамі сядзяць пад машынамі, атрымліваючы пры гэтым нізкую плату, што адміністрацыя ўвесь час трымае іх пад страхам адмовы ў званках ці спатканьнях і г. д., няма каму». Да таго ж, у параўнаньні зь іншымі працамі, гэтая мае шмат прывілеяў. Напрыклад, умоўна-датэрміновае вызваленьне. Праўда, толькі ў тым выпадку, калі спэцыяліст знойдзе сабе замену сярод ЗК.

## Жаночая праца

У жаночых зонах нават самыя няздатныя хоцькі-няхоцькі становяць рукадзельніцамі, бо асноўная вытворчасьць тут — швачная.

Сядзеліцы шыюць форму для міліцыянтаў, вайскоўцаў, а таксама спартоўцаў практычна круглыя суткі. Здараецца выконваць і заказы прыватных асобаў. Большасьць, нягледзячы на цяжкую працу, стараюцца. Бо ад гэтага залежыць характарыстыка, стаўленьне адміністрацыі, магчымасьць скараціць тэрмін пакараньня.

Паводле псыхоляга Сяргея Енікалопава, праца на зоне абумоўленая эканомікай:

**— І зоны, і тыя, хто там сядзіць, наўпрост зьвязаныя з праблемай выжываньня. Каб вязьні самі на сябе зараблялі, самі сябе кармілі і яшчэ выплачвалі тое, што абавязаныя выплачваць ахвярам.**



## Праца на дзяцей

### *Ад швачак Галіны і Жаны*

27-гадовая асуджаная Галіна А. з Гомельшчыны, якая мае дома малую дачку, працуе швачкай. Кажа, што робіць усё, што ёй скажуць:

**— Вельмі ўедлівы і цяжкі пыл. Акрамя таго, усё дужа нэрвова. Штосьці кшталту канвэеру, адна адну падганяюць, крычаць. Але ўсё раблю. Каб не было парушэньняў. Імкнуся хутчэй адпрацаваць. Трымае толькі ўменьне цярпець ды сіла волі. Заўсёды думаю пра дом. Дзеля будучыні нашай сям'і, дзеля дачкі стараесься.**

Асуджанай Жане Д. з Магілёва за 30. Спэцыяльнасьць швачкі атрымала яшчэ ў вольным жыцьці. Паўсюль, дзе працавала, яе кваліфікацыя ацэньвалася вельмі высока. У тым ліку і на апошнім месцы працы — на швачнай вытворчасьці ў Гомельскай жаночай калёніі № 4. За краты жанчына трапіла за п'янае хуліганства. Дагэтуль за сыстэматычнае п'янства яе асуджвалі адміністрацыйна з накіраваньнем у жаночы лячэбна-працоўны прафілякторый у Старасельлі. Там таксама працавала швачкай і, як сьведчыла тая адміністрацыя, таксама вельмі добра.

У Жаны двое дзяцей, якім яна мусіць плаціць аліменты. З гэтай прычыны жанчына працавала на зоне вельмі шмат. У калёніі, кажа яна, можна зарабіць добра, часам да 700 рублёў у месяц. Чаго ніяк ня скажаш пра ЛТП, дзе зь яе заробкаў таксама адлічалі запазычанасьць.

**— У Гомлі відаць, дзе начальства. Ёсьць да каго зьвярнуцца. Ведаеш свае правы, абавязкі, законы. У ЛТП — такое ўражаньне, што набралі людзей, бо**

**няма каму працаваць. Калі ты брыгадзірка, то налічваеш сваёй брыгадзе заробак. Ніхто нічога ня ведае, каму што налічваюць. Ва ўсіх алімэнты, запазычанасьці растуць, а брыгадзірка можа налічыць сяброўцы адно, а таму, каго ня любіць, іншае. Хоць здохні з гэтымі даўгамі. Асабліва калі аклад не дасягае нават і паловы таго, што трэба плаціць.**

Ня лепшая сытуацыя ў калёніі і з тэхнікай бясьпекі. Паведамленьні пра надзвычайныя здарэньні ды траўматызм у месцах пазбаўленьня волі рэдка калі агучваюцца, кажа жанчына. Але ў той самай швейнай вытворчасьці яго хапае.

**— Пачнём з таго, што там на вытворчасьці вельмі мала кваліфікаваных швачак. Калі гэта ЛТП, то там хто адкуль. Хто будаўнік, хто даярка якая. Да таго ж усе — хранічныя алькаголікі. Зразумела, у тым самым закройным цэху працуюць не закройшчыкі, а тыя, каму паказалі, што рабіць — яны й рабілі. А там жа нажы вытворчыя — зь лёгкасьцю можна адрэзаць палец. У калёніі даюць спэцыяльныя пальчаткі, каб не парэзаць рукі. На старыя грошы такія пальчаткі каштавалі мільёна паўтара. Для ЛТП гэта дужа дорага. Таму брыгадзіры са скандалам дамагаліся, каб чалавека забралі са швальні куды на аб’ект.**

Размову з Жанай магілёўскі журналіст Алесь Асіпцоў запісаў неўзабаве пасьля яе вызваленьня. Хутка жанчына зноў запіла. Пра тое, што яна, кваліфікаваная швачка, маці дваіх дзяцей, зможа вярнуцца да нармальнага жыцьця, сёньня ня вераць ні дзеці, мацярынскіх правоў на якіх яна пазбаўленая, ні іх бабуля, яе маці, ні, як выглядае, і сама Жана.



## Праца па блаце

### *Ад асуджанай Машы Р.*

20-гадовая Маша зь Менску, якая трапіла за краты за наркотыкі, таксама крыху папрацавала на швейнай вытворчасьці: яна чула, што тыя, хто стараецца працаваць «на швачцы», атрымлівалі на той момант столькі ж, колькі і на волі. Дзеля гэтага жанчыны выходзілі працаваць у дадатковыя зьмены. А тых, хто не працуе, за гэта караюць, яны атрымліваюць парушэньні, розныя спагнаньні і г. д. Аднак на швачцы дзяўчына доўга не ўтрымалася.

**— Я прыйшла туды, але для мяне гэта было вельмі цяжка. Я ніколі не займалася гэтым раней і проста не пасьпявала прашыць сваю партыю. Ясна, што наступная жанчына, якая стаяла за мной на канвэеры, не пасьпявала зрабіць сваю працу. У выніку за адну такую няўмеку ўсіх астатніх караюць грашыма. Незадаволеная жаночая публіка гатовая ў такіх выпадках да ўсяго.**

**І невядома, чым бы гэта ўсё скончылася, калі б мне не параілі «навесьці масты» з заўгасам атраду, каб тая паспрыяла мне наконт працы начной дняважльнай. Праца, адрозна ад швачкі, лёгкая і няпыльная. Яна фактычна не аплачваецца, але мне дапамагалі з дому.**

**Адзіная цяжкасьць — са сном. Спаць можна днём. Аднак у гэты час прыходзяць дзяўчаты зь першай зьмены ды зьбіраюцца на працу тыя, хто ідзе ў другую.**

Працоўнай прафэсіі, якая б магла спатрэбіцца ёй у жыцьці, дзяўчына так і не атрымала. Пасьля вызваленьня разам са сваім хлопцам, таксама былым асуджаным за наркотыкі, яны ўдваіх гандлююць на рынку

ў Ждановічах. Кажа, што ад наркотыкаў яны абое пакуль устрымліваюцца.

Плюс зоны для сябе дзяўчына бачыць толькі ў тым, што атрымала ў калёніі атэстат аб сярэдняй адукацыі. Бо на волі яго ня мела — у каледж, які ня скончыла з прычыны арышту, пайшла вучыцца пасьля 9-й клясы. У зоне апошнім часам нават зьявілася магчымасьць атрымліваць вышэйшую адукацыю дыстанцыйна. Пры ёй вучыцца пайшлі некалькі яе сяброваК.

Калі б тэрмін пакараньня ў Машы быў даўжэйшы, яна б таксама працягвала сваю адукацыю — бо бясплатна, пры гэтым нідзе ў дыплёме не ўказваецца, што вышэйшая адукацыя атрыманая за кратамі. На волі пры ўсім жаданьні Маша гэта фінансава не пацягне.

## Сямейны бізнэс

### *Ад вязьня сумленьня Міколы Аўтуховіча*

Вэтэран аўганскай кампаніі, прадпрымальнік і грамадзкі актывіст Мікола Аўтуховіч быў асуджаны двойчы: у 2006-м за прадпрымальніцтва безь ліцэнзіі і ўхіленьне ад падаткаў, а ў 2010-м — за захаваньне агнястрэльнай зброі, хаця Міжнародная амністыя прызнала яго вязьнем сумленьня. Выйшаў на волю ў 2014-м. Аўтуховіч сьцьвярджае, што ў Івацэвіцкай калёніі задорага прадавалі зьняволеным няякасныя тавары.

**— Асуджаныя ПК-5 неаднойчы ўздымалі пытаньне адносна продажу ў калёніі няякасных тавараў са скончаным тэрмінам карыстаньня.**

**Пры мне адзін зьняволены набыў у ларку дзьве запальнічкі. Але не прайшло і дзесяці хвілін, як вярнуўся назад і паскардзіўся, што ў іх няма і паловы газы. Папрасіў памяняць іх. Не памянялі.**



**Таксама пры мне адзін асуджаны хацеў вярнуць назад вялікі кавалак сала, які пах селядцом. Тавар не памянялі, грошы не вярнулі.**

**Летам у краме (2011) зьдзівіла якасьць памідораў ды яблыкаў. Выгляд у іх быў яўна нетаварны. Складалася ўражаньне, што супрацоўнікі ПК носяць гэтую садавіну-гародніну з уласных гародаў.**

**Мяне зьдзівілі кошты. Адкуль яны ўзяліся? Як мне паведамілі, на той пэрыяд памідоры і яблыкі добрай якасьці прадаваліся ў Менску ўдвая таньней.**

**Ці яшчэ адзін прыклад. Бацькі аднаго з асуджаных прывезьлі сыну на спатканьне набытую ў вольнай івацэвіцкай краме зубную шчотку. Там яна на той час каштавала 2800. Крыху раней сам асуджаны набыў у ларку дакладна такую самую, але за 5800.**

**Як спажыўцу давесьці, што ён набыў няякасную, пратэрмінаваную рэч? А ніяк! Спробы асуджаных скардзіцца спыняюцца адміністрацыяй.**

### *Ад асуджанага Вячаслава Г.*

Былы асуджаны Вячаслаў адбываў пакараньне у Магілёўскай калёніі № 15. У размове са «Свабодай у турмах» ён ня выключыў, што турэмны гандаль — ужо даўно сямейны бізнэс:

**— Неяк намесьнік начальніка рэжымнага аддзелу ў адказ на нашы скаргі пра тое, што робіцца ў крамцы, выказаўся зусім недвухсэнсоўна. У гэтым ларку, высьветлілася, працуе ягоная жонка. Гэта прыватная крамка, прыватны завоз, а таму і кошты завышаныя. Прычым ладна — у паўтара-два разы. Напрыклад, я вельмі люблю каву, а таму прасіў жонку набываць яе на волі ў Менску і дасылаць мне ў перадачах. Купляць на месцы ўдвая даражэйшую і нізкай якасьці рука не паднімала-**

**ся. Тое, што робіцца з цэнамі, тых, хто сядзіць, нікольки не зьдзіўляе. Гэта зона.**

### *Ад праваабаронцы Алёны Красоўскай*

Алёна Красоўская, кіраўніца праваабарончай арганізацыі «Рэгіён 119», што абараняе правы асуджаных, падзяляе думку пра сямейны характар турэмнага бізнэсу.

**— Каб гандляваць на тэрыторыі папраўчай установы, трэба з усімі дзяліцца. А таму пагаджуся, што турэмны гандаль можа ўваходзіць у нечае сямейнае прадпрыемства.**

**Усе добра разумеюць, што гэта сур'ёзны бізнэс, дзе тата можа быць начальнікам, мама — галоўным бухгальтэрам, сын — начальнікам нейкага аддзелу, дачка, нявестка, цёця, дзядзя — яшчэ кімсьці. У тым ліку і ў ларках. Бо ўсё гэта прыбытак. Але, акрамя асуджаных, гэта больш нікога не цікавіць. І калі тыя не пачынаюць скардзіцца, то на гэта ніхто не рэагуе.**

**Таксама пэўны бізнэс робяць на набытых прадуктах ужо самі зьняволеныя. Напрыклад, цыгарэты, гарбата, кава, шакаляд служаць у зоне валютай. Зь яе дапамогай некаторыя вязьні-пакупнікі прапануюць выканаць замест сябе ня надта прыемную працу тым, хто лічыцца незаможным або мае нізкі статус.**

## Бізнэс зэкаў

### *Ад Сяргея П.*

На зонах у пашане ўмельцы. Адным зьняволеным патрэбная вопратка, другім — нарды, шахматы, іншым — юрыдычная падтрымка ў напісаньні апэляцыйных і касацыйных скаргаў. За ўсе гэтыя паслугі зьняволеныя



гатовыя плаціць адны адным. Фіксаваныя кошты не прынята ўсталёўваць, і кожны дзякуе па-свойму, расказвае былы зьняволены Сяргей:

**— Але ж калі ты добры ўмелец, то мусіш працаваць толькі на адміністрацыю, інакш будуць праблемы. Быў у нас такі Валера, які рабіў розныя сувэніры з дрэва. Шахматы выразаў, нарды. Шахматныя фігуры былі такія: зэк — пешка, афіцэр — ладзьдзя. Яшчэ выразаў розныя статуэткі з дрэва.**

**Рабіў нажамі, рознымі іншымі інструмэнтамі. Яму гэта начальства дазваляла. Ключ яму далі ад пакоя, і яго ніхто не чапаў. Ён рабіў гэта для іх. Цікава, куды толькі гэтыя вырабы дзяваюцца? Валера над аднымі шахматамі цэлы месяц сядзеў — ручная праца. І да такой ступені было прыгожа!**

**Але аднойчы яму патрэбныя былі цыгарэты, і ён аднаму зэку зрабіў просьценькія нарды сярэдняй паршывасьці. І былі ў яго праблемы. «Чаму ты камусьці робіш бяз нашага дазволу? — абураўся намесьнік начальніка калёніі. — Вось мне яшчэ не дарабіў». І Валеру хуценька перавялі ў іншы атрад. Ведаю, былі там нейкія наступствы.**

Як расказваў «Свабодзе ў турмах» былы палітвязень Ігар Аліневіч, «людзі ідуць на супрацоўніцтва дзеля ўласнай выгады, напрыклад, умоўна-датэрміновага, або каб мець на зоне „дах“ для свайго неафіцыйнага бізнэсу — продажу тэлефонаў, наркотыкаў і г. д.».

Некаторыя знаходзяць так званых «завочніц» — жанчын, якія гатовыя фінансаваць іх падчас знаходжаньня за кратамі, рэгулярна пераводзіць на рахунак грошы.

Асобны артыкул турэмнага даходу ЗК, вядомы са старых часоў — гэта гульні на грошы. Найчасьцей гуляюць у карты, хоць гэта забаронена, а таксама ў косьці і нарды. Выйгрыш можа быць вельмі вялікі.

## Заробкі зьняволеных у іншых краінах

Усё пазнаецца ў параўнаньні. У вязьніцах ЗША працуюць прыкладна 17% турэмных зьняволеных. Удзел у вытворчасьці тут добраахвотны, а за працу плацяць ад 23 цэнтаў на гадзіну да 1 даляра 25 цэнтаў. У фэдэральных турмах плата налічаецца вышэйшая, яна дазваляе зьняволеным нават адпраўляць дадому па 200–300 даляраў на месяц. У асноўным арыштанты вырабляюць прадметы абмундзіраваньня для войска.

У турмах Швэцыі ды іншых краін паўночнай Эўропы, паводле тамтэйшых законаў, павінна быць забясьпечаная стоадсоткавая занятасьць зьняволеных. Калі ня праца, то вучоба, у тым ліку і ў ВНУ (дыстанцыйна), або ўдзел у праграме, з дапамогай якой можна пазбавіцца ад наркатычнай ці алькагольнай залежнасьці.

У цэнтральнай Эўропе, у прыватнасьці ў Нямеччыне, асуджаныя, згодна з заканадаўствам, таксама мусяць працаваць. Па-нямецку дакладна падлічана, што іх працоўны час, за мінусам надгляду да і пасьля працы, складае 444 хвіліны, або 37 гадзін на тыдзень. Турэмныя майстэрні разьмешчаныя непасрэдна за кратамі. Сярэдні месячны заробак дасягае звычайна 150–200 эўра. На заробленыя грошы вязьні могуць набываць усё неабходнае ў турэмнай краме.

Асуджаны нічога ня плаціць за ежу, вопратку, утрыманьне ў асобнай камэры зь неабходнымі выгодамі — прыбіральняй, душам, а таксама мэбляй — сталом, крэслам, шафай. Пры жаданьні за дадатковую плату можна паставіць у камэры тэлевізар ці радыё.

# ШТРАФНАЯ ЗОНА

Каго саджаюць у ШЫЗА
Разнарадка на штрафнікоў
Ізалятары ў замежжы

**Турма бывае нават у турме. Законы, правілы людзі парушаюць ня толькі на волі, праблемы з суседзямі, начальствам узьнікаюць ня толькі дома ці ў офісе.**

Свайго роду «турма ў турме» — спэцыяльная ізаляваная камэра для часовага адзіночнага ўтрыманьня асабліва непаслухмяных зьняволеных. Паводле старых традыцый, якія ідуць яшчэ з часоў царскай Расеі, гэтую камэру (яна ёсьць у кожнай турэмнай установе, як у СІЗА, так і ў калёніі) нярэдка называюць «карцэрам». Хоць з часу ўзьнікненьня сталінскіх лягераў зьявіліся і новыя назвы — ШЫЗА (штрафны ізалятар), ПКТ (памяшканьне камэрнага тыпу) і іншыя.

На блатной мове гэткія памяшканьні з зачыненымі дзьвярыма ды кратамі ва ўмовах лягеру завуцца «крытымі» або «крыткай». Нярэдка так кажуць і пра турму. Часам у гэтай сувязі можна пачуць, што чалавека «закрылі». Тэрміны, колькі ў такіх штрафных месцах можна правесьці за адзін раз, абмежаваныя законам (ШЫЗА — максымум 10 сутак, ПКТ — максымум паўгода, «крытая турма» — максымум тры гады). Пасьля адседкі ў іх вязень вяртаецца ў звычайныя лягерныя ўмовы.

У Беларусі так званыя «крытыя турмы», куды ў якасьці пакараньня судовым рашэньнем звозяць з калёній найбольш непрымірымых да адміністрацыі ЗК, ёсьць у Горадні, Магілёве і Жодзіне. Яны лічацца вельмі суровымі.

## Каго саджаюць у ШЫЗА

### *Ад штрафніка*

Былы палітвязень, анархіст Мікола Дзядок быў вызвалены летам 2015-га пасьля пяці гадоў за кратамі: «Валадарка», Жодзіна, папраўчыя ўстановы ў Магілёве, Горках, Шклове, магілёўская турма № 4. Каля паўтара года агулам правёў у камэрах-адзіночках ШЫЗА, ПКТ, магілёўскай турмы.



Каб даць уяўленьне пра сучасны беларускі штрафны ізалятар, Мікола Дзядок робіць кампутарны рысунак такой камэры. Найчасьцей яму даводзілася сядзець у вельмі малых памяшканьнях. Паводле памеру гэта недзе 1,3 × 2 м. Тут і нары, і рукамыйнік, і прыбіральня, прышрубаваныя да падлогі столік ды зэдлікі.

**— Ёсьць і большыя камэры паводле памераў. Але ўсе яны падобныя адна да адной. Паўсюль сьпіш на голых дошках, і паўсюль аднолькава халадна. Кожны вязень скажа, што па ШЫЗА можна прайсьці ў сярэднім пяць крокаў з аднаго кута ў другі. І тое калі табурэткі не пасярэдзіне камэры, што робіцца, мабыць, наўмысна.**

**У штрафных ізалятарах забаронена амаль усё: кніжкі, часопісы, газэты, лісты, папера з асадкай, перадачы, бандэролі, спатканьні, тэлефанаваньні. У душ выводзяць раз на тыдзень, і то на 15 хвілін. Вось так тупа сядзіш увесь дзень, акрамя ночы, бо ляжаць днём таксама нельга — гэта парушэньне правілаў распарадку і пэрспэктыва чарговага пакараньня.**

Часам Міколу, паводле яго, шчасьціла, і ён сядзеў у ШЫЗА не адзін. Гэта калі ў калёніі здараўся міні-бунт і ізалятар перапаўняўся — па два-тры чалавекі ў кожнай камэры:

**— Вядома, гэта было лепш. Як сказаў Дзюма: калі турма з кімсьці падзеленая, гэта ўжо напалову турма. Калі ты не адзін — гэта ўжо цяплей целу. Да таго ж, калі пасьля працяглага маўчаньня ты зь некім размаўляеш, гэта ўжо лягчэй псыхалягічна.**

У параўнаньні з ПКТ і турмой, у ШЫЗА саджаюць на найкарацейшы тэрмін. Пасьля 2010 году, паводле закону, гэта сама больш 10 сутак.

**— Але тут такі нюанс — калі ты нібыта нешта парушыў ужо ў ШЫЗА, напрыклад, не зашпіліў той самы гузік, то табе разавае пакараньне 10 сутак могуць падоўжыць яшчэ на дзесяць, а потым яшчэ на столькі і г. д. Кантралёр піша акт, які перадаецца начальніку атраду, і твой тэрмін у ШЫЗА працягваецца.**

**Я, напрыклад, адседзеў 20 дзён запар, маладафронтавец Яўген Васьковіч — 30. Са мной у адзін час сядзеў хлопец, якому тэрмін падоўжылі да 60 сутак. Таксама я ведаў яшчэ аднаго ЗК, які бяз выхаду з ізалятару адседзеў 180 дзён — паўгода. Выйшаў адтуль з цэлым букетам хваробаў.**

**Што да мэдычнай дапамогі ў ізалятары... Насуперак прапісаным правілам, калі лекар павінен двойчы на дзень абыходзіць ШЫЗА, на практыцы — дзесьці ён увогуле не абыходзіць, дзесьці робіць абход раз на дзень. Што да якасьці дапамогі, то ў лепшым выпадку дадуць табе нейкі анальгетык, каб больш не дурыў ім галавы. Аднойчы мне было кепска ў сувязі з хранічнай хваробай. Прыйшоў фэльчар, я расказаў яму пра болі, а ён спытаўся: а мне што рабіць?**

**Здаралася, што вязьні ШЫЗА ўчынялі суіцыд. Ведаю некалькі такіх выпадкаў.**

Наколькі часта трапляе ў ШЫЗА сярэднестатыстычны ЗК? Мікола Дзядок дзеліцца такімі назіраньнямі:

**— У любой зоне, а гэта каля 1000 вязьняў, прыкладна ад 7 да 20 чалавек належыць да такіх, умоўна кажучы, дысыдэнтаў. Гэта тыя, хто або апантаны так**



**званай блатной рамантыкай, або проста адстойвае свае правы і піша скаргі ў розныя інстанцыі. Людзі непрымірымыя паводле характару, таксама былыя сядзельцы, якія ведаюць, як сябе паводзіць, на што ціснуць, каб дамагчыся нейкіх зьменаў у сытуацыі.**

**Асабліва гэта тычыцца тых, хто сядзеў 10–15 гадоў таму і памятае сілу розных турэмных пратэстаў. Усе гэтыя людзі і «езьдзяць» у ШЫЗА, гэта яго сталыя кліенты. Яны пад няспынным кантролем. Найчасьцей іх судзяць за кратамі паводле арт. 411, і свой тэрмін яны заканчваюць у «крытай» турме або ў ПКТ — памяшканьні камэрнага тыпу.**

**Вядома, сярэднестатыстычны вязень можа адседзець за кратамі ўвесь тэрмін — 10, 12, 15 гадоў — і ні разу не пабываць у ШЫЗА.**

**Гэта нармальныя пакорлівыя беларускія людзі. Яны прызвычаіліся цярпець, моўчкі глытаць зьнявагі. Нічога ніколі не патрабуюць. З чалавека можа атраднік пры ўсім атрадзе зьдзекавацца, пасылаць яго на тры літары, а той будзе маўчаць. Вядома, такія ніколі не трапляюць у ШЫЗА.**

**Тым больш не кажу пра так званых «казлоў». Гэта найбольш мярзотная катэгорыя асуджаных, але тым ня менш набліжаная да адміністрацыі: вычварэнцы-гвалтаўнікі, жорсткія забойцы зь вельмі сумнеўным мінулым, да якіх за кратамі з боку ЗК могуць быць самыя розныя пытаньні. Гэтыя вырадкі даволі камфортна адседжваюць увесь тэрмін і, зразумела, ніколі не атрымліваюць ніякіх штрафных санкцый.**

## Разнарадка на штрафнікоў

### *Ад турэмніка*

Служачы на Валадарцы, а таксама ў калёніі строгага рэжыму, палкоўнік міліцыі Алег Алкаеў як начальнік меў паўнамоцтвы караць найбольш непакорных ЗК. У СІЗА — карцэрам, у папраўчай установе — штрафным ізалятарам ды памяшканьнем камэрнага тыпу. Паводле Алкаева, ён вельмі неахвотна ішоў на такія мэтады перавыхаваньня.

**— Я калі ў СІЗА на «Валадарцы» ў Менску працаваў, то самае вялікае пакараньне, якое даваў — пяць сутак карцэру. Паводле закону дзесяць можна было, нікому дзесяць не даваў. Двое сутак, трое. Спачатку супрацоўнікі нават абураліся: а чаму так мала? Я кажу: ды яму і сутак досыць на вядры пасядзець. (Туалета не было, на жаль.) І ў мяне карцэры былі пустыя, я нікога не караў.**

**Калёнія — гэта іншая справа. Гэта ня камэрная сыстэма, там больш свабоды. Там асуджаныя могуць і ў валейбол гуляць, і ў футбол. Зразумела, розныя парушэньні здараюцца.**

**Калі я працаваў начальнікам калёніі ў Навасадах, мне нават разнарадка прыходзіла: вам для асабліва злосных парушальнікаў даецца пятнаццаць месцаў у турму гарадзенскую. Чамусьці зэкі ды журналісты з праваабаронцамі называюць такія турмы «крытымі» — можна падумаць, ёсьць адкрытыя вязьніцы.**

**У кожнай з трох беларускіх турмаў свой кантынгент. У Магілёве — упершыню асуджаныя, у Горадні — тыя, у каго дзьве суджанасьці і больш, «прафэсіяналы», у Жодзіне — пажыцьцёвікі.**

**Я ніводнага чалавека не адправіў туды. Я працаўнік турмы. Патлумачу, чаму. Ёсьць у калёніі памяшканьне камэрнага тыпу, ПКТ называецца, і там умовы ўтрыманьня як у турме. Накіроўвае туды штрафнікоў начальнік калёніі. І там яны да шасьці месяцаў утрымліваюцца.**

**І вось мне прадпісваецца: на тры гады турмы трэба адправіць пятнаццаць зэкаў. Я кажу: мне ня трэба гэта, я дам чалавеку шэсьць месяцаў ПКТ, хай сядзіць у мяне, я буду перавыхоўваць. У чым розьніца? Калі асуджаны ў турму ад'яжджае, гэта працуе на ягоны аўтарытэт: ён у турме пасядзеў, у «крытцы», як яны кажуць. А калі ён пасядзіць шэсьць месяцаў у мяне, яго ідыётам будуць лічыць, дурнем. Але такіх я ня бачыў. Я мала каго саджаў, бо ўвогуле быў праціўнікам такога пакараньня.**



## Ізалятары ў замежжы

### *Ад «зэка-міжнародніка»*

Менскі журналіст Васіль Сямашка, якому ў канцы 1990 — пачатку 2000-х давялося сядзець у турэмных установах Беларусі ды Нямеччыны (у Беларусі — за бойку, у Нямеччыне — за парушэньне межаў), сам у штрафных ізалятарах ня быў. Але тыя, хто туды трапляў, пры сабе гэты досьвед не трымалі. Ад іх ён і ведае, што такое ШЫЗА.

**— Паўсюль гэткія ізалятары дзейнічаюць у мэтах пакараньня. Толькі ў адных краінах гэта мае задачу прынесьці вязьню цялесныя пакуты, а ў іншых — псыхалягічныя.**

Ён удакладняе: у Беларусі вязень часам сам мог пажадаць трапіць у ізалятар. У якіх выпадках? Калі камэра перапоўненая. Бывала, напрыклад, што ў сьледчым ізалятары ў Менску па два-тры чалавекі

на месца, а на двары гарачае лета, у камэры душна. Таму ў карцэры, дзе заўсёды холадна, сядзець нашмат больш прыемна.

— **Але, канечне, рэдка здараецца, каб нехта сам захацеў у штрафное памяшканьне. Бо штрафныя ізалятары ў Беларусі існуюць для таго, каб прычыняць вязьню фізычныя пакуты.**

**У ШЫЗА вязьня зьмяшчаюць у турэмнай робе — няважна, зіма ці лета. Ацяпленьне слабое, нары ўдзень прышпільваюць да сьцяны, паляжаць немагчыма. Можна толькі прысесьці на маленькую табурэтку, яе называюць «пянёк». Але можна і пасядзець на падлозе.**

**Часьцей за ўсё ў штрафным ізалятары кормяць ежай бяз тлушчаў. Пасьля двух тыдняў чалавек вяртаўся адтуль у атрад даволі схуднелы.**

**Асабліва трэба сказаць пра ўстанову УЖ 15/1, турму на Кальварыйскай у Менску. Яе ўжо зруйнавалі, аднак доўгі час яна лічылася адной з самых суворых у Беларусі.**

**Штрафны ізалятар уяўляў зь сябе аднапавярховы барак у выглядзе літары «п». У вуглавых камэрах узімку было вельмі холадна, тэмпэратура трымалася каля нуля.**

**Як расказвалі, хто там пабываў, чалавек практычна ня спаў. Трэба было ўвесь час рабіць фізычныя практыкаваньні, каб не замерзнуць.**

Адрозна ад беларускіх ізалятараў, нямецкія выклікаюць у вязьня не фізычныя, а псыхалягічныя пакуты. Але сама мэта аднолькавая — пакараць. Можа быць і яшчэ адна мэта — каб вязень не зрабіў з сабой чаго небясьпечнага, — мяркуе Васіль Сямашка:



— **У Нямеччыне штрафны ізалятар — гэта часьцей за ўсё звычайная камэра, толькі вокны пафарбаваныя белай фарбай.**

**Для тых, хто схільны да самагубства, на падлозе надзіманы матрац, а сьцены могуць быць абабітыя мяккай тканінай. І часам зьняволеных туды зьмяшчаюць без адзеньня. Даюць толькі трусы і пампэрсы для дарослых. Што цяжэй — фізычныя мукі ці псыхалягічныя — сказаць складана. Хоць, вядома, пасьля беларускіх турмаў турма ў Нямеччыне выглядае як санаторый дзіцячы.**

Васіль Сямашка апісвае розьніцу ня толькі ва ўмовах ўтрыманьня ў штрафным ізалятары, але і ў падставах, паводле якіх там можна апынуцца.

— **У Беларусі ў ШЫЗА можна трапіць за што заўгодна. Да прыкладу, мне расказвалі: у Жодзіне ўлюбёным заняткам адміністрацыі было чапляцца, што дрэнна нашараваны кранік, які меў уласьцівасьць адразу цямнець. А ў Нямеччыне падстава для ізаляцыі — канфлікты. Найчасьцей, гэта канфлікты са зьняволенымі, радзей — з супрацоўнікам турмы.**

**У нямецкай турме шмат іншаземцаў, прадстаўнікоў самых розных нацыянальнасьцяў. Як мне самому даводзілася назіраць, правакуюць канфлікты часьцей за ўсё так званыя «рускія немцы», перасяленцы з былых краін СССР. І шмат у чым гэта адбываецца праз дурную блатную рамантыку.**

**Начытаўшыся розных расейскіх кніжак кшталту «Записки бешеного» (я сам уразіўся, калі ўбачыў у нямецкай турэмнай бібліятэцы ў Нюрнбэргу цэлую гару гэтай макулятуры), вязьні з былога СССР пачынаюць гуляць у «Архіпэляг ГУЛАГ» у «курортнай» нямецкай турме. Правакаваць зьняволеных, паміж сабой учыняць бойкі. Часам могуць**

нахаміць наглядчыкам. Тыя спакойна выконваюць свае абавязкі, ветлівыя і карэктныя. Але ж «нашаму» чалавеку прыемна паслаць ахову на тры літары, лічачы, што немцы не разумеюць. І трапляюць у ізалятар.

# ПАЛІТЗОНА

Крымінальнікі пра палітычных
«Не катаваньні, а зьдзек»
Героі і не героі
Каго лічыць палітычнымі
Палітзьняволеныя СССР і сучасныя палітвязьні

**Афіцыйна палітычных вязьняў не існуе: беларускія ўлады — ад прэзыдэнта да амбасадараў за мяжой — заўсёды пасьлядоўна заяўлялі, што ў Беларусі няма палітычных зьняволеных. Бо прызнаць, што ў краіне пазбаўляюць волі за перакананьні, за мірныя дзеяньні, гарантаваныя канстытуцыяй — расьпісацца ў дыктатарскім характары палітычнага рэжыму. Такой тактыкі прытрымліваліся ўлады і за часоў СССР.**

З 2011 па 2017 год, калі выходзіла перадача «Свабода ў турмах», паводле дадзеных праваабарончага цэнтру «Вясна», з палітычных матываў былі асуджаныя сорак чалавек. Дваццаць пяць зь іх трапілі за краты ў 2011-м. Гэта былі пераважна фігуранты Плошчы, тыя, хто ўдзельнічаў у масавых акцыях з нагоды прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году — вядомыя апазыцыйныя палітыкі, грамадзкія ды моладзевыя актывісты, літаратары, студэнты, прадстаўнікі самых розных прафэсій і нават кандыдаты на прэзыдэнта.

У 2011 пісьменьнік Уладзімер Арлоў зьвярнуўся з адкрытым лістом да кіраўнікоў беларускіх калёніяў і да «ўсіх начальнікаў перапоўненых калёній і турмаў Беларусі».

**— У абывательскай сьвядомасьці яшчэ не памерла даўно загнаная туды думка, што невінаватага ў турму не пасадзяць. Але каму, як ня вам, выдатна вядома, што гэта хлусьня. У розныя часы за краты траплялі ня толькі абсалютна невінаватыя людзі. Вельмі часта там апыналіся лепшыя. Яны былі вінаватыя ў тым, што хацелі свабоды, сьвятла, праўды не для сябе, а для ўсіх, для цэлай краіны. Потым іх лічылі гонарам нацыі, іхнімі імёнамі называлі вуліцы й плошчы, ім ставілі помнікі.**

**…Я ўпэўнены, што ўлада, якая прыйдзе на зьмену цяперашняй, саджаць сваіх апанэнтаў на ланцуг ня будзе. Але адказваць давядзецца. Падумайце пра гэта, грамадзяне начальнікі, сёньня, калі ў вашых руках чалавечая годнасьць, здароўе, а магчыма, і жыцьцё тых, чые імёны ведае ня толькі Беларусь, але і ўвесь свабодны сьвет.**



Да 2015 году палітвязьняў Плошчы павызвалялі ў выніку чарговага «палітычнага гандлю» паміж беларускім урадам і міжнароднымі арганізацыямі. Але неўзабаве турэмныя ўстановы зноў папоўніліся палітычнымі — асуджанымі, як і раней, паводле крымінальных артыкулаў.

Пра палітвязьняў шмат гаварылася ў навінах ды аналітычных перадачах Радыё Свабода. Што да перадачы «Свабода ў турмах», то ў ёй галоўная ўвага аддавалася крымінальнаму турэмнаму кантынгенту.

Аднак некаторыя нашы «карэспандэнты на месцах» актыўна цікавіліся палітыкай, і калі да іх у калёнію прыбывалі палітвязьні, паведамлялі нам пра гэта і нават давалі свае ацэнкі таму або іншаму палітычнаму. Водгукі былі розныя. На пачатку 2010-х — збольшага прыязныя. Потым халаднейшыя, з доляй індыфэрэнтнасьці.

## Крымінальнікі пра палітычных

### *Ад Аляксандра Буд-Гусаіма*

Вязень Аляксандар Буд-Гусаім (1958–2017), які быў спачатку асуджаны на пажыцьцёвае зьняволеньне, прыбыў у Наваполацкую калёнію па замене рэжыму. У

сваім першым інтэрвію на волі за два гады да сьмерці ён узгадваў пра сустрэчу з палітвязьнем Андрэем Саньнікавым, асуджаным пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году на 5 гадоў нібыта за «арганізацыю масавых беспарадкаў». Тая сустрэча зрабіла на Буд-Гусаіма вялікае ўражаньне.

**— Калі ў атрад запусьцілі чалавека, у ім не адразу пазналі былога кандыдата на прэзыдэнта, таму што быў без барады. Толькі калі ён назваўся, мы здагадаліся, бо газэты ж чыталі, ведалі пра такога. Аказаўся вельмі прыемным і разумным чалавекам. Чыфіру яму заварылі, дык ён вытрымаў, папіў з намі. Пра палітыку пагаварыць зь ім было вельмі цікава. Зьмена ўлады — любімая тэма, Лукашэнка — самы нелюбімы пэрсанаж. Хоць працэнтаў дзесяць яго рашуча падтрымлівалі… Ад адміністрацыі яму даставалася напоўніцу. Нават напярэдадні пераводу ад нас зладзілі яму правакацыю — падкінулі самаробны ножык, запісалі парушэньне. Да нечага дрэннага, відаць, рыхтавалі.**

### *Ад Алега Р.*

Былы асуджаны Алег прыбыў у Віцебскую калёнію ў 2007-м. Там ужо сядзеў кандыдат на прэзыдэнта на папярэдніх выбарах. А вызваліўся Алег у 2012-м, калі ў тую самую калёнію этапавалі суперніка Аляксандра Лукашэнкі з наступных выбараў. Таго другога Алег фактычна ня ведаў, а вось за першага галасаваў у 2006-м ды сымпатызаваў яму як палітыку. Адразу пасьля карантыну ён падышоў да «свайго» кандыдата, павітаўся і спытаўся, як справы.

— Мы знаёмыя? — пачуў ён у адказ.

— Не. Толькі на Плошчы разам былі, я побач стаяў на прыступках ДК у 2006-м, калі выбары былі.



— Добры дзень.

— Як вам тут? Нармальна? Ці ня крыўдзяць?

— Усё ў норме.

«Вось і ўся размова», — кажа Алег.

Потым яны выпадкова сустрэліся ў санчастцы. Вязень бачыў палітыка, калі той гуляў на стадыёне і карміў чаек. Экс-кандыдат на прэзыдэнта не імкнуўся да кантактаў з зэкамі, сярод якіх не адзін і ня двое галасавалі за яго.

Пазьней Алег даведаўся, што палітык, трапіўшы на «Віцьбу», напэўна, дзеля бясьпекі адразу папрасіўся ў першы атрад. У першым атрадзе былі так званыя «баландзёры» — тыя, хто працаваў у гаспадарчай частцы. Экс-кандыдат сядзеў там у «кашарцы» — кладоўцы, дзе захоўваюцца рэчы асуджаных. Туды яму з дому прывезьлі кнігі. Ягоная бібліятэка была лепшая за лягерную. Кнігамі ён дзяліўся.

Як да яго ставіліся? Паводле Алега, «асноўная маса, якая ня любіць думаць, «калгасныя галовы», увесь час казалі: так яму і трэба. Ня трэба было лезьці ў прэзыдэнты». Іншым, пагатоў тым, хто, як ён, галасаваў за палітыка, той падаўся ціхім і «ніякім»: усё ж як апазыцыянэр, лідэр, былы дэсантнік мог бы сябе неяк і пазначыць, а не хавацца ад ЗК. Але ж тут ён, Алег, не судзьдзя…

У жніўні 2008 году Алег трапіў у ШЫЗА. У гэтым самым часе палітыка вызвалілі. Казалі, што праводзілі яго і начальнік калёніі, і намесьнік.

Калі Алег ужо ішоў на вызваленьне, на зону прыбыў яшчэ адзін знакавы «палітычны», таксама з кандыдатаў на прэзыдэнта. Было відавочна, што супраць яго нешта рыхтуецца і будуць чапляцца да кожнай дробязі. Так яно потым і здарылася.

Паводле Алега, на зоне гэта называюць «расстрэлам». У «Віцьбе» так і казалі: «Яго пачалі расстрэльваць». Фізычна, зразумела, чалавеку нічога ня зро-

бяць, аднак пазьдзекуюцца ды істотна сапсуюць здароўе.

**— «Расстрэльваюць» мэтадычна, за самую розную драбязу, абы загад зьверху. Напрыклад, абутак не турэмнага ўзору. Калі ты ў так званым «чорным сьпісе», то будуць «страляць» за тое, што ня так паголены. Яшчэ — паводле вопісу асабістых рэчаў. Ты мусіш мець пэўную колькасьць рэчаў, калі штосьці лішняе — складаецца акт. Гэта парушэньне, за якое могуць пазбавіць права на пасылку, бандэроль, спатканьне. А могуць палічыць гэта сур'ёзным парушэньнем і даць 10 сутак ШЫЗА. Можна атрымаць тры «дзясяткі» запар.**
**Потым ты мусіш выйсьці з ШЫЗА. І дзеля таго, каб вярнуць цябе ў гэты дысцыплінарны ізалятар, кантралёры могуць скамандаваць: «Ты, быдла, бяры мяцёлку і мяці!» Адмаўляесься — і зноў трапляеш на «дзясятку». Некаторыя так па паўгода не вылазілі з ізалятару.**

Ісьці на кантакт з другім знакавым палітыкам у Алега, паводле яго, пасьля расчараваньня ў першым кандыдаце цікавасьці не было.

Як узгадваў Алег, пад канец ягонай адседкі на «Віцьбе» рэдка можна было сустрэць тую павагу да палітычных, якая назіралася ў часы савецкіх дысыдэнтаў:

**— Статус палітвязьня хутчэй меў значэньне хіба што для супрацоўнікаў турэмнай адміністрацыі. Хоць збольшага ў іх у дачыненьні і да палітычных, і да крымінальных адна мэта — зламаць чалавека, а мэтады падбіраюцца індывідуальна. Што да «палітычных», то адміністрацыя імкнулася, каб і сам чалавек, і тыя, хто навокал, уцямілі: твае перакананьні нічога ня вартыя, ты звычайны злачынец.**
**А ў турме кожны чалавек, незалежна ад таго, чаму ён трапіў за краты, павінен прадэманстраваць набор пэўных якасьцяў, каб яго прызналі «прыстойным арыштантам».**



### *Ад Аляксандра К.*

Крымінальнік са стажам Аляксандар узгадвае, як пры ім у Горках (гэта было на пачатку 2010-х) сядзеў адзін палітычны:

**— Малады, худзенькі хлопец. Размаўляў з усімі толькі па-беларуску. Яго адміністрацыя кінула ў ШЫЗА да «блатных», хоць звычайна ў камэру да іх саджалі выключна прадстаўнікоў іхнай касты. Хлопец нічым не парушаў зладзейскіх «паняцьцяў», аднак «блатныя» ў ШЫЗА, як расказвалі ў лягеры, пачалі зьдзекавацца зь яго і зь ягонай беларускай мовы. Звычайна зэкі не зьвяртаюць увагі на тое, як чалавек гаворыць. Але ў канкрэтным выпадку для тых вернападданых мова стала адным з раздражняльных фактараў.**

Палітычнаму абсыпалі галаву цыгарэтнымі «бычкамі», вылівалі на яго кашу, зьбівалі. Гэта пераважна рабіў зэк па мянушцы «Магіла», расказвае Аляксандар:

**— Здаровы такі, пад два мэтры ростам ды пад 120 кг вагой. А палітычны — хлопчык маленькі, худзенькі. Казалі, што з камэры былі чуваць ягоныя крыкі па-беларуску: «Ратуйце!» Аднак ніхто з кантралёраў на дапамогу не сьпяшаўся.**
**Калі тэрмін у ШЫЗА скончыўся, палітычнага перавялі ў атрад, дзе «смотрящим» быў... Магіла. Ён забараніў іншым зэкам кантактаваць з хлопцам,**

**загадаў «адсадзіць» яго з агульнага стала. Цяперашнія сядзельцы — збольшага людзі зашуганыя, а таму зрабілі, як ім загадалі. Бязь ведама адміністрацыі і яе санкцыі такое бясчынства было б немагчымае. Хлопца праз нейкі час вывезьлі ў іншую зону.**

Паводле Аляксандра, калі трэба пазьдзекавацца з палітычных або іншых паўторна асуджаных вязьняў, якія «не даспадобы», іх накіроўваюць менавіта ў Горкі ці Шклоў. Сам ён някепска ведаў таго Магілу:

**— У звычайным штодзённым жыцьці быццам бы нармальны хлопец, добры бацька сваім дзецям. Цяпер вось на волі, езьдзіць па Эўропе. А тады выконваў загады адміністрацыі. Напэўна ж, каб яму добра сядзелася. Адміністрацыя можа знайсьці ў кожным сваю слабіну і выкарыстаць шантаж, каб не самой, а рукамі вось такіх усё і рабіць.**

### *Ад Генадзя М.*

Магілёвец Генадзь — у мінулым вязень Бабруйскай папраўчай калёніі № 2. Быў асуджаны на чатыры гады за «хуліганку», але праз два гады вызваліўся па амністыі. У 2014-м сядзеў разам з Алесем Бяляцкім. Але, як і многія іншыя ЗК, на кантакты зь ім не наважваўся, бо адміністрацыя імкнулася ўсяляк ізаляваць праваабаронцу ад іншых вязьняў. Успамінае, што зьняволеныя нярэдка абмяркоўвалі лёс Бяляцкага і нічога кепскага пра яго не казалі:

**— Нармальны мужчына, усе казалі. Размаўляў пабеларуску, успрымалася гэта цалкам нармальна. Іншая справа, што тыя, хто зь ім пагаварыў, наколькі ведаю, адразу атрымлівалі дзесяць сутак у ШЫЗА. Так і выходзіла, што ён быў фактычна ў ізаляцыі. Там жа стукануць, і ня будзеш ведаць, хто і калі. Адміністрацыі данясуць умомант. Як толькі ў 2014 годзе выйшла амністыя, яго тут жа з зоны прыбралі. Адміністрацыі было нявыгадна, што ён сядзеў у іх. Пра яго ж ніхто не забываў. У кожнай газэце, што мне прыходзіла, пра яго пісалі.**



Газэты, якія дасылалі Генадзю ў калёнію, як ён кажа, разыходзіліся па руках. Асуджаныя з ахвотаю іх чыталі:

**— Сам пачытаў і даў іншаму. Гэтак і пайшло. Каму яшчэ што прыйшло, мне далі. Чыталі з ахвотай. Мне жонка дасылала «Народную волю», «Свободные новости». Часта абмяркоўвалі сытуацыю ў краіне. Выбіралі тэму і дыскутавалі. Гаварылі, напрыклад, што ўсе кандыдаты ў прэзыдэнты пасьля выбараў траплялі за краты. Вось і ўся наша палітыка. Ад улады ніхто ж не адмовіцца. Чалавек больш за дваццаць гадоў добра еў, добра спаў. Бяз бою яе не аддадуць.**

### *Ад Сяргея Г.*

Адрозна ад Генадзя, Сяргей сядзеў у калёніі для паўторна асуджаных у Івацэвічах. У адзін час разам зь ім там утрымліваўся палітвязень Мікола Аўтуховіч. Паводле Сяргея, палітыкай сярод тамтэйшых сядзельцаў цікавілася прыкладна траціна. Гэтыя імкнуліся да кантакту зь Мікалаем. А астатнія або нічога не імкнуліся ведаць, або проста баяліся гаварыць пра палітыку. Шмат хто расчараваўся ў «палітычных», якія падавалі прашэньні аб памілаваньні.

**— За кратамі, як і на волі, вельмі многія баяцца, што заўсёды можа быць горш. Я ж бачыўся зь Міколам кожны дзень. Шмат людзей зьвярталася, якія ха-**

**дзілі да яго, прасілі Аўтуховіча дапамагчы. Калі Мікола «ўскрыўся», яго кінулі ў ШЫЗА. Нашы камэры былі побач, і ўвечары мы размаўлялі зь ім «праз трубу». Магу сказаць, што гэта вельмі годны і вельмі мужны чалавек.**

### *Ад Мікалая І.*

Асуджаны Мікалай выйшаў з-за кратаў у жніўні 2017-га. Ён расказаў, што падчас ягонай адседкі ў калёніі ўтрымліваўся палітычны N, «крыху дзіўнаваты чалавек сталага веку»:

**— Адукаваны, але ня ў гэтым справа. Як чалавек дасьведчаны ў пісаньні розных скаргаў, ён дапамагаў у гэтай справе іншым. N быў самотны і, відаць, ня меў падтрымкі з волі — зразумела, браў за гэта нейкую плату ў выглядзе шакалядак ці гарбаты.**

**Усё б нічога, калі б тыя хлопцы не былі «петухі». У N быў даволі салідны турэмны стаж, і ён мусіў ведаць, што ў такіх вязьняў паводле законаў турмы браць нічога нельга. Зэкі, аднак, вырашылі яго папярэдзіць, што ў гэткіх стасунках трэба быць вельмі акуратным, каб самому не займець нізкага статусу. Але N паслаў усіх далёка, заявіў, што ён праваабаронца і ведае, што яму рабіць. Дапамагаць не перастаў.**

**Потым палітычнага перавялі ў іншую калёнію, а наперадзе пабегла інфармацыя. Вядома, праблемы будуць. Але, як кажуць, такі дасьведчаны чалавек сам у гэтым вінаваты.**



## «Не катаваньні, а зьдзек»

### *Ад былога турэмніка*

Былы начальнік «Валадаркі» і калёніі строгага рэжыму ў Навасадах Алег Алкаеў кажа, што заўсёды вылучаў палітычных сярод іншых вязьняў. Хоць у міліцэйскіх структурах усьлед за кіраўніцтвам краіны любілі паўтараць: маўляў, цяпер не савецкія часы, «палітычных» у сучаснай Беларусі няма, а ёсьць людзі, якіх саджаюць паводле крымінальных справаў.

Алкаеў узгадвае, што пры ім у менскім СІЗА сядзелі палітвязьні Міхаіл Чыгір, Васіль Лявонаў, Андрэй Клімаў, Мікалай Статкевіч, Уладзімір Кудзінаў, Валеры Шчукін. Зь некаторымі ён працягвае сустракацца і цяпер:

**— Асабістае ўражаньне ад «палітычных»? Нармальныя людзі. Яны ўсьведамлялі, што трапілі ў турму. Іншая справа — за што. Як начальнік турмы я зь імі праблемаў ня меў. Але ва ўсім сьвеце ў задачу адміністрацыі турмы не ўваходзіць заглыбляцца ў сьледчыя праблемы, рабіць рэвізію, правільна гэты вязень сядзіць або не. Гэтага чамусьці ня можа зразумець наша грамадзянская супольнасьць.**

**У мяне многія пытаюцца пра катаваньні ў дачыненьні да палітвязьняў. Я б назваў гэта інакш — зьдзекам. Палітычныя як першаходы прыгнечаныя нават не турэмным побытам, а тымі ўмовамі, нярэдка спэцыяльна створанымі, калі прыніжаецца чалавечая годнасьць. І гэта віна цяперашняй адміністрацыі, якая, выконваючы загад зьверху, ідзе на розныя парушэньні, каб зламаць вязьня, прымусіць яго пакаяцца.**

**Тыя, хто некага забіў, згвалтаваў, нешта скраў, будуць маўчаць, калі, напрыклад, на той самай расьцяжцы іх у парушэньне ўсякіх інструкцый**

**пратрымаюць не хвіліну, а дваццаць, бо вінаватыя. А ў палітычных, якія нічога такога не ўчынілі, гэтыя супрацьпраўныя дзеяньні выклікаюць незадаволенасьць.**

**Я б сёньня ставіў пытаньне адносна судоў. У нас няма незалежнага суду. Корань зла — у несправядлівым прысудзе. Тыя самыя Статкевіч, Саньнікаў, Някляеў, Міхалевіч — людзі, якія трапілі за краты ні за што.**

## Героі і не героі

Сярод большай часткі незалежных СМІ ды праваабаронцаў нярэдка прынята гераізаваць палітвязьняў, прычым ня толькі падчас адседкі, але і пасьля. Крытыка на іх адрас не вітаецца.

### *Ад журналіста*

Калісьці, яшчэ да старту праекту «Свабода ў турмах», мы гаварылі на гэтую тэму з журналістам і адным зь першых беларускіх палітзьняволеных Паўлам Шараметам (1971–2016).

Тая наша сустрэча — а падставай для яе стала інтэрвію для кнігі «Адзін дзень палітвязьня» — адбылася летам 2008-га ў Маскве, якраз у дзень, калі кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка пад ціскам міжнароднай грамадзкасьці падпісаў указ аб памілаваньні трох палітвязьняў, сярод якіх быў і адзін ягоны супернік на прэзыдэнцкіх выбарах. Сярод іншага была закранутая і тэма «гераізаваньня» апазыцыі.

Павал тады сказаў, што грамадзянская супольнасьць, ствараючы куміраў з жывых людзей, робіць і сабе і ім самім ня самую добрую паслугу. У выніку чалавек прызвычайваецца да створанага яму вобразу і потым патрабуе да сябе пастаяннай падвышанай увагі. Часам здараецца, што героі зусім і не героі. І тады



дзяржаўная прапаганда, якая дэманізуе апазыцыю, выкарыстоўвае гэта ў сваіх мэтах.

**— Ёсьць два ключавыя словы, якімі павінны кіравацца журналісты: «спачуваньне» і «салідарнасьць». Гэта тое, што ўсіх нас можа абараніць і выратаваць. Першае, ад чаго залежыць паратунак, — гэта паводзіны самога вязьня, а другое — салідарнасьць і ціск на ўлады звонку. І таму трэба, каб кожны з палітвязьняў, які цяпер за кратамі, адчуваў нашую салідарнасьць і спачуваньне.**

**Пакуль той самы N быў у турме, мы мусілі рабіць усё дзеля яго вызваленьня. Калі сытуацыя мяняецца, мы, натуральна, паводзім сябе інакш. Мы можам спрачацца з палітыкамі, апазыцыянэрамі, калі яны на волі, быць крытычнымі да іх. Такі лёс апазыцыйных палітыкаў. Ім ніколі ня можа быць лёгка.**

## Каго лічыць палітычнымі

### *Ад праваабаронцаў*

Згодна з дадзенымі вядучых беларускіх праваабарончых арганізацый — такіх, як «Вясна», БХК, БАЖ, «Салідарнасьць», Цэнтар прававой трансфармацыі, Беларускі Дом правоў чалавека, Беларускі дакумэнтацыйны цэнтар і інш., — ад 1989 да 2017 году ў краіне ў адпаведнасьці са стандартамі ПАСЭ і Amnesty International палітычнымі прызнаныя 195 вязьняў.

Галоўны крытэр, паводле якога той або іншы вязень можа прызнавацца палітычным, — гэта «калі чалавек асуджаны з палітычных матываў незалежна ад таго, што гэта за матывы».

Усе палітвязьні дзеляцца на дзьве катэгорыі. Тыя, чыя віна не даказаная — і, такім чынам, чалавека асудзілі за погляды; і тыя, хто мае дачыненьне да рэаль-

нага правапарушэньня, але з палітычных прычын атрымаў несправядлівы прысуд. У сваю чаргу, чалавек ня можа быць прызнаны палітвязьнем, калі ўчыніў гвалтоўнае правапарушэньне.

Праваабаронцы, якія не належаць да вядучых праваабарончых арганізацый, хоць і не аспрэчваюць гэтых крытэраў, аднак часта не пагаджаюцца зь «Вясной», калі тая надае або не надае той або іншай асобе статус палітзьняволенага.

Адна з такіх асобаў — Андрэй Бандарэнка, да 2014 году кіраўнік «Плятформы». У 2013 годзе «Вясна» ды іншыя назвалі яго найлепшым праваабаронцам году. У 2014-м быў асуджаны на чатыры гады пазбаўленьня волі за «хуліганства, злоснае хуліганства і асабліва злоснае хуліганства ў дачыненьні да трох грамадзян».

Бандарэнка прызнаў віну часткова, сьцьвярджаючы, што падставай для пакараньня стала правакацыя. У выніку амністыі тэрмін скарацілі на год.

Нягледзячы на намаганьні і яго самога, і некаторых прадстаўнікоў праваабарончай супольнасьці, «Вясна» так і не прызнала яго палітвязьнем. Гэтаксама «Вясна» не прызнала яго палітычным і падчас першай адседкі ў 2009–2011 гадах, хоць шмат у якіх СМІ ён фігураваў як палітвязень — напэўна, паводле іншых праваабаронцаў.

Адразу пасьля вызваленьня ў сакавіку 2017-га Андрэй Бандарэнка сказаў у інтэрвію «Свабодзе»:

**— Тое, што адбылося са мной — гэта была катастрофа, справакаваная менавіта «Вясной». Мая адседка была катаваньнем, жаданьнем зламаць псыхалягічна. Два з паловай гады я правёў у адзіночцы, і ўвесь час выкарыстоўвалася сытуацыя адсутнасьці падтрымкі звонку. Мне казалі: цябе ж нават «Вясна» палітвязьнем не прызнала. У цябе няма грошай, няма адваката, і будзеш сядзець. У Бабруйску я правёў самы жорсткі час. Чатыры месяцы сядзеў у камэры ШЫЗА.**



Андрэй Бандарэнка — за тое, каб пытаньнямі наданьня статусу палітвязьня займалася прафэсійная супольнасьць праваабаронцаў.

**— Мы сутыкнуліся з праблемай, якая прысутнічае цяпер, і гэта тычыцца антыфашыстаў і анархістаў, калі асобныя нашы праваабарончыя арганізацыі пачынаюць казаць, што ўсё ж тыя неяк парушылі закон. Фактычна гэтымі рашэньнямі гэтыя арганізацыі падтрымліваюць уладу ў яе рэпрэсіўных дзеяньнях.**

### *Ад анархіста*

Як выглядае, далёка ня ўсім, хто сам пераканаdebы, што сеў за палітыку, настолькі істотна, каб гэта прызнала менавіта вядучая праваабарончая супольнасьць. Тым самым анархістам праваабаронцы надалі статус палітвязьняў далёка не адразу. Але, паводле Ігара Аліневіча, самім зьняволеным гэта было ня так ужо і важна:

**— Асабіста мы, калі сядзелі, нават і ня думалі, ці прызнаюць нас палітвязьнямі. Для нас каштоўным было найперш прызнаньне грамадзкасьці. У праваабаронцаў крытэры часам бываюць далёкія ад жыцьця. Паводле тых крытэраў наркаманаў сёньня таксама трэба лічыць палітычнымі, бо іх адкрыта садзяць па палітычнай установцы дзяржавы. Гэтаксама як і бізнэсоўцаў, якія адмовіліся плаціць падаткі.**

**Чалавек ні ў якім разе не павінен думаць, што ён лепшы за іншых, бо ён палітычны (інтэлігент, бізнэсовец і г. д.), а тыя, маўляў, крымінальнікі. Ён нічым**

**ня лепшы за многіх арыштантаў, а таму не павінен ставіць сябе вышэй за астатніх, ён павінен навучыцца слухаць, разумець жыцьцё чалавека, не адштурхоўваць ад сябе людзей, бо закрыцца ад соцыюму азначае гарантаваную дэградацыю.**

## Палітзьняволеныя СССР і сучасныя палітвязьні

### *Ад дысыдэнта-лягерніка савецкіх часоў*

Палітвязень хрушчоўскіх часоў, мянчук Сяргей Ханжанкоў (1942–2016) у 1963 годзе быў асуджаны на дзесяць гадоў лягераў (Мардовія) за «спробу ўчыніць дывэрсію» і за «антысавецкую агітацыю і прапаганду».

Падчас інтэрвію для «Свабоды ў турмах», якое адбылося за год да ягонай сьмерці, гаворка зайшла пра адрозьненьні паміж палітзьняволенымі савецкіх часоў і сучаснымі беларускімі палітвязьнямі.

**— І тады, і цяпер палітзьняволеныя — гэта людзі, якія сядзяць за свае перакананьні, за спробы ўвасобіць іх у жыцьцё. Саджаць за гэта цалкам ненармальна. Зразумела, палітвязьні мінулых часоў і цяперашнія — гэта розныя асобы, характары.**

**Сучасныя людзі, якія пабывалі за кратамі, пераконваюцца, што гэта ўсё пакуль несвоечасова. Бо іх не падтрымліваюць. Гэта ўсё роўна, што лбом прабіваць сьцяну.**

**Тым больш, што ў беларускіх палітвязьняў усё замыкаецца на коле пытаньняў, якія зусім не хвалююць масы беларускага народу, калі можна так сказаць. Яны вельмі падобныя да нейкай сэкты, што ня ёсьць добра. Таму яны паступова ціхенька адыходзяць убок. Казулін, некаторыя іншыя, тая моладзь, якая прайшла праз арышты. Чалавек не абавязкова ломіцца, ён проста адыходзіць убок і дае праявіць сябе іншым.**



Сяргей Ханжанкоў зьвяртаецца да прыкладаў ня толькі зь беларускай гісторыі:

**— Тая самая расейская рэвалюцыя. Пакуль для бальшавікоў удала ня склалася каньюнктура, яны таксама былі ўсе адышлі. Ленін жа быў за мяжою. Нават ня марыў пра нейкую рэвалюцыю ў Расеі...**

**Каб сёньня пашыраўся дэмакратычны рух, зьяўляліся партыі — то зусім іншая справа, былыя палітвязьні былі б на месцы. Каб нармальныя палітычныя ўмовы, то чаму б некаму зь іх ня стаць лідэрам? Знайшліся б лідэры, канечне.**

Увогуле, чалавек павінен нешта выбіраць: або змагацца далей, або зусім адмаўляцца ад барацьбы, казаў Ханжанкоў. Сам ён ніколі не пісаў прашэньняў аб памілаваньні. У тым асяродзьдзі гэта было не прынята.

**— Галоўнай мэтай рэпрэсіўнай сыстэмы быў ціск на ЗК, каб той пайшоў на супрацоўніцтва з адміністрацыяй і такім чынам быў зьнішчаны як асоба. Некаторыя ламаліся, некаторыя, наадварот, рабіліся мацнейшымі ды больш свабоднымі.**

**У тыя часы тэрмін «палітвязень» увогуле не існаваў, а існавала «ООГП» — «особо опасные государственные преступники». Наш мардоўскі лягер афіцыйна так і называўся лягерам для асабліва небясьпечных дзяржаўных злачынцаў. Там сядзелі колішнія вязьні Салаўкоў, калябаранты, літоўскія, украінскія нацыяналісты, пісьменьнікі-дысыдэнты Сіняўскі і Даніэль.**

**А зь беларусаў былі тыя, хто пасьля вайны трапіў на Захад, а потым быў закінуты ў СССР з мэтай антысавецкага супраціву. Як, напрыклад, Цімох Во-**

**стрыкаў і Генадзь Касьцюк, якія прайшлі ў ЗША падрыхтоўку, а потым былі дэсантаваныя з вайсковага амэрыканскага самалёта на тэрыторыю БССР. Гэта быў 1952 год, яшчэ пры Сталіне, і выглядала гэта як сапраўднае самагубства. Тады і не такіх расстрэльвалі.**

**Касьцюк быў сьціплым і маўклівым, а вось кіраўнік дэсанту Вострыкаў быў сапраўдным завадатарам, увесь час размаўляў выключна па-беларуску. Вакол гэтай моцнай асобы групаваліся некаторыя іншыя беларусы, у тым ліку з пасьляваенных партызанаў. Як і ўсе палітзэкі, Цімох шмат чытаў, спрачаўся.**

**Прадстаўнікі той маленькай беларускай дыяспары не ішлі ні на якае супрацоўніцтва з адміністрацыяй. Гэта былі асобы зь непахіснымі перакананьнямі.**

У мардоўскім лягеры для асабліва небясьпечных дзяржаўных злачынцаў Сяргей Ханжанкоў сядзеў «ад званка да званка». Выйшаў на волю ў 1973 годзе, ніколі не дамагаўся рэабілітацыі і памёр нерэабілітаваным. Быў вельмі сьціплым, інтэлігентным і самадастатковым чалавекам, адрозьніваўся добрай фізычнай загартоўкай, меў высокую маральную плянку, належаў да той рэдкай пароды людзей, якіх не закранула распачатая ў 1917-м «нэгатыўная сэлекцыя».

Расейска-амэрыканскі сацыёляг Піцірым Сарокін (1889–1968), які першы ўжыў гэты тэрмін у дачыненьні да грамадзтва, канстатаваў, што ў выніку такога працэсу адбору ў пэрыяды вострых сацыяльных катаклізмаў «самымі прыстасаванымі ўсё ж аказваюцца ня лепшыя, а сярэднія, здольныя зьліцца з масай у яе інстынктыўных матывах і ў не дыстыляваных розумам намерах».

# ЗОНА ХВАРОБ: ТУРЭМНАЯ МЭДЫЦЫНА

## Хварэюць усе і ўсюды — і вязьні, і іх ахова. Дзе, як і чым лечаць зьняволеных?

Цяперашняя турэмная мэдыцына ў Беларусі — гэта два рэспубліканскія шпіталі і больш за тры дзясяткі мэдчастак, якія ёсьць пры любой турэмнай установе, ад сьледчага ізалятару, калёніі да ЛТП. У штаце кожнай з мэдчастак ёсьць тэрапэўт, стаматоляг, нарколяг, псыхіятар, фэльчар ды мэдсёстры. Таксама тут ёсьць свой міні-стацыянар на некалькі дзясяткаў ложкаў.

У лякарні — Рэспубліканскі турэмны агульнасаматычны шпіталь («бальнічку»), а таксама Рэспубліканскую спэцыялізаваную мэдычную ўстанову для сухотнікаў на базе 12-й аршанскай калёніі — накіроўваюць найбольш цяжкіх хворых, якім патрэбнае сур'ёзнае лячэньне з абсьледаваньнем ды кансультацыямі вузкіх спэцыялістаў.

Да 2011 году турэмная «бальнічка» разьмяшчалася на тэрыторыі колішняй менскай папраўчай установы УЖ 15/1, або як потым яе называлі, калёніі № 1 на Кальварыйскай. У яе аддзяленьнях — нэўралёгіі, хірургіі, тэрапіі, псыхіятрыі, дэрматалёгіі і інфэкцыйным ізалятары — маглі агулам атрымліваць лячэньне да 350 хворых.

Потым, у адпаведнасьці з новай генэральнай забудовай мікрараёну, усе турэмныя будынкі, уключна са шпіталём, былі зьнесеныя, а яго аддзяленьні раскідалі па розных турэмных установах — у менскім СІЗА № 1 на Валадарскага, у жодзінскай турме № 8, віцебскай калёніі № 3. Замест ранейшых 350 месцаў атрымалася 170. Новую «бальнічку», больш сучасную і камфортную, у пасёлку Калядзічы пад Менскам, абяцалі пабудаваць да 2015 году, аднак здача аб'екту пастаянна адкладаецца.

Знос старой «бальнічкі», пра які, як і пра плянаваную выгадную зьдзелку дзяржаўных чыноўнікаў па продажы зямлі на Кальварыйскай, было вядома за некалькі гадоў, ня выклікаў асаблівых пратэстаў у грамадзтве. Розныя акцыі ў падтрымку хворых зьняволеных ладзілі хіба што маладыя «нацболы».



## Мэдычная дапамога

Недзяржаўная арганізацыя па абароне правоў зьняволеных «ТаймАкт», створаная ў 2017 годзе з ініцыятывы былога палітвязьня Міколы Аўтуховіча, займае пакой у невялікім офісе незалежнага прафсаюзу РЭП. Сюды апошнім часам паступае шмат скаргаў адносна якасьці мэдычнай дапамогі за кратамі

Алег Міхей працуе ў «ТаймАкце» валянтэрам. У мінулым спартовец, выпускнік БПІ, прадпрымальнік. Трапіў за краты ў 2006-м паводле арт. 209 (махлярства). Тады яму не было і сарака, але са здароўем ужо пачыналіся праблемы — цукроўка, псарыяз.

У бабруйскай калёніі, дзе ён адбываў большую частку свайго шасьцігадовага тэрміну, самаадчуваньне пачало пагаршацца. Настолькі, што асуджанага пэрыядычна мусілі накіроўваць у Менск, у «бальнічку» на Кальварыйскай.

Пасьля вызваленьня Алег ледзь не на другі дзень трапіў у вольную менскую клініку з дыягназам псарыятычны артрыт з парушэньнем апорна-рухальнага апарату. Кожны рух даваўся зь цяжкасьцю і аддаваўся болем. Так было чатыры гады. Цяпер на нагах, хаця з другой групай інваліднасьці.

Алег узгадвае, што пасьля зносу «бальнічкі» яму прапанавалі лячыцца на «Валадарцы». Менавіта туды, у мэдчастку, перавялі аддзяленьне «дэрматалёгіі». Аднак асуджаны адмовіўся. Бо што ўяўляе сабой цяперашні, ператвораны з мэдчастак, шпіталь?

Паводле Алега, гэта былыя камэры ў склепе, памерам прыкладна 3 на 5,5 мэтраў. Хворых там можа налічвацца да 10-15 чалавек. Днём ляжаць на ложку нельга, толькі сядзець. Падлога, сьцены і столь бэтон-

ныя. Шпацыр у турэмным дворыку дазволены толькі на паўгадзіны.

### *Ад Алега Міхея*

**— Вы толькі ўявіце сабе, калі ўсяго чатыры чалавекі намажуцца мазьзю, якую трэба трымаць на целе суткі… Як дыхаць ў такім памяшканьні?**

**У «бальнічцы» на Кальварыйскай дэрматалягічнае аддзяленьне знаходзілася ў новым корпусе, разам з двума тэрапэўтычнымі. Хворыя ляжалі ў нармальных палатах. Гуляць, дыхаць сьвежым паветрам за выключэньнем сну ды так званай «цixай» гадзіны можна было практычна ў любы час. Сам панадворак для шпацыру быў вельмі сымпатычны. Але ўсё гэта толькі ў новым корпусе.**

У старым корпусе, дзе былі хірургія, нэўралёгія, «дурка», Алег таксама бываў ня раз, калі яму прызначалі кансультацыю спэцыяліста. Там, паводле яго, было жахліва. Сьмярдзючыя палаты з нарамі, замест панадворку кавалак асфальту ды сьмецьце.

**— На Кальварыйскай, як ні кажы, але ўсё ж быў сапраўдны шпіталь. Але яго вось проста так узялі і зьнесьлі, нічога не прапанаваўшы ўзамен. Хворых жа не паменела, наадварот. Але хто такія зэкі для Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў і ўвогуле для дзяржавы?**

Калі Алег перастаў езьдзіць у Менск, то ягонае лячэньне ўвогуле спынілася. Спачатку яшчэ выдавалі па пары цюбікаў мазі на адзін-два месяцы, хоць яму трэба было столькі найменей на дзень. Потым бясплатны «мэдпаёк» скончыўся. Добра, калі з волі маглі нешта даслаць. А калі — не?



Кіраўнік «ТаймАкту» Васіль Завадзкі, які на час зносу «бальнічкі» утрымліваўся за кратамі, лічыць самым недарэчным, што лякарню зьліквідавалі ўсяго праз некалькі гадоў пасьля выдатнага рамонту аднаго з карпусоў. Вядома, гэта кепска, калі турма ў цэнтры гораду. Але як можна выкінуць на вуліцу хворых, хай яны і належаць да так званага спэцкантынгенту?

Васіль Завадзкі — дыплямаваны лекар-псыхіятар, выпускнік Віцебскага мэдынстытуту. Зьведаў турэмную мэдыцыну, як кажуць, з абодвух бакоў.

Каля 25 гадоў працаваў у пэнітэнцыярнай сыстэме — спачатку як загадчык мэдчасткі ў ПК № 14 у Навасадах, потым як галоўны лекар у Рэспубліканскім агульнасаматычным шпіталі (1998–2000) і, нарэшце, як кіраўнік мэдычнай службы Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў МУС (2000–2010). Кар'еру ў ДВП скончыў у чыне палкоўніка міліцыі.

Потым былі дзевяць месяцаў у СІЗА КДБ і прысуд — 2,5 гады турэмнага зьняволеньня паводле абвінавачаньня ў перавышэньні паўнамоцтваў. З улікам амністыі і ўмоўна датэрміновага ўсяго за кратамі адсядзеў дзесяць месяцаў.

Паводле былога кіраўніка мэдычнай службы дэпартамэнту, зь ліквідацыяй турэмнага шпіталю ня проста скарацілася колькасьць койка-месцаў. Зрабіўся адчувальным недахоп кваліфікаваных мэдычных кадраў, які адбіўся на якасьці лячэньня ды на ўзроўні сьмяротнасьці ў месцах пазбаўленьня волі.

У сваіх ацэнках Васіль Завадзкі абапіраецца на інсайдэрскія зьвесткі, паколькі ўся інфармацыя адносна хваробаў, сьмерцяў ды суіцыдаў за кратамі застаецца закрытай для беларускай грамадзкасьці. Няма таксама дакладнасьці і наконт тэрмінаў здачы новага шпіталю ў Калядзічах.

**— Калі «ТаймАкту» ня будуць перашкаджаць працаваць, мы паспрабуем зрабіць усё залежнае ад нас,**

**каб у гэтых пытаньнях была большая яснасьць, а справа з новай «бальнічкай» усё ж вырашылася. Маем зьвярнуцца ў Міністэрства аховы здароўя з тым, каб яны таксама ўнікнулі ў гэтую сытуацыю, бо паводле заканадаўства гэтае ведамства нясе адказнасьць за аказаньне мэдычнай дапамогі, у тым ліку і спэцкантынгенту.**

Мэдыцына за кратамі, лічаць у «ТаймАкце», павінна быць цывільнай, а аказваць дапамогу хворым вязьням павінны цывільныя лекары, а ня мэдыкі пэнітэнцыярнай сыстэмы, якія, зыходзячы са спэцыфікі сваёй службы, кіруюцца найперш інтарэсамі ведамства і толькі потым пацыентаў. Зразумела, пытаньне пераходу турэмнай мэдыцыны пад падпарадкаваньне Міністэрству аховы здароўя павінна быць вельмі прадумана, найперш з гледзішча бясьпекі, мяркуе Васіль Завадзкі.

## Хуткая мэдычная дапамога

У «ТаймАкце» абмяркоўваюць адну зь няштатных сытуацый, якая здарылася ў Магілёўскай папраўчай установе № 15. У турэмным гатэлі падчас спатканьня раптоўна памерла жонка асуджанага. Гэта здарылася ноччу. Жанчына адчула сябе кепска. Таблеткі не дапамагалі. Рабілася ўсё горш. Муж папрасіў ахоўніка паклікаць каго-небудзь з мэдпэрсаналу, але ў такі час нікога на месцы не было. У выкліку брыгады «хуткай» асуджанаму, паводле відавочцаў трагедыі, адмовілі.

У сувязі са здарэньнем «ТаймАкт» накіраваў запыт у пракуратуру.

Паводле Васіля Завадзкага, калі размова ідзе пра раптоўныя лятальныя выпадкі ў выніку інфарктаў, інсультаў, пэрытанітаў і г. д., «крайнімі» найчасьцей бываюць тыя, хто вынес інфармацыю за межы ўстановы — зэкі.



Безумоўна, у просьбе аб дапамозе, тым больш, калі справа тычыцца жыцьця і сьмерці, адмаўляць нельга нікому. Але ж у Беларусі няма ніводнага нарматыўнага дакумэнту, як паступаць зь людзьмі, якія прыяжджаюць на турэмнае спатканьне і якім нечакана на тэрыторыі рэжымнай установы, тым больш у позьні час, калі няма на месцы лекараў, робіцца кепска. Найлепшы варыянт, каб хворы чалавек сам на сваіх нагах змог пакінуць калёнію. Калі не, то тут трэба толькі маліцца Богу. Галоўны ж прынцып адміністрацыі — «абы было ціха»:

### *Ад былога кіраўніка мэдычнай службы ДВП*

**— Нават для зьняволенага выклік «хуткай» на тэрыторыю калёніі праблематычны. Спачатку трэба далажыць дзяжурнаму памочніку начальніка калёніі, то бок міліцыянту. Ён адзіны (афіцыйна), хто ўнутры «калючкі» мае сотавы тэлефон. У сваю чаргу, дзяжурны міліцыянт пачынае думаць, ці варта для вырашэньня пытаньня турбаваць сярод ночы кіраўніцтва ўстановы.**

**Нарэшце, найлепшы варыянт — «хуткую» выклікаюць. Праз колькі часу яна прыедзе, залежыць ад адлегласьці паміж калёніяй і шпіталём бліжэйшага гораду, таксама ад часу праходжаньня брыгадай дагляду на КПП і дадаткова ад розных іншых дробязаў. А вырашальнай можа стаць кожная хвіліна.**

**Агледзеўшы хворага, цывільныя мэдыкі вырашаюць, што чалавека трэба тэрмінова накіроўваць у стацыянар. Для перавозкі вязьня патрэбны міліцэйскі транспарт і мінімум два канваіры на ўвесь час знаходжаньня хворага ў вольнай лякарні. Усе гэта разбурае схему арганізацыі службы бясьпекі рэжымнай ўстановы. У выніку найчасьцей чалавека вырашаюць лячыць на месцы.**

Васіль Завадзкі узгадвае выпадак з уласнага турэмнага мінулага. Разам зь ім у СІЗА «Амэрыканка» сядзеў чалавек, які раней перанёс інфаркт. Калі на месца прыбыла брыгада «хуткай», лекар пачаў настойваць на шпіталізацыі. Аднак дзяжурны афіцэр адмовіў, сказаў, што хворы застанецца ў СІЗА пад яго адказнасьць. Дзякуй Богу, што той чалавек выжыў.

**— Вядома, нешта рабіць трэба, але зноў праблема круціцца вакол таго, што мэдыкі ў гэтай сыстэме падпарадкоўваюцца сілавікам.**

## З гісторыі «Валадаркі». Турэмны лекар Гіндэнбург

Параўноўваць можна ня толькі ў прасторы, але і ў часе. Турэмная мэдыцына на тэрыторыі Беларусі існавала не заўсёды. Ёй няма і 180 гадоў. Да таго была судовая экспэртыза. Лекары прыбывалі ў вязьніцы, сярод якіх быў і Менскі турэмны Пішчалаўскі замак, для канстатацыі сьмерцяў зьняволеных.

Першым галоўным турэмным лекарам Пішчалаўкі стаў у 1840 годзе менскі штаб-лекар і штатны акушэр, стацкі саветнік Васіль (Вільгельм) Гіндэнбург (1799–1877). Новая губэрнская турэмная лякарня ў мэдычных пытаньнях была падкантрольная Менскаму мэдычнаму ўпраўленьню, у гаспадарчых і арганізацыйных — Менскаму турэмнаму камітэту.

Гіндэнбург паходзіў з высакароднага прускага роду, пасьля атрыманьня мэдычнай адукацыі ў Віленскім унівэрсытэце, прайшоў шлях ад павятовага доктара да старшыні Таварыства менскіх лекараў. Быў вельмі багатым на той час чалавекам, аднак за сваю працу ў турэмным замку зарплату не атрымліваў, працаваў



выключна бязвыплатна, самааддана, згодна з сваімі філянтрапічнымі перакананьнямі.

Паводле ўспамінаў сучасьнікаў, турэмны лекар вылучаўся ня толькі ведамі, але і дабрачыннасьцю, не рабіў розьніцы паміж цывільнымі пацыентамі і зьняволенымі, садзейнічаў таму, каб катаржан не адпраўлялі па этапе хворымі. Ён быў перакананы, што нават вінаватаму неабходныя спачуваньне і дапамога.

Доктар Гіндэнбург лячыў хворых і калек, састарэлых і дзяцей, прымаў роды ў жанчын-арыштантак. У 1871 годзе, калі споўнілася пяцьдзясят гадоў яго лекарскай дзейнасьці, у Менскай мужчынскай гімназіі заснавалі стыпэндыю ягонага імя.

Сярод мэдыкаў, якія аказвалі дапамогу зьняволеным, у дакумэнтах таго часу можна сустрэць і імя яшчэ аднаго немца - інспэктара Менскага мэдычнага ўпраўленьня доктара Карла Гібэнталя, які адным зь першых у Эўропе прапанаваў выкарыстоўваць гіпс пры лячэньні пераломаў

## Эпідэмія тыфу

Сучасны дасьледнік Пішчалаўскага замка, у мінулым арыштант «Валадаркі» (2011 г.) і палітзьняволены, які быў асуджаны за ўдзел у Плошчы-2010, гісторык Зьміцер Дрозд распавядае, што пачатак 1877-га, апошняга году жыцьця галоўнага турэмнага лекара, быў азмрочаны імклівым пашырэньнем эпідэміі тыфу сярод зьняволеных.

Нягледзячы на свае семдзесят сем гадоў і фізычнае зьнясіленьне ў выніку некалькіх перанесеных пнэўманіяў, доктар Гіндэнбург заставаўся працаваць у Пішчалаўскім замку, паколькі вельмі клапаціўся станам здароўя арыштантаў, расказвае Зьміцер Дрозд.

### *Ад палітвязьня-гісторыка*

**— Пра эпідэмію вострай заразнай хваробы, якая суправаджаецца моцнай ліхаманкай і нэрвовымі прыпадкамі, лекар увесь час інфармаваў наглядчыка Менскага турэмнага замку, капітана Грамбчэўскага.**

**Аднак той не надаваў праблеме сур’ёзнай увагі (магчыма, спадзяваўся на вядомае «авось», маўляў, само рассмокчацца). Тым часам эпідэмія вырасла да маштабаў, пры якіх хаваць яе ад губэрнскага начальства было ўжо немагчыма. У сваім рапарце ў губэрнскі турэмны камітэт доктар Гіндэнбург, напісаў:**

**«У тутэйшым турэмным замку цяпер знаходзіцца да 400 арыштантаў, чаму з гледзішча гігіены будынак зусім не адпавядае. Сярод арыштантаў, зьмешчаных у цесных памяшканьнях, пачалі множыцца хваробы, якія характарызуюць тыфозную гарачку, а сярод дзяцей пры арыштантах — адзёр і шкарлятына. Хворых цяпер налічваецца 59 чалавек, сярод іх схільных да тыфознай гарачкі 20, а хворых на адзёр дзяцей — 15. Хворыя праз недахоп бальнічных памяшканьняў зьмяшчаюцца ў асобных камэрах бяз ложкаў, на арыштанцкіх нарах».**

**Пры канцы свайго рапарту турэмны доктар настойліва просіць Менскі турэмны камітэт «зрабіць усё, каб забясьпечыць найлепшае па магчымасьці разьмяшчэньне хворых паводле роду іх хвароб, з павелічэньнем колькасьці ложкаў як найменей да 20», а таксама аб забесьпячэньні іх бальнічным посудам.**

Патрабаваньні лекара былі выкананыя. Барацьба Гіндэнбурга з тыфознай гарачкай была апошняй справай у ягонай лекарскай дзейнасьці. Турэмны доктар



памёр у лютым 1877 году і быў пахаваны на Менскіх лютэранскіх могілках, зьнесеных у савецкім часе. Як узгадвалі сучасьнікі, у апошні шлях лекара прыйшлі правесьці прадстаўнікі ўсіх веравызнаньняў і самых розных сацыяльных саслоўяў Менску, а таксама прадстаўнікі крымінальнага сьвету.

«Падчас жалобнай працэсіі, — пісала ў сваім лісьце да пісьменьніка Фёдара Дастаеўскага жыхарка Менску, дачка габрэйскага банкіра Сафія Лур’е, — увесь час званілі званы ва ўсіх цэрквах, ва ўсіх сынагогах маліліся за ягоную душу. Над магілай трымалі слова лютэранскі пастар і габрэйскі рабін, і абодва плакалі».

Агулам за труной доктара ішло каля дзесяці тысяч чалавек, што для тагачаснага маленькага Менску было зьявай раней ніколі ня бачанай і выключнай.

Пісьменьнік Фёдар Дастаеўскі, які на ўласным досьведзе зьведаў, што такое катарга і бальніца для катаржан, у сваім «Дзёньніку пісьменьніка» напісаў пра Гіндэнбурга як пра «общечеловека», які не рабіў ніякіх рэлігійных, сацыяльных ды нацыянальных адрозьненьняў паміж сваімі пацыентамі. Пазьней у рамане «Браты Карамазавы» Гіндэнбург стаў правобразам доктара-філянтропа Герцэнштубэ.

На тэрыторыі сучаснай Беларусі няма ні вуліцы зь яго імем, ні клінікі, ня кажучы ўжо пра нейкі маленькі помнік у бальнічным дворыку. Тут значна больш ведаюць сучасьніка Гіндэнбурга — таксама немца, таксама галоўнага лекара, але Маскоўскай турэмнай бальніцы Фрыдрыха Гааза. Яго імя сёньня носіць Гомельская гімназія № 58.

# З гісторыі «бальнічкі» на Кальварыйскай. Тэрапія

Рэспубліканскі турэмны шпіталь пры першай менскай калёніі ўзьнік на пачатку 1960-х, на тэрыторыі менскай турэмнай установы УЖ 15/1. Журналіст Васіль Сямашка сядзеў у калёніі ў канцы 1990-х, калі ў краіне яшчэ існавала так званая «каляровая», або «чорна-чырвоная» турма. Падчас адседкі давялося яму трапіць і ў «бальнічку», якой на той час кіраваў Васіль Завадзкі.

### *Ад былога пацыента «бальнічкі»*

**— Здарылася аднойчы са мной пнэўманія — лёг спаць здаровым, а прачнуўся млявым, дрыжыкі, ліхаманка. На ранішняй праверцы ня змог прастаяць і дзесяці хвілінаў, адышоў некуды ў бок і прысеў. Убачыў гэта намесьнік начальніка ўстановы і пачаў пагражаць карцэрам, а я нават рэагаваць на тыя пагрозы ня змог. Да яго дайшло — накіраваў да доктара. Там зрабілі здымак і — у «бальнічку». Зазначу, што наша зона тады лічылася «чырвонай», тым часам як у іншых сядзелі «блатныя». Зэкі з калёніі № 1 мелі прычыны баяцца класьціся ў турэмны шпіталь.**

**Калі мяне прывялі ў палату, я зьвярнуў увагу, што палова тых хворых «паліць» так, што на сьцяну, як той казаў, трэба вешаць сякеру. Я ляжаў на другім ярусе ложкаў, а зьнізу сядзела кампанія блатных і дыміла. У тым стане мне, аднак, было амаль усё роўна. Пачуў толькі, як нехта зь іх сказаў, што адміністрацыя мяне да іх наўмысна падсяліла за мае публікацыі ў БДГ пра зону. У выніку тыя да мяне нічога ня мелі.**



Потым знаёмы санітар патлумачыў Васілю, што ў палаце ляжалі самыя крутыя блатныя з усіх зон, якія за хабар трапілі ў лякарню, каб адпачыць. Відавочна, што ўмовы для адпачынку, паводле былога асуджанага, там былі вельмі добрыя.

Васіль кажа, што лячылі яго добра. Празь некалькі дзён яму зрабілася істотна лепш і ён пачаў хадзіць па шпіталі. Убачыў, што ў аддзяленьні сярод хворых прыкладна палова «адпачывальнікаў».

На дзясяты дзень знаёмы санітар шэптам паведаміў, што яго зьбіраюцца выпісваць. Гэта пры тым, што з такой пнэўманіяй, як у яго, іншыя хворыя знаходзяцца ў шпіталі найменей тры тыдні.

**— Вось такім быў шпіталь у той час. Недзе ў калёніях звычайныя зэкі паміралі, так і не атрымаўшы адпаведнай дапамогі, а гэтыя, здаровыя быкі, затрымліваліся на бальнічных ложках ледзь не па месяцы.**

**Для крутых крымінальнікаў гэта быў ня толькі адпачынак, але і магчымасьць «абцяпаць» свае ўласныя справы. У турме ёсьць такое паняцьце «дзьвіжуха» — рух. У гэтым сэнсе шпіталь быў галоўным месцам сувязі паміж зонамі ды месцам абмену рознай канфідэнцыйнай інфармацыяй.**

**Аднак галоўным сувязным быў зэк, які займаў пасаду заўгаса «бальнічкі». Нехта некаму хоча нешта перадаць на словах — усё праз «бальнічку». Ад заўгаса атрымлівалі інфармацыю і апэратыўнікі, для іх гэта была прастора для працы. Для зэка пасада загадчыка гаспадаркі адкрывала вялікія магчымасьці і цікавыя сувязі. Пры гэтым, пасада магла таіць у сабе вялікую небясьпеку, калі той, хто яе займаў, няправільна распараджаўся інфармацыяй.**

Алег Міхей, які ляжаў у Рэспубліканскім шпіталі пазьней, удакладняе расказ журналіста: усе такія гісторыі з блатнымі скончыліся ў канцы 1990-х.

**— Калі пры мне ў шпіталь заяжджалі пару дзядоў, што адседзелі за кратамі па 30 гадоў, было бачна, што яны ўжо не разумелі, куды патрапілі. У іх час у «бальнічцы» рулілі блатныя. Тады ў калёніях прадстаўнікі гэтай касты і вызначалі, каму туды ехаць. Яны не глядзелі, ці моцна чалавек хворы, накіроўвалі тых, каго было ім трэба. Усё вырашалася на іх узроўні.**

## Хірургія: гемарой, пэрытаніт, ампутацыі ды «мастырка»

На зэку ўсё гоіцца хутчэй — так кажуць турэмныя мэдыкі. Тлумачыцца гэта так званым «напружаным імунітэтам» хворага. То бок, калі чалавек знаходзіцца ў пастаянным стрэсе, імунны адказ ягонага арганізму на тую або іншую інфэкцыю больш выразны. Адваротны бок мэдаля — калі вязень вызваляецца. У яго здараецца расслабленьне, і як вынік — пачынаюць вылазіць навонкі ўсе болькі ды праблемы.

Менскі хірург А., які мае досьвед працы з хворымі арыштантамі і хворымі на волі, цалкам падзяляе гэтую выснову. Турэмную хірургію ён параўноўвае з ваеннапалявой. Гэта выдатная практыка. Гемароі, язвы, апэндыцыты — усё гэта было як на канвэеры. Даводзілася таксама займацца і ампутацыяй канечнасьцяў. Гангрэна ў зьняволеных сустракалася нярэдка.

На пытаньне, чаму сышоў з турэмнай мэдыцыны ў цывільную, адказвае: у вольнай лякарні падабаецца больш. Менш псыхалягічнага напружаньня і менш адміністрацыйнага ціску з боку асобаў, далёкіх ад гэтай справы.



У «бальнічку» на Кальварыйскую А. свайго часу пайшоў з матэрыяльнай прычыны: тады там плацілі значна больш, чым на волі. Справамі пацыентаў і тым, што яны нарабілі, ніколі не цікавіўся, бо калі ўдумацца, каго лечыш, лячыць ня зможаш, кажа ён. Праўда, калі прызвычаіўся, зразумеў, што нехта і там павінен працаваць.

*Ад хірурга А.*

**— Калі ў звычайнай лякарні хворы зацікаўлены выпісацца як мага раней, то ў турэмнай — наадварот. У «бальнічцы» яму значна камфортней ды спакайней, чым у турме. Дзеля таго, каб «выехаць» на нейкі час зь ненавіснай зоны, вязьні чаго толькі не глыталі ды ня нюхалі, як толькі ня рэзаліся. На турэмным слэнгу такое наўмыснае членашкодніцтва завецца «мастыркай».**

Лічыцца, што «мастырка» — вынаходніцтва ГУЛАГу. Зэкі сьвядома ішлі на членашкодніцтва, каб ухіліцца ад цяжкіх працаў.

Паводле А., сёньня такіх учынкаў паменела, але ў 1990–2000 гг. яму і калегам нярэдка даводзілася мець справу зь вельмі рызыкоўнымі спробамі ЗК імітаваць сымптомы самых цяжкіх хваробаў. Рэзаць ды «цыраваць» даводзілася шмат.

**— Канкрэтна пра выпадкі членашкодніцтва? Напрыклад, калі звычайную нітку працягвалі паміж зубоў, дзе пасьля ежы заўсёды застаецца нейкі налёт. Потым праколвалі сабе скуру дзе-небудзь на назе або руцэ, а на месца раны прыкладалі тую нітку з зубным налётам. У выніку заражэньне крыві, прычым ня з простых.**

**Яшчэ нюхалі клей так, каб надзьмуць вочы. Таксама нюхалі цукровую пудру, з-за чаго здараўся ацёк лёгкіх. Нехта нават памёр. Удыхалі хлёрку, каб выклікаць унутраны крывацёк у страўніку.**

**Глыталі пакладзеныя ў мякіш хлеба пэўным спосабам зьвязаныя паміж сабой цьвікі. У страўніку хлеб раствараўся. Цьвікі выпрастоўваліся. Такая канструкцыя для паглынаньня звалася словам «ёж». Яго асаблівасьць у тым, што цьвікі ўтыкаліся ў грудную клетку такім чынам, што пратыкалі мяккія тканкі, але ня плеўру. Калі ўсё было зроблена ўмела, то бок лёгкія заставаліся непашкоджанымі, чалавеку нічога не пагражала. Калі не, то ў лепшым выпадку ён рабіўся інвалідам.**

Колішняя мэдычная сястра Рэспубліканскага турэмнага шпіталю Алёна Красоўская (пазьней кіраўніца «Рэгіёну 119») працавала на Кальварыйскай ў 2004–2006 гг. Кажа, што аднойчы падчас яе дзяжурства прывезьлі хлопца зь «яжом» у страўніку. Апэрацыя была цяжкай, цягнулася некалькі гадзінаў, жыцьцё чалавеку, аднак, уратавалі. Потым высьветлілася, што ўчынак для яго быў нечым кшталту «рускай рулеткі». На адчайны крок пайшоў з прычыны вялікіх праблем, якія ўзьніклі зь некім з адміністрацыі калёніі. Наколькі вядома, лягчэй пасьля такога ўчынку, хлопцу на зоне ня стала.

### *Ад былой турэмнай мэдсястры*

Паводле былой турэмнай мэдсястры, найчасьцей ёй даводзілася бачыць «мастыркі», якія не патрабавалі хірургічнага «цыраваньня». У тых выпадках толькі спынялі кроў, накладвалі павязкі, і больш нічога. Калі пераразалі вены ля далоні, то ў якасьці наступстваў былі пашкоджаньне мышцаў і парушэньне рухальнай актыўнасьці.



Таксама на вачах жанчыны здараліся і выпадкі «ўскрыцьця» — імітацыі самагубства. Некаторыя зэкі спрабавалі гэта зрабіць нават у кабінэце працэдурнай сястры. Той пакой, дзе працавала Алёна, быў у калідоры наводшыбе. Карыстаючыся адсутнасьцю аховы, арыштанты «ўскрываліся» менавіта там: каб быў жаночы крык, каб на яго зьбягаліся апэратыўнікі, каб у выніку ўчынак рабіўся як найбольш публічным.

**— Аднойчы адзін зь вязьняў пранёс у кабінэт заточку і разрэзаў сабе жывот так, што адтуль выпалі кішкі, а на падлогу палілася кроў разам з экскрэмэнтамі. Вязьня ўсё ж удалося ўратаваць.**

## Жаночыя хваробы

Напэўна лічыцца, што жанчына за кратамі хварэць не павінна. Бо турэмная лякарня ў Беларусі — гэта выключна мужчынская ўстанова. Жаночыя аддзяленьні тут не прадугледжаныя. У некаторых іншых краінах былога СССР у асобных турэмных шпіталях, кшталту Санкт-Пецярбурскай імя Ф. Гааза, лечаць, праўда ў розных карпусах, і тых, і другіх.

У рамках беларускай пэнітэнцыярнай сыстэмы пэўныя абмежаваньні ў лякарнях ды мэдчастках дзейнічаюць і ў дачыненьні да жанчын, якія там працуюць. Тлумачыцца гэта пытаньнямі бясьпекі.

Скажам, ні мэдсёстрам, ні доктаркам, ні загадчыцам мэдычных частак у мужчынскіх калёніях не дазваляецца самастойна перасоўвацца па тэрыторыі рэжымнай установы. На ўваходзе іх заўсёды павінен сустракаць нехта з супрацоўнікаў-мужчын і суправаджаць да месца прызначэньня. Нават начальніца з пагонамі маёра, калі паспрабуе прабегчы адна, заўсёды атрымае спагнаньне ад адміністрацыі. Усё ў мэтах бясьпекі.

Што тычыцца жанчын-арыштантак, то ў выпадках тэрміновай дапамогі ці неабходнасьці ў плянавым

лячэньні іх пад канвоем дастаўляюць у мэдычныя ўстановы Міністэрства аховы здароўя. Звычайна гэта такія аддзяленьні як «хірургія», «гінэкалёгія», або радзільня.

## Жаночая «мастырка»

Як высьветлілася, на рызыкоўную «мастырку» ідуць і жанчыны. Здараецца такое найчасьцей у СІЗА з тым, каб паўплываць на суд ці на сьледзтва.

Аднойчы на «Свабоду ў турмах» паводле рэкамэндацыі аднаго нашага «актыўнага карэспандэнта» патэлефанавала дэпартаваная з Ангельшчыны беларуска. Яе імя нейкі час нават значылася ў картатэцы Інтэрполу. Маладая асоба пасьпела паведаміць, што «на знак пратэсту супраць дзеяньняў уладаў яна праглынула шмат розных жалезак, і яе хутка маюць павезьці у шпіталь». Аднак перад тым, як трапіць на апэрацыйны стол, яна зьбіралася падзяліцца «важнай інфармацыяй пра злачынствы міліцыянтаў». Паведаміць гэтага яна не пасьпела, сувязь абарвалася.

Пазьней «наш актыўны карэспандэнт» расказваў, што сяброўку выратавалі. Быццам бы абышлося ўсё бяз рэзаньня ды цыраваньня, усё дасталі зондам.

## Радзільня

Выпускніца Гомельскага мэдычнага ўнівэрсытэту Натальля Д. дзесяць гадоў працавала ў адным з радзільных дамоў гэтага абласнога цэнтру. Добра памятае выпадак, калі з калёніі прывезьлі адну парадзіху, і яна як лекарка нэанатоляг-рэаніматоляг «перажыла ўсё, каб толькі выцягнуць яе зь немаўляткам-сыночкам».

Натальля згадвае, што маці было каля трыццаці. Гэта былі яе ці то трэція, ці то чацьвёртыя роды. На сваіх ранейшых дзяцей яна была пазбаўленая матчыных правоў. Яшчэ ў СІЗА, калі ў жанчыны быў маленькі тэрмін, ёй прапанавалі вакуум-экстракцыю плода, паколькі тая была ВІЧ-пазытыўнай ды нарказалежнай. Аднак жанчына адмовілася з прычыны бонусаў, якія магла б атрымліваць у калёніі ў сувязі з нараджэньнем дзіцяці.



### *Ад Натальлі Д.*

**— Усіх такіх парадзіх заўсёды кесараць, каб дзіця не заразілася. Хоць, па вялікім рахунку, рызыка заражэньня ёсьць і бяз гэтага. Напрыклад, кроў маці можа трапіць. Яшчэ гэтым жанчынам забаронена карміць дзіця грудзямі. Пасьля нараджэньня ва ўсіх дзетак абавязкова бяруць аналіз на СНІД, дасьледуюць дзейнасьць розных унутраных органаў.**

**Наколькі памятаю, маці хлопчыка-немаўляці выпісалі на трэці дзень. Увесь час, што яна ўтрымлівалася ў нас, ля яе палаты дзяжурылі дзьве дужыя жанчыны-канваіркі, потым яны павезьлі яе назад у калёнію.**

**Дзякуй Богу дзіцёнку, якога ў інтэнсіўнай тэрапіі палюбілі ўсе ад лекарак да нянек, ВІЧ не перадаўся. Хлопчык прабыў у нас больш за месяц. Праблем было шмат. Цалкам даношанае дзіця, але з надзвычай нізкай вагой, адсутнасьцю якога б там ні было тлушчу, малым ростам. Аналізы паказвалі нізкі ўзровень цукру і бялку ў крыві, што сьведчыла пра дрэнны супраціў арганізму інфэкцыям. Да таго ж, нэўролягі выявілі энцэфаляпатыю. Дзіця кармілі праз кропельніцу ў галаву. Праўдападобна, што падчас цяжарнасьці жанчына не адмаўлялася ад шкодных звычак. Увесь час курыла, а магчыма і ня толькі.**

Пасьля радзільні дзіцёнка выгадоўвалі ўжо ў Доме малюткі. Там, дзе сядзела ягоная маці. Як кажа Натальля, разам з астатнімі калегамі яна малілася, каб жанчыну чарговы раз пазбавілі матчыных правоў, а для малога знайшлася б добрая сям'я

## Гінэкалёгія

Асуджаная Гомельскай калёніі Даша ўзгадвае, што пры ёй хворых жанчын рэдка вывозілі ў шпіталь нягледзячы на скаргі на здароўе. У лепшым выпадку іх зьмяшчалі ў мэдчастцы.

*Ад Дашы Б.*

**— Прынята лічыць, што ўсе асуджаныя — сымулянты, што ў іх па-сапраўднаму нічога ня можа балець. Аднак, бадай, ва ўсіх асуджаных, калі яны сядзелі, былі запаленчыя гінэкалягічныя працэсы. Ня ведаю, як цяпер, аднак пры мне да гінэколяга былі чэргі, з мэдыкамэнтамі наагул былі праблемы. Усё залежала ад таго, ці ёсьць у цябе на волі нехта, хто будзе ўзьдзейнічаць на адміністрацыю. Калі так, то вынік будзе, калі не — то не.**

Паводле Дашы, разам зь ёй у атрадзе сядзела жанчына Валя Крачкоўская. У яе нікога не было на волі. Яна была асуджаная на досыць вялікі тэрмін. Неяк у жанчыны пачаліся болі ў жываце. Яна спрабавала зьвяртацца да лекараў, прасіць кантралёраў, каб звадзілі ў мэдчастку. Але тыя казалі: косіш, каб не ісьці на працу. А калі яе ўсё ж прыводзілі ў мэдчастку, лекары называлі яе сымулянткай.

А Валя з кожным днём усё больш чарнела. У выніку праз пару тыдняў яе ўсё ж забралі у мэдчастку. У адну з начэй яна ад дзікіх боляў разьбівае сабе галаву аб сьцяну. Гэта ўжо невыносныя болі. Яе ўсё ж вязуць



ужо ў гарадзкую бальніцу. Там тэрмінова апэруюць. Паколькі з прычыны застарэлага анкалягічнага працэсу ўсё ўсярэдзіне ўжо прагніла, там, у бальніцы, жанчына і памерла.

**— Былі і такія выпадкі, што нават і не пасьпявалі давезьці да бальніцы. Паміралі ў атрадах, у мэдчастцы.**

## Нежыцьцё

У кожнай беларускай папраўчай установе ёсьць два атрады для хворых. Адзін для пэнсіянэраў і інвалідаў, другі — для сухотнікаў і ВІЧ-інфікаваных. У атрадах шмат тых, хто ня проста хворы, але ляжачы ды нямоглы. Гэтая катэгорыя вязьняў — самая неабароненая, кажа валянтэр арганізацыі па абароне правоў зьняволеных «ТаймАкт» Алег Міхей.

## Інвалідныя атрады

*Ад Алега Міхея*

**— Ня так даўно з-за кратаў вызваліўся чалавек, у якога ў месцах пазбаўленьня волі сеў зрок. Каб не асьлепнуць, яму было патрэбнае апэратыўнае лячэньне ў спэцыялізаванай афтальмалягічнай клініцы. Гэтага лячэньня вязень так і не атрымаў. Выйшаў на волю фактычна сьляпым.**

**Утрымліваецца ў адным з атрадаў, да прыкладу, інвалід першай групы. З усяго цела працуе толькі галава. Не пасадзіць, паводле заканадаўства, яго не маглі — злоснае кампутарнае злачынства з выкраданьнем з банкаўскіх рахункаў вялікіх сумаў і адпаведна пагроза сацыяльнай небясьпецы.**

**Зь іншага боку, адказу на пытаньне, што рабіць за кратамі з такімі, якія, як ён, увесь час ляжаць у**

**ложку, робяць усё пад сябе, а таму апрыёры ня ў стане ўдзельнічаць у папраўчых мерапрыемствах па вяртаньні асобы назад у соцыюм — ніхто ў пэнітэнцыярнай сыстэме ня ведае. Супрацоўнікаў, якія б маглі даглядаць за такімі хворымі, у штаце папраўчых установаў няма.**

**Час ад часу за імі за цыгарэты ды цукеркі глядзяць асуджаныя з касты апушчаных. Дастаўляюць у душ, абы як праціраюць анучкамі. Неабходная зьмена пасьцельнай ды нацельнай бялізны ў такіх выпадках не прадугледжаная.**

Алег Міхей, які апынуўся ў інвалідным атрадзе з прычыны цукроўкі ды псарыязу, кажа, што большасьць асуджаных былі старыя пэнсіянэры сямідзесяці — васьмідзесяці гадоў. Усе яны трапілі за краты паводле арт. 139 — за іх першае і апошняе ў жыцьці забойства. У асноўным забілі па п'янцы жонку, суседа, сабутыльніка.

Біяграфіі дзядоў да зьняволеньня былі цікавыя. Сустракаліся нават героі вайны, якія вызвалялі ад фашызму эўрапейскія краіны. Усіх старых разьмяшчалі ў адной сэкцыі, дзе разам утрымліваліся як здаравейшыя, так і цяжкія інваліды, з саматычнымі ды псыхічнымі захворваньнямі. Заходзіць у тую сэкцыю было немагчыма з-за смуроду, які там стаяў.

За кратамі здаравейшых старых хапала гады на два-тры. Зьяўлялася поўная абыякавасьць да жыцьця, вылязалі ў самых цяжкіх праявах розныя хранічныя захворваньні, імкліва разьвівалася старэчая дэмэнцыя. Паміралі.

Сьмерці сярод такой публікі былі частымі. Хоць, калі ўзгадваць, якімі бадзёрымі тыя вязьні заяжджалі на зону, складалася ўражаньне, што яны запраграмаваныя на больш працяглы век.



## Сьмяротнасьць

Паводле ацэнак кіраўніка «ТаймАкту» Васіля Завадзкага, галоўнымі мэдычнымі праблемамі, якія ў месцах пазбаўленьня волі прыводзяць да лятальных вынікаў, зьяўляюцца: сардэчна-сасудзістыя захворваньні (інфаркт, інсульт, сардэчная недастатковасьць і інш.), анкалёгія ды ВІЧ-інфэкцыя ў спалучэньні з сухотамі.

Калі падчас працы Васіля Завадзкага ў турэмнай мэдыцыне колькасьць сьмерцяў за кратамі была ў два разы ніжэйшая чым на волі (тады каэфіцыент сьмяротнасьці агулам па краіне складаў 13,9 на 1000 насельніцтва), то пасьля 2010 году гэты паказчык узрос нягледзячы на агульны мэдычны прагрэс.

У якасьці прычынаў былы адказны чыноўнік ДВП называе шматгадовую адсутнасьць паўнавартаснай агульнасаматычнай турэмнай лякарні, а таксама рост колькасьці цяжкіх хворых ды скарачэньне долі вызваленых паводле жыцьцёвых паказчыкаў.

### *Ад Сяргея П.*

Былы асуджаны Магілёўскай калёніі № 15 Сяргей П. вызваліўся з-за кратаў на пачатку 2018 году. Адседзеў 18 месяцаў. Кажа, што за гэты кароткі час наглядзеўся таго, што на волі ня ўбачыў бы і за пяць.

Адным зь ягоных прыяцеляў у атрадзе быў Міхаіл Целявяка, які меў праблемы з сэрцам. Неяк позна ўвечары ў прыбіральні асуджанаму зрабілася кепска. Як высьветлілася пазьней, гэта быў інфаркт. Пры падзеньні (падчас страты прытомнасьці) Міхаіл стукнуўся галавой. Яго вынесьлі ў калідор і паклалі на падлогу. Там ён праляжаў да шостай гадзіны раніцы.

Мэдычную дапамогу яму так і не аказалі. Спачатку не было нікога зь лекараў. Потым, калі ён усё ж трапіў

у мэдчастку, прапісаных яму мэдыкамэнтаў на месцы не аказалася. Сказалі: «Будзеш лячыцца тым, што ў нас ёсьць». Тыя лекі, аднак, не дапамагалі. Везьці хворага ў шпіталь ніхто не зьбіраўся. Раніцай стала вядома, што Міхаіл памёр.

Празь нейкі час падобны выпадак здарыўся зь вязьнем Рустамам Адзінаевым. Таксама сэрца, таксама неаказаньне дапамогі.

У канцы году ў 11-м атрадзе памёр зэк, якога ўсе звалі «Прапаршчык». Ён хварэў на дыябэт і сядзеў на інсуліне. Чарговы раз пайшоў па ўкол у мэдчастку. А ў рэжымнай частцы яго не прапусьцілі. Довады пра тое, што ён інсуліназалежны і што яму можа быць кепска — не дапамаглі. Раніцай Васіль убачыў, што яго выносяць мёртвым.

ВІЧ-пазытыўны Ўладзімер Л. утрымліваўся шэсьць гадоў у Івацэвіцкай калёніі № 5. Пасьля вызваленьня зь яе пражыў на свабодзе ўсяго тыдзень. Яго сябар Міхаіл, таксама ў мінулым асуджаны гэтай самай калёніі, згадвае, што «за некалькі дзён да сьмерці вольны лекар-пульманоляг дыягнаставаў у Валодзі сухоты. У турэмнай лякарні гэтай хваробы, аднак, не знайшлі».

### *Ад Міхаіла С.*

**— Апошнія некалькі месяцаў сябар літаральна раставаў на вачох. Ён моцна кашляў, тэмпэратура нярэдка даходзіла да 40 градусаў. Яшчэ малады мужчына ня мог самастойна рухацца, нават у прыбіральню яго даводзілася суправаджаць.**

**Флюараграфіі ды рэнтгены, аднак, быццам бы нічога не паказвалі. Нічога не дало і лячэньне ў бальнічным стацыянары ў Жодзіне, ад этапаваньня ў які хлопцу зрабілася толькі горш. Убачыўшы крытычны стан зьняволенага, мэдычная камісія падрыхтавала ўсе паперы на ўмоўна-датэрміновае.**



Паводле Міхаіла, паперы трэба было проста хутка падпісаць або пракурору, або судзьдзі. Аднак Уладзімера павезьлі ў суд. З калёніі яго выносілі на насілках. У судзе на гэтых насілках яго паклалі на падлогу. Каму была патрэбная прысутнасьць такога хворага, які ледзь размаўляў, яго сябар не разумее. Прыкладна празь месяц яго вызвалілі. З калёніі таксама выносілі на насілках. Праз тыдзень свабоды Валодзя памёр.

Потым ягоная маці расказала Міхаілу, што за некалькі дзён да сьмерці яго паглядзеў спэцыяліст-фтызіятар і сказаў, што ў хворага адкрытая форма сухотаў. Выходзіць, чалавек з такой хваробай не атрымліваў ніякага лячэньня, больш за тое, быў у кантакце зь іншымі.

Міхаіл упэўнены: калі б хворага сябра столькі не мурыжылі, у яго быў бы нейкі шанец. Самае дзіўнае, што турэмныя лекары так і ня ўбачылі сухотаў. А можа і ўбачылі, толькі вырашылі схаваць праўду.

## Без абсьледаваньня і без пратэзаў

Андрэй Чалапа з суседняй з івацэвіцкай «пяцёркай» установы «Воўчыя норы» (цяпер яна перапрафіляваная ў калёнію для наркаманаў) вызваліўся з-за кратаў у 2014-м. Завітаўшы неўзабаве ў менскі карпункт Свабоды, расказаў пра свайго сябра Міхаіла Ўсьпенскага, які паміраў ад раку галаўнога мозгу.

### *Ад Андрэя Чалапы*

Міхаіл, паводле Андрэя, фактычна аказаўся асуджаным на пакутную сьмерць, прычым не законам, а адміністрацыяй. Спачатку, нягледзячы на шматлікія скаргі на цяжкія галаўныя болі, яго адмаўляліся вывозіць у рэспубліканскі турэмны шпіталь. Змаганьне

за права абсьледавацца заняло ў хворага паўгода. Нарэшце яго паказалі спэцыялістам. Тыя сказалі, што хвароба цягнецца ўжо сама меней два гады, працэс запушчаны і штосьці зрабіць немагчыма. Згодна з вэрдыктам, чалавеку заставалася на той момант жыць месяцы тры.

**— Яшчэ адзін хлопец з таго самага атраду — Вадзім Едакоў — меў цяжкую інваліднасьць. У яго адсутнічалі абедзьве рукі. Пратэзаў не было таксама. Абслугоўваць сябе вязень ня мог. Есьці ў сталоўку з дазволу ахоўнікаў прыходзіў раней за ўсіх на некалькі хвілін і «як сабака, сёрбаў ежу зь міскі». У прыбіральні спраўляўся пры дапамозе нагі.**

**Да яго, аднак, выстаўляліся тыя самыя патрабаваньні, што і да здаровых вязьняў. Напрыклад, да яго нярэдка чапляліся за тое, што не прыбраны ложак. Хоць у ягоным выпадку гэта ніяк не магчыма. Гэтага інваліда маглі б пакласьці ў мэдычную частку, дзе яму было б зручней, але адміністрацыя такое прынцыпова не рабіла, хоць вольныя ложкі ў мэдычнай частцы заўсёды былі.**

## Актыраваньне

Прадугледжаная заканадаўчымі нарматывамі магчымасьць датэрмінова вызваліцца паводле стану здароўя або актыраваньня — рэч выключная. Для гэтага стан здароўя сапраўды павінен быць вельмі дрэнным, а хвароба вельмі запушчанай. На справе, калі вязьню і ўдаецца вызваліцца датэрмінова, то здараецца гэта не раней чым за некалькі дзён да сьмерці. Вырашаецца пытаньне на ўзроўні начальніка турэмнай ўстановы і тамтэйшага мэдпэрсаналу.

**— Магчымасьць вызваліцца паводле стану здароўя існуе толькі на паперы. На нейкія паслабленьні ў сувязі са станам здароўя, а таксама на мэдычны дагляд можа разьлічваць толькі той, хто мае добрыя стасункі з адміністрацыяй. Любы мэдычны супрацоўнік, уключна з начальнікам мэдычнай часткі, у поўным падпарадкаваньні ў апэратыўніка.**



Алег згадвае, што ў Бабруйскай калёніі загадчыцай мэдчасткі была дыплямаваная лекарка, маёр Казакова. Яна часта паўтарала зэкам: «Для вас я ў першую чаргу маёр міліцыі і толькі потым лекар». Яна магла без усялякіх пярэчаньняў па ўказе начальніка калёніі накіраваць хворага з тэмпэратурай 40 у ШЫЗА, дзе стаяла вільгаць і было холадна. Нават зімой. Хіба можна назваць гэта мэдыцынай?

## Турэмная стаматалёгія

Што б там ні казалі турэмныя мэдыкі, маўляў, «на зэку ўсё гоіцца хутчэй» — гэта ня тычыцца зубоў. Тыя сыплюцца ва ўсіх пагалоўна.

Турэмная стаматалёгія для абсалютнай большасьці вязьняў так ці інакш абарочваецца сацыяльнай праблемай. Шмат хто пасьля вызваленьня мае патрэбу нават ня столькі ў лячэньні зубоў, колькі ў пратэзаваньні. Пры цяперашніх коштах гэткія паслугі для многіх былых асуджаных становяцца, сапраўды, не па зубах.

Пытаньне ня толькі ў якасьці жыцьця ды ў эстэтыцы, а ў вяртаньні назад у соцыюм. На якое вяртаньне, кажуць былыя вязьні, можа разьлічваць чалавек, калі ў ягоным роце засталося два ці тры зубы? Якія варыянты ёсьць, каб працаўладкавацца?

### *Ад Віктара Д.*

Былому асуджанаму Віктару крыху за трыццаць. Калі размаўляе, стараецца не ўсьміхацца. Тыя нямно-

гія зубы, якія засталіся, здаровымі не назавеш. Колькі будзе каштаваць прывядзеньне рота ў парадак, нават не ўяўляе.

Паводле Віктара, зубы ў турме страціў, хоць і чысьціў іх рэгулярна. Да гэтага яго прывучылі з малых гадоў у бацькоўскай сям'і. Пра многіх іншых зэкаў такога сказаць ня можа. Невыносны пах з рота характэрны для многіх сядзельцаў. Аднак для захаваньня здаровых зубоў адной уласнай гігіены мала, патрэбны яшчэ і прафіляктычны дагляд лекара, найменей раз на год. Істотную ролю адыгрывае харчаваньне зь неабходнымі вітамінамі ды мікраэлемэнтамі.

Турму зь яе ежай ды нядобрасумленнымі стаматолягамі Віктар лічыць сапраўднымі «забойцамі» зубоў:

**— Вітамінаў у турэмнай ежы не хапае катастрафічна. Сьвежай гародніны ды садавіны ўвогуле не даюць. Што да часныку ды цыбулі, то ня памятаю, каб гэта давалася ў турмах. У ПК, аднак, падчас сэзоннага збору ўраджаю цыбуля ды часнык бываюць.**

**Што да стаматалёгіі, то калі б яна была платнай, яе паслугі былі б больш якаснымі. Я б да платнага стаматоляга пайшоў, калі б гэта былі расцэнкі нашых дзяржаўных паліклінік. Хаця для многіх зэкаў і гэтыя расцэнкі недаступныя.**

Колішні палітвязень, вэтэран МУС Сяргей Парсюкевіч канстатуе: мужчын са здаровымі зубамі пасьля трыццаці — сарака гадоў там ня знойдзеш.

**— Зубы сыплюцца практычна ва ўсіх. У той ежы, якую даюць, — ні вітамінаў, ні мінэралаў. Лячыць іх ніхто асабліва не прапаноўвае. Усё лячэньне — нейкая «ўнівэрсальная» таблетка, якая і ад галавы, і ад жывата, і ад краснухі, і ад нагі, і ад зубоў, і ад усяго астатняга. Стаматалягічная дапамога абмяжоўваецца выдаленьнем. Але гэта ня значыць, што такую працэдуру заўсёды робяць зубныя лекары.**



## «Хірургі»

Міхаіл Савасьцюк адбываў пакараньне ў івацэвіцкай ПК-5. Займаў там пасаду старшыні савету атраду, а гэта значыць — у параўнаньні зь іншымі ЗК меў шэраг прывілеяў. Напрыклад, мог свабодна рухацца па зоне. У абавязкі Міхаіла ўваходзіла і суправаджэньне вязьняў у мэдчастку. Міхаіл сьцьвярджае, што аднаго хворага да стаматоляга весьці забаранялася:

### *Ад зэкаў*

**— Трапіць да лекаркі-стаматоляга, нават у выпадку тэрміновай дапамогі, асуджаны мог толькі тады, калі, акрамя яго, зубы балелі яшчэ ў некалькіх чалавек у атрадзе. Аднаго хворага да доктаркі не пускалі.**

**Усё, што магла прапанаваць тая стаматоляг, дык гэта вырваць зуб. Калі чалавек курчыўся ад болю, яна ў рэзкай форме казала яму: «А што я магу тут вам зрабіць?!» Калі ЗК дазваляў сабе зь ёй не пагаджацца і прасіў паспрабаваць захаваць зуб, яна выклікала нарад, і чалавек у выніку трапляў у ШЫЗА. Але зубны боль ад гэтага не сьціхаў. Даводзілася неяк самастойна пазбаўляцца ад хворага зуба.**

«Мэтадаў» такога самастойнага выдаленьня зубоў нямала. Адзін з былых сядзельцаў калёніі, што на поўдні краіны, Іван узгадваў, як з прычыны адсутнасьці лекара яму выдаляў хворы зуб санітар, які працаваў у мэдчастцы:

**— Працэдура рабілася з двума перакурамі. «Хірург» быў увесь у поце, а я — у крыві. Думаў, што не дажыву да канца апэрацыі, нават бачыў арханёлаў. Больш у свой рот нікога не дапускаў. Зубны боль навучыўся цярпець. За час адседкі зубы пачалі мякчэць ды вывальвацца.**

Паводле Ўладзімера С., які адседзеў за кратамі тры гады, у іх калёніі зубная лекарка ўвесь час была ў дэкрэце. Сярод мэтадаў самадзейнага стаматалягічнага лячэньня, якія ён назіраў на свае вочы, былі: выдаленьне хворага зуба з дапамогай пасатыжаў, лыжкі і проста кулаком.

**— На просьбу хворага нехта зь іншых зэкаў з усёй сілай біў па запаленым зубе кулаком, каб той выскачыў, альбо цягнуў пасатыжамі, якія выносілі з «промкі». Некаторыя выбівалі зубы лыжкай. Хворы пагаджаўся на любыя ўмовы, каб пазбавіцца ад невыноснага болю. Зубны боль — гэта самае страшнае з таго, што перажываеш у няволі.**

## З дапамогай усходняй мэдыцыны

Былы палітзьняволены Аляксандар Круты — бацька пацярпелай ад тэракту ў менскім мэтро Інэсы Крутой — разам з дачкой цяпер жыве ў Чэхіі. У 2011 годзе на працэсе ў справе Канавалава-Кавалёва ён выказваў нязгоду з афіцыйнай вэрсіяй сьледзтва. Скончылася тым, што яго прызналі непрытомным і рашэньнем суду прымусова зьмясьцілі на лячэньне ў псыхіятрычную клініку ў «Навінкі».

Аднак, як згадвае Аляксандар, нягледзячы на тое, што ён знаходзіўся нібыта ў мэдычнай установе, стаматалягічнай дапамогі там яму ніхто не аказваў.



### *Ад Аляксандра Крутога*

**— Пасьля ўтрыманьня ў «Навінках» ды ў СІЗА на Валадарскага ў мяне засталося сем зубоў. У «Навінках» я рэгулярна хадзіў да стаматоляга і ўвесь час прасіў: «Ну хоць вырвіце мне зуб». У адказ чуў: «Вось калі выйдзеце на волю, там і лячыце. Самі мы ня маем ліцэнзіі на выдаленьне зубоў, а зь іншымі клінікамі мы дамовы ня маем».**

У тым 2012 годзе, працягваў Аляксандар, «Белмэдтэхніка» нібыта не паставіла ў вар'ятню ніякіх расходных матэрыялаў. Вось так, на нагах, мужчына «пераносіў» пульпіты, запаленьні... Раней, у 2011-м, калі яго толькі пасадзілі на экспэртызу ў спэцыяльнае 30-е аддзяленьне «Навінак», у Аляксандра Крутога здарыўся флюс, і яго завезьлі ў вольную паліклініку пры Беларускай чыгунцы. Завезьлі ў кайданках, гэтаксама ў кайданках вырывалі зуб, ставілі дрэнаж, і потым у «Навінках» яго зьнялі. Усё лячэньне. Больш за год без аказаньня стаматалягічнай дапамогі. У мэдычнай установе.

Паводле Аляксандра Крутога, уратавала яго тое, што ён шмат гадоў цікавіўся нетрадыцыйнай усходняй мэдыцынай — тыбэцкай, кітайскай, арабскай. Ужо на «Валадарцы», куды яго даставілі пасьля экспэртызы ў «Навінках», ён у самых розных камэрах, у тым ліку і для пажыцьцёвых, сам лячыў людзей, і ад зубнога болю таксама.

Галоўнае было найперш зьняць болевы сымптом. Бо і самі зубныя нэрвы падаюць сыгналы ў розныя ўчасткі галаўнога мозгу, і суседнія зь імі нэрвовыя клеткі таксама адгукаюцца на боль і, у сваю чаргу, перадаюць сыгналы ў іншыя органы, расказвае Аляксандар.

## Па той бок ад ДВП

Былы начальнік мэдслужбы ДВП Васіль Завадзкі кажа, што толькі ў зьняволеньні зразумеў, што такое хворы зуб за кратамі.

**— Зуб пачаў балець падчас сьледзтва ў СІЗА КДБ. Калі боль зрабіўся зусім нясьцерпны, мяне адвезьлі ў ведамасную паліклініку камітэту. Лячылі спэцыфічна, бо боль працягваўся. Пасьля вызваленьня (дзякуй Богу, быў у зьняволеньні нядоўга) прыйшоў ўжо да вольнага стаматоляга. Дык той, ускрыўшы зуб, аж абурыўся: лекары ў пагонах проста паклалі пломбу, ня пралячыўшы зуб.**

Адносна стаматалягічнай дапамогі на Кальварыйскай такіх нараканьняў, прынамсі, ад тых з кім ён разам сядзеў, Васіль Завадзкі ня чуў. Але, тым ня менш, за кратамі яму шмат чаго нядобрага распавялі пра турэмную мэдычную сыстэму, якой ён кіраваў.

**— Менавіта пра чалавечае стаўленьне лекара да пацыента. Гэта тое, чаму цяжка навучыць і немагчыма загадаць. Напрыклад, прывозяць у «бальнічку» зьняволенага, а лекар яго сустракае такой лаянкай... Ну што гэта? Гэта профнепрыдатнасьць. Проста такіх нельга дапускаць працаваць з хворымі. Любымі.**

# ЗОНА ХВАРОБ: ТУРЭМНАЯ ПСЫХІЯТРЫЯ

**Нават у здаровага чалавека зона можа падарваць псыхіку. Што ўжо казаць пра тых, хто трапляе за краты з душэўнымі хваробамі.**

Кіраўнік «ТаймАкту», дыплямаваны лекар-псыхіятар Васіль Завадзкі называе псыхічныя разлады адной з галоўных праблемаў стану здароўя вязьняў. Апошнім часам колькасьць асобаў з такімі праблемамі ўзрасла за кошт хворых на алькагалізм, а таксама нарказалежных.

У прынцыпе, лічыць Васіль Завадзкі, любое злачынства, тым больш асабліва цяжкае, трэба разглядаць з гледзішча асаблівасьці псыхікі таго, хто яго ўчыніў.

## Судова-псыхіятрычная экспэртыза

17-гадовы на момант здарэньня мянчук Улад, вядомы з крымінальнай хронікі як «хлопец з бэнзапілой», у адзін з выходных учыніў крывавую бойню ў менскім гандлёвым цэнтры. У выніку з асаблівай жорсткасьцю была забітая адна жанчына, параненая другая. На судзе, які прызнаў хлопца адэкватным і прызначыў яму як непаўналетняму пятнаццаць гадоў калёніі, той з жалем сказаў: «Як мала я забіў», — і паабяцаў, што калі выйдзе на волю, то і далей будзе забіваць.

За год знаходжаньня ў калёніі хлопец шэсьць разоў сядзеў у ШЫЗА. Падчас адной з прагуляк, выцягнуў схаваны ў рукаве нож і напаў на двух кантралёраў. Сьледчыя высьветлілі, што малады чалавек распрацаваў плян, каб забіць начальніка турмы і такім чынам адпомсьціць яму за дысцыплінарныя пакараньні. За напад на турэмных кантралёраў хлопцу пагражае дваццаць пяць гадоў або пажыцьцёвае.



Калі б на момант злачынства хлопцу споўнілася 18, то, сыходзячы зь беларускіх законаў, яго хутчэй за ўсё асудзілі б на расстрэл. Паводле ацэнак судова-псыхіятрычнай экспэртызы ён учыняў свае злачынства пры сьвядомасьці.

### *Ад псыхіятра*

У практыцы псыхіятра Васіля Завадзкага былі выпадкі, калі хворыя на розныя псыхіятрычныя захворваньні, тым ня менш, прызнаваліся здаровымі:

— **Наяўнасьць гэткіх захворваньняў яшчэ не азначае неадэкватных дзеяньняў падчас злачынства. Што асабіста ў мяне выклікала пытаньні ў справе «хлопца з бэнзапілой» (ягоныя бацькі зьвярталіся да праваабаронцаў — аўт.), дык гэта праца судова-псыхіятрычных экспэртаў. З майго гледзішча, зыходзячы з той інфармацыі, якую мы маем, падлетак мусіў быць прызнаны вар'ятам. Але ж ацэнкі экспэртаў зробленыя хутчэй на бытавым, чым на прафэсійным узроўні.**

**Экспэрты абапіраюцца на высновы, якія зробленыя сьледзтвам. Але ж у іх ніхто не пытаецца, вінаваты чалавек ці не. Як на маю думку, дык хлопца трэба лячыць у турэмнай псыхіятрыі. Хоць калі сыходзіць з нашых рэаліяў, то з гледзішча захаваньня асобы трапіць у калёнію ўсё ж лепш, чым у турэмную вар'ятню.**

## «Дысацыятыўнае расстройства асобы»

У справе асуджанага на 25 гадоў Міколы С., пра якую расказала «Свабодзе ў турмах» кіраўніца «Рэгіёну119» Алёна Красоўская, стаіць заключэньне: «дысацыя-

тыўнае расстройства асобы». Гэта калі ў чалавека назіраюцца ігнараваньне розных сацыяльных нормаў, уласнай ды чужой бясьпекі, схільнасьць да падману ды маніпуляваньня іншымі людзьмі, няздольнасьць раскайвацца і адначаснае задавальненьне ад сваіх асацыяльных, амаральных ды неэтычных паводзінаў.

Асуджаных з такім заключэньнем далёка не адзінкі. Уражвае ня столькі надзвычайная жорсткасьць іх асобы, колькі ўстойлівая ўпэўненасьць, што менавіта ахвяра сама вінаватая ў тым, што зь ёй здарылася.

30-гадовы Мікола С. адседзеў за кратамі амаль палову жыцьця. Яго арыштавалі неўзабаве пасьля вызваленьня зь дзіцячай калёніі, дзе ён адбываў двухгадовы тэрмін за хуліганства. Выйшаўшы на волю, хлопец пайшоў адзначаць падзею ў бар, а потым на дыскатэку. Падчас танцаў займеў віды на адну дзяўчыну, але тая адмовіла яму ва ўзаемнасьці. Хлопец выйшаў за ёй на вуліцу, дзесьці ў кустах паваліў, пачаў гвалтаваць, адчуўшы яе супраціўленьне, забіў ударамі нажа і, як паказала пазьней экспэртыза, гвалтаваў ужо мёртвую.

Паводле Алёны Красоўскай, ён не раскаяўся.

### *Ад праваабаронцы*

**— Як і дванаццаць гадоў таму, Мікола па-ранейшаму лічыць, што зрабіў усё правільна. Маўляў, ня мела яна права адмовіць яму, такому «крутому». Ніякага раскаяньня за ўчыненае, ніякіх спробаў папрасіць прабачэньня ў бацькоў забітай...**

**Яго не прызналі неадэкватным, не накіравалі ў вар'ятню. Як ні дзіўна, але жыцьцё з такім артыкулам у зьняволеньні склалася найлепшым чынам. Асуджаны ня мае канфліктаў ні зь вязьнямі, ні з адміністрацыяй. Добра працуе. Прычым на ня самых нізкіх турэмных пасадах.**

**За час адседкі Мікола зрабіўся вельмі рэлігійным. Ня так даўно ён ажаніўся па перапісцы. Жонка яму дасталася добрая. Тэарэтычна, калі ён захоча стаць нармальным чалавекам, то база для гэтага ў яго ёсьць. Нейкіх аптымістычных прагнозаў адносна таго, што можа стацца зь ім далей, ніхто даць ня можа. Увогуле на зьняволеных з «дысацыятыўным расстройствам асобы» зьвяртаюць увагу тады, калі хваравітыя асаблівасьці іх псыхікі праяўляюцца на поўную моц.**



## Адэкватныя «чыкацілы»

Кандыдат псыхалягічных навук Аляксандар Прудзіла, які доўгі час працаваў на катэдры экспэрымэнтальнай і прыкладной псыхалёгіі Горадзенскага ўнівэрсытэту, можа толькі на падставе крымінальных здарэньняў на ягонай роднай Горадзеншчыне расказаць нямала гісторый, калі выканаўцаў самых нялюдзкіх забойстваў без выразных матываў ды мэтаў прызнавалі «псыхічна нармальнымі». Большасьці прысудзілі расстрэл, толькі адзінкам удалося яго пазьбегнуць.

### *Ад псыхоляга*

Паводле Аляксандра Прудзілы, садызм «адэкватных» мясцовых «чыкацілаў», «чысьцільшчыкаў», іншых злачынцаў такога самага кшталту ідзе ад комплексу непаўнавартасьці, які ў свой час апісаў аўстрыйскі псыхааналітык Альфрэд Адлер.

**— Ва ўсіх нас ёсьць пачуцьцё непаўнавартасьці, мы зь ім нараджаемся. Але калі яго замацаваць, пастаянна казаць: ты дурны, ты крывы — то тады пачуцьцё непаўнавартасьці любога чалавека можа перарасьці ў комплекс. А комплекс — гэта ўжо фактычна нэўратычны стан, які кампэнсуецца толькі комплексам перавагі. Якім чынам — ня-**

**важна. Або гэта будзе такі ціхі «чыкаціла», або іншыя прыдуркі. Ну вось чаму той студэнт, які забіў жонку зь яе каханкам, потым насіў у торбе яго галаву? Таму што гэтая галава была разумнейшая, ён так лічыў.**

Больш за дваццаць пяць гадоў таму вядомы савецкі і расейскі псыхіятар, які першы «вылічыў» Чыкацілу, Аляксандар Буханоўскі (1944–2013) прадказаў цяперашні ўсплёск садызму на постсавецкай прасторы сярод народжаных у 1990-я ды пазьней. На думку навукоўца, разьвязаць праблему барацьбы з сэрыйнымі злачынцамі-маньякамі ды іншымі псыхапатамі шляхам расстрэлу ці пажыцьцёвай турэмнай ізаляцыі немагчыма.

Дасьледуючы псыхіку злачынцаў, якія адзначаліся надзвычайнай жорсткасьцю, у тым ліку такіх, як Чыкаціла, лекар вылучыў некалькі фактараў, якія прыводзяць да расстройства асобы. Гэта магчымыя генэтычныя пашкоджаньні ды родавыя траўмы, слабая сэксуальная канстытуцыя ды, безумоўна, уплыў сям'і.

Паводле прафэсара Буханоўскага, «розныя кшталту вычварэнствы — гэта ня толькі праблема крыміналістаў ці псыхатэрапэўтаў. Гэта сыгнал аб хваробе сям'і ды грамадзтва ў цэлым. Пра нашчадкаў яшчэ загадзя павінны клапаціцца бабулі і дзядулі. Ім трэба гарманічна выхоўваць уласных дзяцей — бацькоў сваіх унукаў, аддаваць ім дастаткова ўвагі, гадаваць іх у любові, вучыць будаваць адносіны зь людзьмі. А гэтага ў многіх сем'ях няма».

«Сваіх» вязьняў прафэсар лічыў глыбока хворымі людзьмі, рэкамэндаваў прызнаваць іх «абмежавана адэкватнымі» і ў якасьці прысуду прызначаць прымусовае лячэньне ва ўмовах зьняволеньня. Паводле яго, такіх людзей трэба лячыць за дзяржаўны кошт і ўсё жыцьцё, як хворых на дыябэт. Тут ня толькі мэдыкамэнты, але і дакладная дыягностыка з дасьледаваньнямі мозгу, розныя кшталту псыхатэрапія, уключна з працоўнай, сацыяльная адаптацыя хворых.

Незадоўга перад сьмерцю Буханоўскаму ўдалося распрацаваць тэорыю выяўленьня псыхапатаў ды маньякаў на раньніх стадыях захворваньня, а таксама спосабы карэкцыі іхніх паводзін, часам вельмі істотнай, каб яны маглі мець сувязь з соцыюмам. Працы растоўскага прафэсара аказаліся больш запатрабаваныя на Захадзе, чым на бацькаўшчыне. Свайго часу яго запрасілі ў ЗША па лініі ФБР як экспэрта пры распрацоўцы закону аб сэрыйных забойствах.

## «Рэкамэндаваны расстрэл»

Чаму з абсалютнай большасьці экспэртызаў вынікае, што відавочна неадэкватныя злачынцы ўчынялі свае забойствы ў стане псыхічнага здароўя, як кажуць, пры поўнай памяці? Спэцыялісты спасылаюцца на спэцыфічную прафэсійную клясыфікацыю.

А на ўмовах ананімнасьці кажуць, што яшчэ ад савецкіх часоў існуе ўнутраны дакумэнт закрытага карыстаньня для судзьдзяў. У ім рэкамэндуецца, асабліва ў «рэзанансных» выпадках, выносіць гэткім абвінавачаным (пры наяўнасьці доказаў) самыя суровыя з магчымых прысудаў. То бок прызнаваць іх «псыхічна нармальнымі» і прысуджаць ім расстрэл або, у скрайнім выпадку, пажыцьцёвае зьняволеньне.

Мэта — ня выклікаць масавай незадаволенасьці сярод насельніцтва, не «падаграваць» розныя пратэставыя настроі супраць сьмяротнага пакараньня.

## Неадэкватныя

Тым ня менш экспэрты часам усё ж прызнаюць злачынцаў «неадэкватнымі». У двух-трох выпадках з сотні.

Адзін з такіх выпадкаў — калі менскі бізнэсовец пратараніў на сваёй машыне пяць аўтамабіляў, у выніку

чаго загінула сямейная пара, а незадоўга да таго нанёс некалькі нажавых раненьняў жонцы і двум сваім дзецям. Суд прызнаў, што злачынствы былі ўчыненыя «бяз памяці», абвінавачанага вызвалілі ад крымінальнай адказнасьці і накіравалі на прымусовае лячэньне ў «Навінкі». Некаторыя былыя сукамэрнікі, якія сядзелі разам зь ім у СІЗА, казалі пра «сымуляванае вар'яцтва» ды пра нечае заступніцтва.

*Ад Аляксандра Крутога*

Былы мянчук Аляксандар Круты расказвае, што ў чаканьні суду ў СІЗА вымушаны быў сядзець у камэры разам з забойцамі. Тыя, паводле яго, мелі відавочныя псыхічныя праблемы, аднак бясьпека арыштантаў мала каго хвалявала:

**— Здараліся розныя інцыдэнты. Некаму нават горла парэзалі. Гэта было ў Жодзіне, падчас першай адседкі. Другі раз, ужо на «Валадарцы», мне ўдалося спыніць адзін небясьпечны выпадак. Таксама ўвесь час даводзілася пільнаваць. З прычыны аднаго суседзтва нават ня спаў шэсьць сутак. Тады ў СІЗА я правёў сем месяцаў.**

Паводле Аляксандра, дзейнае заканадаўства адносна адмены прымусовага лячэньня (арт. 102 і 103) дае нямала розных «шчылін», каб вычварэнцы ў няволі доўга не заставаліся. Узгадаць гучны працэс пэдафілаў, чыімі ахвярамі, як пішуць, сталі тысячы хлопчыкаў ва ўзросьце адзінаццаці — чатырнаццаці гадоў. Аднаго з двух галоўных абвінавачаных асудзілі на сямнаццаць гадоў, а другога прызналі псыхічна хворым. Хоць менавіта той другі распрацоўваў схемы, каб заваблівць дзяцей у сеткі вычварэнцаў.

Вэрдыкт суду і псыхіятрычнай камісіі стаў нечаканым для многіх юрыстаў, якія мелі дачыненьне да



справы. Ня кажучы ўжо пра сукамэрнікаў абвінавачанага ў СІЗА. Усе казалі пра ягоную ясную памяць ды выдатныя акторскія здольнасьці.

**— Зацікаўленыя асобы ды грошы ў такіх справах вырашаюць усё, а бясьпека грамадзтва нікога не хвалюе. Зь іншага боку, на прымусовае лячэньне могуць накіраваць звычайнага і зусім ня хворага хулігана. У 9-м аддзяленьні «Навінак» быў чалавек, якога кінулі ў вар'ятню на прымусовае лячэньне за тое, што ён, без прыкметаў гвалту, проста словамі ды непадпарадкаваньнем адстойваў свае правы. Праз некалькі дзён, пасьля таго як яго «пракалолі» галапэрыдолам, ён зрабіўся ніякі, яго калаціла, як пры Паркінсане.**

*Ад Лявона В.*

Асуджаны на працяглае турэмнае зьняволеньне Лявон В. кажа, што за шмат гадоў за кратамі бачыў нямала «хворых на галаву», асуджаных за жорсткія злачынствы:

**— Зэкі ня любяць псыхапатаў. Яны псуюць людзям нэрвы. Але шмат хто, напэўна дзеля боязі, імкнецца паводзіць сябе ціха, прыстойна. Тады яны сядзяць разам з усімі. Калі ж хто заікнецца пра сваё нейкае, скажам, людажэрскае жаданьне, то яго паб'юць ды адсадзяць куды далей. Усё ж хворых на галаву нельга прызнаваць нармальнымі. Ім дакладна ў вар'ятню трэба.**

## Абмежавана адэкватныя

«Калі працаваць з такімі людзьмі, то яны могуць абмінуць крымінал», — перакананы вядучы амэрыканскі навуковец-нэўроляг Кент Кіль (Kent A. Kiehl), дасьлед-

нік мозгу вязьняў-сацыяпатаў, якія ўтрымліваюцца ў турмах штату Нью-Мэксыка. На яго думку, праблема ў тым, што хворыя сацыяпаты ды псыхапаты рэдка загадзя трапляюць у клінікі, бо важныя для шпіталізацыі парамэтры псыхічнага здароўя ў такіх людзей могуць быць у межах нормы.

Доктар Кіль распрацаваў шэраг рэкамэндацыяў, як абыходзіцца з такімі асобамі ў пэрыяд зьняволеньня. Напрыклад, адна з парадаў — паводзіцца зь вязьнямі-сацыяпатамі як зь людзьмі, якія маюць нізкі IQ. Бо нават ведаючы, што дзейнічаюць няправільна, яны ня ў стане спыніць сваёй цягі да гвалту.

## Суіцыды за кратамі

Турэмны псыхоляг Віталь больш за дзесяць гадоў працуе ў адной з папраўчых установаў Беларусі, да таго ж вядзе спэцкурс ва ўнівэрсытэце. Кажа, што сёньня ў калёніях да самагубства схільны прыблізна кожны пятнаццаты. Але, удакладняе ён, гэта тычыцца тых, хто паводле розных крытэраў пастаўлены на прафіляктычны ўлік. Калі ж чалавек на ўлік не пастаўлены, то ён лічыцца псыхічна нармальным. Але такія вызначэньні вельмі ўмоўныя.

Як лічыць Віталь, думка пра самагубства прыходзіць практычна да любога, хто трапіў за краты ўпершыню. Гэта чакана, бо чалавек, перабіраючы ў галаве спосабы выхаду з жыцьцёвага тупіку, у якім ён апынуўся, задумваецца і пра крайні варыянт — суіцыд.

## Думкі пра сьмерць

У турэмным дзёньніку былога палітвязьня, дасьледніка Пішчалаўскага замку Зьмітра Дразда («Бунт батанікаў») чытаем пра дэпрэсіўны стан, суіцыдальны настрой, адчуваньне поўнай безнадзейнасьці, якія ахапілі яго ў першыя месяцы знаходжаньня на «Валадарцы».



*Ад Зьмітра Дразда*

**—Дзень быў ня самы дрэнны, але ўсё роўна мне складана пазбавіцца ад думак пра сьмерць — я ня ведаю, ці змагу ўсё гэта вынесьці.**

**Мне прыходзіцца пісаць маме і сябрам, што я трымаюся, што ўсё вытрымаю, але кожны дзень мне робіцца ўсё больш і больш складана. Турма прыпала і без таго на адзін з самых цяжкіх пэрыядаў у маім жыцьці: хутка будзе ўжо два гады, як я зьехаў з Масквы, ад кастрычніка не было ніякіх адносін з жанчынамі, нават намёку на адносіны. Дома праблемы зь сястрой і яе мужам. Сьлёзы мамы, немагчымасьць нікуды зьехаць, нешта зьмяніць...**

**А што будзе далей? Бяз волі, без паветра — я ўпэўнены, што вясна і так самая суіцыдальная пара на зоне. Складана ўсё гэта, але, напэўна, павінна быць нейкае жыцьцё, куды б ты хацеў вярнуцца, а мне вяртацца няма куды. Няма да каго. Адна толькі мама чакае мяне, але ёй значна лепш цяпер у бытавым пляне — у маім пакоі. Прынамсі, ім ня так цесна, а яшчэ падрастаюць пляменьнікі — ім таксама трэба месца. У рэшце рэшт, нам усім абсалютна ня будзе дзе жыць — і я нічога не магу зьмяніць. Што будзе, калі мне давядзецца сядзець годдва? Я выйду хворым і нікому акрамя мамы не патрэбным. Я вельмі сумняваюся, што знайду ў сабе сілы і далей пісаць кнігі, жыць у гэтай краіне. А зьехаць куды?**

## Асаблівая група рызыкі

Як кажа турэмны псыхоляг Віталь, дэпрэсія за кратамі — самы верны спадарожнік суіцыдальных паводзін. Чалавек ня бачыць ніякага прасьвету ў жыцьці. Да таго ж атмасфэра цеснай камэры, парушэньні сну, страта ўласьцівай раней энэргіі, празьмерная самакрытычнасьць або пастаяннае пачуцьцё віны. Чалавек «стамляецца жыць». Асаблівая група рызыкі — дэпрэсіўныя інтравэрты, якія ўсё носяць у сабе.

### *Ад турэмнага псыхоляга*

**— Бывае нармальны-нармальны, а раптам атрымае ліст з дому, дзе жонка ад яго адмаўляецца, і ўсё. Для арыштантаў-сядзельцаў страціць нешта на волі, згубіць апошнюю нітачку — гэта ўсё, катастрофа. Пралічыць адхіленьні нельга. Адмысловага кантролю за іхнімі дзеяньнямі мы ўсталяваць ня можам.**

**Чалавек прыходзіць у калёнію, у атрад, ужо ў статусе асуджанага. Атрад — гэта 100–150 чалавек. Там толькі адзін начальнік атраду, найчасьцей ня вельмі ў гэтых пытаньнях дасьведчаны. А кожны самагубца да свайго ўчынку грунтоўна рыхтуецца. Робіцца ўсё так, каб ніхто перашкодзіць ня змог. Спосабы — самыя розныя. Напрыклад, уначы пад коўдрай, калі ўсе сьпяць.**

**Памятаю такі выпадак, калі я праходзіў стажыроўку на курсах псыхолягаў. Месяц вучысься — месяц практыка. Прыяжджаю — вешаецца адзін. Зьяжджаю — вешаецца другі. Лежачы на нарах. Спачатку зробяць пяцельку, якую чапляюць за ложак, і так задушваюцца. Калі раніцай усе прачынаюцца, то бачаць, што ён ужо задушыўся. Абодва былі залежныя ад гульняў, прайграліся ў карты і не змаглі разьлічыцца. Хоць карты за кратамі строга забароненыя. Увогуле прычыны скончыць жыцьцё ў асуджаных самыя розныя.**



Віталь прыводзіць і такі выпадак — зэк працаваў так званым «агентам» у адміністрацыі. Не сакрэт, што для падтрымкі правапарадку адміністрацыя мае сярод зьняволеных сваіх «агентаў». У выпадку выкрыцьця гэты чалавек трапляе ў самую ненавісную катэгорыю зьняволеных. Як правіла, або сам чалавек сябе забівае, або яго забіваюць іншыя, а потым выдаюць гэта за суіцыд.

І, нарэшце, прычынай самагубства зьняволенага можа стаць сама адміністрацыя турмы. Натуральна, ускосна. Наўпрост зьняволенага ніхто не прымусіць лезьці ў пятлю.

## «Замах на жыцьцё — справа звыклая»

Былы палітвязень Ігар Аліневіч кажа, што час ад часу перад яго вачыма паўстае выпадак, які здарыўся ў калёніі «Віцьба» літаральна за пару месяцаў да яго вызваленьня.

### *Ад Ігара Аліневіча*

**— Хлопец з майго атраду зьбіраўся на доўгае спатканьне з маці. Але ўзьніклі нейкія праблемы. Ён вельмі хацеў маме патэлефанаваць, але ня меў карткі. У яго быў прафіляктычны ўлік: суіцыд. Псыхолягі яго прызналі схільным да самагубства. А начальнік атраду званок яму не зрабіў. Хлопец прыйшоў на прамзону і застаўся там увечары. Паціхеньку зайшоў у закутак і задушыўся дротам.**

І нікому нічога не было, ніякага спагнаньня, кажа Ігар Аліневіч: «Усім пляваць, насамрэч». Для адміністрацыі гэта проста непрыемнасьць, ня больш.

Палітвязень згадвае выпадак, які адбыўся ў Наваполацку, у калёніі № 10, дзе ён сядзеў да «Віцьбы». Цяпер тая ўстанова перапрафіляваная ў ЛТП.

**— Там хлопец таксама павесіўся. Прыбег апэратыўнік: вой, ё-маё! Колькі ж мне цяпер папяровай работы будзе! Ён падумаў у першую чаргу, што яму цяпер давядзецца бегаць з дакумэнтамі, а не займацца нейкімі больш прыемнымі яму рэчамі. Вось такое стаўленьне. Нічога не каштуе чалавек у зоне, у гэтай краіне. Замах на жыцьцё за кратамі — справа звыклая.**

У тым самым Наваполацку на працягу 2012 году самагубства ўчынілі тры чалавекі. Хтосьці павесіўся, знаходзячыся ў ПКТ, гэта ўнутраная турма ў зоне. За месяц да вызваленьня. Хтосьці, можа, асэнсаваў свой вялікі тэрмін — больш за дзесяць гадоў — і ня змог зьмірыцца з тым, што яму і надалей год за годам належыць гніць у гэтым лягеры безь ніякіх зьменаў, і вырашыў так скончыць свой тэрмін. Нехта разьбіў кавалак шкла і вострым — у кадык. Такое бывае.

## Форма барацьбы

У мінулым двойчы палітвязень Мікола Аўтуховіч узгадвае, як быў сьведкам спробы самагубства ў Івацэвіцкай калёніі. Пачалася яна быццам бы з драбязы. Кантралёры не перадалі вязьню слоік з малінавым варэньнем ад прастуды, які даслалі яму ў калёнію сямейнікі. Рэжымнік матываваў гэта тым, што зэк будзе гнаць з варэньня брагу. А тым часам іншыя варэньне атрымлівалі.



*Ад Міколы Аўтуховіча*

**— Спроба асуджанага трапіць на прыём да начальства аказалася беспасьпяховай. Мужчына хадзіў, перажываў, а потым недзе ўвечары ўзяў абліў сябе нейкім растваральнікам і падпаліўся. Абгарэў недзе на 80%, яго забрала хуткая. А там быў афіцэр, намесьнік начальніка, дык ён напачатку нават забараніў выклікаць хуткую. Аднак дзяжурны маёр не пагадзіўся, сказаў, што чалавек можа хутка памерці. Хуткую ўсё ж выклікалі.**

**Вядома, што ў шпіталь хадзілі афіцэры з адміністрацыі і дамаўляліся з хворым, каб справу замяць. Нешта абяцалі. Таго ЗК так і не прывезьлі назад у калёнію. Казалі, што вязьню шмат чаго наабяцалі за маўчаньне. Той пагадзіўся, аднак ніводнага з абяцаньняў так і ня выканалі.**

**Што да таго афіцэра, то яму нічога не было. Толькі нейкае маральнае спагнаньне. Той вязень, які вырашыў самаспаліцца, быў даволі спакойны, але дэпрэсіўны, шмат што перажываў у сабе.**

У турэмнай біяграфіі былога двойчы палітвязьня Міколы Аўтуховіча — два цяжкія «ўскрыцьці» (вены на руцэ і жывот), пасьля якіх ён ляжаў ў мэдчастках Івацэвіцкай калёніі ды ў Гарадзенскай турме, таксама некалькі галадовак, у тым ліку і сухіх, падчас сьледзтва, самыя працяглыя зь якіх, паводле Аўтуховіча, доўжыліся 70–90 дзён:

**— Я меў на мэце зрабіць акцыю пратэсту, а зусім ня спробу самагубства. Толькі праз такія пратэсты злоўжываньні сьледзтва, турэмнай адміністрацыі робяцца публічнымі.**

Напачатку палітвязень папярэджваў адміністрацыю, што пры тых абставінах, якія склаліся, пойдзе на

крайні крок. Пераканаўшыся, што зрухаў няма, ён ужо ня думаў, што можа стацца зь ягоным жыцьцём. Калі ён на нешта настроены, то ідзе да канца.

Падчас адной з галадовак, калі за семдзесят дзён страціў сорак кіло і яго насілі на насілках, ён нават адчуў, што зь яго сыходзіць жыцьцё. Страціўшы прытомнасьць, быў зьмешчаны ў мэдчастку, дзе праляжаў дваццаць дзён. Прымусовага карменьня не было. Трымалі на глюкозе і на нейкіх растворах. Толькі так і выцягнулі.

## Перамовы з галадоўнікамі

З гледзішча мэдыцыны працяглая галадоўка за кратамі нясе вязьню значна больш шкоды, чым ён можа сабе ўявіць. Адрозна ад лячэбнага галаданьня, адмова ад ежы адбываецца на фоне рэзка нэгатыўных эмоцый, наймацнейшага стрэсу, у сьмярдзючай камэры. Яна так ці інакш абавязкова «ўдарыць» па ўнутраных органах, і гэты ўдар будзе нагадваць пра сябе ўсё жыцьцё.

### *Ад кіраўніка мэдычнай службы ДВП*

Васіль Завадзкі кажа, што як лекару і як кіраўніку мэдычнай службы ДВП яму даводзілася весьці перамовы з галадоўнікамі, каб тыя ўсё ж прынялі рашэньне спыніць іх пратэстную акцыю. Зразумела, гэта ўласны выбар асобы, але...

**— Часам сытуацыя выглядала вельмі трывожнай. У чалавека ў сувязі з працяглай адмовай ад ежы назіраліся як саматычныя, так і псыхічныя парушэньні. Я спрабаваў пераканаць галадоўніка спыніць сваю пратэстную акцыю. Казаў чалавеку: «Хіба можна нешта даказаць ворагу сваёй сьмерцю? Нешта некаму даказваць, весьці барацьбу можа толькі жывы». Часам чалавек пагаджаўся, часам — не, вырашаў працягваць свой страйк. У любым выпадку, на маёй памяці, памерці ад голаду чалавеку не давалі.**

**Мы ніколі не кармілі галадоўніка прымусова — такое ўрэшце забаронена законам. Але заўсёды маніторылі, бралі аналізы крыві на біяхімію. На момант рэзкага пагаршэньня і страты вязьнем прытомнасьці ў нас былі напагатове неабходныя ін’екцыі глюкозы ды бялку.**



У 2006-м Васіль Завадзкі адмыслова езьдзіў у «Віцьбу», дзе на той момант больш за месяц галадаў экс-кандыдат на прэзыдэнта Аляксандар Казулін, асуджаны на 5 з паловай гадоў за арганізацыю пратэстаў пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году.

Палітык тады схуднеў на 20 кіляграмаў, аналізы сьведчылі пра загусьценьне крыві, ад цела ішоў пах ацэтону. Ад шпіталізацыі ў вольную лякарню, як і ў «бальнічку», асуджаны ехаць адмовіўся, аднак пагадзіўся з ужываньнем да яго ў выпадку страты прытомнасьці мэтадаў інтэнсіўнай тэрапіі.

### *Ад Аляксандра Казуліна*

**— Умешвацца ў галадоўку адміністрацыя ня мае права, бо калі чалавек трымае галадоўку, ён нічога не парушае. Больш за тое, у правілах закладзена, што чалавек мае такое права. Калі да мяне некалькі разоў прыяжджалі з дэпартамэнту вялікія начальнікі і казалі пра магчымасьць прымусовага карменьня, я ім казаў, што гэта немагчыма, бо яны ня маюць права. Яны сказалі: а калі вы страціце прытомнасьць? Я кажу, ну тады так, бо гэта буду ўжо ня я.**

Гэтак сама, як іншыя галадоўнікі, палітык знаходзіўся пад сталым наглядам мэдыкаў.

У калёніі Казуліну было дазволена часьцей за іншых зьняволеных прымаць душ, бо гэта адно з асноўных правілаў працяглага галаданьня. Практычна ўвесь сьветлы час сутак ён быў на сьвежым паветры ў адмыслова адведзеным месцы на тэрыторыі калёніі. Зразумела, не працаваў.

Пазьней палітык узгадваў, што тэрмін каля 50 дзён — вельмі блізкі да пагрозы жыцьцю.

**— Калі я галадаў, у мяне на гэтым этапе самаадчуваньне было цьвярозае, але ўжо цяжка было хадзіць і ноччу спаць практычна ня мог, бо праз кожныя 20 хвілін трэба было ваду піць.**

Былы палітвязень спыніў сваю галадоўку на 53-ці дзень, паколькі дасягнуў пастаўленай мэты — прыцягненьня ўвагі Рады бясьпекі ААН да сытуацыі ў Беларусі.

# НАРКАМАНСКАЯ ЗОНА

Наркотыкі за кратамі. Як гэта пачыналася
Асуджаныя па 328-ым
Сяргей і Рыгор
Саша і Яўген
«Маладыя» і «старыя»
«Хімік» Тарас
Алекс, які вярнуўся ў нармальнае жыцьцё
Былая асуджаная Аня
«Былых не бывае»

**Зэкі заўсёды шукалі спосабаў хоць на нядоўга адключыцца ад турэмнай рэальнасьці. Раней у гэтым дапамагаў алькаголь, ад 90-х яго пачалі замяняць наркотыкі.**

Згодна са зьвесткамі МУС ды сьведчаньнямі былых асуджаных за злачынствы, зьвязаныя з наркотыкамі (паводле артыкулу 328 Крымінальнага кодэксу), сытуацыя ў апошнія два дзесяцігодзьдзі выглядала так: «У канцы 1990-х — на пачатку 2000-х на зонах адкрыта гандлявалі гераінам. Бліжэй да сярэдзіны нулявых гераін быў выцесьнены апрацаваным хіміяй макам. Яго афіцыйна не забараналі прыкладна да пачатку 2010-х. Прадавалі на зоне, а тым больш на волі».

Паводле інфармацыі, якая трапіла ў СМІ, толькі ў Менску за дзень рэалізоўвалася больш за 10 тон маку. Потым пайшлі спайсы ды іншыя міксы. Інгрэдыенты легальна набываліся ў аптэках. Як толькі афіцыйна забаранялі тое або іншае рэчыва, «рэцэптура» адразу мянялася — у склад міксаў уключаліся новыя дазволеныя прэпараты.

Пасьля прыняцьця ў студзені 2015-га дэкрэту № 6 «Аб неадкладных мерах па супрацьдзеяньні незаконнаму абароту наркотыкаў» пачаліся масавыя пасадкі паводле арт. 328. Дэкрэт № 6 увёў значна больш жорсткае, чым раней, турэмнае пакараньне — пры абцяжлівых абставінах гэта можа быць 15–20 гадоў пазбаўленьня волі. Нават 25, калі нехта памрэ ад прададзенага наркотыку.

Але, як сьведчаць самі нарказалежныя, «турэмны тэрмін не палохае — палохае адсутнасьць дозы», наркаманаў менш ня стала, гэты кантынгент усё маладзее.

Цяпер колькасьць асуджаных паводле 328-га афіцыйна складае прыкладна шэсьць тысяч, або 1/6 ад усіх сядзельцаў папраўчых установаў краіны. У дарослых калёніях гэта пераважна маладыя людзі ад 18 да 30 гадоў. У Бабруйскай дзіцячай, якая для непаўналетніх, сустракаюцца і 14-гадовыя, зразумела, ня толькі спажыўцы, але і прадаўцы.



З выхадам прэзыдэнцкага дэкрэту папраўчая ўстанова ў «Воўчых норах» была цалкам перапрафіляваная ў адмысловую калёнію для наркаманаў-першаходаў. Другую, у Глыбокім, перапрафілявалі для асуджаных па 328-ым часткова. Разам з гэтай катэгорыяй вязьняў там таксама сядзяць іншыя паўторна асуджаныя ды пажыцьцёвікі. У астатніх зонах для такога кантынгенту былі створаныя асобныя атрады.

## Наркотыкі за кратамі. Як гэта пачыналася

Палкоўнік міліцыі Алег Алкаеў кажа, што з нарказалежнымі вязьнямі яму давялося сутыкнуцца яшчэ гадоў за дзесяць, а можа і болей, да працы ў Беларусі, калі служыў у сыстэме МУС у Казахстане. Ужо тады, у 1980-я, наркотыкі добра «гулялі» па турмах Сярэдняй Азіі. У СССР з Аўганістану гашыш ды гераін ішлі тонамі. Калі Алег Алкаеў у 1991-м прыбыў на службу ў Менск, то стаў ледзь не адзіным беларускім чыноўнікам, які ўвогуле бачыў тыя наркотыкі і ведаў пра іх згубнасьць:

### *Ад былога турэмніка*

**— У Беларусі дзяржаўныя асобы ставіліся да «рэчыва» як да самагонкі. Яны ніколі ня бачылі гераіну, ня ведалі, што такое опіюм. А гэта ўжо быў час, калі гэтыя цяжкія наркотыкі бесьперашкодна рухаліся на захад СНД. Спосабаў, каб яны «пралазілі» за краты, было мора. І пры гэтым не было на той час ніякіх прыладаў ды адмысловай літаратуры, як распазнаваць наркотыкі. Калі пра нешта даведваліся, то праз апэратыўную працу.**

**Недзе ў 1997 годзе, калі ўжо быў начальнікам СІЗА, я зь перапіскі зразумеў, што прынясуць наркотыкі. Я прапаршчыку, які прымаў перадачы, кажу: вось гэтую перадачу, калі ласка, да мяне прынясіце. Яны ўсё агледзелі, каўбасу, сала парэзалі, мэталічныя прадметы шукалі. А я прапаршчыку паказваю на цюбік з зубной пастай.**

**Паста як паста. Кажу: ускрывай, выціскай. І адтуль пасыпаўся парашок белы. Я ня ведаю, што гэта паводле складу. Можа, і гераін, а можа — какаін, іншага такога белага ня ведаю. Але што наркотык — гэта 100 працэнтаў.**

**Што вы думаеце? Я, начальнік установы, цэлы дзень тэлефанаваў у ГУУС Менску, прасіў прыехаць супрацоўніка, каб ён атрымаў гэты матэрыял. Ніхто не прыехаў. Занятыя яны, а ты сам разьбірайся. Я чакаю: патрэбная экспэртыза, патрэбная крыніца, адкуль гэта ўзята. Гэта выходзіць па-за межы маёй кампэтэнцыі.**

**Я аддаў сваім апэратыўнікам, яны потым знайшлі нейкага опэра, перадалі гэты цюбік у крымінальны вышук. На гэтым усё і скончылася. Якія былі наступствы — паняцьця ня маю. Не былі гатовыя ні дзяржава, ні міліцыя. А я іх папярэджваў: пачакайце, гэта ўсё прыйдзе. Прыйшло.**

Паводле палкоўніка Алкаева, цяпер у былых савецкіх рэспубліках — і Беларусь не выключэньне — супрацоўнікі праваахоўных органаў самі зь цягам часу пачынаюць «крышаваць». Таму што плата ад злачыннага асяродзьдзя значна вышэйшая, чым міліцэйскія прэміі ды заробак. Нядаўні судовы «працэс 17-ці» ў Менску, дзе сярод фігурантаў, асуджаных за распаўсюд псыхатропаў, былі і адказныя прадстаўнікі МУС ды КДБ, гэта даказвае.



## Асуджаныя па 328-ым

Сярод аўтараў лістоў, якія прыходзілі на «Свабоду ў турмах» зь месцаў пазбаўленьня волі, большасьць атрымалі тэрмін за наркотыкі. Вязьні менавіта гэтай катэгорыі найчасьцей дасылалі вершы, апавяданьні, нават дыскі са зьнятымі ў калёніях (афіцыйна) канцэртамі, дзе ў складзе тамтэйшых бэндаў выконвалі ўласныя песьні на ўласныя вершы. Многія дзяліся сваімі творчымі плянамі.

## Сяргей і Рыгор

**— Добры дзень, рэдакцыя! — пісаў рэцыдывіст, якога звалі Рыгор. — Параіў мне напісаць вам мой адзін былы сулягернік. Справа ў тым, што я год як пішу кнігу. Увесь час я пісаў і нэрваваўся, рваў чарнавікі, пляваўся, потым браў сябе ў рукі і працягваў. І вось атрымалася такая папка сьпісаных аркушаў з падвойнай назвай — «Незаконченная картина». Або «Закон тина».**

**Ані літаратурнага досьведу, ані адукацыі я ня маю. Маю толькі душэўную неабходнасьць, унутраную патрэбу, імпульс аднекуль з вышыняў — падзяліцца на паперы сваімі патаемнымі думкамі, расказаць пра тую бяду, якую прыносяць людзям наркотыкі. Ведаю пра гэта не па чутках, маю ўласны горкі шматгадовы стаж.**

**Упершыню паспытаў 15-гадовым пацаном, а потым пайшло-паехала. Калі стаў разумець, што сеў не на той цягнік, было позна. Цягнік на поўнай хуткасьці рухаўся ў тупік. У сорак гадоў, аднак, адбылася пераацэнка каштоўнасьцяў ды прыйшла ўпэўненасьць у сабе, у сваіх сілах. Спадзяюся, што ў будучыні наркотыкі, якія я ненавіджу ўсім сэрцам, абмінуць мяне.**

**Магчыма, мая праца камусьці дапаможа і ўтрымае чалавека ад спакусы «кайфу». Магчыма, яна дапаможа бацькам разумець сваіх дзяцей. Магчыма... Калі зьдзейсьніцца хоць адно такое «магчыма», калі хоць адзін чалавек дзякуючы прачытанаму вырвецца з палону (хтосьці — з наркатычнага, хтосьці — з духоўнага, у кожнага свой палон...), я буду задаволены.**

Гэты ліст быў датаваны восеньню 2013-га. Рыгор зьбіраўся вызваліцца праз месяц ці два і адразу зьвязацца са мной, сустрэцца і паказаць перапісаны начыста рукапіс кнігі. Але так ніколі не напісаў і не пазваніў.

Зь Сяргеем, які пісаў вершы ды музыку і быў кіраўніком музычнага гурту ў той самай калёніі, што і Рыгор, сустрэцца аднойчы ўдалося. Дагэтуль мы былі знаёмыя праз ліставаньне, часам асуджанаму ўдавалася нават датэлефанавацца да мяне зь лягернага таксафона — ён шчыра расказваў пра сваё жыцьцё.

Сяргею было пад пяцьдзясят. Нарадзіўся ў Дрэздэне, у сям'і савецкага вайскоўца. Упершыню паспытаў апіяты ў шаснаццаць, у дзевятнаццаць апынуўся за кратамі. Праз тры гады вызваліўся, а потым трапляў назад зноў і зноў. Паміж адседкамі найчасьцей нідзе не працаваў, жыў за кошт кватэры, дзе зьбіраліся такія самыя, як і ён, і разам варылі нейкае зельле. Яго не спыняла нават тое, што некалькі разоў быў блізкі да летальнага канца. Сяргей напісаў на «Свабоду»:

**— Аднойчы, гэта было падчас маёй апошняй працяглай адседкі, мне паведамілі, што памёр мой брат. Гэта было ў 2009-м. Паехаць разьвітацца зь ім я ня змог. І тады штосьці шчоўкнула: у 1993 годзе памёр мой бацька, у 2003-м — маці, цяпер вось брат, а я нікога зь іх не пахаваў, бо ўвесь гэты час сядзеў за наркотыкі, часам былі артыкулы за крадзеж ці рабунак, аднак прычына была ўсё тая самая. Як бы там ні было, але турма выратавала мне жыцьцё. Калі б не яна, мяне б ужо даўно не было.**



Зь лістоў Сяргея вынікала, што перазагрузка прыйшла да яго дзякуючы захапленьню музыкай ды паэзіяй. У калёніі ён паставіў некалькі музычных праграмаў, сярод якіх «Рок супраць наркотыкаў» і кампазыцыя на вершы Купалы і Коласа. Таксама пісаў, што разьлічвае на ўмоўна-датэрміновае і рашуча настроены пачаць на волі новае жыцьцё ды працягваць заняткі музыкай...

Мы сустрэліся зь ім праз некалькі месяцаў пасьля вызваленьня. Ён рабіў уражаньне сур'ёзнага чалавека. Казаў, што ўладкаваўся на завод, заробкі невялікія, але на хлеб ды масла хапае, таксама зьбіраўся працягваць заняткі музыкай. Пра наркотыкі казаў: больш ніколі... На разьвітаньне папрасіў пазычыць грошай на дарогу. Як потым высьветлілася, пазычаў ня толькі ў мяне. На той час, як выявілася, ён ізноў шчыльна «сядзеў на игле».

Сяргей чарговы раз трапіў за краты, пратрымаўшыся на волі крыху больш за год. Яго і кампанію ўзялі «на хаце» за звыклай справай. Тэрмін выйшаў вялікі, больш за дзесяць гадоў. Ад некага з агульных знаёмых я чула, што ён рады таму, што трапіў у «родную» калёнію, дзе правёў некалькі апошніх тэрмінаў. Ён вярнуўся да заняткаў музыкай, грае ў гурце і час ад часу думае, што наўрад ці на волі яго можа чакаць нейкае лепшае жыцьцё.

## Саша і Яўген

40-гадовы Саша і 35-гадовы Яўген выйшлі на волю вясной 2017-га. Саша быў асуджаны на пяць гадоў паводле арт. 328-1 (спажываньне), Яўген — на восем паводле арт. 328-3 (распаўсюд). Сёньня нібыта рашуча настроеныя ніколі больш не вяртацца да наркотыкаў. Абодва чакаюць, калі скончыцца міліцэйскі нагляд і

яны змогуць зьехаць у іншую краіну, каб цалкам зьмяніць асяродзьдзе, пачаць новае жыцьцё, працаваць і легальна зарабляць.

Пакуль у сябе дома ў Беларусі яны працуюць там, дзе ўдалося ўладкавацца, папраўляюць здароўе, ходзяць у спартзалю, наладжваюць асабістае жыцьцё, складаюць пляны на будучыню. Жыцьцю на волі яны радуюцца без усялякіх стымулятараў.

Упершыню Саша ды Яўген паспыталі наркотыкі — гэта былі каноплі ды мак — гадоў у васямнаццаць. Яўген зрабіў гэта на волі, Аляксандар — за кратамі.

Яўген распавядае, што ад наркотыкаў у яго распалася сям'я.

**— Аднак, дзякуй Богу, у мяне добрыя стасункі з дачкой. Ёй сёньня адзінаццаць, а калі пасадзілі, было тры годзікі. У мяне ёсьць каханая жанчына. Ёсьць розныя пляны. Пакуль жыцьцё цікавае.**

**У мяне цяпер іншае атачэньне. Але што заўважыў, выйшаўшы на волю? Сёньня набыць наркотыкі на вуліцы, прынамсі ў нашым горадзе, вельмі праблематычна. Іншая справа, калі маеш інтэрнэт ды грошы.**

Таксама не набудзеш сёньня наркаты і за кратамі, кажа Саша. На яго думку, многія ягоныя аднагодкі, якім сёньня за сорак, «падселі» на рэчыва менавіта ў месцах зьняволеньня:

**— На пачатку гэтага дзесяцігодзьдзя, ня кажучы ўжо пра нулявыя, а тым больш 1990-я, «траву», а таксама цяжкія наркотыкі — гераін ды опій — набывалі праз кантралёраў ды адкрыта «варылі зельле» на нарах. Але сёньня, прынамсі ў Горацкай калёніі, такое немагчыма. Каб цяпер на зоне хадзілі наркотыкі, то іх бы ўжывалі ўсе 100% вязьняў.**



З пачаткам дзеяньня дэкрэту № 6 у Горацкай калёніі, як і ў іншых, былі створаныя адмысловыя атрады для наркаманаў. У такім атрадзе Саша адседзеў больш за два гады. Чым адрозьніваецца ўтрыманьне асуджаных па 328-ым артыкуле ў такім адмысловым атрадзе і ў звычайным?

**— Акурат пад Новы 2015 год прэзыдэнт загадаў зрабіць для наркаманаў асобныя атрады і нават стварыць для іх за кратамі «невыносныя ўмовы», каб працавалі ў той «драконаўскай калёніі» ды «самі сьмерці прасілі». На асуджаных па першай частцы, гэтаксама як і на тых, хто распаўсюджваў, начапілі зялёныя біркі і перавялі ў асобны атрад.**

**Перад маім вызваленьнем наркаманам паабяцалі і нейкае адмысловае адзеньне, здаецца, памаранчовага колеру. Але я, на шчасьце, гэтага не засьпеў.**

Яўген пацьвярджае словы Сашы:

**— Усё робіцца, каб чалавек з артыкулам 328 вылучаўся ў асяродзьдзі іншых зэкаў, быў нейкім ізгоем сярод такіх самых, як ён, крымінальнікаў. З чалавека зь зялёнай біркай зьдзекуюцца як кантралёры, так і крымінальнікі, у тым ліку тыя, хто сядзіць за забойствы, згвалтаваньні дзяцей.**

Як сьведчаць суразмоўцы, шмат хто з асуджаных паводле 328-га, ня маючы ні працоўнай кваліфікацыі, ні магчымасьці яе атрымаць (пераважна з прычыны стану здароўя), вымушаныя займацца некваліфікаванай працай. Паводле Сашы, зьняволеныя-наркаманы працуюць у горшых умовах за астатніх:

**— Гэта праца ў ангарах, дзе ёсьць толькі навес, зьверху ляжыць шыфэр, а вось з бакоў няма нічога, акрамя кратаў. Усю зіму, за выключэньнем дзён, калі моцныя маразы, асуджаныя зь зялёнымі біркамі праседзелі вось пад такім навесам, чысьцілі медны дрот. Нікуды ня скардзіліся. Бо за кожнае лішняе слова можаш нажыць сабе шмат непрыемнасьцяў.**

**Аднак далёка ня ўсе ў нашым атрадзе былі такія няздатныя. Было нямала тых, чый арганізм праз вымушаную адмову ад наркатычных рэчываў аднавіўся, і яны нават рэалізавалі сябе ў цікавай працы. У іх было нешта накшталт кар'ерна-прафэсійнага росту. Так званыя працоўныя пасады, магчымасьць займацца на месцы нейкім мэнэджмэнтам... Калі мозг яшчэ не сапсаваны, то і такі чалавек у стане цьвярозасьці можа зрабіць шмат чаго карыснага.**

**Дарэчы, наркаманаўскі атрад быў самы чытаючы. Прычым гэта была сур'ёзная літаратура, а ня нешта кшталту Данцовай. Аднак чыталі пераважна людзі нашага пакаленьня.**

## «Маладыя» і «старыя»

Саша расказвае, што сёньня наркаманы падзяляюцца на дзьве катэгорыі — старыя ды маладыя: першыя ўжываюць гераін ці апіяты, другія — сынтэтыку.

**— У СІЗА ды КПЗ мне нярэдка даводзілася назіраць за паводзінамі і «маладых», і «старых» у стане абстынэнцыі. Калі ў «старых» падчас раптоўнай вымушанай адмовы пачыналася «ломка», фізычныя пакуты, ад якіх ты гатовы лезьці на сьценку, то ў «маладых» пры адмове праяўлялася моцная псыхалягічная залежнасьць, і гэта была зьява яшчэ больш жахлівая.**

**Яны могуць залезьці рукамі ў так званы «талчок» і потым рукамі сябе абмазаць, або ўзяць мятлу і гадзіны тры месьці камэру. Шмат розных «вясёлых», якія нічога не разумеюць. Поўнае высаджваньне мозгу.**

Моладзь заводзілася нават ад адных размоваў пра наркотыкі, расказвае Саша:

— Маладыя, залежныя ад «спайсаў», «соляў» і г. д. зьбіраліся разам і бясконца размаўлялі пра свае сумесі. Такім чынам яны лавілі свой «прыход». Часам ствараласяя адчуваньне, што ўнутры некаторых зь іх ужо запушчаная праграма самазьнішчэньня.

Яўген мяркуе, што шмат хто з наркаманаў рады, што іх арыштоўваюць:

**— Бо вязьніца сапраўды працягвае ім жыцьцё роўна на час прызначанага турэмнага тэрміну. Іншая справа, што вельмі шмат маладых цяпер. Многія нарадзіліся ў канцы 1990-х. Неўзабаве пойдзе пакаленьне 2000-х. Нямала з так званым «спаленым файлам» (псыхічнымі разладамі).**

**У папраўчых установах для паўторна асуджаных гэта ня так бачна. А вось у адмысловай калёніі для наркаманаў-«першаходаў» «Воўчыя норы» дык, кажуць, надта шмат. Большасьць ужывае сынтэтыку гадоў з чатырнаццаці. Што было б зь імі праз пару-тройку гадоў калі б не турма? І што будзе, калі яны выйдуць? Пра іх магчымых нашчадкаў нават і не кажу.**

Што б ён, Яўген, сёньня зрабіў з тым, хто «падсадзіў» яго ў юнацкія гады на наркатычнае рэчыва?

**— Нічога. Часам я яго бачу. Дарэчы, як і 20 гадоў таму, ён па-ранейшаму ўжывае і распаўсюджвае. Праўда, за краты так ніколі і ня трапіў.**

## «Хімік» Тарас

21-гадовы Тарас, асуджаны паводле 328-га на тры гады «хатняй хіміі», цягам шасьці месяцаў упарта змагаецца за тое, каб стаць «нармальным». З дазволу суду гэтае пакараньне ён адбывае ў цэнтры здаровай моладзі пад Менскам. Пасьля курсу рэсацыялізацыі хоча папрацаваць там як валянтэр.

Апошнім часам, кажа хлопец, многіх ягоных аднагодкаў, якія ўжывалі і перапрадавалі невялікія порцыі, пачалі саджаць на 16, 20, 25 гадоў. Але ні наркаманаў, ні гандляроў менш ня стала: праз інтэрнэт-крамы можна купіць што заўгодна. А пасьля забароны многіх рэчываў у міксы кладуць невядома што, канцэнтрацыя атруты стала разоў у пяць большая.

Тарас шчыра прызнаецца, што яму пашанцавала, паколькі судзьдзя ўвайшоў у сытуацыю і прызначыў мяккае пакараньне. Перад тым, як хлопца затрымалі, ён нюхаў ды курыў штодня з інтэрвалам у тры гадзіны. На апошнюю закладку пайшоў разам зь сябрам. Адразу ж накурыліся, і ў неадэкватным стане іх затрымала міліцыя.

Пэрспэктыва турмы стала для хлопца пэўным штуршком. Тарас хоча ў будучыні мець спэцыяльнасьць, зьвязаную з дапамогай залежным. Пра дзяўчыну пакуль ня думае. Праграма супраць наркатычнай залежнасьці ня раіць сваім рэабілітантам заводзіць стасункі раней, чым праз год гэткай тэрапіі.

**— Цяпер такі час, калі пачуцьці абвастрыліся і на любую сытуацыю рэагуеш няпроста. Я магу расплакацца праз дробязь, і наадварот, калі людзі сьмяюцца, рагатаць да гістэрыкі.**



## Алекс, які вярнуўся ў нармальнае жыцьцё

Былы асуджаны Алекс некалькі гадоў як сам пазбыўся залежнасьці і дапамагае зрабіць гэта іншым.

За яго плячыма 18 гадоў адседкі — «Валадарка», калёніі ў Воршы, Івацэвічах, Навасадах — і яшчэ большы тэрмін залежнасьці ад наркотыкаў.

Вяртаньне ў нармальнае жыцьцё даецца яму цяжка, бо сядзеў на сучаснай атруце — сынтэтычных заменьніках канапель.

Як кажа Алекс, «наркотыкі — гэта новая прыкмета беларускага рэцыдывіста, маладзейшага за 50». Як і шмат хто яшчэ, ён «падсеў на рэчывы» за кратамі. Гэта здарылася ў Воршы, на «дванаццатцы». Было тады Алексу 18.

Галоўнымі выратавальнікамі для яго сталі родныя ды блізкія. Найперш — мама. На шчасьце, сям'я за яго ўвесь час змагалася.

Са спробы пазбыцца залежнасьці самастойна, толькі сілай волі, у Алекса нічога ня выйшла. Давялося прайсьці дарагое лячэньне і рэабілітацыю, бо бясплатнай альтэрнатывы ў цяперашняй сытуацыі няма.

Сёньня ў Алекса свая сям'я, нядаўна стаў татам. Жонка (лекар) прыняла яго такім, як ёсьць.

Алекс працуе ў адным з цэнтраў аказаньня дапамогі людзям, да якіх зусім нядаўна належаў сам. Завочна атрымлівае ўнівэрсытэцкую адукацыю. На ўласным досьведзе пераканаўся, што той, хто прыняў цьвёрдае рашэньне адмовіцца ад наркотыкаў, павінен стала кантактаваць са сваімі аднадумцамі, а ня з тымі, хто «сядзіць» на рэчывах.

Алекс прызнае за кожным права на выбар, але схіляецца да думкі, што пры той сытуацыі з наркотыкамі, якая ўтварылася сёньня ў Беларусі, трэба ўводзіць прымусовае лячэньне ды рэабілітацыю.

**— Думаю, што калі б чалавеку далі права выбару — прайсьці рэабілітацыю або адправіцца ў турму, напэўна, мы б крыху пасунуліся ў змаганьні з нарказалежнасьцю. Бо наша вязьніца можа толькі падсадзіць чалавека на наркотыкі, але ніяк не вярнуць яго да нармальнага стану.**

Алекс лічыць вартым вопыт Швэцыі, дзе за наркотыкі садзяць шмат, але, як правіла, на нядоўгія тэрміны.

**— Фішка ў тым, каб такія людзі ня трацілі сувязі з роднымі ды не ператвараліся ў асацыяльных асобаў. Цягам зьняволеньня наркаманы ўвесь час занятыя ўдзелам у розных рэабілітацыйных праграмах: «12 крокаў», «Сувязь зь сям'ёй», «Здароўе». Тыя, хто ў лепшай фізычнай ды мэнтальнай форме, авалодваюць за кратамі прафэсіямі або дыстанцыйна атрымліваюць унівэрсытэцкую адукацыю.**

**У чалавека ёсьць шанец быць запатрабаваным. А няцяжка ўявіць, куды пры цяперашнім раскладзе пасьля дзесяці гадоў адседкі пойдуць зь беларускай турмы яшчэ даволі маладыя зэкі-наркаманы.**

## Былая асуджаная Аня

З улікам СІЗА і калёніі Аня адбыла за кратамі чатыры гады. Без наркотыкаў. Прыяжджаючы на спатканьні, маці не магла нарадавацца яе здароваму сьвежаму выгляду, спакойнаму душэўнаму стану і час ад часу



заводзіла размову пра вучобу дачкі ў замежжы. У адказ кожны раз чула словы, якія прыводзілі яе ў разгубленасьць: «Ні ў якае замежжа не паеду, а наркотыкі ня кіну».

Выйшаўшы на волю, Аня прыняла дозу літаральна ў той самы дзень. Усё пачалося, быццам не было чатырох гадоў перапынку. Аніна мама тлумачыць гэта тым, што ў дачкі не фізычная, а псыхалягічная залежнасьць, справіцца зь якой стандартнымі спосабамі асабліва жаночаму арганізму вельмі цяжка.

Праз бяду, якая здарылася зь іх дачкой, кажуць бацькі Ані, яны «ведаюць пра наркотыкі ўсё». Што толькі не рабілі перад тым, як іх дачка трапіла за краты, якія толькі сумы зь вялікай колькасьцю нулёў не пераводзілі ў найлепшыя заходнія клінікі на лячэньне дзяўчыны, якія толькі ганарары не плацілі ўсясьветна прызнаным псыхатэрапэўтам ды ўсходнім шаманам, якія толькі праграмы не спансаравалі ў розных хрысьціянскіх цэнтрах.

Дадатковыя сумы, таксама немалыя, ішлі на водкуп дзяўчыны ў міліцыі, куды яна трапляла пасьля вяртаньня дадому і сустрэчаў зь сябрамі-наркаманамі. Нарэшце, сям'я стамілася адкупляцца ад міліцыянтаў і такім чынам дала маўклівую згоду на пасадку дачкі за краты. Як тапельцы за саломінку хапаліся за надзею: а раптам турма прымусіць задумацца. Не дапамагло.

«Наркаман — гэта чалавек, які страціў кантроль над ужываньнем наркотыкаў», — лічыць Анін бацька, колішні мянчук, цяпер расейскі алігарх, які жыве на Захадзе:

**— Наркаман ня ў стане кантраляваць частату прыняцьця чарговай дозы. Яго сям'я таксама ня можа кантраляваць гэтую залежнасьць. Максымум, што яна ў стане зрабіць, — пазбавіць яго ад неабходнасьці здабываць грошы крымінальным шля-**

**хам. Гэта значыць блізкія вымушаныя фінансаваць нарказалежнасьць ды ляяльна ставіцца да ін'екцыяў дома. Каб гэта не здаралася абы-дзе.**

Пасьля вызваленьня прайшло больш за пяць гадоў. Цяпер Ані пад трыццаць. Замужам за не наркаманам. Увесь час на гераіне. У сям'і кажуць, што гэта «адзінае, што ратуе маладую жанчыну ад цяжкай дэпрэсіі, трывогі і невыноснай нуды».

Паводле бацькі, невядома што абыходзіцца даражэй: фінансаваньне нарказалежнасьці ці фінансаваньне так званай «найлепшай антынаркатычнай тэрапіі». Ён перакананы, што ў сьвеце існуюць дзьве мафіі: адна — якая займаецца наркабізнэсам, а другая — якая зь ёй змагаецца.

Ён цалкам згодны са сьцьвярджэньнем некага з кіраўнікоў Усясьветнай арганізацыі аховы здароўя: калі б усяго 1,5 працэнты сродкаў, што выдзяляюцца на «барацьбу» з наркотыкамі, былі б накіраваныя на распрацоўку мэдпрэпаратаў, якія блякуюць у мозгу чалавека «кайф», то чалавецтва забылася б пра наркаманію як пра чорную воспу ды чуму.

## «Былых не бывае»

Палкоўнік міліцыі Алег Алкаеў кажа, што ведаў у сваім жыцьці толькі аднаго былога наркамана. Бо з гледзішча міліцэйскага начальніка, насамрэч «былых» не бывае, і адзінае, што магчыма — ня вылечыць, а дапамагчы прыпыніць ужываньне. Пра эфэктыўнасьць швэдзкіх праграм Алкаеў ня ведае. Але можа казаць пра Нямеччыну, куды зьехаў у 2001-м.

***Ад Алега Алкаева***

**— Тут, у Нямеччыне, жывуць мае сваякі. Адзін зь іх — параўнальна малады хлопец, які мае залежнасьць, пэрыядычна праходзіць лячэньне, рэабілітацыю. Тут з такімі няньчацца, нават нейкі курорт бясплатны для іх ёсьць.**

**Але каб канкрэтна сваяк вылечыўся, я нешта не заўважыў. Вось паўгода яго дома няма, а потым зьяўляецца. Нармальным бывае тыдні два, потым зноў сябры падазроныя. І праз два месяцы ён зноў зьнікае. Праграма ў такой прасунутай краіне, як Нямеччына, ёсьць, але эфэктыўнасьці няма, гэта я ведаю.**



Алег Алкаеў перакананы, што сёньня нічога лепшага, акрамя ізаляцыі наркаманаў, не прыдумана:

**— Калі сядзіць сто чалавек, гэта азначае, што тысяча дзьвесьце новых не далучацца да іх за гэты час. Бо, паводле міліцэйскай статыстыкі, адзін наркаман уцягвае ў сваё асяродзьдзе каля дванаццаці чалавек. Дзеля чаго? Каб потым самому атрымаць дозу.**

**Наркаман звычайна — злодзей-кішэньнік. Аднак фізычна ўжо красьці ня можа. Рукі трасуцца, зьнешні выгляд пужае іншых за кілямэтар. Вось ён і зьбірае дванаццаць — пятнаццаць чалавек. Пераважна з забясьпечаных сем'яў, бо такія ў яго купляюць наркотыкі, і застаецца доза для яго самога. Збытчыкі наркотыкаў сытуацыю ведаюць добра. Яны спэцыяльна «саджаюць барыгу на іглу», каб той потым шукаў ім кліентаў.**

Але хіба такія працяглыя турэмныя тэрміны, як у Беларусі, не па-за межамі ўсялякага сэнсу? Хіба яны, як лічаць сваякі асуджаных наркаманаў, праваабаронцы, не ўмацоўваюць залежнасьць?

**— Я не на іхнім баку. Вось задайце пытаньне тым, хто крычыць: «Ой, навошта нявіннага чалавека так**

надоўга?!» Спытайцеся: якім яны бачаць рашэньне гэтай праблемы? Ён ужо з двух разоў наркаманам становіцца і потым будзе іншых прыцягваць. А падлеткі будуць дзеля цікавасьці гэта рабіць, як маё пакаленьне ў свой час курыць пачынала. І гэтая спроба вельмі небясьпечна заканчваецца. Я пакуль бачу, што, ізалюючы іх, мы ратуем іншых людзей. А яшчэ гэтаму наркаману ў турме жыцьцё падаўжаем. У гэтым многія зь іх прызнаюцца. Зразумела, рэальна і з наркадылерамі, з пастаўшчыкамі змагацца трэба.

# ЗОНА ПАДТРЫМКІ

Марына: «Сядзім разам»
Валянціна: «Малітвы маці могуць дастаць з дна марскога»
Людміла: «Спадзяваньні на самапомач»
Алёна: «Дапамог сайт „Я з табой“»
Дэпутатка: «Гэта павінна быць унутраным перакананьнем палітыка»
Маўчаць ці крычаць?

**Зэкі вельмі даражаць падтрымкай з волі. Чалавеку за кратамі патрабуюцца кантакты зь некім яшчэ апрача суседзяў па камэры і аховы.**

У пакоі прыёму перадач Бабруйскай калёніі № 2 жыхарка Ваўкавыску Марына Ш. зьявілася раніцай адной зь першых, зь дзьвюма валізкамі агульнай вагой 30 кіло. У гэтай папраўчай установе для першаходаў два гады адбывае пакараньне яе сын Антон. Акрамя перадачы на сёньня прызначанае кароткае спатканьне, праз тэлефон і шкло.

На Бабруйскі вакзал жанчына прыбыла ў тры гадзіны раніцы. Машыны ў сям'і няма, таму ехаць даводзіцца цягніком. Але без перасадак. Сядае безь дзесяці восем у Ваўкавыску і празь сем гадзінаў у Бабруйску. Да паловы восьмай сядзіць на вакзале, чакаючы, пакуль у калёніі пачнецца прыём перадач. Потым бярэ таксоўку.

*Ад Марыны Ш.*

Жанчына гаворыць так, быццам бы сядзіць разам з сынам:

**— Мы сядзім па артыкуле 328, далі восем гадоў, засталося яшчэ шэсьць. Вядома, любой маці цяжка, калі сына пасадзілі. Як маральна, так і фінансава таксама. Калі хто ў сям'і сядзіць, то даводзіцца працаваць выключна на турму. Падаражэла ўсё, а даходы засталіся тыя самыя. Вось так неяк і круцімся паміж воляй і турмой.**

Наконт калёніі Марына нічога дрэннага сказаць ня можа.



**— Здаецца, адміністрацыя няблага да нас ставіцца, калі мы заяжджаем туды. Усё выслухаюць, раскажуць, патлумачаць. Мой сын працуе, нават зарабляе грошы, нават заахвочваньні яму даюцца, дадатковыя перадачы. У нас узмоцнены рэжым, нам належаць два падоўжаныя спатканьні і тры кароткія. А перадача — кожныя чатыры месяцы. Але ў нас былі заахвочваньні, і таму маем права на дадатковыя перадачы. Пасьля двух гадоў, калі мы нічога ня зробім, пойдзем на палепшаны рэжым, ужо будзе больш спатканьняў, дасьць Бог.**

## Марына:
## Сядзім разам

«Калі мы нічога ня зробім, пойдзем на палепшаны рэжым», паўтарае Марына з Ваўкавыску. Слова «мы» ў такім кантэксьце ужывае ня толькі яна. Калі бліжэй знаёмісься з жанчынамі, чый родны чалавек сядзіць за кратамі, гэтае «мы» гучыць спрэс.

Нездарма кажуць, што разам са зьняволенымі сядзяць іх блізкія, найперш, маці, жонкі, сёстры, дочкі.

Пра крымінальны артыкул і турэмны тэрмін амаль усе яны кажуць прыкладна так: «*Мы* тут паводле арт. 339 (хуліганства), хутка будзе тры гады, і выходзім на волю», або «У *нас* 139-ты (забойства), сядзім ужо 12-ты год, засталося столькі ж», або: «У *нас* 328-мы. Адседзелі ўжо шэсьць з васьмі». Аднойчы ад адной маці давялося пачуць: «*Мы* асуджаныя да расстрэлу».

Гэтыя жанчыны надзіва лёгка знаёмяцца паміж сабой паўсюль, дзе толькі можна — у чэргах у пунктах прыёму перадач, на кароткіх і працяглых спатканьнях, на рынках каля шапікаў са спэцыфічнымі таварамі (кшталту кашаў хуткага прыгатаваньня і спэцадзеньня), у грамадзкім транспарце, на пошце, на інтэрнэт-форумах і г. д.

Ня менш лёгка яны дамаўляюцца паміж сабой, каб перадаць некалькі кіляграмаў прадуктаў і рэчаў, або каб пакласьці грошы на рахунак іншага арыштанта, або каб дапамагчы з транспартам.

Часам гэтыя стыхійныя знаёмствы перарастаюць у больш трывалыя кантакты, ледзь ня ў дружбу, аднак, як паказвае жыцьцё, працягваюцца да першага вызваленьня некага з асуджаных. Шматгадовае сяброўства (5–7–10 і болей гадоў) зьнікае гэтак жа лёгка і натуральна, як і ўзьнікае.

Нехта тлумачыць гэта тым, што шчырасьць у стасунках мае свае межы, нехта — тым, што ў адносінах настае дэфармацыя. Найчасьцей можна пачуць, што людзі выкрэсьліваюць з жыцьця ўсё мінулае, у тым ліку і тое, што было зь ім зьвязана. Тым ня менш бадай усе прызнаюць, што без такіх сувязяў ім было б цяжка вытрымаць выпрабаваньні, якія на іх зваліліся.

У адным з напісаных ужо на волі артыкулаў на турэмную тэму першы ляўрэат літаратурнай прэміі імя Францішка Аляхновіча Ігар Аліневіч, былы палітвязень-анархіст і інжынэр-праграміст паводле адукацыі, параўнаў дзейнасьць жонак, маці, сясьцёр, дачок, якія чакаюць сваіх блізкіх з-за кратаў — як верных сяброваk зэкаў ён іх называе «зэчкамі» — з своеасаблівай «нэўроннай сеткай», матэматычным альгарытмам, які дапамагае штучнаму інтэлекту выбраць найбольш верны сярод многіх іншых варыянт.

У гэтай сетцы, піша ён, цыркулюе шмат карыснай інфармацыі. Ролю «нэўронных сувязяў» у справе ўзаемадапамогі паміж самімі арыштантамі нельга пераацаніць. Так блізкія самога Аліневіча часта даведваліся пра тое, што ён у штрафным ізалятары (ШЫЗА), менавіта ад гэтых жанчын, збольшага абсалютна незнаёмых ягоным сямейнікам.



# Валянціна: «Малітвы маці могуць дастаць з дна марскога»

28-гадовага менчука анархіста Ігара Аліневіча арыштавалі восеньню 2010-га паводле абвінавачаньня ў нападзе на расейскую амбасаду, празь некалькі месяцаў асудзілі за злоснае хуліганства, а таксама за пашкоджаньне маёмасьці небясьпечным спосабам на восем гадоў турмы. Восеньню 2015-га ён быў вызвалены з-за кратаў праз прэзыдэнцкі дэкрэт аб памілаваньні. Міжнародная праваабарончая грамадзкасьць прызнала прысуд палітычна матываваным.

Маці Ігара Валянціна Аліневіч, кажа, што разам з сваім сынам «адседзела» пяць гадоў: у «Амэрыканцы», папраўчых установах у Наваполацку ды Віцебску. Кандыдат эканамічных навук, дацэнт Менскага эканамічнага ўнівэрсытэту, яна была звольненая з працы падчас турэмнай адседкі сына-палітвязьня ў 2013 годзе. Не ў апошнюю чаргу таму, што ў той год выйшла Ігарава кніга «Еду ў Магадан» — пра яго знаходжаньне ў СІЗА КДБ. А яшчэ таму, што і сама яна не маўчала.

Маці былога палітвязьня прыгадвае, што ў той складаны пэрыяд яе жыцьця сыстэма «нэўронных сувязяў» сярод людзей працавала як ніякая іншая і як ніякая іншая дапамагала трымацца ёй, а таксама многім з тых, хто апынуўся ў падобнай сытуацыі.

*Ад Валянціны Аліневіч*

— **«Нэўронныя сувязі», пра якія ў такім, на першы погляд, нечаканым кантэксьце згадаў Ігар, насамрэч закладзеныя ў самой чалавечай прыродзе. Калі мы кажам, што малітвы маці могуць дастаць з дна марскога, то тут маецца на ўвазе гэтая са-**

мая эмацыйная ірацыянальная сувязь жанчыны са сваім дзіцем.

Думаю, што самыя глыбінныя нашы пачуцьці выяўляюцца ў нейкі пераломны пэрыяд нашага жыцьця. Бо калі жыцьцё спакойнае, жывеш без усякай небясьпекі і трывог, гэта адно, а калі чалавек на зломе, то тады найбольш ярка выяўляюцца ўсе гэтыя пачуцьці ды тэлепатычныя сувязі.

У наша стагодзьдзе разнастайных тэхналёгій мы, на жаль, забываемся пра ўласныя чалавечыя магчымасьці. Нядаўна я дзесьці прачытала, што чалавек мацнейшы за танк, і пагадзілася з гэтым. У чалавека бязьмежныя магчымасьці, але сам ён пра гэта не падазрае.

Так было і ў сытуацыі, у якую наша сям'я трапіла ў лістападзе 2010-га, калі я з інтэрнэту даведалася пра арышт Ігара ў Маскве і пра тое, што яго этапавалі ў Менск. Гэта ўсё было нечакана. Напачатку быў адчай, поўны ступар, а потым мы пачалі шукаць хоць нейкую інфармацыю.

На жаль, адвакаты нам тады не дапамагалі. Ці то ў сілу сваёй прафэсійнай зашоранасьці, ці то таму, што далі нейкую падпіску аб неразгалошваньні.

Ад абаронцаў як адзінай нітачкі, якая павінна была зьвязваць мяне з сынам, на той момант вязьнем «Амэрыканкі», я так і не даведалася, што ў камэры СІЗА КДБ вельмі холадна, што ў яго няма цёплага адзеньня ды абутку, а замест адабраных чаравікаў яму выдалі са складу нейкія тапкі, як потым жартаваў сын, тое, што ў іх ляжала з 1937 году…

Але ж адкуль я магла гэта ведаць? Спатканьняў нам не давалі, самы першы ліст ад Ігара канфіскавалі, дый наступны прыйшоў няхутка.

Я недзе месяц насіла ў якасьці перадачаў розную драбязу, пакуль мне выпадкова не пашчасьціла пагутарыць з адной жанчынай, чый сын сядзеў у



СІЗА ўжо год. Яна ня вельмі ішла на кантакт, але, мабыць, убачыўшы маю разгубленасьць ды няправільнае ўяўленьне пра тую сытуацыю, сказала: у першую чаргу вам трэба прынесьці коўдру, ваўняныя шкарпэткі, вітаміны, бо там вельмі холадна…

Інфармацыя, якую мы атрымалі ад той жанчыны — яна так і не назвала свайго імя — была, бадай, самай важнай на тым этапе. Ігар з удзячнасьцю потым апісаў той момант у сваёй кнізе «Еду ў Магадан». Ён пісаў, што калі атрымаў коўдру, упершыню адчуў ня проста цяпло, а цяпло свайго дому.

А потым за кратамі апынуліся ўдзельнікі сьнежаньскіх падзеяў. Аднойчы ў чарзе зь перадачамі — а там былі пераважна адны жанчыны — я сама раіла гэтым маці, жонкам ды сёстрам, каб прынесьлі сваім коўдры ды цёплыя шкарпэткі.

З усіх тых людзей я знала ў твар (бачыла па тэлевізары) толькі маму Паўла Севярынца. Я тады на ўсялякі выпадак узяла з сабой яшчэ адну коўдру і аддала яе Тацяне. Так мы зь ёй пазнаёміліся. Коўдра была вельмі дарэчы. Я б перадала нешта і іншым вязьням, але не ад сваякоў кантралёры ніякіх перадач не прымалі.

Потым паціху я пазнаёмілася з многімі іншымі з тых чэргаў. Адны жанчыны былі вельмі прыгнечаныя, іншыя, наадварот, паводзіліся мужна. Мы падтрымлівалі адна адну. Калі ты сам імкнесься дапамагчы камусьці, гэта неяк адцягвае цябе ад уласных праблем. Такая падтрымка ў экстрэмальныя моманты шмат што значыць.

Потым, калі людзі ўжо выходзілі з-за кратаў, яны ўсе без выключэньня казалі, што галоўным для іх была такая, як кажа Ігар, «нэўронная сувязь», адчуваньне таго, што родныя ў курсе: іх блізкія трымаюцца. Такі духоўны кантакт быў двухбаковы. Мы

**стараліся дапамагчы ім, яны імкнуліся дапамагчы нам.**

**Гэта працягвалася і ў іншых турмах. Ігара вельмі часта пазбаўлялі перадач. Я зьвярталася да іншых жанчын, часьцей за ўсё да незнаёмых, тых, чые дзеці або мужы сядзелі ў Наваполацкай калёніі, прасіла, каб яны ўклалі ў 30-кіляграмовую перадачу для свайго нейкі кілаграм для Ігара. І людзі заўсёды ішлі насустрач.**

**Я памятаю, як аднойчы мне патэлефанавала адна незнаёмая жанчына і сказала: «Я еду на спатканьне, калі нешта трэба перадаць вашаму сыну, то магу ўзяць». Пазьней я даведалася, што Ігара той хлопец нават і ня ведаў, што неўзабаве яму меліся разглядаць пытаньне аб умоўна-датэрміновым. Зразумела, сям'я рызыкавала, Аднак пры ўсім тым людзі сымпатызавалі палітычным і такім чынам выказвалі сваю салідарнасьць зь імі. Яны не хацелі нават і чуць пра нейкую падзяку за гэта.**

**Праўда, калі Ігара перавялі ў іншую калёнію, у Віцебск, там сытуацыя была іншая. Можа, таму што сядзелі супрацоўнікі міліцыі, розныя іншыя сілавікі, дзяржчыноўнікі. Там сваякі ні на які кантакт не ішлі. Але мы там ня так шмат і прабылі.**

## Людміла: «Спадзяваньні на самапомач»

Увесну 2016-га ў вязьня Магілёўскай калёніі № 15, 62-гадовага менчука Пятра Кучуры зьявіліся законныя падставы для замены неадбытай часткі пакараньня на больш мяккае (ЗПБМ) і для ўмоўна-датэрміновага вызваленьня ад пакараньня (УДВ).

Пятро трапіў за краты ў сьнежні 2004-га і хутка быў асуджаны на васямнаццаць гадоў зьняволеньня за забойства. З улікам году амністыі сядзець да званка атрымліваецца сямнаццаць. Усе спробы скарыстацца



гэтымі інстытутамі ў яго, ужо немаладога і хворага чалавека зь вельмі цьмянай ды заблытанай крымінальнай справай, так і застаюцца беспасьпяховымі

Пятро Кучура не прызнае сябе вінаватым. Гэтак жа лічыць і ягоная сям'я — жонка і сын.

### *Ад Людмілы Кучуры*

Жонка, хатняя гаспадыня Людміла, кажа, што разам з мужам «сядзіць» ужо 13 гадоў. З таго сьнежаньскага вечара, калі ён, раней ніколі ня суджаны кіроўца-дальнабойшчык, паехаў на паляваньне і, як той казаў, апынуўся ня ў тым месцы і ня ў той час.

**— Пятру не пашанцавала, што тады непадалёк ад вёскі Масьцішча паляваў ня толькі ён зь сябрам, але і кампанія беларускіх чыноўнікаў на чале з тагачасным дзяржсакратаром Рады бясьпекі Беларусі, а ў хуткім часе кіраўніком адміністрацыі прэзыдэнта, — кажа жанчына. — Нейкім чынам у той фатальны дзень быў забіты дзяржінспэктар па ахове жывёльнага ды расьліннага сьвету. І, як нярэдка здараецца, потым сьледзтва ды суд устанавілі: «Дзяржінспэктар знаходзіўся ў плянавым рэйдзе па выяўленьні і затрыманьні асоб, якія займаюцца незаконным паляваньнем, і стаў ахвярай браканьера Кучуры».**

Як вынікала з судовага вэрдыкту, гэта было наўмыснае забойства з тым, каб пазьбегнуць затрыманьня і прыцягненьня да адказнасьці за незаконнае паляваньне. Пятру далі 18 гадоў. Не дапамаглі ні адвакацкія довады з грунтоўным расьсьледаваньнем, ні паліграф, якія сьведчылі пра ягоную невінаватасьць.

Усе гэтыя гады Людміла Кучура рэгулярна і беспасьпяхова наведвае розныя высокія інстанцыі, спрабуючы аспрэчыць несправядлівы, як яна лічыць, прысуд мужу.

У 2009-м напісала ліст Аляксандру Лукашэнку, дзе выказала думку пра тое, што датычным да гэтай справы мог быць адзін высокі беларускі чыноўнік. Менавіта ён наведаў яе мужа неўзабаве пасьля трагедыі ў камэры ізалятару часовага ўтрыманьня (насуперак закону) і ўсяляк пераконваў яго ўзяць віну на сябе.

**— Куды я толькі гэтыя гады не пісала. І прэзыдэнту, у Вярхоўны Суд, у пракуратуру, у КДБ. Хоць раней у мяне адна думка пра гэтую арганізацыю выклікала страх... Як кажуць, бяда ня ходзіць адна. Адчуў на сабе пераслед мой сын. Мне прыйшлося змагацца ўжо за абодвух. З сынам усё ўдалося. З мужам — не.**

**Ежджу ўвесь гэты час за Пятром паўсюль. Ён і на «Валадарцы» быў, і ў Жодзіне, і ў калёніях розных, і ў Магілёўскай «крытай» турме. Кожны раз узгадваю словы нашага адваката, якія пачула яшчэ падчас мужавага суду. Ён сказаў так: «Паверце, побач з жаночымі турмамі вы ня ўбачыце чэргаў з мужчын. Гэта толькі жанчыны так могуць».**

**Ведаю па сабе: здараецца, што вельмі кепска сябе адчуваеш, але едзеш на спатканьне або ідзеш на прыём у дэпартамэнт ці ў іншую інстанцыю. Было, што пасьля апэрацыі на назе, у гіпсе, хадзіла ў Генпракуратуру, бо трэба.**

**Але Пятро быў сапраўдным мужам і сапраўдным бацькам, а таму і для нас з сынам важна яго падтрымліваць, езьдзіць да яго на спатканьні. Ды яшчэ ўявіце псыхалягічны стан чалавека, які сядзіць за тое, чаго ён не рабіў. Адзінае, што яго трымае — гэта ўсьведамленьне таго, што яго ніхто ня кінуў, што яму ёсьць куды вяртацца пасьля вызваленьня.**

Стоячы ў чэргах у грамадзкіх прыёмных Вярхоўнага Суду, Генпракуратуры, Адміністрацыі прэзыдэнта, жанчыне ўдалося пазнаёміцца зь немалой колькасьцю таварышак па няшчасьці, якія гэтак жа, як і яна, ня верылі ў правамоцнасьць прысудаў для іх мужоў ды дзяцей. Так узьнікла іх нефармальная група. Каб ня толькі паасобку, але і разам змагацца за справядлівасьць у судах.

Як кажа Людміла Кучура, самым вялікім дасягненьнем групы стала тое, што некалькі гадоў таму агульнымі сіламі ўдалося дамагчыся перагляду справы несправядліва асуджанага на пажыцьцёвае Аляксандра Буд-Гусаіма.

**— Сярод былых мужавых сукамэрнікаў ды сулягернікаў абсалютная большасьць адбыла тэрміны за кратамі цалкам, бо ва «ўмоўна-датэрміновым вызваленьні» ды «замене рэжыму» ім было адмоўлена. Пасьля вызваленьня гэтыя людзі вярнуліся ў свае сем'і. Працуюць, зарабляюць, выхоўваюць дзяцей. Усе яны казалі, што карыстаюцца «датэрміновым» ды «заменай» пераважна тыя, хто «бліжэй да адміністрацыі калёніі», або тыя, хто падчас адседкі «баіцца ўзьняць галаву пры сустрэчы з начальствам».**

Адрозна ад эўрапейскай практыкі, дзе колькасьць вызваленых па УДВ штогод павялічваецца, у Беларусі існуе адваротная тэндэнцыя. Адказныя супрацоўнікі Генпракуратуры называюць пасьлядоўнае скарачэньне выкарыстаньня інстытуту ўмоўна-датэрміновага вызваленьня «нармальнай практыкай» праз «брак», закладзены пры ўжываньні гэтага інстытуту яшчэ з савецкіх часоў.

Тым часам у скандынаўскіх краінах, дзе толькі адзінкі адбываюць цалкам прызначаны судом тэрмін рэальнага пазбаўленьня волі, спэцыялісты-крымінолягі бачаць у інстытуце УДВ праяву гуманізму, стыму-

ляваньне асуджанага на выпраўленьне, адзін са спосабаў падтрыманьня парадку ў турэмных установах.

Рэцыдывы, вядома ж, здараюцца, але, каб мінімізаваць іх, зразумець, ці ня схільны асуджаны паўтарыць злачынства, вялікае значэньне надаецца так званай комплекснай ацэнцы асобы. Улічваюцца самыя розныя моманты: маральнае аблічча, якасьці асобы, павodзіны, датурэмнае мінулае — як і чым жыў чалавек да ўчыненьня злачынства.

У Беларусі (арт. 116 Крымінальна-выканаўчага кодэксу) ступень выпраўленьня асуджанага вызначаецца выключна «адміністрацыяй папраўчай установы па выніках атэстацыі асуджанага на падставе ўсебаковага вывучэньня ягонай асобы ў пэрыяд адбываньня пакараньня».

**— Калі б у нас апытвалі тых, з кім асуджаны кантактаваў на волі. Гэта ж неабходна ведаць у мэтах сацыялізацыі былога зьняволенага. У нашым доме, напрыклад, пра Кучуру толькі добрае і пачуеш. Увесь пад'езд пытаецца: калі Пятра вызваляць? Суседзі сумуюць па ім. Некалькі старэйшых мужыкоў, якім ён дапамагаў па жыцьці, так і не дачакаліся яго — памерлі.**

На сёньняшні дзень, мяркуе Людміла Кучура, засталася пераважна «самапомач».

**— Калі ў чалавека бяда, то яму нельга быць аднаму. Нягледзячы на тое, што мы з удзельнікамі нашай ініцыятывы жывём у розных месцах, мы ў кантакце, сазвоньваемся. Калі ў Менску нейкі прыём у міністра ўнутраных спраў, звонім сваім дзяўчатам: рыхтуйся, прыяжджай, могуць быць нейкія навіны ў справе. Мы ўжо падрабязнасьці гэтых спраў ведаем, прозьвішчы ўсіх сьведак нават павывучвалі. Таму што кантактуем пастаянна.**



## Алёна: «Дапамог сайт „Я з табой“»

Грамадзкая актывістка Алёна Красоўская стала сяброўкай па няшчасьці з жонкамі асуджаных паводле ўласнае волі. У сваю бытнасьць мэдсястрой турэмнага шпіталю яна закахалася ў вязьня-рэцыдывіста і пабралася зь ім шлюбам. Але не пазьбегла службовага скандалу ды звальненьня. І на сабе спазнала, што значыць быць жонкай зьняволенага.

### *Ад Алёны Красоўскай*

**— У мяне тады ўзьнікла адчуваньне, што я адзіная ва ўсім сьвеце, хто мае такія праблемы. Пры гэтым я ўсё ж разумела, што і акрамя мяне ёсьць людзі, чые блізкія таксама ў месцах пазбаўленьня волі, а таму шукала кантактаў зь імі.**

**Так я выйшла на сайт «Я з табой» для родных зьняволеных. Ён быў створаны дзяўчынай, якая чакала мужа зь месцаў пазбаўленьня волі. Я стала наведніцай сайта. Зразумела, дзялілася ўласным досьведам, а ў адказ атрымлівала нейкую вельмі важную для мяне інфармацыю ад іншых людзей ды іх падтрымку.**

**Зь цягам часу я сама пачала дапамагаць іншым. Нашы асуджаныя былі не палітвязьнямі, а звычайнымі крымінальнікамі, і часам за іх плячыма, як і ў майго мужа, былі вельмі жорсткія злачынствы. Таму абсалютная большасьць з нас, як і я сама, адчувалі сябе ізгоямі. Сярод нашага кола вельмі многія трымалі ў сакрэце, што іх блізкія сядзяць. Гэта было сорамна, гэта нярэдка выклікала неразуменьне, а часам і зусім непрыемную рэакцыю звонку.**

**Мы падтрымлівалі адны адных, у тым ліку і каб самім ня выпасьці з соцыюму. Бо калі ўзяць, напрыклад, маю сям'ю, то яна, за выключэньнем маёй дачкі, катэгарычна не прымала мой выбар. Мне пашчасьціла, што я чалавек моцны, мне не патрэбнае нейкае ўхваленьне з боку астатніх. Але людзі бываюць розныя.**

**Я ведаю сем'і, у якіх, да прыкладу, сядзеў сын, а бабуля зь дзядулем нават не падазравалі таго. Яны лічылі, што ўнук недзе на заробках. А мама з татам расказвалі розныя казкі, перадавалі нейкія падарункі нібыта ад унука. Так, сапраўды, гэта цяжка — адчуваць сябе ізгоем.**

**У нас стварылася вельмі сяброўская каманда, гэта ў пераважнай большасьці былі жанчыны. Мы дапамагалі адна адной ня толькі псыхалягічна, але ў рэальных праблемах. Зь цягам часу віртуальныя сувязі ператварыліся ў рэальныя, ліставаньне ды размовы перарасьлі ў нейкія канкрэтныя дзеяньні.**

**Да нас на сайт прыйшлі тыя, хто жыў у замежжы, але іх сваякі сядзелі за кратамі ў Беларусі. Зразумела, гэта цяжка, калі ты ў Расеі, ва Ўкраіне, у ЭЗ — сабраць ды накіраваць харчовую пасылку ў беларускую калёнію. Таму пасылкі зьбіраліся непасрэдна ў Беларусі.**

**Мы не прасілі, а тым больш не патрабавалі нейкай перадаплаты. Грошы за выдаткі (па чэку) атрымлівалі толькі потым. Такога, каб хто не аддаваў, не было ні разу. Гэтак сама мы рабілі і з мэдыкамэнтамі.**

**Здаралася, што ехалі на машыне ў Смаленск, каб сустрэць людзей, якія на спатканьне ў Беларусь дабіраліся з Уралу. Мы разумелі, што пасьля доўгай і цяжкай дарогі людзі будуць вельмі стомленыя, і лепшае для іх — паспаць некалькі гадзін у машыне. Здаралася, што, убачыўшы тых людзей, іх матэрыяльны ўзровень, мы ня бралі зь іх за бэнзін, а скідваліся на яго самі.**



Сайт «Я з табой» праіснаваў чатыры гады. Яго заснавальніца адышла ад спраў, бо вызваліўся з-за кратаў яе муж.

Час удзелу ў тым праекце быў для Алёны Красоўскай адным з самых запатрабаваных пэрыядаў у жыцьці. Праца ў «Плятформе», а потым у інфармацыйна-кансультацыйнай установе «Рэгіён 119» прынесла нямала скандалаў. У асяродку праваабаронцаў ды апазыцыі загучалі абвінавачаньні ў супрацоўніцтве зь сілавымі структурамі.

«Рэгіён 119» яго крытыкі называюць арганізацыяй GONGO (анг. Government-Organized (або Operated) Non-Governmental Organization). Такая абрэвіятура выкарыстоўваецца для абазначэньня намінальна няўрадавых грамадзкіх аб'яднаньняў, якія працуюць на інтарэсы ўладаў. Тым ня менш, сярод сваякоў асуджаных ёсьць тыя, чыім сем'ям інфармацыйна-кансультацыйная ўстанова рэальна дапамагла і якія за гэта былі ёй шчыра ўдзячныя.

## Дэпутатка: «Гэта павінна быць унутраным пераканаsuccessfulьнем палітыка»

Колішняя дэпутатка Вярхоўнага Савету і Палаты прадстаўнікоў Вольга Абрамава шчыльна сутыкнулася з праблемай зьняволеных адразу пасьля яе першага абраньня ў заканадаўчы орган, у 1996 годзе. Напачатку да яе на прыём прыходзілі выбарцы, чые сваякі сядзелі за кратамі, потым дэпутатка пачала атрымліваць вялікую колькасьць лістоў зь месцаў пазбаўленьня волі.

*Ад Вольгі Абрамавай*

Многія былі хворымі на сухоты, і па выхадзе з калёніі іх чакала незайздроснае існаваньне з адсутнасьцю жыльля і сродкаў. Падчас знаходжаньня за кратамі людзей выпісвалі з кватэры, а без прапіскі шанцаў нармальна працаўладкавацца фактычна не было. Заставалася хіба што бамжаваць.

**— У нулявыя такіх зьняволеных стала значна больш. Даводзілася пераконваць, што, асуджаючы чалавека на несвабоду, яго не асуджаюць на скарачэньне яго жыцьця або фактычна на ўзаконенае забойства.**

**І, па-другое, выходзячы на волю, носьбіты хваробы ўвесь час сутыкаюцца са здаровымі людзьмі. А гэта вялікая рызыка, асабліва для здароўя дзяцей ды старых.**

Паводле Вольгі Абрамавай, стаўленьне дэпутацкага корпусу да праблемы было прыкладна такім самым, як і стаўленьне грамадзтва ў цэлым. Сярод аднадумцаў дэпутаткі былі пераважна жанчыны.

**— Па меры магчымасьці мы разам з калегамі наведвалі турмы і калёніі. Мне цяжка ўявіць сабе, каб сярод нас маглі быць такія, хто б параўнаў турэмную ежу з рэстараннай, як гэта дазволіла сабе агучыць адна зь цяперашніх дэпутатак. Мы дамагаліся і таго, каб павялічылі фінансаваньне гэтых установаў. У мяне тады, на пачатку 2000-х, была ідэя, якую я абмяркоўвала з кіраўнікамі моладзевых калёніяў — увядзеньне кампутарнага навучаньня сярод зьняволенай моладзі, каб тыя набылі запатрабаваную прафэсію і такім чынам пераарыентаваць іх на нармальную легальную сфэру дзейнасьці.**



**У гэтыя калёніі я таксама накіроўвала кнігі і аднойчы нават пераканала калегаў зрабіць такую дабрачынную акцыю. Гэта было пад Новы год. Дзякуючы напорыстасьці, нам удалося выбіць ад ураду на гэтыя мэты даволі вялікую, як на той час, суму. Таксама мы зьбіралі грошы сярод парлямэнтароў. А потым куплялі кнігі на розных кірмашах. Аднак каля 15% з нашага дэпутацкага корпусу рэзка адмовіліся здаваць грошы: навошта нешта дарыць гэтым злачынцам?**

Вольга Абрамава лічыць патрэбным падкрэсьліць, што адмовіліся дапамагаць вязьням грашыма дэпутаты-мужчыны.

**— На жаль, у нашым грамадзтве, якое мае рэпрэсіўнае мінулае, сфармавалася такое стаўленьне да людзей за кратамі, і гэта ня можа не адкладацца ў масавай сьвядомасьці некалькіх пакаленьняў. Каб ва ўмовах цяперашняй Беларусі палітык ці грамадзкі дзяяч прасоўваў падобныя пытаньні, гэта павінна быць яго ўнутраным перакананьнем.**

## Маўчаць ці крычаць?

Калі змагаесься за блізкага чалавека за кратамі і ведаеш пра ціск на яго з боку адміністрацыі, што лепш — пісаць скаргі ў высокія інстанцыі, агучваць сытуацыю ў СМІ, сацсетках, на розных форумах ці наадварот — маўчаць, каб не было яшчэ горш? Якія мэтады змаганьня могуць дапамагчы асуджанаму, а якія, наадварот, пашкодзіць?

*Валянціна Аліневіч*

— На мой погляд, трэба агучваць праблему, але пры гэтым імкнуцца не абразіць процілеглы бок. Хоць хацелася б.

Проста крычаць — лічу контрапрадуктыўным. Наконт замоўчваньня — была спачатку такая баязьлівая думка, але пасьля роздумаў я ўсё ж вырашыла змагацца. Бо лічыла, што мая справа — гэта сьвятое.

*Алёна Красоўская*

— Розныя эмоцыі ў СМІ пры недахопе фактаў — залішнія. Публічнасьць на нейкі час зробіць цябе вядомым, але пры наяўнай сыстэме гэта можа вельмі нэгатыўна адбіцца на канкрэтнай сытуацыі і канкрэтным лёсе.

Калі твой родны трапляе за краты за крымінальную справу, зьяўляецца спакуса думаць, што твой муж, сын, дачка — ахвяры несправядлівага прысуду, розных трагічных абставінаў, і за іх свабоду трэба ледзь не аддаць жыцьцё.

Гэта зручна для асуджанага, каб апраўдаць самога сябе. Але ж гэта як міна запаволенага дзеяньня. Чалавек выходзіць на волю і чакае нейкай сатысфакцыі. Дзяржава яе не дае, а таму ён пачынае гэтага патрабаваць ад родных.

Мне пашчасьціла, што ў тым самым праекце «Я з табой« былі адэкватныя людзі, якія рэальна глядзелі на рэчы.

Мы пісалі сваім родным за краты, што праз іхнае злачынства мы ня будзем іх кахаць менш, але і самі яны павінны адказваць за свае ўчынкі.

Ня так даўно я атрымала ліст ад адной дзяўчыны з нашага праекту. Яна напісала, наколькі ўдзячная,



што мы пра гэта зь ёй шмат гаварылі. Напэўна, інакш бы яна ніколі не захавала сям'ю.

*Людміла Кучура*

— Змагацца за таго, каго прызналі злачынцам — вельмі няпроста.

Па-першае, маральна, таму што грамадзтва, незалежна ад таго, вінаватыя яны або не, стыгматызуе такіх людзей.

Па-другое, цяжка фізычна. Большасьць жанчын, каб падтрымаць чалавека за кратамі, вымушаныя вельмі цяжка працаваць, нягледзячы на свой далёка не малады век і далёка ня моцнае здароўе. Тое, што здароўе страчвае ня толькі вязень, але і яго блізкія — гэта абсалютная праўда. Але змагацца, на маю думку, трэба.

*Вольга Абрамава*

— Танцаваць трэба ад печкі, якую маем. Узгадваю гісторыю аднаго маладога мужчыны, якога абгаварылі жонка і нанятыя ёю сьведкі (размова ішла пра захоп кватэры), і ён быў асуджаны на восем гадоў за забойства.

Гэты хлопец у выніку ініцыяванага жонкай і яе сябрам канфлікту стаў інвалідам. Як чалавек прыстойны, ён доўга ў катэгарычнай форме адмаўляўся ад маёй парады скарыстацца інстытутам прэзыдэнцкага памілаваньня. Увесь час казаў, што ні ў чым не вінаваты, будзе змагацца да канца.

Тады я патлумачыла яму, што за кратамі, нягледзячы на ўсю барацьбу, ён проста згніе. Я пераканала, чалавека нарэшце памілавалі. Іншага выйсьця не было. Цяпер ён пасьпяховы фатограф, сябар таварыства інвалідаў-вазочнікаў.

Як лічыць Вольга Абрамава, сёньня, каб дамагчыся нейкіх зрухаў, неабходная масавая грамадзкая рэакцыя, бо «толькі яна можа вярнуць зь нябёсаў на зямлю некаторых небажыхароў, якія спрабуюць вырашаць усё ў нашым жыцьці».

# ЗОНА Х

**Вышка, найвышэйшая мера сацыяльнай абароны, выключная мера пакараньня — як толькі не называлі пазбаўленьне дзяржавай чалавека жыцьця.**

У Беларусі з часу абвяшчэньня яе незалежнасьці (ад 1991 да 2017 году) было выканана больш за 330 расстрэлаў. Цяпер краіна застаецца адзінай у Эўропе, дзе выконваюцца сьмяротныя прысуды. Інстанцыя, якая дае асуджанаму на сьмерць хоць маленькую, але ўсё ж надзею на жыцьцё — інстытут прэзыдэнцкага памілаваньня.

Згодна з апытаньнямі, якія некалькі гадоў таму былі праведзеныя на замову «Міжнароднай турэмнай рэформы» (Penal Reform Int.) пры кансультацыйнай падтрымцы Беларускага Хэльсынскага камітэту, траціну беларусаў гэтае пытаньне, як і раней, увогуле не хвалюе і яны нічога ня ведаюць пра тое, ці ўжываюць у Беларусі такую найвышэйшую меру, як расстрэл.

57,6% удзельнікаў апытаньня выказаліся ў падтрымку выкарыстаньня сьмяротнага пакараньня. Супраць — 34,6% апытаных. Паводле сацыёлягаў, доля праціўнікаў сьмяротных прысудаў у Беларусі апошнім часам расьце. Адначасна расьце колькасьць тых, хто ставіцца да гэтага пытаньня індыфэрэнтна.

Самая вялікая колькасьць сьмяротных прысудаў у гісторыі незалежнай Беларусі прыпадае на 1990-я. Тады, як сьведчыць статыстыка, магло выносіцца да 47 сьмяротных выракаў у год. І толькі пачынаючы ад 2000 году іх колькасьць рэзка пайшла на спад.



## Гісторыя расстралянага Ўладзіслава Кавалёва

11 красавіка 2011 году на станцыі мэтро «Кастрычніцкая» ў Менску адбыўся выбух, які забраў жыцьці 15 чалавек, некалькі сотняў былі параненыя. Арганізатарамі і выканаўцамі тэракту суд прызнаў двух віцебскіх хлопцаў — Уладзіслава Кавалёва і Дзьмітрыя Канавалава.

Іх расстралялі праз 11 месяцаў, у сакавіку 2012-га. Гэтае сьмяротнае пакараньне стала самым рэзанансным за ўсю гісторыю найноўшай Беларусі. Ня меншую нэгатыўную рэакцыю ў грамадзтве выклікала тады і адмова кіраўніка дзяржавы задаволіць прашэньне Кавалёва аб памілаваньні. (Фармальна на руках гэтага асуджанага не было крыві — ягоная віна афіцыйна палягала ў неданясеньні).

За ўвесь час сьледзтва родным Улада Кавалёва толькі тройчы дазволілі ўбачыць сына і брата. Апошняе спатканьне, якое адбылося 11 сакавіка, маці расстралянага Любоў Кавалёва памятае да дробязяў.

Жанчына і дагэтуль ня верыць у вінаватасьць сына. Адказнасьць за тэракт яна ўскладае на беларускія спэцслужбы. У барацьбе за жыцьцё Ўлада маці прайшла ўсе магчымыя інстанцыі ў Беларусі, стала для многіх прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці сымбалем барацьбы аднаго чалавека супраць сыстэмы.

Любоў узгадвае, што да трагічнай падзеі 11 красавіка 2011 году яна і ня ведала, што ў Беларусі ўсё яшчэ ёсьць найвышэйшая мера пакараньня. Так было, пакуль гэта не закранула яе саму. У адзін момант жыцьцё назаўсёды падзялілася на «да» і «пасьля» выбуху. Дапамагло выжыць тое, што з боку людзей, якія былі вакол яе, яна не адчувала нэгатыву, а толькі пад-

трымку. Нават з боку сваякоў пацярпелых ды загінулых, якія, як і яна, хадзілі на судовы працэс у Менску.

**— Я думаю, што і сын мой гэта разумеў. І гэта надавала яму сілы. Калі б я ў дачыненьні да нашай сям'і, да майго сына адчула нешта іншае, я б проста не змагла хадзіць спакойна па горадзе. Думаю, што пасьля нашай справы людзі сталі менш давяраць сьледзтву ды судам.**

Маці расстралянага кажа, што яе па-ранейшаму не адпускаюць думкі пра апошні шлях сына. Тое, як яго вядуць па калідоры на расстрэл. Якія ў яго былі адчуваньні. Пра што ён мог думаць. Напэўна ж, узгадваў і пра родных — пра яе, пра сваю сястру, бабулю.

**— Нават цяпер такая жахлівая трывога раптам ахопіць. Здаецца, усё самае страшнае ўжо здарылася. І ўсё роўна не магу спаць.**

Згодна зь беларускімі законамі, целы расстраляных, нягледзячы на просьбы ды патрабаваньні сваякоў, сем'ям на пахаваньне не выдаюць. Такая самая практыка ў Кітаі, дзе сёньня прыводзяць у выкананьне самую вялікую колькасьць сьмяротных прысудаў. Ёсьць іншыя прыклады: у ЗША маюць права забраць цела родныя або нават сябры пакаранага. Калі ніхто не аб'яўляецца, нябожчыка хаваюць на могілках, як правіла на тэрыторыі турмы. На надмагільлі ўказваецца імя і дата сьмерці.

У Беларусі некаторыя маці расстраляных робяць сымбалічныя магілы. Зразумела, не на могілках. Проста знаходзяць нейкае месца, так ці інакш зьвязанае зь іх сынам, закопваюць там некаторыя ягоныя рэчы, ставяць невялікі крыж ці камень ды час ад часу прыходзяць туды паплакаць. Што да Любові Кавалёвай, то яна адразу ад такой ідэі адмовілася.



**— Мне здаецца, што душа сына павінна здабыць спакой. Улада расстралялі ў адным месцы, калі пахавалі, то ў іншым. А тут яшчэ адна сымбалічная магіла... Усё ж трэба дамагацца ад уладаў, каб яны вярталі целы расстраляных. Яны ўжо ўсё зрабілі, што хацелі: пазьдзекаваліся з Улада, зь мяне. І цяпер працягваюць, прыкрываючыся артыкулам 176, згодна зь якім месца пахаваньня не абвяшчаецца, а цела не выдаецца.**

Пастаянна ў памяці жанчыны, як яна кажа, усплывае апошняе спатканьне з сынам у СІЗА КДБ. Гэта было 11 сакавіка 2012 году.

**— Пры сустрэчы я вельмі хвалявалася за яго здароўе, бо ён астматык і ў яго здараліся прыступы, а таму спыталася ў супрацоўнікаў, ці можна перадаць яму мэдыкамэнты. А тыя сказалі: калі ласка, не праблема, насупраць СІЗА ёсьць аптэка, і іх супрацоўнік можа набыць лекі, зьняўшы грошы з сынавага рахунку. Яшчэ яны на маю просьбу параілі, якія лепш купіць сыну кніжкі — у мяккай вокладцы. Пасьля спатканьня мы з Танюшкай адразу пабеглі ў кнігарню, што насупраць КДБ.**

Тым разам з Уладам размаўляла больш сястра Таццяна, дзялілася навінамі пра сяброў. Улад трымаўся, нават усьміхаўся, прыгадвае Любоў Кавалёва.

**— Я спыталася ў яго наконт харчовай перадачы: чаго смачнага яму хацелася б, але ён нічога не адказаў. Ён проста паглядзеў і прамаўчаў. Мне здаецца цяпер, што ён, напэўна, ужо ведаў. Калі мы разьвіталіся пасьля трох гадзінаў спатканьня, твар Улада стаў такі цёмны-цёмны. У мяне раптам узьнікла адчуваньне, што яму няма чым дыхаць, не хапае паветра.**

Потым, цягам трох наступных дзён, адвакат Улада Станіслаў Абразей беспасьпяхова спрабаваў сустрэцца са сваім падабаронным, але яго не было ні ў СІЗА КДБ, ні ў СІЗА на «Валадарцы». 16 сакавіка Любоў Кавалёва разам з адвакатам перадала ў Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў заяву з просьбай даць пісьмовы адказ, дзе яе сын. У дэпартамэнце сказалі, што трэба зьвяртацца ў Вярхоўны Суд.

17 сакавіка дома ў Віцебску ў сваёй паштовай скрыні жанчына знайшла ліст з апавяшчэньнем зь Вярхоўнага Суду, датаваны 16.03.2012. Зь яго вынікала, што яе сын быў расстраляны 15 сакавіка. Адмову ў памілаваньні прэзыдэнт падпісаў 13 сакавіка.

Пазьней, аналізуючы паводзіны ўладаў у тыя дні, узгадваючы самыя розныя дэталі іх апошняй сустрэчы, якім на той час не надала належнага значэньня, Любоў Кавалёва зробіць выснову: сына расстралялі ў дзень іх спатканьня. Усё пра гэта сьведчыла.

— **Праўдападобна, што з расстрэлам вельмі сьпяшаліся. Так сьпяшаліся, што расстралялі сына менш чым праз тры месяцы пасьля вынясеньня прысуду. Касацыйнага разгляду скаргі не было. Найвышэйшую меру выканалі, калі ААН паведаміла ўраду Беларусі, што скарга Кавалёва на прысуд у Камітэце ААН па правах чалавека пастаўленая на ўлік. Выходзіць, што Беларусь ня выканала сваіх абавязаньняў — адтэрміноўваць у такіх выпадках выкананьне прысудаў.**

Жанчына кажа, што ёй і цяпер балюча ўзгадваць «шчырыя парады» супрацоўнікаў СІЗА КДБ, якія кніжкі і лекі лепш набыць для чалавека, якому заставалася жыць зусім вобмаль. Бо, як і Улад, яны цудоўна ўсё ведалі. Інакш як зьдзекі Любоў Кавалёва гэта не ўспрымае.



## Ад кіраўніка расстрэламі

Колішні начальнік «Валадаркі» Алег Алкаеў падчас працы кіраўніком спэцгрупы са сьнежня 1996 па травень 2001 году, асабіста кіраваў 134 расстрэламі. Пра гэта сам ён распавядае ў шматлікіх інтэрвію.

У сакавіку 2012-га, неўзабаве пасьля расстрэлу Дзьмітрыя Канавалава і Ўладзіслава Кавалёва за тэракт у менскім мэтро, Аляксандар Лукашэнка на пытаньне расейскага журналіста адказаў, што за ўвесь час свайго праўленьня памілаваў толькі аднаго чалавека.

Ніякіх афіцыйных зьвестак пра гэтую памілаваную асобу, як і пра тое, што зь ёй цяпер, няма. З размоваў з былым турэмным начальнікам Алегам Алкаевым, палітолягам, дэпутаткай Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь XIII скліканьня і Палаты прадстаўнікоў II (2000–2004 гг.), і III (2004–2008 гг.) скліканьняў Вольгай Абрамавай ды іншымі «Свабодзе ў турмах» давялося пачуць аб некалькіх такіх памілаваных.

Палкоўнік унутранай службы Алег Алкаеў ужо больш як сямнаццаць гадоў жыве ў Нямеччыне. За час сваёй эміграцыі, як выглядала, ператварыўся ў пасьлядоўнага праціўніка сьмяротнага пакараньня. Аднак у адным з апошніх інтэрвію тэлеканалу «Настоящее время» зноў загаварыў пра сваю прыхільнасьць да гэтай найвышэйшай меры.

Цікавая акалічнасьць: ні ў сваёй кніжцы «Расстрэльная каманда», ні ў інтэрвію як беларускім, так і заходнім журналістам, Алкаеў, ужо маючы статус палітычнага ўцекача, нідзе не раскрывае месца і мэтодыку расстрэлу ў Беларусі. Ён даволі ўмела не адказвае на гэткія пытаньні. Адрозна ад іншых палітычных уцекачоў з былога СССР, якія мелі доступ да дзяржаўных таямніц, палкоўнік МУС так і ня выдаў сакрэтаў.

Разважаючы ў размове са «Свабодай у турмах» пра пакараньне Ўладзіслава Кавалёва, Алкаеў кажа, што ў

тым канкрэтным выпадку ў прэзыдэнта былі падставы для памілаваньня, бо на руках Кавалёва не было крыві. Пра гэта палкоўнік казаў непасрэдна маці Уладзіслава яшчэ да ягонага расстрэлу. Алкаеў адмыслова патэлефанаваў ёй у Страсбург, дзе яна выступала перад палітыкамі, ды параіў тэрмінова вяртацца ў Беларусь і шукаць шляхі выратаваньня жыцьця сыну менавіта там: «Калі хочам захаваць чалавеку жыцьцё, то трэба стукацца не ў брусэльскія дзьверы, а ў дзьверы Адміністрацыі прэзыдэнта. Менавіта ля гэтых дзьвярэй трэба дзяжурыць. Такія правілы існаваньня пры дыктатуры, хочам мы таго або не».

Палкоўнік міліцыі пацьвердзіў, што той адзіны выпадак прэзыдэнцкага памілаваньня, пра які казаў Аляксандар Лукашэнка, якраз адбыўся за часам службы яго, Алкаева, у Беларусі.

**— Я толькі прозьвішча ня памятаю. Затое памятаю шмат чаго іншага. І тых, хто быў асуджаны на расстрэл пры Лукашэнку, і тых, каму прызначалі сьмяротнае пакараньне ў часы парлямэнцкай рэспублікі.**

На пачатку 1990-х, паводле Алкаева, ён яшчэ не працаваў начальнікам СІЗА і ў склад спэцгрупы не ўваходзіў. Але быў апэратыўнікам, начальнікам рэжымнага аддзелу, а таму добра памятае, каму пашчасьціла пазьбегнуць расстрэлу.

**— Напрыклад, у камэры сьмяротнікаў сядзеў салдат, які служыў у Нямеччыне. Ён пасек сякерай траіх ці чацьвярых «дэмбэляў». За дзедаўшчыну. Салдату далі расстрэл, потым памілавалі, замянілі дваццацьцю гадамі. Яшчэ быў адзін капітан міліцыі, які забіў двух сяброў з табэльнай зброі. Невядома, зь якой прычыны яго памілавалі. Але яму замянілі расстрэл таксама на дваццаць гадоў асаблівага рэжыму.**



**Тады шмат забойстваў было. Урэшце, у першай калёніі на Кальварыйскай, якую потым зруйнавалі, пры ліміце напаўненьня дзьве тысячы чалавек ці крышку болей пастаянна сядзелі пяцьсот чалавек, асуджаных за забойства. Аднак усіх расстрэл не закрануў. У выніку судовых пераглядаў асуджаныя замест расстрэлаў маглі атрымаць 15–20 гадоў турэмнага зьняволеньня. Ад 1997-га ў якасьці альтэрнатывы расстрэлу пачалі даваць пажыцьцёвае.**

Паводле Алкаева, гэткіх пераглядаў расстрэльных вэрдыктаў судом найвышэйшай інстанцыі было шмат. Нярэдка журналісты, праваабаронцы ды іншыя блытаюць працэс касацыйна-наглядной інстанцыі з памілаваньнем (індывідуальным правам прэзыдэнта), а гэта зусім ня так.

## Гісторыя нерасстралянага Вікенція Мінгіновіча

Мяркуючы па ўсім, узгаданы Алкаевым сьмяротнік — капітан міліцыі, які ў п'яным стане з табэльнай зброі расстраляў дваіх калегаў і да якога невядома чаму аказалася добразычлівай беларуская Тэміда, — гэта колішні АМАПавец Вікенці Мінгіновіч. Прыкладна ў 2010 годзе ён выйшаў на волю пасьля 20 гадоў адседкі. Нейкі час быў ахоўнікам на старым Чэрвеньскім рынку. Што зь ім цяпер — невядома.

Журналісту Васілю Сямашку, аднак, на пачатку 2010-х неяк удалося паразмаўляць з былым асуджаным на сьмерць, калі той яшчэ працаваў на рынку. Мінгіновіч пераважна расказваў пра ўмовы ўтрыманьня ў камэры спэцкалідору на «Валадарцы». Тую размову журналіст запісаў на дыктафон, але нідзе не публікаваў.

**«Нават у лазьню асуджаных на сьмерць выводзілі ўначы. Усё рабілася так, каб нас магла бачыць мінімальная колькасьць людзей. Часам адміністрацыя СІЗА прыдумляла вельмі зьняважлівыя спосабы перамяшчэньня па турэмным калідоры. Напрыклад, каб ішлі гусіным крокам, трымаючы рукі за сьпінай, або нізка нахіліўшы галаву і падняўшы рукі за сьпінай уверх, як на прэнгу.**

**Зьдзекаваліся з асуджаных на сьмерць нават у такіх дробязях, як прыём ежы. Ледзь наглядчык заканчвае раздачу супу ў апошняй камэры, ён тут жа ідзе ў першыя камэры накладаць у тыя самыя міскі кашу. Даходзіць да апошняй камэры, і потым пачынае забіраць міскі. Зьняволеныя-сьмяротнікі проста не пасьпявалі паесьці, але гэта нікога не хвалявала. Праўда, нейкае выйсьце намі было знойдзена. Раніцай мы рабілі нешта кшталту місак з паловы бохана чорнага хлеба, вылівалі туды суп. Потым хутка зьядалі кашу, а потым ужо выпівалі суп.**

**Сьмяротнікам не належала выдаваць пасьцельную бялізну. Толькі палатняны мех, які нацягваўся на матрац замест наматрацніка. Больш нічога. Накрываліся нейкай старой салдацкай коўдрай.**

**Пры гэтым накрывацца з галавой было забаронена, рукі павінны былі знаходзіцца на паверхні коўдры. Такім чынам прадухілялася спроба самагубства».**

Васіль Сямашка ўскладае віну за такое абыходжаньне ў тым ліку і на палкоўніка міліцыі Алега Алкаева:

**— Нягледзячы на тое, што Алег Алкаеў у свой час быў з самых прасунутых турэмных рэфарматараў, ён усё роўна застаўся турэмнікам, а на дадатак яшчэ і катам. Ён ня толькі браў удзел у расстрэлах, але і даваў сваім непасрэдным падначаленым поўны карт-блянш на тое, каб тыя зьдзекаваліся з асуджаных на сьмерць. Пры ім гэтыя зьняволеныя мусілі ўставаць па стойцы «зважай», апусьціўшы галаву і заплюшчыўшы вочы, пры ім кантралёры штодзень жорстка зьбівалі «сьмяротнікаў» ды пажыцьцёвікаў. Усё рабілася дзеля таго, каб канчаткова зламаць гэтых асуджаных, якім і так жыць заставалася няшмат.**



## Гісторыя нерасстралянага Сяргея Праціраева

Былы начальнік «Валадаркі» не камэнтуе ўмоваў утрыманьня «сьмяротнікаў», аднак сёе-тое пра адзінага, як ён памятае, памілаванага прэзыдэнтам расказаць пагаджаецца: гэта быў тройчы суджаны рэцыдывіст, якога прызналі вінаватым у забойстве. Алкаеў прыгадвае даволі спартовы выгляд вязьня, чалавека сярэдняга веку, але імя і прозьвішча ня памятае. Памятае мянушку — «Дырэктар».

**— Так, гэта быў адзіны выпадак, калі прэзыдэнт замяніў расстрэл на дваццаць гадоў асаблівага рэжыму ў Глыбоцкай калёніі.**

Як вынікае са сьведчаньняў іншых удзельнікаў перадачы «Свабода ў турмах», якія так або інакш кантактавалі з асуджаным на расстрэл, але памілаваным у тыя гады Сяргеем Праціраевым, ён і «Дырэктар» — адна і тая самая асоба.

Супадаюць вонкавыя прыкметы, тое, што калісьці ён працаваў брыгадзірам, што ў канцы 1990-х яму замянілі расстрэл на дваццаць гадоў Глыбокага.

Сяргей Праціраеў, як кажуць, змагаўся супраць свайго сьмяротнага прысуду да канца. Сваёй віны не прызнаваў. Паўтараў, што ўсе доказы сфабрыкаваныя

сьледзтвам. Пісаў куды толькі мог. Зрэшты, так робяць ці ня ўсе «сьмяротнікі».

У чэрвені 1998-га, як паведаміў сайт ПЦ «Вясна», да праваабаронцаў праз турэмную пошту трапіла яго пасланьне з камэры сьмяротнікаў на «Валадарцы». Асуджаны на расстрэл перадаў на волю выкладзеныя на некалькіх старонках акалічнасьці крымінальнай справы, а таксама ўласны верш «Ліст, напісаны людзям». Вязень сьцьвярджаў, што ягоная гісторыя зусім не ўнікальная:

**— Мы, беларусы, часта дзівіліся фактам незаконна расстраляных па справе маньяка Міхасевіча («Віцебская справа»). Але сёньня людзей працягваюць расстрэльваць, каб паказаць народу, якая ў нас вядзецца барацьба са злачыннасьцю. А што будзе далей, калі гэткіх, як я, «статыстаў» расстраляюць? Тады будуць страляць звычайных людзей, бо машына беззаконьня набірае абароты і хутка ня будзе розьніцы, каго страляць, як у 1937 годзе.**

Як высьветлілася пазьней, Праціраеў сядзеў у адной камэры зь іншым асуджаным на сьмерць — Іванам Фаміным. Маці таго хлопца паведаміла праваабаронцам, што яе сын нікога не забіваў, аднак калі сапраўдныя забойцы пачалі пагражаць расправіцца з усёй сям’ёй, быў вымушаны ўзяць іх віну ды агаварыць сябе ў судзе.

Паход у Вярхоўны Суд Іванавай маці разам з праваабаронцай, тагачаснай актывісткай «Вясны» Любоўю Лунёвай (яна тады займалася гэтай справай) вынікаў ня даў — старшыня Вярхоўнага Суду Сукала, паводле яе, сказаў ім: «Хай ён не вінаваты. А ня трэба было браць на сябе чужую віну».

Алег Алкаеў памятае Фаміна — яго «расстралялі за злачынства, якога ён не ўчыняў, і ўсе гэта ведалі».

А пра справу «Дырэктара» колішні кіраўнік расстрэльнай каманды кажа:



**— Там знайшлі адну юрыдычную зачэпку. Ёсьць такое паняцьце — забойства, гэта калі чалавек адразу памёр, а ёсьць — цяжкія цялесныя пашкоджаньні, якія пацягнулі за сабой сьмерць пацярпелага. Чалавек памёр не адразу, а праз паўгадзіны, напрыклад. Ахвяры «Дырэктара» было нанесена дзесяць — пятнаццаць удараў манціроўкай па галаве. І зразумела — калі б’юць па галаве, гэта намер не на цяжкія цялесныя, а на забойства. І тое, што чалавек памёр не адразу, гэта не заслуга злачынцы — можа, проста слаба біў ці яшчэ што. Але за гэта зачапіліся. А чаму памілавалі — ня мне меркаваць.**

У 1999 годзе праваабаронцы «Вясны» атрымалі нечаканы ліст з калёніі асаблівага рэжыму ў Глыбокім ад Сяргея Праціраева. Ён паведамляў, што ў апошні момант яму замянілі «вышку» 20 гадамі, што ён удзячны «вясноўцам» за іхнія бюлетэні, якія яны дасылаюць у гэтую закрытую ад астатняга сьвету зону, што «кантроль за вязьнямі тут вельмі жорсткі, што пісаць калектыўныя лісты на волю, скаргі, заявы ім забаронена».

«Тут у калёніі, — пісаў асуджаны, — хвароба косіць усіх без разбору, старых ды маладых. Прастудныя захворваньні мае кожны другі, бо арганізмы аслабленыя безь вітамінаў. Не хапае кіслароду, людзей у камэрах як селядцоў у бочцы».

Больш пра гэтага чалавека праваабаронцы ня чулі.

Зьняволены Вадзім, які ў 2002–2004 гадах адбываў пакараньне ў Глыбоцкай калёніі, кажа, што памятае гэтага вязьня. Братоў Праціраевых было трое, і ўсе яны былі зьвязаныя з крымінальным сьветам. Сяргей, якому на той момант было за сорак, быў старэйшым і найбольш цэльнай асобай з братоў. У дваіх астатніх, нібыта, былі праблемы з наркотыкамі. Пазьней, на пачатку 2010-х, Вадзім ад былых сукамэрнікаў пачуў, што ўсіх траіх ужо няма ў жывых.

# Гісторыя нерасстралянага Дзьмітрыя Хархаля

Былая дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Вольга Абрамава кажа, што ў яе на руках ёсьць дакумэнт ад камісіі па памілаваньні пры прэзыдэнце. У паперы, адрасаванай на яе імя, дакладна сфармулявана, што на яе дэпутацкі зварот была разгледжаная і перагледжаная справа Дзьмітрыя Хархаля.

Абрамавай цяпер цяжка прыгадаць, як тады, у 2003-м, была юрыдычна аформленая замена расстрэлу на 15 гадоў зьняволеньня, аднак яна з упэўненасьцю сьцьвярджае: гэткія рашэньні ў краіне прымаюцца выключна прэзыдэнтам. Калі б прэзыдэнт ня меў на тое жаданьня, кажа яна, ён элемэнтарна б адхіліў яе хадайніцтва, як гэта ня раз рабіў зь іншымі зваротамі аб памілаваньні.

На пачатку 2000-х, калі ў Менску ішоў судовы працэс над Дзьмітрыем Хархалем, менчуком 1970 году нараджэньня, раней неаднойчы суджаным, у СМІ ды інтэрнэце зьявіліся разнастайныя зьвесткі пра гэтую асобу. Хархаля абвінавачвалі ў забойстве сямейнай пары, і яму рэальна пагражала сьмяротнае пакараньне.

Нешта з тых матэрыялаў і сёньня можна знайсьці ў вольным доступе. Напрыклад, артыкул «Джэнтэльмэн удачы» ад 12.12.2000, аўтар якога — журналіст выданьня «Советская Белоруссия» Генадзь Курбека. У ім падрабязна апісваўся крымінальны шлях Хархаля ледзь не са школьных гадоў.

У сваю чаргу праваабаронцы, спасылаючыся на сьцьвярджэньні адваката асуджанага, настойвалі на тым, што справа быццам была сфабрыкаваная, а таксама ўказвалі на «бесчалавечныя ды зьневажальныя ўмовы ўтрыманьня» Дзьмітрыя ў камэры сьмяротнікаў, на тое, як зьдзекаваліся зь яго ахоўнікі, як катавалі.



У якасьці дэпутаткі Вольга Абрамава ня раз наведвала беларускія калёніі ды турмы, гутарыла з асуджанымі. Акрамя вязьняў з калідора сьмяротнікаў на «Валадарцы». Гэтае наведаньне не было прадугледжана для парлямэнтароў. Сустрэча з асуджаным на расстрэл Дзьмітрыем Хархалем адбылася на просьбу дэпутаткі. Напярэдадні яна атрымала ліст ад зьняволенага. Спасылаючыся на свайго адваката, ён пісаў, што Вольга Абрамава як адзіная парлямэнтарка-праціўніца сьмяротнага пакараньня — ёсьць ягонай апошняй надзеяй на выратаваньне. А расстрэл можа адбыцца вось-вось.

Дазвол на сустрэчу быў атрыманы Вольгай Абрамавай не бязь цяжкасьці:

**— Буду шчырай, перад паходам на «Валадарку» я ня спала ноч і наступнай раніцай пайшла ў тую камэру на паўсагнутых нагах. Напярэдадні я вывучыла справу. Там сапраўды было нямала, як мне здалося, пытаньняў і нестыковак.**

**У сутарэньні СІЗА № 1, акрамя нас дваіх, прысутнічаў яшчэ адзін чалавек. Думаю, гэта было ў мэтах бясьпекі, паколькі ў нашай гутарцы ён ніяк ня ўдзельнічаў. Размова, напэўна ж, запісвалася. На самым пачатку я сказала, што знаёмая са справай, што гатовая выслухаць. Пацікавілася, што ён хацеў бы дадаць.**

Паводле Абрамавай, Хархаль пачаў з таго, што ўсё зусім ня так, як намалявана ў справе: прысуд несправядлівы, забойца ня ён, а ягоны стрыечны брат, які ў той час хаваўся ў Польшчы. На яго, Дзьмітрыя, як звычайна ў гэткіх сытуацыях, дзеля таго, каб была раскрывальнасьць, склад злачынства «навесілі» сьледчыя. Хархаль быў вымушаны доўга хавацца ў Расеі, аднак там яго ўсё ж арыштавалі ды перадалі ў Беларусь. Асуджаны ўвесь час старанна абыходзіў пытаньне, хто быў

ініцыятарам злачынства. Адказнасьць за непасрэднае выкананьне і за асноўную ідэю ён перакладаў на стрыечнага брата, а сябе называў ахвярай абставін. Так, ён ведаў, што ў брата было жаданьне выкрасьці выстаўленую на продаж машыну, але думаў, што гэта будзе зроблена неяк інакш. Для Дзьмітрыя, зь ягоных слоў, сталі нечаканасьцю два стрэлы, якія зрабіў брат, у выніку чаго былі забітыя ўладальнікі аўтамабіля — муж і жонка.

Потым Хархаль перайшоў на характарыстыку сябе самога. Ведаючы, што дэпутатка вывучыла яго справу, сказаў: «Я, вядома, не анёл» і падрабязна распавёў пра адзін з эпізодаў. Паводле асуджанага, ён у пэўны момант страціў кантроль над сабой, а таму ў выніку пацярпелы атрымаў вельмі сур'ёзнае калецтва. Затым вязень пераключыўся на цяжкае дзяцінства. Ён расказаў, што выхоўваўся ў няпоўнай сям'і і што тыя ўмовы былі вельмі неспрыяльныя для дзіцяці.

### *Ад Вольгі Абрамавай*

**— Я і цяпер у розных дэталях памятаю тую 40-хвілінную размову з Хархалем, ягоную мову цела, выраз твару, вочы. Мне неабходныя былі гэтыяназіраньні для таго, каб скласьці сваё ўражаньне пра суразмоўцу. Аднак я б не хацела гэтага агучваць, каб не даваць нейкай ацэначнай характарыстыкі. Тым больш што чалавек гэты, як пісалі СМІ, нібыта ўжо пачаў новае жыцьцё на волі.**

**Перада мной сядзела асоба, якая ўсё прадумала «ад» і «да». Асоба, цалкам сфармаваная. Жорсткая, калі не сказаць больш. Для мяне было відавочна, што ў дачыненьні да мяне ён загадзя сканструяваў такі вобраз: вось прыйдзе гэтая дурнічка, жанчына-дэпутатка, якая нічога ў жыцьці ня бачыла, нічога не разумее, паколькі зусім адарваная ад рэальнасьці... Памятаю, як ён раззлаваўся і**



**зіркнуў на мяне, калі я сказала яму на разьвітаньне: «Ведаеце, я вам не спачуваю, вы, з майго гледзішча, чалавек, які грунтоўна пераступіў закон і ад пачатку да канца разумеў, што ён робіць. Але вам вельмі пашанцавала. Вы сапраўды трапілі на адзінага дэпутата, які выступае супраць сьмяротнага пакараньня. Ваш адвакат сказаў вам праўду. Менавіта таму я буду зьвяртацца да прэзыдэнта з просьбай аб памілаваньні».**

Вольга Абрамава дадае, што неўзабаве пасьля сустрэчы накіравала зварот у камісію па памілаваньні, дзе ўказала, напрыклад, на тое, што ў справу да разгляду не былі далучаныя дадзеныя эксьпэрта па балістыцы з 30-гадовым стажам. Згодна з той экспэртызай, зь месца, дзе знаходзіўся абвінавачаны, проста фізычна немагчыма было зрабіць тыя стрэлы, у выніку якіх загінулі двое людзей. Таксама прыняла некаторыя іншыя зьвесткі, якія б маглі сьведчыць, што абвінавачаны, па ўсёй верагоднасьці, не ўчыняў забойства, хоць і прысутнічаў пры гэтым.

Як узгадвае былая дэпутатка, «многія тады лічылі, што прысуд вось-вось будзе выкананы. Аднак прэзыдэнт усё ж перагледзеў вырак... Расстрэл быў заменены на пятнаццаць гадоў».

Ці напісаў гэты чалавек нейкія словы падзякі зь месца адбыцьця пакараньня?

**— Пра што вы кажаце... Пасьля таго, як ён на мяне зіркнуў, я нават і не чакала нейкага ліста са словам «Дзякуй». Спадзяюся, што хоць прэзыдэнту ён напісаў нейкія словы падзякі... Усё ж яму выратавалі жыцьцё.**

## На волі

На час, калі пішуцца гэтыя радкі, памілаванаму прэзыдэнтам Дзьмітрыю Хархалю — 47. Калі ён ужо быў на волі, журналісту «Эўрарадыё» Зьмітру Лукашуку ўдалося пагутарыць зь ім праз Skype. Мяркуючы па тым, што гэта быў канец 2013-га, застаецца пытаньне, ад якога часу судом былі налічаныя тыя пятнаццаць гадоў зьняволеньня.

Як сьведчыць Зьміцер Лукашук, на гэтую тэму Хархаль не гаварыў. Ён адказваў далёка не на ўсе пытаньні, да таго ж абмежаваў час размовы.

**— Ніякіх падзякаў ён не выказваў. Пра Абрамаву дык я ўпершыню ад вас даведаўся. Ён усё ў асноўным пра сябе гаварыў. Што змагаўся, не здаваўся, усё сам... Адчуваньне пасьля размовы было хутчэй двоістае. З аднаго боку, добра, што чалавека не расстралялі, што ў яго зьявіўся шанец жыць далей... Аднак стоадсоткавай упэўненасьці ў тым, што ўсё было так, як ён сказаў, што ён ні ў чым не вінаваты, у мяне няма.**

На пасьлятурэмных фота, якія можна знайсьці ў сеціве, Хархаль выглядае акуратным, дагледжаным. Ён, як вынікае з інтэрвію чатырохгадовай даўнасьці, пасьля зьняволеньня пачаў жыць па-новаму, зьехаў у Расею, мае там працу, хоча калі-небудзь вярнуцца ў Беларусь. Зьміцер Лукашук пацьвярджае, што сам чуў гэта ад Хархаля:

**— Тады ён мне менавіта так расказваў, што працуе ў Расеі на будоўлі. Але ж што цяпер зь ім, я ня ведаю. Нумару свайго ён ня даў, каб зь ім можна было пагутарыць. Ён сам пазваніў мне праз Skype, нават не дадаючы мяне ў кантакты. Паразмаўляў, а потым выдаліўся. І ўсё.**



Дэпутатка Вольга Абрамава пагаджаецца: Дзьмітрыю Хархалю сапраўды моцна пашанцавала. Але, лічыць яна, шанец на жыцьцё павінен давацца кожнаму.

**— Калі б на месцы Хархаля быў нейкі іншы чалавек, у чыёй віне я б нікольк не сумнявалася, я б усё роўна зьвярнулася да прэзыдэнта з хадайніцтвам аб пераглядзе справы. Абавязкова, калі б была ў той час дэпутаткай, хадайнічала б за Кавалёва. Увогуле, я гатовая і цяпер прадметна прасіць за любога асуджанага на сьмерць, калі ён ці ягоныя родныя зьвернуцца да мяне па маю думку і маю магчымасьць дапамагчы. Бо лічу, што сьмяротнае пакараньне павінна быць адмененае.**

У інстытуце прэзыдэнцкага памілаваньня Вольга Абрамава бачыць тую адзіную прамежкавую меру, якая павінна даваць асуджанаму на сьмерць нейкую надзею. Альтэрнатывы пры існаваньні сьмяротнага пакараньня няма, лічыць яна.

**— Такое пытаньне, як адмена сьмяротнага пакараньня, павінна вырашацца тут, у краіне. Досьвед тых, хто хадайнічае наконт гэтага ў міжнародных арганізацыях, сьведчыць: на жаль, на тым самым прыкладзе Кавалёва — Канавалава, у нашых спэцыфічных умовах гэта дае толькі адмоўныя вынікі. Так здарылася і ў 2012-м, калі было прынятае надзвычай несправядлівае рашэньне ў дачыненьні да Ўладзіслава Кавалёва. Але ж здымаць адказнасьць за гэта з улады ніяк нельга. Што гэта за ўлада, якая ня можа прыняць адэкватнага рашэньня?**

# Пажыцьцёвае як альтэрнатыва расстрэлу. Гісторыя нерэабілітаванага Аляксандра Буд-Гусаіма

Першым ды адзіным дагэтуль беларускім пажыцьцёвікам, які дамогся вызваленьня, стаў Аляксандар Буд-Гусаім з Салігорску. Кароткі час ён быў на волі адзіным сьведкам таго, што ўяўляе сабой такая выключная мера крымінальнага пакараньня, як пажыцьцёвае зьняволеньне (ПЗ). Гэты самы суровы турэмны рэжым ужываецца ў Беларусі ўжо 20 гадоў у якасьці альтэрнатывы расстрэлу. Пасьля вызваленьня Аляксандар Буд-Гусаім пражыў няшмат. Памёр ад раптоўнага спыненьня сэрца ў траўні 2017-га на 59-м годзе жыцьця.

Аляксандра Буд-Гусаіма пасадзілі на пачатку 1999-га за забойства егера са зброі, зь якой, паводле экспэртызы, не было зроблена ніводнага стрэлу. У 2014-м Вярхоўны Суд усё ж палічыў прызначаны яму рэжым занадта жорсткім і замяніў яго на больш «мяккі» — 20 гадоў за кратамі. З улікам амністыі атрымалася на некалькі гадоў менш.

Два апошнія гады свайго пакараньня Буд-Гусаім правёў на «хатняй хіміі». Ён жыў разам зь сям'ёй ва ўласнай кватэры ў Салігорску, куды ў любы час сярод ночы маглі з праверкай зьявіцца міліцыянты, і працаваў рабочым на будоўлі. За кароткі час, аднак, стаў брыгадзірам, потым майстрам. Як сьведчаць ягоныя сямейнікі, працаваў ледзь не па 24 гадзіны на суткі.

Удалося стаць на ногі і нават выкупіць назад бацькоўскую хату, што ў цэнтры Старобінскага запаведніку ў вёсцы Вейна. Яе ўласнымі рукамі пабудавалі бацькі і ён сам. Аднак падчас адседкі Аляксандра — гэта здарылася, калі бацькоў ня стала — адзін сваяк насуперак усім дамоўленасьцям прадаў маёмасьць бязь ведама



жонкі і дачок асуджанага. Выкупленая хата патрабавала рамонту, і Буд-Гусаім шмат працаваў.

Як кажа ягоная жонка Марыя, плянаў у мужа было мора. Самай жа галоўнай мэтай — поўная рэабілітацыя. Не атрымалася. У момант працоўнага перапынку Аляксандар прысеў на крэсла і памёр. Быццам асабліва і не хварэў, быццам і рэсурс арганізму быў разьлічаны на больш працяглае жыцьцё. Каб ня той несправядлівы прысуд, ня тая страшная турма.

Сам Аляксандар у апошняй размове са Свабодай зазначыў:

— **Большасьць канваіраў на ПЗ ня вераць, што адтуль можна выйсьці жывым. Так і кажуць — вы ўсе тут згніяце.**

Аляксандар Буд-Гусаім дадаў, што вельмі цэніць «дапамогу тых, дзякуючы каму ня згніў, а насуперак усяму выйшаў на свабоду і маю магчымасьць жыць», і назваў імёны.

У тым невялікім пераліку не было ні дэпутатаў, ні палітыкаў, ні праваабаронцаў. Ён ня быў нейкай знакавай асобай для грамадзтва — усяго толькі просты чалавек зь сялянскай сям'і. Увесь час, калі ён знаходзіўся ў вязьніцы, яго падтрымлівалі і як маглі змагаліся за яго жонка зь дзецьмі, аднавяскоўцы.

Актывістка грамадзкай ініцыятывы, чый уласны муж сядзеў за кратамі і таксама апынуўся на паляваньні ня ў тым месцы і ня ў той час. Адзін менскі журналіст, які ад пачатку выявіў інтарэс да ягонай гісторыі. Яшчэ некалькі людзей, чые імёны абсалютнай большасьці мала што скажуць.

# Суд за пяць гадзінаў

Менскі журналіст Васіль Сямашка прыгадвае, што пра Буд-Гусаіма ўпершыню пачуў недзе ў 2001 годзе, калі той ужо сядзеў у Жодзіне. Васіль працаваў тады ў «БДГ» і, рыхтуючы нейкі артыкул, зьвярнуўся з пытаньнем да аднаго з супрацоўнікаў МУС. Той і расказаў пра здарэньне ў сьнежні 1998-га, калі ў адным з палескіх запаведнікаў быў забіты егер. Крайнім у гісторыі незразумела як стаў сваяк суразмоўцы журналіста, хоць падазрэньні і падалі на аднаго зь мясцовых міліцыянтаў.

Сямашку далі пачытаць справу Буд-Гусаіма. Дакумэнты ўражвалі шматлікімі нестыкоўкамі. Васіль вырашыў паехаць на месца здарэньня, у вёску да бацькоў пажыцьцёвіка.

Паляваньнем у вёсцы Вейна, што ў цэнтры Старобінскага запаведніку, у самым пачатку беларускага Палесься, займаліся многія. Амаль кожны жыхар меў ліцэнзію, належаў да Таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Таксама любілі там паляваць мясцовыя міліцыянты ды госьці са сталіцы.

### *Ад Васіля Сямашкі*

Васіль Сямашка згадвае, што калі прыбыў на месца, у Вейна, то першае, што яго ўразіла, быў сам дом Буд-Гусаімаў:

**— Драўляны, высокі, столь — мэтры чатыры. Чысьціня такая, што я нават адчуў няёмкасьць за тое, што ў мяне не стэрыльныя шкарпэткі. Ні да, ні пасьля я ня бачыў такога дома, які сваёй чысьцінёй нагадваў Нямеччыну. Побач стаяў асобны дамок для кухні з ваннай. Бойлераў тады не было, гарачая вада падавалася ад печы. На прысядзібным участку таксама быў ідэальны парадак.**



**Не скажу, што гэта была надта заможная сям'я. У Буд-Гусаімаў не было машыны ці якіх іншых атрыбутаў вясковага багацьця. Проста гаспадарамі былі працавітыя, непітушчыя людзі. У вёсцы, дзе жылі пераважна баптысты, такіх жыхароў была большасьць.**

Паводле Васіля Сямашкі, бацькі Аляксандра ўвесь час плакалі. Яны не маглі звыкнуцца з такім паваротам лёсу і баяліся, што больш ніколі ня ўбачаць сына. Так яно і здарылася — праз некалькі гадоў іх ня стала. Спачатку адышоў бацька, потым — маці.

**— Буд-Гусаімы прапанавалі мне начлег у адным з пакояў. Раніцай бацька запрог каня і павёз мяне па вёсцы, дзе ўсе дамы былі акуратныя ды дагледжаныя. Вяскоўцы самі падыходзілі да мяне, казалі, што ня вераць у вінаватасьць Аляксандра, бо ведалі яго з маленства.**

**Ён скончыў школу, вывучыўся на гадзіньнікавага майстра, аднак у 1990-я прыйшлося думаць пра выжываньне. Як і многія ў тыя часы, езьдзіў на заробкі ў Расею. Ён шмат што ўмеў рабіць, а таму браўся за любы занятак, пераважна ў розных будаўнічых спэцыяльнасьцях. Паводле вяскоўцаў, быў добрым працаўніком, узорным сем'янінам, ня меў ніводнага прыводу ў міліцыю.**

**Таксама бацька завёз мяне на месца, дзе быў забіты егер. Неўзабаве пасьля здарэньня стары сам паставіў там вялікі драўляны крыж. Потым ведамства па ахове прыроды чамусьці крыж вырашыла зьняць. Гадоў праз пяць, аднак, улады паставілі там нейкі помнік.**

У той самы дзень журналіст сустрэўся зь мясцовым міліцыянтам. Было відаць, што той ня надта хоча размаўляць. Чым далей, тым справа выглядала ўсё больш

падазронай. Адзіным доказам супраць Буд-Гусаіма было тое, што знойдзены ў ягоным доме шрот належаў да той самай групы, як і той, якім быў забіты егер. Нічога дзіўнага ва ўмовах вёскі, дзе ўсе палявалі. Шрот усе набывалі ў той самай краме, нярэдка мясцовыя ўмельцы самі рабілі яго і прадавалі ня толькі ў сваёй, але і ў навакольных вёсках.

Пасьля некалькіх сутак, якія Аляксандар як падазраваны правёў у РАУС, ён сам прызнаўся ў забойстве. Падпісаў паперу, што страляў па цёмнай пляме. На судзе, аднак, адмовіўся ад гэтых паказаньняў, паколькі падчас допытаў (без адваката) яго моцна зьбівалі, а п'яны сьледчы да таго ж пагражаў пісталетам. Суд не прыняў да ўвагі гэтай заявы і прызнаў, што абвінавачаны страляў і пры гэтым «добра бачыў па кім».

Як вынікала з матэрыялаў справы, міліцыянты на судзе блыталіся. Адзін зь іх, які суправаджаў егера, падчас здарэньня нібыта апынуўся зусім у іншым месцы. Калі ў яго спыталі, як, адказаў, што падвезла нейкая машына. Гэтай машыне дзіўным чынам удалося праехаць па глыбокім сьнезе і не пакінуць ніякіх сьлядоў.

Справа была рэзанансьнай — забойства дзяржаўнага чыноўніка падчас выкананьня службовых абавязкаў. Працэс зрабілі паказальным. Ведамства аховы прыроды напісала прадстаўленьне аб пасьмяротным узнагароджаньні егера за мужнасьць. Буд-Гусаіму за тое, што ў судзе адмовіўся ад ранейшага прызнаньня, далі пажыцьцёвае. Суд праходзіў усяго пяць гадзінаў. Перад абедам пачалі, да вечара далі ПЗ.

У сваім артыкуле («БДГ» № 83 ад 29.11.2001) Васіль Сямашка выклаў у тым ліку і ўласную вэрсію выпадку на паляваньні. Акурат перад Новым 1999 годам два егеры ведамства аховы прыроды ў суправаджэньні міліцыянтаў праводзілі чарговы рэйд. Спачатку, як прынята ў такіх выпадках, выпілі, потым у лесе паміж імі адбылася сварка. Здарыўся няшчасны выпадак. Гонар мундзіра патрабаваў знайсьці вінаватага звонку.



Журналіст кажа, што пасьля публікацыі матэрыялу ў «БДГ» (гэта быў час, калі недзяржаўную прэсу чыталі), ён рэгулярна наведваў нацыянальны прэс-цэнтар і пастаянна задаваў генпракурору пытаньне пра Буд-Гусаіма. Казаў так:

— **Прашу лічыць маю вусную заяву падставай для праверкі крымінальнай справы, і калі гэта ня так, можаце прыцягнуць мяне да адказнасьці за паклёп.**

Гэтыя заявы ня надта падабаліся, аднак за паклёп ніхто журналіста не прыцягнуў. Потым, калі сямейнікі ды блізкія, а таксама абаронца Буд-Гусаіма пісалі скаргі да апэляцыі, каб перагледзець справу ды адмяніць прысуд, яны прыкладалі ў якасьці падставы публікацыі з «БДГ». У адказ з розных інстанцыяў прыходзілі аднолькавыя адпіскі.

Публікацыю Сямашкі ўдалося пераслаць самому Буд-Гусаіму. Журналіст і асуджаны ліставаліся — і калі Аляксандар сядзеў у Жодзіне, і калі яго праз 10 гадоў перавялі ў Глыбокае, а потым у Наваполацак ды Гезгалы. Першы і апошні раз яны сустрэліся восеньню 2014-га ў Салігорску, дзе ў той час жыла сям'я. Фамільны дом у вёсцы быў прададзены сваяком, і Аляксандар быў гэтым вельмі засмучаны.

## Справы нібы пад капірку

Актывістка грамадзянскай ініцыятывы «За справядлівы прысуд» Людміла Кучура ўпершыню пра справу Буд-Гусаіма пачула ў канцы 2006 году. Празь нейкі час, калі яна ўжо была знаёмая з жонкай Аляксандра Марыяй, ёй удалося ўбачыць тыя дакумэнты. Паводле Людмілы, часам складалася ўражаньне, што справа Буд-Гусаіма і яе мужа Пятра, заведзеныя з розьніцай у тры гады, напісаныя ледзь не пад капірку.

Пятро Кучура, якому цяпер за шэсьцьдзесят, ужо больш за дванаццаць гадоў з прысуджаных васямнаццаці ўтрымліваецца за кратамі. Яму гэтаксама, як і Буд-Гусаіму, інкрымінаванае забойства адказнага чыноўніка пры абцяжлівых абставінах. Як высьветліла потым Людміла, творцам абедзьвюх справаў была тая самая службовая асоба.

Жонцы Буд-Гусаіма Людміла параіла зьвярнуцца да адвакаткі, якая вяла справу Пятра Кучуры. Было накіравана некалькі зваротаў у розныя інстанцыі. Вырашальным стаў зварот у Адміністрацыю прэзыдэнта. Пасьля разгляду папераў на тым узроўні Генпракуратура вынесла пратэст. Замест пажыцьцёвага прызначылі абмежаваны тэрмін пакараньня.

### *Ад Людмілы Кучуры*

**— Для нас нават і такое рашэньне было радасьцю. Нарэшце чалавек ужо ня будзе зажыва гніць ва ўмовах вязьніцы, дзе ў лепшым выпадку сьвежым паветрам падыхаеш 30 хвілінаў за дзень, дзе кавалак неба бачыш толькі праз краты турэмнага дворыка, а такіх элемэнтарных рэчаў, як трава і дрэвы, ня бачыш увогуле.**

**Потым, ужо на волі, Аляксандар падчас размоваў са мной прыгадваў, як ня мог прыйсьці ў сябе ад шчасьця, калі ў Наваполацку, праз 12 гадоў зьняволеньня, упершыню ўбачыў сапраўднае вялікае неба, сонейка, месяц, захады, сьвітанкі. Пра тыя катаваньні, якія перанёс гэты чалавек, я ўвогуле маўчу.**

Людміла ўспамінае, як неўзабаве пасьля вызваленьня Аляксандар разам з Машай пабывалі ў яе дома ў Менску:



**— Я тады ўбачыла яго ўпершыню. Гэта было нечаканае ўражаньне. Чалавек, які каля 12 гадоў сядзеў з самымі жорсткімі забойцамі, абсалютна не адпавядаў вобразу мацёрага крымінальніка. Гэта была сьветлая і чыстая асоба. Падцягнуты, акуратны, апрануты сьціпла, але з густам. У размове ніякага жаргону. Культурны, разумны, ветлівы. Пасьля мы пачалі часта перазвоньвацца. Мяне кожны раз зьдзіўляла, што ў гэтым чалавеку не было ніякай азлобленасьці.**

**Калі ты незаконна сядзіш за тое, чаго не рабіў, калі цябе рэгулярна зьбіваюць так, што не адчуваеш ні цела, ні касьцей, калі на цябе надзяваюць процівагаз і перакрываюць кісларод. Аляксандар абсалютна ня марыў адпомсьціць. Толькі казаў, што нікому на сьвеце ён не судзьдзя, аднак кожнаму за ўсё адплаціцца. І праўда, некаторыя за гэта ўжо заплацілі вельмі высокую цану. Аднаго з тых, хто сфабрыкаваў тую справу, паралізавала, а потым ён сканаў. Другі звар’яцеў.**

На волі Аляксандар Буд-Гусаім не пражыў і трох гадоў. Аднак дэ-юрэ ён заставаўся асуджаным нават на свабодзе. У 2010-м Вярхоўны Суд толькі замяніў ПЗ на абмежаваны тэрмін пакараньня: дваццаць гадоў няволі, а з улікам розных амністый — сямнаццаць.

Восеньню 2014-га адбылася замена на яшчэ больш мяккі рэжым — «хатнюю хімію». Вярнуўшыся дадому, у сям’ю, Буд-Гусаім, як і любы іншы «хімік», мусіў рэгулярна зьяўляцца ў міліцыю для рэгістрацыі ці проста на прафілактычныя размовы, ня мог без папярэдняй згоды зь міліцыянтамі пакідаць месца рэгістрацыі.

Ад вечара да раніцы, нават сярод ночы, да яго маглі прыйсьці праваахоўнікі, каб праверыць, ці дома ён. Таксама ягоны працадаўца ў адказ на звароты сілавікоў мусіў накіроўваць зьвесткі аб паводзінах.

Сталы міліцэйскі нагляд праяўляўся ня толькі ў гэтым. Калі пасьля вяртаньня дадому Аляксандар Буд-Гусаім даў інтэрвію Свабодзе, яго папярэдзілі: ня хочаш непрыемнасьцяў — маўчы. Для міліцыі (і ня толькі для яе) ён усё роўна заставаўся асуджаным за забойства (арт. 139, ч. 2.) Забойцам ён як нерэабілітаваны юрыдычна застаецца і цяпер.

Афіцыйна суджанасьць была зьнятая напярэдадні 2017 году. Праўда, паводле Аляксандра Сьцяпанавіча, яму зноў на восем наступных гадоў прызначылі міліцэйскі кантроль, але больш мяккі за папярэдні. Нейкіх абмежаваньняў ужо не было, не папярэджвалі таксама і наконт размоваў са СМІ.

## Апошняе інтэрвію перад сьмерцю

Сваё другое і апошняе інтэрвію за два месяцы да сьмерці Аляксандар Буд-Гусаім даў «Свабодзе ў турмах» па тэлефоне. Тэхнічна запіс атрымаўся кепскім, і ў эфіры былі выкарыстаныя толькі невялікія яго фрагмэнты. Дамовіліся пагутарыць пры сустрэчы. У ягонай вёсцы на Старобіншчыне, у бацькоўскай хаце, якую ён пасьля запусьценьня рамантаваў. Дамаўляліся на канец траўня. У канцы траўня Аляксандра Буд-Гусаіма ня стала. Вось апошняе інтэрвію былога вязьня-пажыцьцёвіка цалкам.

## На пажыцьцёвым ня толькі нелюдзі

*— Абсалютная большасьць пажыцьцёвікаў — тыя, хто сьвядома забіў не аднаго, а больш людзей. Як вы адчувалі сябе сярод такога атачэньня? Вам даводзілася ламаць сябе, каб неяк адаптавацца да гэтай публікі, ці, наадварот, вы, наколькі было магчыма, спрабавалі дыстанцыявацца ад іх? Наколькі часта да вас у тых умовах прыходзілі адчай ды шкадаваньне самога сябе?*

**— Часта было брыдка ды балюча на душы. Сядзіш ты невінаваты, а тут побач асобы з трыма-чатырма трупамі. Але шкадаваньне самога сябе ды адчай нічога добрага ў тых умовах не прыносяць. Калі ж казаць пра публіку, то яна там самая розная. У Жодзіне склад сядзельцаў у камэры пастаянна мяняўся, бо, калі людзі працяглы час сядзяць у адным памяшканьні па двое-трое, канфлікты непазьбежныя, нават праз самую малую дробязь. У выніку камэрных перататасовак мне давялося дзяліць сутарэньне ледзь не з усімі мясцовымі насельнікамі.**

**Большасьць траплялі на ПЗ за забойствы на бытавой глебе, празь неразуменьне, у крайне нецьвярозым стане. Тое, што прывяло іх да гэтага, мае шмат прычынаў... Але ва ўмовах супольнай адседкі такія людзі нярэдка праяўлялі сябе як годныя асобы. Магу сказаць, што іх большасьць. Сустракаліся ж, вядома, і сапраўдныя вырадкі — розныя сэрыйнікі, садысты, гвалтаўнікі, пэдафілы. Іх мала, яны не карыстаюцца павагай і на ПЗ, а таму за роўных іх не прызнаюць. Сам я нікому не судзьдзя, аднак па шчырасьці (гэта кажу ўпершыню) такіх за людзей не лічу.**

**Напрыклад, кім можна лічыць хлопца, які ў 23 гады забівае маці? Ну як так можа быць?! Ці вырадка, за якім адзінаццаць трупаў і якога выратавала, што ён пасьля апошняга забойства ўцёк у Расею? А Расея выдавала яго з той умовай, што Беларусь не асудзіць яго на сьмяротнае пакараньне. Адзінаццаць сьмерцяў. Зрабіў сабе абрэз і вось проста так хадзіў па вуліцы і страляў людзей. Гэты «чысьцільшчык» казаў: «Я забіваў менавіта тых,**

хто перашкаджаў усім нам, хто ня мусіў жыць у нашым горадзе».

Я да канца ня ведаю, як трэба паступаць з такімі нелюдзямі.

*— І як вы суіснавалі з такімі? Вы не задумваліся: а раптам і нехта зь іх атрымаў такі самы, як і вы, несправядлівы прысуд?*

— Ва ўмовах ПЗ ты хутчэй, чым у іншай турме ці калёніі, вучысься «чытаць» людзей... Калі ў камэру прыходзіў навічок, я заўсёды прасіў, каб ён паказаў свой прысуд. У тых умовах гэта вельмі натуральная просьба — трэба ведаць свайго суседа і арыентавацца, як у пэўных выпадках трэба сябе зь ім паводзіць. У справе мяне таксама цікавілі вынікі розных экспэртызаў — балістычнай, дактыляскапічнай ды іншых.

Такі выпадак. Спрабавалі нам неяк падсяліць аднаго рэцыдывіста. Пра тое, што ён забіў жанчыну ды яе дачку з дваімі малымі дзецьмі, кантралёры не сказалі. А я адразу спытаўся ў навічка, ці ёсьць за ім трупы. У адказ той пачаў цямніць. Нас у камэры было трое, і мы ўсе зразумелі, што тут нешта ня тое. Папрасілі паказаць прысуд — звычайна яго мае пры сабе кожны. Наш новы сусед сказаў, што паперы ў опэрчастцы. Мы патрабавалі, каб ён забраў іх, бо нам неабходна ведаць таго, з кім давядзецца жыць. У выніку апэратыўнікі хуценька забралі яго з нашай камэры.

Пасьля ў Жодзіне зрабілі камэру асобна для сэрыйнікаў. Пару гадоў я яго ня бачыў. А потым зноў давялося перасячыся. Ведаю, што адзін хлопец яму нават вуха разануў, за што атрымаў трое сутак.

А было і такое. Сядзеў з намі адзін хлопец Саша Машэй. Ён быў раней суджаны, а тут яшчэ яго абвінавацілі ў забойстве адной дзяўчыны і далі ПЗ. Справа была такая. Сядзелі ўтраіх, выпівалі. Саша разьліваў гарэлку, на бутэльцы ў выніку засталіся



адбіткі пальцаў. Калі ўсё выпілі, Сашу паслалі ў краму. Вяртаецца, а там труп. Зразумела, па тых адбітках — іншых доказаў не было — і павесілі на яго забойства. Машэй куды толькі не зьвяртаўся, даводзіў, што не забіваў. Аднак нікога ягоныя довады не хвалявалі.

Адседзеў Саша гады тры, і аднойчы ўвечары ў камэру завялі аднаго рэцыдывіста, якога пакаралі за цяжкае забойства. Саша ўбачыў яго і шэпча мне: «Гэта ён. Той самы, што забіў дзяўчыну». Той, каго хацелі засяліць да нас, быў вымушаны пайсьці ў опэрчастку і падпісаць яўку з павіннай, што сапраўды гэта ён забіў. А Саша, колькі ён потым ні апэляваў у розныя інстанцыі, ніякіх зрухаў не адчуў. Ён і дагэтуль сядзіць на ПЗ. Ніхто яго не апраўдвае. Ніхто ня хоча ў гэта ўнікаць ды гэтым займацца.

## Жыцьцё на пажыцьцёвым

*— Ці трымаюцца за жыцьцё пажыцьцёвікі? Ці можа хацецца жыць у такіх абставінах?*

— Ёсьць такія пажыцьцёвікі, якія ня могуць прызвычаіцца да сваёй долі, а таму доўга не жывуць. Паміраюць сваёй сьмерцю. Некаторыя вешаюцца. Даводзілася самому вымаць зь петляў. Размаўляў з тымі, каму расстрэл замянілі на ПЗ. Яны так казалі: «Лепш бы мяне расстралялі, чым вось так хварэць, есьці гнілую кільку, увесь час адчуваць сябе нейкай жывёлай».

Аднак ня думаю, што гэта было да канца шчыра. У кожнага з тых, хто на ПЗ, усё ж тлее маленькая надзея, што аднойчы, хай ня хутка, але ён усё ж глытне сьвежага паветра ды ўбачыць нармальнае неба над галавой, а не яго кавалак над дротам у так званым турэмным дворыку.

Ад турэмнікаў даводзілася чуць, і гэта абнадзейвала: «Вось вы будзеце сябе добра паводзіць, вас гадоў празь дзесяць перавядуць у Глыбокае, а потым яшчэ празь дзесяць — у звычайную калёнію, потым на пасяленьне...» Гэта трымала, таксама як і ліставаньне, нават з зусім незнаёмымі людзьмі, ды адзінае на год кароткае спатканьне. Гэта калі ў цябе яшчэ жывая маці ды ня кінула жонка. Але да абсалютнай большасьці пажыцьцёвікаў ніхто ня езьдзіў.

Шмат было абсалютна самотных людзей, усё жыцьцё якіх прайшло ў турмах ды лягерах. Напрыклад, рэцыдывіст зь мянушкай Газэта (ён любіў у газэты папісваць). Упершыню яго пасадзілі пры Брэжневе. Прайшоў многія калёніі ў СССР, той самы «Белы лебедзь» у Салікамску. Пазьней, ужо ў незалежнай Беларусі яго на пажыцьцёвае пасадзілі.

Было яму за шэсьцьдзесят, калі я яго ў Жодзіне сустрэў. Казаў мне: «Ведаеш, Сьцяпанавіч, бачыў усё. У якія толькі карцэры мяне ня кідалі. Але ж тады я быў малады. Адрэналіну да чорта было. А цяпер абрыдла ўсё. Цяжка. Хутчэй бы памерці».

Быў таксама адзін, нават старэйшы за Газэту рэцыдывіст, таксама казаў, што стаміўся і хутчэй бы памерці. А як прыйшоў час паміраць, сказаў: «Вось яшчэ б пажыць». Як я лічу, дык кожны ўсё роўна чапляецца за жыцьцё.

*— Кажуць, што цяпер на тым самым ПЗ стала лепш, чым раней?*

— Ня ведаю. Ну, можа, які рамонт лепшы пачалі рабіць, ежу менш гнілую пачалі даваць. Тое, што ахоўнікі больш ня б'юць вязьняў — ня ўпэўнены. Ці можа пры існай сыстэме так хутка зьмяніцца сутнасьць турэмнага пакараньня, тыя самыя турэмнікі?

Той самы выхад з камэры, праход, нават прабежка па калідоры выключна ў позе ластаўкі, калі чалавек сагнуты, з задранымі дагары рукамі — гэта ўсё застаецца, хоць і не прапісана ніякім заканадаўствам. Кажуць, гэта было ўзята за ўзор у расейскай калёніі «Белы лебедзь». Туды, калі стваралі ПЗ у Жодзіне, нашы ахоўнікі езьдзілі па досьвед.

Прыгадваю некаторых кантралёраў, іх задавальненьне на твары ад «ластавак», увогуле ад таго, як удалося выдрэсіраваць зэкаў. Сярод кантралёраў на ПЗ былі пэрсанажы неадукаваныя, непісьменныя. Напрыклад, адзін увогуле меў клясаў восем. Нейкі ідыёт ды садыст. Але колькі асалоды ад адчуваньня ўлады недзе над сотняй асуджаных. Калі мы станавіліся ў позе ластаўкі, ён махаў над намі дубінкай, як Чапаеў шашкай. Балюча лупцаваў па сьпіне і ніжэй.

У яго, як і ў іншых яму падобных, было адчуваньне поўнай беспакаранасьці. Спэцыфіка працы ў гэтай сыстэме зрывае ім дах. А хіба дома такія людзі могуць быць іншымі? Пры мне нават на нейкага з начальнікаў прыходзілі лісты — прыміце захады, бо зьбівае сваю жонку, дзяцей.

## Жодзіна і Глыбокае

*— Вы сказалі, адміністрацыя абяцае, што пры добрых паводзінах празь дзесяць гадоў з Жодзіна могуць перавесьці на палепшаныя ўмовы ў Глыбокае. Там, у Глыбокім, сапраўды лепшыя ўмовы?*

— У Глыбокім для пэзэшнікаў было лепш толькі на самым пачатку. Недзе ад 1997-га да 2001-га. Тады жодзінскі ЛТП яшчэ ня быў перабудаваны пад аддзяленьне для пажыцьцёвых, і ўсіх прымала глыбоцкая ПК-13 асаблівага рэжыму. Я знаходзіўся там гады два, ад 1999-га да 2001-га. Не было тады зьверстваў з боку міліцыянтаў, як потым у Жодзіне, дзе нас білі сьмяротным боем.

Хаця, калі быць дакладным, усё пачалося ў 2001-м, яшчэ ў Глыбокім. Падчас этапу ў Жодзіна. Мы сядзелі ў камэры і глядзелі тэлевізар, і раптам да нас у сутарэньне ўварваліся людзі ў масках і пачалі нас жорстка зьбіваць. Потым гэтаксама жорстка, да гематомаў ды пераломаў, зьбілі ўсіх па прыезьдзе. То бок нам паказалі, што ёсьць сапраўдны пажыцьцёвы рэжым.

Празь дзесяць гадоў, калі я зноў трапіў у ПК-13 празь зьмену рэжыму, паводзіны тамтэйшых ахоўнікаў былі такія самыя, як і ў жодзінскіх. Ніякага разуменьня таго, што да іх прыбылі тыя, хто выправіўся і каму зьмянілі рэжым на больш «мяккі». Гэтыя вязьні працягвалі заставацца для міліцыянтаў «быдлам з ПЗ».

*— А калі казаць пра нейкія бытавыя ўмовы ўтрыманьня?*

— Пачнём з таго, што калёнія ў Глыбокім — гэта кляштар, які бальшавікі перабудавалі пад турму. Найгоршае, што можа быць для адседкі, тым больш працяглай. Сядзець у тых кельлях жахліва. Гэта тоўстыя сьцены, вільгаць, адсутнасьць усялякага паветра. Пры мне камэры былі перапоўненыя ў некалькі разоў — дваццаць і болей чалавек у невялікім памяшканьні. Тут прыбіральня, тут сушаць бялізну, тут кураць... Дыхаць вельмі і вельмі цяжка.

Што да харчаваньня, то яно ўвогуле не для чалавечых страўнікаў. Бадай кожны зэк меў страўнікава-кішачныя праблемы. Хварэлі на ўсе вядомыя хваробы. Шмат было сухотнікаў, шмат тых, хто ішоў на суіцыд. Каго дастаўлялі на «бальнічку», таму шанцавала. Бо вярнуцца жывым з Глыбокага, скажам, пасьля дзесяці гадоў адседкі, вельмі праблематычна. Людзі рабіліся агрэсіўнымі, азлобленымі на ўсіх і ўсё. Незалежна ад ступені свайго злачынства яны былі абсалютна дэзадаптаваныя да ўмоваў вольнага грамадзтва.



## Жыцьцё пасьля пажыцьцёвага

*— Калі гіпатэтычна ўявіць сабе, што, згодна з заканадаўствам, чалавек, адседзеўшы дзесяць гадоў на ПЗ у Жодзіне, пры добрых паводзінах пераводзіцца ў Глыбокае, столькі ж гадоў сядзіць там, потым па зьмене рэжыму адбудзе астатнія некалькі гадоў у калёніі. Нарэшце гэты чалавек атрымлівае свабоду. Наколькі падрыхтаваны ён да абсалютна іншага жыцьця?*

— Возьмем тых, хто праз дурасьць апынуўся на ПЗ гадоў у 18–20. Такіх там шмат. Тэарэтычна маладым лягчэй адаптавацца да новых умоваў. Сваёй сьвядомасьцю гэта дзеці. Ім абы ў нейкі марскі бой гуляць. Такімі самымі дзецьмі яны і застануцца гадоў праз 25. Ім будзе пад 45, а нічога іншага ў іхнай галаве ды падкорцы, акрамя зоны, сядзець ня будзе. Ня будуць яны гатовыя да таго, каб жыць на волі.

За кратамі не рыхтуюць да свабоды. Сацыяльныя сувязі ў людзей страчаныя. Ужо празь дзесяць гадоў адседкі ў такіх асуджаных звычайна паміраюць маці, іх кідаюць жонкі, забываюць дзеці. Яны фактычна адразу будуць адрынутыя грамадзтвам, бо ня маюць ніякага ўяўленьня, як тут сябе паводзіць.

Працоўных навыкаў большасьць ня мае. Падчас маёй адседкі ў Жодзіне працы не было ніякай; кажуць, цяпер там устанавілі некалькі швейных машын. Потым, калі перавялі ў Глыбокае, там сталі машыны чатыры. Некалькі чалавек, якія былі вінны дзяржаве, шылі рукавіцы. Кантралёры казалі мне: «Вось зробім для вас швейныя цэхі. Гэта ня толькі выдаткі на вытворчасьць, але яш-

**чэ і выдаткі на ахову. Аўчынка ня варта вычынкі». Кажуць, што цяпер крыху болей машынак, аднак большасьць зэкаў усё роўна вымушаныя гультаі.**

*— Як вы самі прызвычайваліся да вольнага жыцьця?*

**— Калі ўзяць мяне, то, безумоўна, я выйшаў з надламанай псыхікай. Падчас «хатняй хіміі», калі быў пад іх наглядам і мусіў зьяўляцца на рэгістрацыю, я машынальна, па-турэмнаму, хаваў рукі за сьпіну, лавіў сябе на тым, што баюся нават адной іх формы. Я і дагэтуль не адышоў ад гэтага стану. Я ўвогуле, хоць і ўтойваў гэта, доўгі час саромеўся сябе, бо лічыў, што іншы, не такі, як звычайныя вольныя людзі.**

**Узяць такі момант, як паводзіны за сталом. Прызвычаіўшыся да тых памыяў, якія нам давалі ў лягеры, я, апынуўшыся дома, доўга ня мог прыгадаць, а як есьці тую самую кілбасу. Мы елі за кратамі выключна лыжкай або ўвогуле рукамі. Першы час на волі відэлец высьлізгваў у мяне з рук. І я шукаў лыжку, каб дапамагчы сабе паднесьці да рота тую кілбасу.**

**Не кажу ўжо пра мабільныя тэлефоны, розныя кампутары. Да майго арышту я мала што ведаў пра гэта. А тут прыйшлося вучыцца карыстацца. Шмат якія рэчы, элемэнтарныя для ўсіх астатніх вольных людзей, даваліся мне зь цяжкасьцю. Гэта пры тым, што ў мяне была любімая сям'я. А тыя, хто гэтага ня мае, яны, у пераважнай большасьці выпадкаў, апынуўшыся на волі, хутка могуць учыніць нешта жорсткае, самі таго не жадаючы і не разумеючы.**

## «Пажыцьцёвае жыцьцё»

У канцы размовы Аляксандар Сьцяпанавіч падзяліўся: яшчэ за кратамі ён пачаў пісаць нататкі пра сваё так званае «пажыцьцёвае жыцьцё». Рукапіс гатовы, але далей патрэбная рэдактура: усё ж ён не пісьменьнік. У Беларусі матэрыял нікога не зацікавіў. Знайшоўся нехта ў Расеі, дзе гэта быццам больш актуальна.

Унучка Буд-Гусаіма, якая вучыцца ў малодшых клясах, даведалася пра дзедаву турму толькі калі яго ня стала. У сям'і ёй пра гэта не казалі. Аднак днямі школьная сяброўка перадала дзяўчынцы словы бацькі — у ягонай фірме да апошняга дня працаваў дзед:

**— Добры чалавек быў, другога такога працаўніка цяжка знайсьці. Колькі б добрага яшчэ зрабіў, калі б ня тая турма.**

Малая была ўзрушаная пачутым і ўжо дома спыталася ў бацькоў ды бабулі, ці праўда, што дзядуля сядзеў, бо ў турме сядзяць толькі кепскія людзі, забойцы.

«Калі ў галовах у дзяцей такія стэрэатыпы, то што тады ў галаве ў дарослых», — кажа блізкая знаёмая сям'і Буд-Гусаімаў, якая расказала гэтую гісторыю:

— Турма ў нас — кляймо на ўсё жыцьцё, тым больш ва ўмовах невялікага гораду. Калі палітвязень — ізгой для дзяржавы, то нерэабілітаваны крымінальнік ды ягоная сям'я — ізгоі і для дзяржавы, і для грамадзтва.



## Неправасудныя выракі і прэзыдэнцкая ласка

Стан правасудзьдзя ў краіне ацэньваюць не па колькасьці абвінавачаных, а па колькасьці апраўдальных прысудаў. Сыходзячы з усясьветнай практыкі, цалкам прымальна, калі гэта 10–15%.

Калі ўзяць Беларусь, то тут гэты паказчык, як і ў суседняй Расеі, меншы за 1%. Так на канец 2015 — пачатак 2016-га (паводле афіцыйных дадзеных) на 400 асуджаных па крымінальнай справе прыпадаў толькі адзін апраўданы. Калі параўнаць з пэрыядам сталінскіх

рэпрэсіяў (1937–1939 гг.), то тады адсотак апраўдальных прысудаў перавышаў 10%.

## Гісторыя асуджанага на 24 гады Раміза Мамедава

Раміз Мамедаў, якому цяпер крыху за 30, быў асуджаны ў 2004 годзе на 24 гады і адзін месяц зьняволеньня нібыта за забойства стрыечнай сястры Валерыі Арловай, якой было 14 гадоў. Да апошняга дня дзяўчына жыла ў бабулі. Крыху раней памерла ад раку яе маці, і бабуля Галіна забрала ўнучку жыць да сябе, замкнуўшы кватэру нябожчыцы-дачкі.

Нам невядома, наколькі дапамагае сьледзтву ва ўмовах Рэспублікі Беларусь прылада, вядомая пад назвай «паліграф». Калі яе працягваюць выкарыстоўваць, то, можа, і дапамагае. Але ў выпадку Раміза Мамедава, які расьсьледаваў Сяргей Астраўцоў, здарылася штосьці малазразумелае.

### *Ад Галіны Мамедавай*

«14 верасьня 2003-га, у нядзелю, было забойства, а ў аўторак прывезьлі паліграф зь Менску», — распавядае маці хлопца Галіна Мамедава. Спачатку, кажа яна, праверылі аднаклясьніка Валерыі.

**— Потым правяралі бацьку Леры. І Раміза таксама дапыталі на паліграфе. Высновы паліграфа: ня мае дачыненьня, не валодае інфармацыяй пра забойства.**

На месцы злачынства не знайшлі ні сьлядоў Раміза, ні адбіткаў пальцаў, ні прылады забойства. Матыву таксама не было. Але матыў знайшлі. Маўляў, хлопец прагнуў завалодаць кватэрай сястры. І яго пасадзілі.



Пазьней, праўда, абласны суд у Горадні скасаваў карысьлівы матыў.

**— Ён толькі ў трэцюю або чацьвёртую чаргу мог быць спадчыньнікам. Мы палічылі: яму шэсьць чалавек трэба забіваць тады, ня зь Леры пачынаць. Бабуля тады была прызнаная апякункай. Ніякага доказу ягонай віны. Нават экспэртызы сьведчаць хутчэй на ягоную карысьць. Яго адправілі ў Навінкі, судова-псыхіятрычную экспэртызу праводзілі. І сказалі па яе выніках: ён ня можа па ўласьцівасьцях свайго характару падмануць паліграф. Ён тройчы дапытваўся на паліграфе: не датычны. У 2003 годзе, у 2009-м і ў 2013-м.**

Валерыю Арлову забілі сотняй колатых ранаў. Суседзі чулі, што ў кватэры была кампанія.

Галіна Мамедава сьцьвярджае:

**— Калі ў 2004 годзе сына судзіў Горадзенскі абласны суд, судзьдзя пачаў казаць, што Мамедаў ня быў на пахаваньні, значыць, ён вінаваты. Прыяжджаем у Вярхоўны Суд, і там старшыня суду зноў жа кажа гэтую фразу — што ён ня быў на пахаваньні. Як ня быў? Пачынаем апытваць усіх суседзяў. Ну ўсе ж яго бачылі, ён і на фатаздымку ёсьць.**
**І сьведчаньні людзей, і здымак двойчы адсылалі ў Вярхоўны Суд. Не, зноў упарцяцца, ня хочуць нават гэтага зрабіць. Дык як я магу, ці мама, даказаць, што забойства ён не ўчыняў, калі мы ня можам нават даказаць, што ён на пахаваньні быў? Жахліва.**

Сьледчы экспэрымэнт праводзіцца дзеля таго, каб падазраваны паказаў на месцы злачынства, што ён і як рабіў. Аднак, паводле маці, Раміза на месца злачынства, у кватэру ягонай бабулі, не дапусьцілі:

**— На судзе Раміз патлумачыў, што яму сказалі, маўляў, няма чаго табе туды ісьці, ты можаш там усё наблытаць. А ў пратаколе напісалі, што адмовіўся з прычыны таго, што яму цяжка знаходзіцца на месца злачынства.**

## Як суд адмовіў прэзыдэнцкай адміністрацыі

Пасьля забойства Валерыі Арловай пацярпелымі прызналі яе бацьку (які пазьней памёр) і бабулю. Ні бабуля — Галіна Ўладзімераўна Варановіч, ні Рамізава маці ні на каліва ня вераць, што ён забойца, і змагаюцца за яго. Яны распавядаюць, як ён заўсёды дбаў пра Леру, дапамагаў ёй. Бабуля вельмі любіла ўнучку, але і за ўнука працягвае змагацца, як можа, разам са сваёй дачкой Галінай, ягонай маці.

Тое, што родныя ня вераць суду, што Раміз для іх быў і застаецца невінаватым — звычайная рэч. Унікальнасьць гісторыі ў тым, што хібнасьць прысуду прызналі і «адпаведныя органы», куды не стамляліся зьвяртацца сваякі хлопца.

У 2010 годзе вынікі даў зварот у Апэратыўна-аналітычны цэнтар (ААЦ) пры прэзыдэнце, успамінае Галіна Мамедава. Цэнтрам кіраваў тады Віктар Лукашэнка. Праверка паказала:

«...Выкладзеныя ў заключэньні пракурора і ў матэрыялах справы абставіны сьведчаць аб неадпаведнасьці высноваў суду, выкладзеных у прысудзе, фактычным акалічнасьцям справы».

14 кастрычніка 2010 году распараджэньнем кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Ўладзімера Макея была створаная працоўная група, каб вывучыць абставіны справы Раміза Мамедава. Група прыйшла да высновы:



«Па сутнасьці абвінаваўчы прысуд грунтуецца на паказаньнях двух асноўных сьведак па справе, у аб’ектыўнасьці якіх існуюць пэўныя сумненьні».

Галіна Мамедава паказвае копію яшчэ аднаго важнага дакумэнту:

**«Генэральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь Васілевічу Р. А.**

**Паважаны Рыгор Аляксеевіч!**

**Працоўнай групай, створанай распараджэньнем кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, у тым ліку з удзелам прадстаўніка Генэральнай пракуратуры, вывучаны факты, выкладзеныя ў звароце Г. Л. Мамедавай у адносінах да асуджэньня Р. Р. Мамедава.**

**Па выніках дадзенага дасьледаваньня працоўная група прыйшла да высновы, што пры ажыцьцяўленьні вытворчасьці па крымінальнай справе ў адносінах да Р. Р. Мамедава, прызнанага вінаватым ва ўчыненьні забойства з асаблівай жорсткасьцю і асуджанага на 24 гады пазбаўленьня волі, органамі, якія вядуць крымінальны працэс, ня высьветленыя і не ацэненыя ў поўным аб’ёме акалічнасьці ўчыненьня гэтага злачынства, у тым ліку датычнасьць іншых асобаў да ўчыненьня злачынства, мэханізм нанясеньня цялесных пашкоджаньняў, прыналежнасьць сьлядоў злачынства.**

**У якасьці доказаў віны Р. Р. Мамедава пакладзеныя паказаньні сьведак, якія не адпавядаюць рэчаіснасьці, у тым ліку прызнаныя ў далейшым фальшывымі, існуе шэраг працэсуальных парушэньняў. Пры гэтым пры дасудовай і судовай вытворчасьці, у тым ліку пры ўзбуджэньні вытворчасьці па наноў адкрытых акалічнасьцях, не дасьледаваныя паказаньні ўсіх сьведак, уключаючы асобаў, якія паказалі, што Р. Р. Мамедаў**

**у момант учыненьня злачынства знаходзіўся ў іншым населеным пункце.**

**З улікам выкладзенага просьба правесьці праверку наноў адкрытых акалічнасьцяў, выкладзеных у даведцы працоўнай групы, у мэтах аднаўленьня вытворчасьці па крымінальнай справе ў адпаведнасьці з разьдзелам 43 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу і далейшага дакладу кіраўніку дзяржавы.**

**Кіраўнік Адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь У. Макей.**
**29 сьнежня 2010 году».**

Як бачым, вынікі павінны былі легчы на стол Аляксандру Лукашэнку.

5 ліпеня 2011 году судовая калегія (старшыня — А. Райдулін) па крымінальных справах Вярхоўнага Суду вызначыла: аднавіць вытворчасьць па крымінальнай справе з нагоды наноў адкрытых акалічнасьцяў, адмяніць прысуд, а справу перадаць Генэральнаму пракурору для правядзеньня новага папярэдняга расьсьледаваньня.

Новае сьледзтва сапраўды правялі. Матэрыялы па Мамедаве ў 2013 годзе перадалі зноў у Горадзенскі абласны суд, іх разглядаў новы склад судзьдзяў. Аднак вынік быў той самы: вінаваты, 24 гады турмы. Хоць у перапынку нехта з судзьдзяў аптымістычна сказаў маці: вельмі вялікія шанцы, што лёс яе сына пераменіцца.

Што ж здарылася? Чаму Раміза Мамедава не апраўдалі? Напэўна, таму, што ўсе, хто прызнаў Раміза вінаватым, працуюць і сёньня, мяркуе маці, усе на сваіх пасадах. Хто ж прызнае, што пасадзіў невінаватага і катаваў яго з тым, каб дамагчыся прызнальных паказаньняў?

Галіна Мамедава кажа, што сына прымусілі ўзяць віну на сябе, што ведае, як падчас допытаў Раміз страціў ад болю прытомнасьць і сьледчыя вымушаныя былі



выклікаць яму «хуткую». Таксама ёй расказвалі, як у ізалятары часовага ўтрыманьня Раміза на ноч запіралі ў сэйфе, а потым раніцай перапалоханыя тэлефанавалі ёй, каб тэрмінова прынесла яму зьменнае адзеньне, як зьбівалі яго падчас этапу з калёніі ў Ліду — Горадню на сьледчы экспэрымэнт.

Адзін чыноўнік у сталіцы прызнаўся Галіне Мамедавай: «Такой справы, як справа вашага сына, у Беларусі больш няма!» Гэта ўжо было пасьля прысуду 2013 году. Паводле жанчыны, тады нібыта і прасьвет паявіўся, але нешта зноў павярнулася ня ў той бок.

Галіна Мамедава ня лічыць, што ёй мог пашкодзіць зварот па дапамогу да праваабаронцаў, а ня толькі ў дзяржаўныя ўстановы:

**— У свой час нашай справай зацікавілася «Плятформа». Мы сустракаліся з Андрэем Бандарэнкам, з Алёнай Красоўскай некалькі разоў. Яны на прысуд прыехалі, прапанавалі ўзяць адваката. Але вельмі вялікая сума была для азнаямленьня з матэрыяламі справы. У нас такой няма.**

**Ужо як я матэрыялы ведаю і як Раміз, ніводзін адвакат ня вывучыць. І мы адваката на апошні суд ня бралі. Яшчэ да 2011 году, калі Раміза прывозілі сюды, мы адваката бралі, каб схадзіў, стан яго паглядзеў, каб на словах перадаць, што ён прасіў. Мы аплачвалі адваката, калі на вочныя стаўкі прывозілі каго да Раміза. Калі ў 2011 годзе каштавала адзінаццаць мільёнаў азнаямленьне з матэрыяламі, тады ў нас яшчэ было дваццаць тамоў справы. Потым, калі Сьледчы камітэт праводзіў праверку, дваццаць дзевяць было. А потым — трыццаць пяць.**

Галіна Мамедава кажа, што гэта будзе каштаваць сёньня вельмі дорага. Значыць, адвакат не па кішэні.

Усе гэтыя гады думае: чаму выбар паў менавіта на яе сына?

**— Нехта непрыхільна кінуў: ён жа азэрбайджанец. Але ж ён беларусам лічыцца, мясцовы, азэрбайджанец толькі напалову, ён там ніколі й ня быў нават.**

## Як памілавалі пухавіцкіх забойцаў

Выпадак, які ў 2009 годзе ўскалыхнуў Беларусь, здарыўся ў вёсцы Пухавічы Жыткавіцкага раёну. Наш карэспандэнт наведаў месца падзеяў праз пяць гадоў — пра тое, як тады ў Пухавічах трое мужчын сярэдняга веку і адна маладая жанчына забілі аднавяскоўца Мікалая Макарэвіча, мала хто ўзгадваў. Яшчэ менш памяталі пра тое, што стала прычынай таго злачынства — падазрэньне ў тым, што мужчына падпальваў стагі сена ды гаспадарчыя пабудовы.

Тады па факце забойства арыштавалі Сяргея Аліфяровіча, Ігара Макарэвіча, Тацяну Юхневіч і Аляксандра Петручэню. Але неўзабаве іх адпусьцілі — умяшаўся прэзыдэнт. На нарадзе сілавікоў ён асабіста загадаў выпусьціць забойцаў пад хатні арышт. Да таго ж прапанаваў старшыні Вярхоўнага Суду Валянціну Сукалу «ляяльна весьці гэтую крымінальную справу», бо забіты быў «нягоднікам» ды «тэрарызаваў цэлую вёску».

Як вынікала са стэнаграмы нарады, кіраўнік дзяржавы дакладна сказаў наступнае:

**— Калі ўжо мужыкі на гэта пайшлі, напэўна, яны сапраўды абураныя былі, і ўсё ж простыя людзі на іх баку… Нельга іх саджаць! Што гэта — вялікі чалавек загінуў? Па турмах бадзяўся, прыйшоў і яшчэ тэрарызуе цэлую вёску.**



Прэзыдэнт таксама папрасіў старшыню Вярхоўнага Суду: «Калі ласка, адвязіце людзей у вёску, і хай гэтыя старыя (а ім на момант забойства ня споўнілася і сарака. — *Аўтар*) працуюць там, знаходзяцца ў сваіх сем’ях, а вы іх запрашайце і дапытвайце, гэта для іх будзе лепш, чым сядзець у сьледчым ізалятары».

Ад таго часу ўсіх чацьвярых вазілі на допыт, а потым і ў суд міліцэйскай машынай ці аўтобусам. Гомельскі абласны суд асудзіў Сяргея Аліфяровіча і Ігара Макарэвіча, якіх абвінавачвалі ў тым, што забілі аднавяскоўца сякерамі, а цела спалілі, адпаведна на пяць і тры гады пазбаўленьня волі.

У калёнію іх не адправілі — пакараньне адбывалі пад хатнім арыштам. Дзеяньні памагатых у забойстве — Тацяны Юхневіч і Аляксандра Петручэні — суд перакваліфікаваў на ўкрывальніцтва сьлядоў асабліва цяжкага злачынства. Абое атрымалі па два гады абмежаваньня волі без накіраваньня ва ўстановы адкрытага тыпу.

На час кароткай сустрэчы з карэспандэнтам Свабоды галоўны фігурант гучнай справы, Сяргей Аліфяровіч, які працягваў жыць у Пухавічах, трымаўся на адлегласьці два мэтры. Размаўляць адмаўляўся — спасылаўся на занятасьць гаспадаркай і дзецьмі. І акурат так, як і перад судом, цьвердзіў: «Усе пытаньні да адваката».

Што да забітага Мікалая Макарэвіча, то ня ўсе людзі ў Пухавічах па ім бедавалі, бо шмат хто лічыў яго падпальшчыкам.

— Самасуд — гэта кепска. Дабра няма, калі самасуд, — разважаюць адны вяскоўцы.

Іншы, які назваўся Мікалаем, згадваў, што тыя, хто меў на забітага крыўду, нават узрадаваліся, што былога загадчыка фэрмы Макарэвіча, які вярнуўся з турмы і нідзе не працаваў, больш ня стала:

— Каго ён паліў, да каго ноччу прыходзіў, у вокны стукаў і дзьверы рваў, тыя рады былі. За яго тут мала хто быў.

Сястра забітага Мікалая Валянціна Макарэвіч казала, што пасьля замены забойцам пакараньня на хатні арышт, тыя адчулі сваю перавагу і нават дэманстравалі яе:

— Паводзілі сябе вульгарна ў дачыненьні да нас. Мне шмат было пагрозаў.

Тое, што забойцы (хай сабе яны забілі нават нягодніка) прэзыдэнцкай ласкай былі вызваленыя з-пад адказнасьці і ў выніку ніводнага дня не прабылі ў месцах пазбаўленьня волі, выклікала непаразуменьне сярод юрыстаў, праваабаронцаў, грамадзкасьці.

# АГЕНТУРНАЯ ЗОНА

Каго і як схіляюць «стукаць» МУС ды КДБ?
«Стукацтва» як норма турэмнага супольніцтва
Жанчыны-«наседкі»
Чалавек, які шмат ведаў
Добрых агентаў берагуць
«Гвалтоўна не вэрбуем»
На чым трымаецца агентурная праца
Апэратыўнікі і апэратыўніцы ў СІЗА
Аб чым папярэджвае былы вэрбоўшчык

**Зэкі кажуць, што самае цяжкае ў зоне — не «стучать».**

«Выхаваўчая» сыстэма за кратамі выбудаваная так, каб зацікавіць вязьня супрацоўнічаць з адміністрацыяй у якасьці інфарматара.

Як адбываецца вэрбаваньне за кратамі? У чым адрозьненьне паміж агентамі і «стукачамі»? Чаму зьняволеныя пагаджаюцца быць інфарматарамі? Якія бонусы атрымліваюць яны за сваю дзейнасьць?

## Каго і як схіляюць «стукаць» МУС ды КДБ?

Сябра анархісцкага руху Ігар Аліневіч, які адседзеў у няволі пяць гадоў, спрабуе наўскідку сказаць, які працэнт інфарматараў сёньня за кратамі. Калі ўзяць зону, то гэта, на яго думку, недзе 50/50. Ад старых вязьняў, зь якімі сутыкаўся ў Наваполацку ды на «Віцьбе», Ігар чуў, што пры Саветах на кожны барак (100–200 асуджаных) прыпадала па некалькі стукачоў. За дваццаць гадоў лічба ўзрасла ў разы.

Ня менш іх сёньня і на волі, адзначае былы палітвязень.

### *Ад Ігара Аліневіча*

Ігар Аліневіч трапіў за краты па «наводцы» свайго паплечніка, якому на той час вельмі давяраў.

**— У верасьні 2010-га беларускія сілавікі затрымалі шэраг анархістаў. Супрацоўніцтва прапаноўвалі многім. Антон пагадзіўся. Праз тры месяцы, калі я быў у Маскве, яго паслалі на сустрэчу са мной.**



Аліневіча затрымалі ў маскоўскім гандлёвым цэнтры людзі ў масках. Потым была экстрадыцыя ў Менск, СІЗА КДБ, папраўчыя калёніі ў Наваполацку і Віцебску.

Супрацоўніцтва, паводле яго, прапаноўвалі ажно дзьве спэцслужбы. Спачатку КДБ, потым — МУС. Глыбокага адрозьненьня паміж гэтымі дзьвюма структурамі ён ня бачыць:

**— Розьніцца толькі спэцыфіка кампрамату, а сутнасьць адна — паставіць пад сумнеў рэпутацыю чалавека ў ягоным асяродзьдзі.**

**У «Амэрыканцы» мне прапаноўвалі застацца ў іх і папрацаваць на КДБ у якасьці хакера. Гэта пры тым, што я нават не валодаў такімі навыкамі. Як прыклад прыводзілі праўрадавых хакераў Кітаю. Я ня стаў нават пытацца, чаго менавіта яны хацелі — ламаць сайты палітычных рухаў, шпіёніць за людзьмі ці змагацца зь дзіцячай парнаграфіяй у інтэрнэце. Якімі б высакароднымі матывамі яны ні кіраваліся, зьвязвацца з чэкістамі — гэта сабе на пагібель.**

**Дый пра якую барацьбу са злом зь іх боку можа ісьці гаворка? Возьмем «справу 17-ці», калі КДБ і УБАЗ некалькі гадоў служылі «дахам» для распаўсюду наркотыкаў. Ці можна ў такім выпадку разам з гэтымі структурамі змагацца супраць гэтага або якога іншага зла?**

Пасьля СІЗА, гэта было ў наваполацкай ПК-10, Аліневічу прапаноўвалі стаць кашталянам вытворчай зоны, або, як называюць гэтую пасаду зэкі, «галоўказлом промкі». Праўда, у апошнім месцы зьняволеньня, калёніі «Віцьба», яму, як ён кажа, ужо нічога не прапаноўвалі.

**— У «Амэрыканцы» разам са мной у камэры былі дакладна дзьве «наседкі». Чалавек сталага ве-**

**ку Ўладзімер, пра якога было вядома, што ён чыноўнік з Магілёва. Ён вельмі стараўся, задаваў пытаньні як мог, у лоб, што выклікала толькі ўсьмешку і пачуцьцё суму. Гэтага немаладога чалавека было шкада. Хутчэй за ўсё апэратыўнікам удалося ўвесьці яму ў вушы, што ён ніякі не крымінальнік, а нармальны грамадзянін, які крыху заблытаўся, а таму ягоны абавязак — дапамагчы органам. Магчыма, паабяцалі зьмякчыць прысуд.**

**Іншым, куды больш дасьведчаным сексотам быў Максім Н. Той нічога не выпытваў, паводзіў сябе асьцярожна. Што ён сексот, я даведаўся толькі гады праз чатыры, калі ў калёнію пасьля «Амэрыканкі» прыбыў адзін хлопец. Аказваецца, ён сядзеў разам з Максімам. Толькі тады яго ўжо клікалі Андрэем.**

**Гэты новы хлопец расказаў, што западозрыў у сваім сукамэрніку даносчыка і дзеля праверкі неяк мімаходзь абмовіўся, што ў перадачы для яго будзе схаванае ў цыгарэтах нейкае забароненае рэчыва. У выніку цыгарэты прыйшлі разламанымі. Такім чынам Максіма, ён жа Андрэй, вывелі на чыстую ваду.**

Аліневіч прыгадвае, што толькі на зоне ён пачаў разумець розныя дэталі ў паводзінах Максіма-Андрэя. Напрыклад, сукамэрнік увесь час пісаў нібыта лісты, прычым нашмат больш, чым атрымліваў. Хутчэй за ўсё потым, ідучы, напрыклад, у санчастку, ён перадаваў іх куратару.

**— Каб схіліць чалавека даносіць на іншых, опэры ўжываюць розныя падыходы, арыентуючыся на яго магчымыя псыхалягічныя асаблівасьці. Шмат хто зь сядзельцаў на зоне — звычайныя слабыя людзі, якія ня могуць адмовіць мацнейшым. Такіх цкуюць, палохаюць праблемамі за кратамі, і многія не вытрымліваюць. Тым ня менш эфэкт ад працы такіх стукачоў вельмі малы, бо страх ня можа быць трывалым матыватарам. Звычайна такі чалавек трымае злосьць на тых, хто прымушае яго да неўласьцівых рэчаў. Проста пачынае ўтойваць інфармацыю.**

**Другая катэгорыя сексотаў — людзі хітрыя ды мэркантыльныя. Яны ідуць на супрацоўніцтва дзеля ўласнай выгады, напрыклад, умоўна-датэрміновага, або каб мець на зоне «дах» для свайго неафіцыйнага бізнэсу — продажу тэлефонаў, наркотыкаў і г. д. Такія сексоты могуць нават трапіць у штрафны ізалятар, але наступствы для іх заўсёды будуць мяккія.**

**Аднак самыя прафэсійныя агенты — тыя, якія «стукаюць» паводле «прызваньня». Іх караюць ШЫЗА і ПКТ, нават пасылаюць са спэцыяльным заданьнем на «крытку». Такі «ідэйны» можа пакутаваць больш, чым іншы «блатны», абы легенда была рэалістычная.**

**Гэта людзі кшталту нашага земляка, ураджэнца Горадзеншчыны, агента царскай «ахранкі» Еўна Азэфа. Яны — асы сваёй справы, і часам незразумела, хто кім кіруе: ці то спэцслужбы імі, ці яны спэцслужбамі. Дарэчы, мне даводзілася сутыкацца з выпадкамі, калі зэк — памочнік опэра — быў нашмат больш таленавіты за самога опэра.**

**А ўвогуле, як стукача ні назаві, ён усё роўна падлюга і нягоднік.**

## «Стукацтва» як норма турэмнага супольніцтва

Беларускі крымінальнік-рэцыдывіст Зьміцер Вольны перакананы, што «стукацтва» — гэта норма любога турэмнага супольніцтва.

*Ад Зьмітра Вольнага*

**— Што тычыцца мяне, то мне прапаноўвалі «стукаць» яшчэ ў міліцэйскім пастарунку, у працэсе сьледзтва. Прапаноўвалі адкрытым тэкстам: раскажы пра Л., пра Н., пра Д., што ты думаеш пра іх, чым займаюцца; можа, чуў нешта пра іхныя крымінальныя сувязі. Але так, здаецца, усім падчас допытаў кажуць. У турме і на зоне такіх прапановаў не было. Думаю, яны самі бачаць, каму можна прапаноўваць, а каму — не. Па сутнасьці, у сваёй апэратыўнай працы міліцыянты за кошт стукачоў і вылазяць.**

Асабліва шмат стукачоў у сьледчых камэрах, зазначае Зьміцер.

**— Звычайна ўсе гэтыя мярзотнікі карыстаюцца момантам, што чалавек, калі трапляе у камэру, асабліва ўпершыню, слаба ўсьведамляе, што зь ім здарылася. У любым выпадку трэба памятаць пра тое, што маўчаньне — золата.**
**Тых, хто «стукае», хапае як у кожнай турэмнай камэры, так і ў кожным кубрыку калёніі. Там бражку паставілі, дзірку ў сьцяне зрабілі, каб дарога (для турэмнай пошты) паміж камэрамі была, а не праз акно, бо так больш бясьпечна. Ахоўнікі ўсё ведаюць пра гэта. На нешта рэагуюць, а на нешта заплюшчваюць вочы.**

Найлягчэй, распавядае Зьміцер, вылічыць «наседку» на зоне або ў турме, найцяжэй у СІЗА. Напрыклад, асуджаны на зоне, які ўвесь час бегае да апэратыўніка, не застаецца незаўважаным. Яшчэ больш празрыстая сытуацыя на так званай «крытцы». Там кожны перамяшчаецца, што называецца, «па вызначаным маршруце», а таму кожнае адхіленьне (новы



чалавек, прыезд да кагосьці адваката, канфлікт у камэры, дзіўныя паводзіны сукамэрнікаў) — навідавоку, і на ўсё гэта зьвяртаюць увагу.

Стукача, які мае турэмны рэжым, аднак пры гэтым застаўся сядзець у СІЗА, выявіць цяжка. І ў Магілёве, і ў Горадні турма і сьледчы ізалятар знаходзяцца на адной тэрыторыі. У СІЗА пастаянны рух, зьмена людзей, паходы да сьледчага, адваката, кароткія спатканьні і г. д. Адсачыць, хто да каго і як часта ходзіць, практычна немагчыма. Адміністрацыя, дазваляючы свайму чалавеку адбываць прысуд менавіта ва ўмовах сьледчага ізалятару, сьвядома ідзе на парушэньне. Да таго ж такога вязьня ў далейшым могуць чакаць самыя сур'ёзныя санкцыі з боку сваіх жа крымінальнікаў.

Многія былыя, якія вызваліліся значна пазьней за Зьмітра, кажуць, што стукацтва на зоне квітнее ўсё больш.

## Жанчыны-«наседкі»

Журналістку Ірыну Халіп разам зь яе мужам, былым кандыдатам на прэзыдэнта Андрэем Саньнікавым, затрымалі ў ноч з 19 на 20 сьнежня 2010 году пасьля ўдзелу ў несанкцыянаванай дэманстрацыі супраць вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў. Некалькі месяцаў яна правяла ў СІЗА КДБ па абвінавачаньні ў арганізацыі масавых беспарадкаў. Паводле яе, «наседкі» былі ў дзьвюх жаночых камэрах. Іхны ўзровень нярэдка выклікаў, мякка кажучы, усьмешку.

У сваім «Дзёньніку зэчкі» журналістка згадвае, што абедзьвюх «падсадных качак» арыштанткі вылічылі хутка.

«Наседка», якая сядзела ў адной камэры з Ірынай Халіп ды галоўнай рэдактаркай сайту «Charter'97« Натальляй Радзінай, была «моцная цётка гадоў шасьцідзесяці ў норкавым футры і шапцы», якіх не здымала нават падчас сну. Дарэчы, канваіры загадзя перад яе

прыходам загадалі вызваліць для яе ніжні ложак. Жанчына прадставілася Таняй Івановай, расказвала, што сярод дэманстрантаў апынулася выпадкова, пасьля вячэры ў рэстарацыі. Калі Таня ўзгадвала ў размовах сваё былое жыцьцё працаўніцы савецкага гандлю, яна прагаворвалася і называла сваё сапраўднае імя.

Другая падсадная — яе кінулі ў камэру да намесьніцы старшыні «Маладога Фронту« Насты Палажанкі, таксама арыштаванай за Плошчу-2010 — была «бяззубая Галюня, якая распавядала, што зубы яна страціла ў Гомельскай калёніі, зь якой нядаўна вызвалілася. А на Плошчу прыйшла, як водзіцца, выпадкова і здымала тое, што адбываецца, на мабільны тэлефон, так і апынулася ў СІЗА КДБ».

Цягам тыдня «Таня» ды «Галюня» рабілі спробы вывесьці «палітычных» на размову аб падзеях 19 сьнежня, але сукамэрніцы «кожны раз абяцалі, што сьледзтва ва ўсім разьбярэцца, і размова так і не атрымлівалася. Калі іх вызвалілі, мы выказалі здагадку, што дамы, атрымаўшы свой сьціплы ганарар, ужо стаяць у чарзе па сьпіртное, каб адзначыць выкананьне заданьня».

Часам «наседку» можна вылічыць, а часам і не, мяркуе былая зьняволеная Ала Л. Падчас сьледзтва яна ўтрымлівалася ў СІЗА МУС на «Валадарцы«, а пасьля суду — у гомельскай калёніі. Улічваючы спэцыфіку тэмы, жанчына просіць не называць яе сапраўднае імя, а таксама артыкул.

### *Ад Алы Л.*

Ала кажа, што ў калёніі, паводле яе адчуваньняў, магла «стукаць» палова зэчак. Але гэта ў цяперашніх традыцыях, што ў турме, тое і на волі. Тым больш сярод жанчын. Жанчыны — істоты гаваркія, а таму могуць



здаць нават не наўмысна, а «па прастаце душэўнай», усьміхаецца яна.

**— Усіх «шасьцёрак» на зоне і ў камэрах СІЗА ведаюць так званыя «старшыя», якія сочаць за парадкам. Адна з задач старшай — падсяліць новую арыштантку бліжэй да той, якая можа выцягнуць зь яе для опэраў максымум інфармацыі.**

**Разьлік робіцца на тое, што паміж суседкамі найчасьцей узьнікаюць кантакт і больш-менш даверлівыя стасункі. Новенькая пакрысе сама шмат выбалботвае пра сябе. Большасьці першаходак вельмі хочацца зь некім падзяліцца, а гэтага рабіць ня варта. Нават, калі ты і давяраеш некаму.**

Жанчына кажа, што аднойчы і сама атрымала прапанову аб адпаведных паслугах з боку адміністрацыі. Выглядала ўсё вельмі ненадакучліва: а як вам сядзіцца, а як дзяўчаты, а як А, а як Б? Пыталіся не пра ўсіх, а пра асобаў моцных, харызматычных, якія былі ў стане паўплываць на іншых. Ала, паводле яе, рабіла выгляд, што не разумее, пра што гаворка. І потым зь ёй быццам бы да гэтай тэмы не вярталіся.

Жанчына чула, што нібыта паміж добраахвотніцай і адміністрацыяй падпісваецца нейкая папера, хутчэй неафіцыйная. Для заказчыкаў яна істотнай ролі не адыгрывае. А вось калі пра паперку стане вядома іншым сядзельцам, праблемы ў стукачкі будуць.

І на зоне, і ў СІЗА, паводле Алы, вельмі выдзялялася катэгорыя асуджаных за махлярства ды крадзеж у дзяржавы ў асабліва буйных памерах. «Адукаваныя, багатыя, паводзілі сябе як гаспадыні жыцьця. На ўсю моц супрацоўнічалі з адміністрацыяй. Спробы паставіць іх на месца мелі непажаданыя наступствы. Карцар, ШЫЗА, спагнаньне за парушэньне правілаў утрыманьня за кратамі«.

## Чалавек, які шмат ведаў

Мянчук Міхаіл А. у нулявыя адседзеў восем гадоў за эканамічнае злачынства, дакладней за тое, што, як ён кажа, некаму трэба было стаць «стрэлачнікам» у справе, дзе былі задзейнічаныя дзяржаўныя чыноўнікі высокага рангу. Сваёй віны не прызнаў, таму і сядзеў «ад званка да званка», і нават сёньня, праз дзесяць гадоў пасьля вызваленьня, выплачвае грошы дзяржаве.

### *Ад Міхаіла А.*

Паводле Міхаіла, працяглы тэрмін за кратамі прывучыў яго трымаць вока ды вуха напагатове, не балбатаць лішняга, нікому ня верыць — толькі самым блізкім ды правераным, усе іншыя кантакты адсякаць.

**— «Стукаюць» як на даручэньне адміністрацыі, так і з уласнай ініцыятывы. Любая сказаная мімаходзь дробязь даносіцца адміністрацыі ў абсалютна нечаканай інтэрпрэтацыі.**

Сярод шараговых «шасьцёрак» шмат асобаў зь нізкім турэмным статусам. Яны бяспраўныя, ім патрэбная абарона ад вязьняў, а таму яны імкнуцца знайсьці сабе «апекуна», напрыклад у асобе начальніка атраду, за тое, што дакладаюць яму інфармацыю.

**— На так званых «пакрыўджаных» увагі ніхто не зьвяртае — ён мые сабе ціхенька падлогу, а нехта побач паміж сабой размаўляе, не зьвяртаючы ўвагі на нейкую «мэблю». А «мэбля» слухае, а потым бяжыць пераказваць, ды яшчэ і прыдумае сам нешта. А ёсьць тыя, хто сьвядома ідзе на «стук», бо разумее выгаду для сябе. Праз «стук» атрымліваюць самыя высокія, «хлебныя» пасады. Нярэдка здараецца канфлікт інтарэсаў, гэта калі на адно месца прэтэндуюць некалькі стукачоў. Найчасьцей перамагае той, хто хітрэйшы.**



Як кажа Міхаіл, асабіста яго ў агенты ніколі не вэрбавалі. Толькі аднойчы апэратыўнік завёў зь ім размову пра заўгаса А., аднак Міхаіл зрабіў выгляд, што не разумее, пра што размова. А. быў даволі малады хлопец, у мінулым удзельнік арганізаванай злачыннай групоўкі, які цудам пазьбег «вышкі». Усе турэмныя разумелі, што ён ня проста так сядзіць на гэтай пасадзе.

Як ні дзіўна, але асоба гэтага вязьня пры ўсім тым, што расказвалася пра яго, выклікала ў Міхаіла нейкую сымпатыю. З А. можна было параіцца і пры гэтым быць упэўненым, што гэта застанецца паміж табой і ім. Ён ня меў звычкі дакладваць пра тое, што часам маглі ляпнуць у ягонай прысутнасьці. Напэўна, інфарматарства А. было разьлічанае на вуха куды больш высокага ўзроўню, чым атраднік, мяркуе Міхаіл.

Пазьней А. перавялі ў іншую зону. Неўзабаве пачаліся сур'ёзныя праверкі ў сувязі з сыгналамі ці то пра карупцыйную схему, ці то пра пастаўкі наркотыкаў у папраўчую ўстанову. Пачаліся ператрусы, допыты. Потым усё сьцішылася, але праз некаторы час у калёнію прыйшла вестка, што А. загінуў. Яго знайшлі мёртвым на прамзоне.

У няшчасны выпадак ніхто ня верыў. Вэрсіі былі самыя розныя. Забілі свае бандыты за тое, што некага здаў. Забілі ахоўнікі, зразумела, рукамі ЗК, таму, што прасьцей было здаць уласнага агента, чым сесьці самім. Іншымі словамі, чалавек шмат ведаў, і ў адзін момант ён стаў некаму непатрэбным.

## Добрых агентаў берагуць

Той фінал, які напаткаў героя гісторыі Міхаіла, былы апэратыўнік, палкоўнік МУС Алег Алкаеў называе «праколам», за які, прынамсі ў часы ягонай працы, так

званага куратара магло б чакаць службовае расьсьледаваньне.

*Ад былога вэрбоўшчыка*

**— Добрых агентаў старанна шыфруюць, усяляк берагуць. У калёніі для таго, каб завэрбаваць якаснага інфарматара, часам патрабуецца не адзін год.**

**Зразумела, размова ідзе не пра стукачоў ці шаптуноў, якія ёсьць у любога начальніка. На такія даносы, калі сёньня разам п'юць гарэлку, а заўтра раніцай бягуць дакладаць, што хто сказаў, а часам яшчэ прыбрэшуць, ідуць добраахвотна, зь нейкіх прымітыўных імкненьняў, зайздрасьці, помсты, каб з дапамогаю апэратыўніка зьвесьці рахункі з асабістым праціўнікам: маўляў, той з лыжкі ножык зрабіў, у другога, небясьпечнага, пад падушкай карты ці нейкія іншыя забароненыя прадметы. Паміж гэтымі даносчыкамі і так званымі агентамі ўплыву розьніца вялікая.**

**Я разумею, што праца міліцыянтаў цяпер як ніколі палітызуецца. Але без апэратыўнай дзейнасьці ні ўчора, ні сёньня, ні заўтра абысьціся нельга. Прычым у любым грамадзтве. Асноўная задача агента — папярэджаньне і раскрыцьцё злачынстваў, учыненых унутры ўстановы.**

Алег Алкаеў кажа, што ведае многіх з тых, хто тайна супрацоўнічаў. Бачыў гэтых людзей і за мяжой:

**— Часам мы ў Нямеччыне сустракаемся. Я ніколі не нагадваю ім пра справы мінулых гадоў. Гэта наша былая праца і наша агульная таямніца. Сёньня ў гэтых людзей і ў мяне зусім іншае жыцьцё. Але кожны зь іх, як і наогул кожны, хто сядзеў, выдатна разумее — калі закрыць на месяц пракуратуру, КДБ, то ніхто гэтага не заўважыць. Але калі закрыць міліцыю, то праз тры дні на вуліцу ніхто ня выйдзе. Крымінагенная сытуацыя зьменіцца ў момант.**



## «Гвалтоўна не вэрбуем»

Перш, чым адказаць на пытаньне, як адбываецца вэрбоўка, палкоўнік міліцыі Алкаеў адзначае: гвалтоўна ў турме нікога не вэрбуюць:

**— Існуе адпаведная інструкцыя, згодна зь якой апэратыўны работнік у абавязковым парадку сустракаецца і размаўляе з кожным чалавекам, хто паступае ў месцы зьняволеньня — сьледчы ізалятар ці калёнію. Гэтай сакрэтнай інструкцыяй рэглямэнтаваная і сама размова, аднак падыход чыста індывідуальны.**

**Спачатку опэр знаёміцца з матэрыяламі справы, каб ведаць, за што чалавек арыштаваны ці асуджаны. Зыходзячы з размовы, вырашае, ці варта прапаноўваць тайнае супрацоўніцтва. Калі опэр ня бачыць, што чалавек гатовы да апэратыўнай працы, ніякае вэрбаваньне не праводзіцца. Размова скончылася, і ніхто чалавека з гэтай нагоды больш не турбуе.**

**Часам выкарыстоўваецца шантаж такога кшталту: асуджаны калёніі, напрыклад, учыніў нейкае правапарушэньне, але, паколькі ён чакае спатканьня, разумее, што будзе пакараны і пазбаўлены яго, і тады пачынае сам прапаноўваць паслугі. Ён разумее, што за гэта трэба зьліць нейкую сур'ёзную інфармацыю, і сам ідзе насустрач.**

Паводле былога кіраўніка СІЗА МУС, вэрбаваньне на «Валадарцы» адрозьніваецца ад вэрбаваньня ў «Амэрыканцы»:

**— У міліцыі, перш чым з чалавека зрабіць агента, спачатку ад яго атрымліваюць інфармацыю — абавязкова такога пляну, каб яна не дазваляла яму даць задні ход. Інфармацыя правяраецца. За злачынства, якое ўдалося выкрыць агенту, кагосьці прыцягваюць да крымінальнай адказнасьці, садзяць у турму, і толькі пасьля гэтага яму могуць зрабіць прапанову аб прафэсійным, я падкрэсьліваю гэтае слова, супрацоўніцтве.**

Палкоўнік Алкаеў тлумачыць гэта некалькімі момантамі:

**— Па-першае, кожны зэк разумее: яго могуць паставіць у такія ўмовы, што ён можа ўчыніць любое злачынства, спробу ўцёкаў, суіцыду. А таму, каб абараніць самога сябе ды іншых, варта было б паназіраць за тым, што ў камэры адбываецца, як хто сябе паводзіць. Людзі згаджаюцца, бо гэта ў пераважнай большасьці выпадкаў працуе на саміх зьняволеных.**

**Другі момант — сыстэма бонусаў. Гэта, як правіла, датэрміновае вызваленьне, таксама можа быць апраўдальны прысуд, перавод грошай на рахунак быццам бы ад родных, дадатковыя спатканьні за тое, што ЗК нібыта стаў на шлях выпраўленьня, і г. д. Сярод заахвочваньняў шмат варыянтаў, прычым вельмі і вельмі нядрэнных.**

## На чым трымаецца агентурная праца

Алег Алкаеў прыгадвае выпадкі, калі зьняволены, які ніколі не даносіў, раптам сам, з уласнай ініцыятывы, пачаў дзяліцца з апэратыўнікам важнай інфармацыяй. Часам на знак сымпатыі да сьледчага, часам



у якасьці падзякі за тое, што афіцэр у свой час дапамог яму ў нечым.

**— Да прыезду ў Беларусь я працаваў у Казахстане. У адной з калёніяў сядзеў Юра, якога я ведаў яшчэ зь дзяцінства. Ён быў прафэсійны кішэньнік, дастаткова вядомы ў крымінальных колах. Адным словам, жулік. Ён ніколі нікога не здаваў, быў у аўтарытэце. У мяне і ў думках не было нешта яму прапаноўваць.**

**Аднойчы, калі да яго прыйшла на спатканьне жонка Тамара, мне патэлефанаваў прапаршчык. Кажа: «Таварыш капітан, зайдзіце ў пакой для спатканьняў». Заходжу, а там стаіць раскрыты слоік з варэньнем. Прынюхаўся — пахне сьпіртам. Ну што? Жонку трэба караць за тое, што пранесла забаронены прадукт. З другога боку, шкада гэта рабіць: яна на фабрыцы працуе, сям'ю зь дзецьмі ўтрымлівае.**

**Адазваў прапаршчыка ў іншы пакой. Высьветліў, што ён нікому, акрамя мяне, пра гэта не паведамляў, і аддаў яму той слоік, каб разам з хлопцамі выпілі, а парачцы строга патлумачыў, каб такое больш не паўтаралася.**

**Праз пару тыдняў Юра сам да мяне прыйшоў і расказаў, хто носіць наркотыкі ў зону. Быў адзін такі падлаваты афіцэр. Паведаміў, на якой кватэры, калі і што. Зрабілі засаду — злавілі. Звольнілі яго. Але справы не распачалі — начальства не адважылася.**

**Пазьней я Юру спытаў, чаму ён вырашыў таго здаць? Ён адказаў: гэты казёл у многіх грошай набраў, усім вінны, але аддаваць не зьбіраецца. Таму вязьні былі вельмі незадаволеныя. Вось Юра яго спакойна і здаў. А потым паступова ўвайшоў у смак. Зрабіў кар'еру — стаў брыгадзірам. Вызваліўся датэрмінова. Праўда, потым зноў вярнуў-**

**ся да кішэнных крадзяжоў, сеў. Але больш лёс нас ня зводзіў.**

Як сьведчыць Алег Алкаеў, «гэта вельмі распаўсюджаны прыклад супрацоўніцтва. Спачатку ты робіш дабро, а потым чалавек адказвае на яго. Вязьні — народ удзячны. Яны ж разумеюць, што апэратыўнікі таксама рызыкуюць».

Алкаеў прыгадвае, што на пачатку 1990-х, калі ён на «Валадарцы» працаваў апэратыўнікам, а пазьней начальнікам рэжымнага аддзелу, там сядзела каля пяці тысяч чалавек, пры тым, што сам ізалятар быў разьлічаны на дзьве тысячы. Потым, пасьля 1996-га, калі ён узначаліў СІЗА — каля трох тысяч.

**— Уявіце сабе: нават ня пяць, а тры тысячы нармальных здаровых мужыкоў. У іх непазьбежна паміж сабой узьнікаюць канфлікты і праблемы. І калі гэтыя праблемы своечасова не загасіць, канфлікты могуць скончыцца забойствам. У такіх месцах павінен быць пастаянны і пільны кантроль, а таму асаблівае значэньне надаецца апэратыўнай працы. У нас у справаздачах была графа: папярэджаныя злачынствы і папярэджаныя забойствы. Недзе за квартал прадухілялі злачынстваў 50.**

Сур’ёзнай апэратыўнай працай, паводле Алкаева, можна назваць таксама інфармацыю пра злачынства, якое ўчыніў сукамэрнік. У камэры не прынята распытваць, гэта жорстка караецца. Але ўмелы «тайны» супрацоўнік можа выклікаць давер, даведацца. Скажам, чалавек абвінавачваецца ў цяжкім злачынстве, а доказаў мала. Дзе захоўваюцца прылады злачынства, дзе нож схаваў, дзе нарабаванае? Доказы ў выніку забіраюцца і далучаюцца да матэрыялаў крымінальнай справы.



Тайнага агента, кажа былы кіраўнік менскага СІЗА, можна параўнаць з выведнікам:

**— Пры мне ва ўмовах установы выкананьня пакараньняў дзейнічалі такія сур’ёзныя і адначасна рызыкоўныя людзі, такія таленты, што побач зь імі замежныя выведнікі блізка не стаялі. Усё, як на волі. Толькі на волі можна праваліцца ў адной краіне, і цябе ў іншую перавядуць. У месцах зьняволеньня ніхто цябе на свабоду не адпусьціць, і будзеш ты сядзець, і так званы «турэмны тэлефон» працуе ў іх лепш, чым любы мабільны.**
**Існуе шмат сакрэтаў наконт таго, як прытрымлівацца канспірацыі. Калі справа наладжаная як мае быць, агент ня будзе расшыфраваны. Калі ж здараецца расшыфроўка, то апэратыўнік нясе за гэта поўную адказнасьць, паколькі былі парушаныя правілы канспірацыі.**

## Апэратыўнікі і апэратыўніцы ў СІЗА

Савецкі палітвязень брэжнеўскіх часоў, праваабаронца, чалец Маскоўскай Хэльсінкскай групы Валеры Абрамкін (1946–2013) сьцьвярджаў: калі нічога ня ведаць аб апэратыўнай службе і яе разгалінаванай агентурнай сетцы, немагчыма зразумець турэмны сьвет ды дзеяньні судзьдзяў і сьледчых.

Тыя ж турэмныя апэратыўнікі, якія, прынамсі раней, лічыліся найбольш кляснымі прафэсіяналамі сярод іншых «опэраў», нярэдка адмыслова камандзіраваліся ў розныя СІЗА і ІЧУ (ізалятары часовага ўтрыманьня), каб раскрываць гучныя злачынствы. Гэтым людзям надаваліся там самыя шырокія паўнамоцтвы, і ў іх распараджэньні былі самыя розныя агенты.

У тым ліку жанчыны, прычым не арыштанткі, а тыя, хто належаў да бліжэйшага атачэньня крыміналу ці, як тая Мата Хары, былі гатовыя да «рамантычных стасункаў» зь лідэрамі злачынных груповак, каб паслужыць закону.

Ці даводзілася палкоўніку Алкаеву вэрбаваць менавіта такіх жанчын?

На гэтае пытаньне дасьведчаны вэрбоўшчык адказвае не адразу.

**— Тэма хоць і цікавая, але для мяне яна закрытая ад абмеркаваньня. Магу адказаць толькі ў агульных рысах. Паколькі пэнітэнцыярная сыстэма ўваходзіць структурна ў сыстэму МУС, то яна ў сваёй дзейнасьці кіруецца тымі самымі правіламі, якімі кіруецца МУС. Я маю на ўвазе арганізацыю агентурна-апэратыўнай працы ў месцах пазбаўленьня волі. Гэтыя правілы ў мэтах раскрыцьця злачынства прадугледжваюць удзел у правядзеньні агентурна-апэратыўных мерапрыемстваў любых асоб. Незалежна ад полу. Такая праца вядзецца і з мужчынамі, і з жанчынамі. Ну, а дэталі я, вядома, раскрываць ня маю права.**

## Аб чым папярэджвае былы вэрбоўшчык

Мяркуючы па імпэце, зь якім у незалежных СМІ выкрываюць «сексотаў» сярод палітыкаў ды грамадзкіх дзеячоў, гэтая тэма запатрабаваная, лічыць палкоўнік МУС, а ў мінулым і сам вэрбоўшчык Алег Алкаеў:

**— Аднаго часу я нават сам пачаў пісаць на сваім акаўнце ў ФБ пра стукачоў і сексотаў. Шмат якія рэчы я ведаю абсалютна дакладна. Бо кантакты нікуды ня дзенеш. Зьняволеныя вызваляюцца, супрацоўнікі на пэнсію сыходзяць. Людзі выказваюць свой пункт гледжаньня, некаторыя непасрэдна ведаюць канкрэтныя выпадкі. Мы ўсе жывем тым жыцьцём, бо, як кажуць, «былых не бывае».**

**Карацей, пачаў, але потым спыніўся. Зразумеў, што калі ўлезу ў нейкія нюансы, то дам падставу людзям падазраваць адным адных. А гэта будзе толькі на руку маніпулятарам ад рэжыму. Раю і іншым спыніцца. Нельга, ня маючы доказаў, публічна называць некага агентам, нельга падыгрываць спэцслужбам.**

**Да мяне ня раз у прыватным парадку зьвярталіся. Пытаньні кшталту: як ставіцца да таго, што адзін адседзеў, а другі — не. Аднаму далі пяць сутак, а другому — пятнаццаць. Некага вызвалілі датэрмінова, некаму ўвогуле далі апраўдальны прысуд. Я рэдка размаўляю на гэтую тэму, толькі зь людзьмі, якім давяраю, у мэтах прыватнага выкарыстаньня маёй інфармацыі, без усялякіх публікацый.**

Алкаеў пазьбягае імёнаў ды прозьвішчаў, падбірае найбольш памяркоўныя фармулёўкі. Тым ня менш слова «дакладна» ён выкарыстоўвае таксама.

**— Пра што магу сказаць дакладна: усе маніпуляцыі зь вядомымі людзьмі ў месцах пазбаўленьня волі выпадковымі не бываюць. Гэта тычыцца іх камэрнага ды лягернага ўтрыманьня, а потым характару вызваленьня, далейшага выдварэньня ды іншага. І, зразумела, вырашаецца гэта не на ўзроўні прапаршчыка.**

**Я маю важкія падставы падазраваць некага ў сувязі са спэцслужбамі, калі гэты нехта атрымаў льготы пры вызваленьні зь месцаў зьняволеньня. Зусім ня важна, прасіў ён пры гэтым аб памілаваньні ці не. Таксама магу падазраваць у супрацоўніцтве і некага, хто такіх ільгот не атрымліваў.**

**Злыя публічныя выступы, так званыя выкрываньні сваіх колішніх паплечнікаў з агалоскай імёнаў, якія апошнім часам сустракаеш у апазыцыйных СМІ ды сацсетках, нярэдка толькі пацьвярджаюць гэты факт. Гэта дапушчальна ў пэўных сытуацыях, бо гэта своеасаблівая форма прыкрыцьця, якая рэкамэндуецца, а часам проста абавязковая дзеля ўмацаваньня сваіх пазыцый і дзеля глыбейшага ўплыву на працэсы.**

Былы начальнік «Валадаркі» кажа, што сам ён вельмі асьцярожны ў меркаваньнях: «Бо гэта ж органы, а яны моцныя сыстэмай».

**— Возьмем такую постаць, як Салжаніцын, які заваяваў галовы многіх людзей, у тым ліку маю. Я таксама лічу яго выдатным пісьменьнікам, які апісаў жыцьцё ГУЛАГу. Праз чэхаў, у 1972 ці 1974 годзе, выйшлі ягоныя даносы, якія ён напісаў, знаходзячыся ў лягеры ў Экібастузе, у Казахстане. «Агент Ветраў». Разумееце, гэтым займаюцца ўсур'ёз. Хтосьці не паверыў, а хтосьці ж і паверыў. Ва ўсялякім разе, яму давялося апраўдвацца. А хто апраўдваецца — заўсёды вінаваты.**

# ЗОНА СУСТРЭЧ

## Што гэта — каханьне ды сэкс у няволі і наколькі дарэчы гаварыць пра мараль у гэтых стасунках? Як гэта бывала ў ранейшыя стагодзьдзі і як цяпер?

Вядомая расейская журналістка, у мінулым жонка асуджанага, кіраўніца праваабарончай арганізацыі «Русь сидящая» Вольга Раманава называе каханьне за кратамі вельмі недасьледаванай ды шматплянавай тэмай. Турма — гэта такое дзіўнае месца, дзе няма паўтонаў, — лічыць праваабаронца. Тут шмат запалу ў стасунках. Ён і яна, яна і яна, ён і ён.

## Стасункі на турэмных вежах

Былы палітвязень, архівіст Зьміцер Дрозд, які вывучае гісторыю вельмі мала дасьледаванага дагэтуль менскага турэмнага замку («Валадаркі»), натрапляў у сваіх досьледах і на тэму каханьня вязьняў.

Паводле Зьмітра, за царскім часам жыцьцё ў турме было такое, што мужчыны і жанчыны маглі пры жаданьні спатыкацца сам-насам. Падчас працы ў архівах дасьледніку ўдалося знайсьці прозьвішчы жанчын-вязьняў, якія зацяжаралі ў турме і нарадзілі дзіцяў.

*Ад Зьмітра Дразда*

**— Канкрэтных гісторыяў, дзе б апісвалася, як яны сустракаліся на вежах або ў бальніцы і спалі разам, я няшмат знайшоў. Але ж, напрыклад, у 1850-я гады была зафіксаваныя пара-тройка выпадкаў, калі арыштанткі зацяжаралі. Значыць, натуральна, былі нейкія адносіны. Ці паміж арыштантамі, ці з ахоўнікамі, магчыма, гэтыя жанчыны сустракаліся. Была ў іх нейкая любоў. А можа, і не было ніякай любові. Тут мы ня можам нічога сказаць.**



**Улетку 1855 году, напрыклад, у менскім астрозе былі хрышчаныя незаконна народжаныя дзяўчаткі: «у дзеўкі Эўдаксіі» і ў мяшчанкі Ганны Аскеркі.**

Якім чынам маглі адбывацца любоўныя спатканьні на вежах Пішчалаўскага замку?

**— Адна вежа была воданапорная, і туды арыштанты хадзілі па ваду. У вежах былі асобныя камэры, у тым ліку і жаночая. Была магчымасьць адчыніць нейкія дзьверы, тым больш калі адносіны былі з ахоўнікам. Церазь вежу быў выхад на паддашша. Там сушылі бялізну. Там маглі быць магчымасьці сустрэцца. Калі ахоўнікі забываліся ці самі арыштанты здабывалі ключы ці адмычкі, узломлівалі дзьверы на паддашша.**

А ці маглі, напрыклад, муж з жонкай сустракацца, калі адзін зь іх быў у турме? Зьміцер Дрозд кажа, што можна было, але сустрэчы доўгія, у асобным пакоі тады не прадугледжваліся — прынамсі, яму такое ў дакумэнтах не траплялася. І наўрад ці на такіх дазволеных сустрэчах былі магчымасьці для «блізкага кантакту», кажа гісторык. Зрэшты, магчымасьці бывалі розныя. Нават можна было часам схадзіць дахаты, асабліва гэта тычылася менскіх мяшчанаў. Калі турэмны тэрмін быў невялікі, два-тры гады — значыць, злачынства не было сур’ёзным:

**— І гэтыя людзі пастаянна хадзілі на працу, па ўсім Менску. На бойню, разьбіралі ратушу. Чысьцілі сьнег на вуліцах. Жонкі ведалі, што муж там, яны маглі спаткацца. Ахоўніку даць пяць рублёў, на пару гадзін зьнікнуць. Я думаю, такіх выпадкаў было значна больш, чым нам вядома.**

**Для жанчын гэта заканчвалася практычна заўсёды аднолькава: у мэтрычных кнігах зьяўляліся запісы пра незаконна народжаных дзяцей.**

**У мэтрычных кнігах заўсёды пазначаецца, хто бацькі. Каб жанчына трапіла туды цяжарнай і ў яе быў муж, то запісалі б — у арыштанткі такой і яе мужа нарадзіўся сын. Але заўсёды запісваліся і незаконна народжаныя ў турме дзеці. Часта наглядчыкі бывалі хроснымі. Бывалі і адносіны ў іх з арыштанткамі.**

**Была сярод арыштантак і своеасаблівая «рэцыдывістка», кажа гісторык: «Толькі хрысьцілі адно дзіця, што нарадзілася ў турме, — менш як праз год новае нараджаецца». Так, 13 студзеня 1848 году ў арыштанткі Ганны Араковічавай быў пахрышчаны «ребенок мужеска пола». А 16 жніўня зьявіўся новы запіс пра тое, што днём раней гэтая самая арыштантка нарадзіла за кратамі другога сына.**

Зьміцер Дрозд мяркуе, што цяжарнасьць за кратамі магла разглядацца ня толькі як правіна — пэўным чынам яна магла нават аблягчыць жанчыне турэмную долю:

**— Канечне, улічваліся і зьмякчальныя абставіны. Калі жанчына зацяжарала, ёй маглі даць і меншы тэрмін. Такі варыянт таксама мог быць — зацяжараць, каб потым было лягчэй, можа нават з надзеяй на вызваленьне.**

## Сэкс у «сталыпіне»

Да 1947 году ў лягерах і турмах дзейнічала інструкцыя НКВД «Аб рэжыме ўтрыманьня зьняволеных» № 00889, згодна зь якой дазвалялася супольнае разьмяшчэньне жанчын і мужчын ня толькі ў агульных зонах, але і ў адным бараку, толькі што за перагародкай.



Як правіла, адміністрацыя ў месцах, дзе зьняволенымі былі жанчыны, складалася пераважна з мужчын. Нізавыя кіроўныя пасады займалі крымінальнікі, якія, карыстаючыся патураньнем вышэйшага кіраўніцтва, чынілі на жаночых зонах поўны «беспредел» — адбіралі ў іх пасылкі, заработную плату, схілялі жанчын да сужыцьця.

Да Другой сусьветнай вайны жанчын у СССР звычайна асуджалі на карацейшыя тэрміны, чым мужчын, што, на думку адміністрацыі турмаў, стрымлівала іх ад уступленьня ў стасункі за кратамі, бо яны мелі пэрспэктыву хутчэй вярнуцца да сям'і.

Але пазьней асуджаным жанчынам пачалі даваць ужо працяглыя тэрміны, што выклікала ў адладжаным мэханізьме ГУЛАГу пэўныя праблемы, у тым ліку — рэзкі рост колькасьці цяжарных у лягерах ды турмах. Толькі з 1948 да 1949 году колькасьць асуджаных жанчын зь дзецьмі ўзрасла на 138%, цяжарных — на 98%.

Гэта прымусіла ўладу правесьці дзьве частковыя амністыі для цяжарных зэчак ды матак малалетніх дзяцей. Зрэшты, паводле запісак лягерных наглядчыкаў, астатнім жанчынам-зьняволеным гэта толькі дадало імпэту, каб хоць як зацяжараць.

Расейскі паэт, ляўрэат прэміі часопісу «Новый мир», а ў далёкім мінулым — кішэнны злодзей Яўген Карасёў, які меў сем «ходак», правёў у ГУЛАГу агулам 20 гадоў. Працаваў там на лесапавале. У інтэрвію Свабодзе ён узгадвае пра лягерныя этапы ў 1950-я гады. У тых «сталыпінскіх вагонах» жаночыя камэры былі побач з мужчынскімі, многія жанчыны цяжаралі менавіта на такіх этапах:

**— Ну вось едзе малады мужык у вагонзаку, у «сталыпіне», а ў суседняй камэры едуць такія самыя нестарыя жанчыны. Калі грошы ёсьць, хлопец прапаноўвае канвою: хачу мець з адной зэчкай блізкія адносіны. Плаціш, ідзеш па калідоры. Калі**

**выбраная табой жанчына пагаджаецца, пару суправаджаюць да прыбіральні. Там усё гэта адбываецца. Зразумела, пад наглядам канвою. Але і да гэтага прызвычайваесься. Узьнікаюць іншыя адчуваньні.**

Сёньня, у 10-я гады XXI стагодзьдзя, па-ранейшаму існуюць «сталыпіны», у якіх разам этапуюць у калёніі як асуджаных мужчын, так і асуджаных жанчын. Аднак, паводле былых «пасажыраў», падобнага кшталту стасункі цалкам выключаныя.

## Турэмныя раманы

Алёна Красоўская, якая працавала ў турэмным шпіталі і перажыла бурны турэмны раман са зьняволеным, расказвае, што сэксуальныя сувязі паміж мужчынам ды жанчынай за кратамі здараюцца, напрыклад, у мужчынскіх калёніях, дзе ёсьць жаночы службовы пэрсанал.

### *Ад закаханай*

Алёна Красоўская, удава асуджанага паводле артыкулу 139, неаднойчы суджанага Андрэя Касьпяровіча, пазнаёмілася з сваім будучым мужам у 2004 годзе, калі працавала ў Рэспубліканскім турэмным шпіталі. Тады шпіталь разьмяшчаўся на тэрыторыі менскай папраўчай установы на Кальварыйскай. Андрэй, які адбываў пакараньне ў гэтай калёніі, меў пасаду заўгаса у «бальнічцы». Для Андрэя гэта было далёка ня першае турэмнае зьняволеньне. У канцы 1990-х ён належаў да арганізаванай злачыннай групоўкі, і ягоны апошні прысуд складаў васямнаццаць гадоў.

**— Нам, супрацоўнікам, пэрыядычна паказвалі справы асуджаных, зь якімі мы мусілі сутыкацца штодня і папярэджвалі: вось з гэтымі ніколі. Справа Андрэя была першай, якую мне паказалі ў выхаваўчых мэтах. Калі азнаёмілася, мне стала кепска. Потым я ўбачыла гэтага чалавека і пачула ад яго нечаканае: за тое, што ён нарабіў, яго пакаралі занадта мякка. Гэта было вельмі дзіўна чуць на тле расповедаў астатніх, якія сьцьвярджалі, што яны не вінаватыя і ледзь не анёлы.**



**Мяне неяк зацікавіў гэты чалавек, які ўсьведамляў сваё мярзоцьце. Потым я зразумела, што зь ім мне лепш, чым безь яго. Паўстала пытаньне: а ўсё, што ён учыніў — гэта як? Калі я ўпушчу яго ў сваё жыцьцё, то як з гэтым мне жыць? Я паставіла Андрэю ўмову расказаць мне ўсё.**

**Размоваў на гэтую тэму было шмат, прычым вельмі цяжкіх. Аднойчы на пытаньне — чаму? — ён адказаў: «Бываюць пэўныя сытуацыі, калі забіць можа кожны. Ёсьць тыя, хто забівае, баронячы каханую жанчыну або дзіця, ёсьць забойства дзеля самаабароны, ёсьць — дзеля помсты або каб завалодаць чужой маёмасьцю. Яшчэ — існаваньне ці адсутнасьць пэўных табу. Калі гэтыя табу не закладзеныя ў дзяцінстве і для чалавека тыя самыя грошы важнейшыя за чалавечае жыцьцё, злачынства абавязкова здарыцца».**

**Я не была ўпэўненая, што застануся з гэтым чалавекам пасьля таго, як буду ведаць усё. Гэтая размова цягнулася не адну гадзіну і не адзін дзень. Я не сышла. Пра гэты свой крок не шкадую.**

Пра іх турэмны раман стала вядома адміністрацыі ПК-1. Шлюб не пагасіў скандалу: Андрэя перавялі ў іншую папраўчую ўстанову, а Алёна была вымушаная звольніцца.

Мужа Алёны ня стала, калі яна ўжо працавала ў праваабарончай арганізацыі «Плятформа». Вясной 2012-га яго знайшлі павешаным у камэры ШЫЗА ў калёніі ў

Навасадах. З васямнаццаці гадоў турэмнага тэрміну Андрэй пасьпеў адседзець толькі палову.

**— Я ведаю некалькі гісторыяў, калі жанчыны самі звальняліся, як у маім выпадку, або іх звальнялі за нестатутную сувязь з асуджанымі. Калі я ўладкоўвалася на працу, са мной, як і з усімі, праводзілі «жэстачайшы» інструктаж. Напрыклад, нам было забаронена надзяваць спадніцу карацейшую, чым да калена або агаляць рукі. І калі нехта зь дзяўчат гэтага ня цяміў, то рэакцыя з боку апэратыўнай часткі была вельмі хуткая. Другі раз гэтага не паўтаралі. Але ж нават калі жанчына ў паранджы, яна ў турме ўсё роўна прадмет пажады.**

**Сэксуальнае жыцьцё там можна наладзіць у любым выпадку, было б жаданьне. Ёсьць, напрыклад, авантурныя жанчыны. Для такіх важны элемэнт рызыкі, і калі ім упадабаўся нейкі асуджаны, яны ідуць на парушэньне службовага статуту, адчуваюць сябе на мяжы звальненьня. Гэта для іх як дэтэктыў, бо ўвесь час трэба думаць, як сустрэцца, дзе схавацца і г. д. Гэта дадае вастрыні ў пачуцьцях. А ёсьць жанчыны, якія ўбачылі — закахаліся і будуюць далейшыя стасункі, зыходзячы з таго, што будзе шлюб, сям'я, дзеці. Гэтак было ў мяне.**

Таксама бываюць раманы па перапісцы. Напрыклад, маладая жанчына даўно і беспасьпяхова хоча стварыць сям'ю. І тут ад знаёмага даведваецца пра асуджанага, які марыць пра нешта сур'ёзнае з добрай жанчынай. Такіх жанчын на постсавецкай прасторы клічуць завочніцамі.

Алёна Красоўская кажа, што знаёмая са многімі такімі дзяўчатамі:

**— Паводле беларускіх законаў, начальнік калёніі можа дазволіць спатканьне з завочным каханым — пару гадзін праз шкло — для абмеркаваньня будучага шлюбу. І пасьля гэтай размовы трэба вырашаць. Ня думаю, што гэта можа быць нейкі сур'ёзны выбар. Адна справа, калі ты працуеш у гэтай сыстэме і маеш магчымасьць размаўляць з чалавекам, ведаць яго больш. Іншая справа, калі ты перад тым, як прыняць рашэньне, бачыш яго толькі аднойчы, на гэтым самым кароткім спатканьні.**

**Найчасьцей мне шкада гэтых «завочніц», бо з боку ЗК да іх асаблівыя адносіны. Зразумела, пакуль мужчына сядзіць за кратамі, ён будзе дэманстраваць ёй сваё каханьне. За дзесяць гадоў майго знаёмства зь дзяўчатамі, якія ішлі на такі шлюб, сям'ю захавала толькі адна пара. Цяпер у іх нарадзілася другое дзіця. Астатнія, а кола маіх знаёмстваў вельмі шырокае, паразыходзіліся значна раней, чым праз дзесяць гадоў.**



## Турэмныя спатканьні

Спатканьне з блізкімі людзьмі з волі — яшчэ адзін спосаб для адміністрацыі ўплываць на вязьня.

З савецкіх часоў спатканьні ў беларускіх вязьніцах бываюць двух відаў — «кароткія», праз шкло ды тэлефон (ад 2016 году яго час працягнулі да чатырох гадзін) і «працяглыя» (максымум да трох дзён). Апошнія праходзяць хоць і на тэрыторыі калёніі, але ў асобным памяшканьні, так званым турэмным гатэлі. На працяглыя спатканьні дапускаюцца толькі самыя блізкія сваякі. На кароткіх, з дазволу начальніка папраўчай установы, могуць прысутнічаць і сябры. Спатканьне зьняволенага зь сямейнікамі — вельмі моцная эмацыйная падзея, яно сьведчыць, што чалавек некаму патрэбны на волі.

Колькасьць спатканьняў паводле беларускага заканадаўства залежыць ад рэжыму ўтрыманьня зьняволенага.

Так вязьню-пажыцьцёвіку ў Жодзіне дазволеныя два кароткія спатканьні (праз шкло ды тэлефон) працягласьцю да чатырох гадзін на год, а ў так званых палепшаных умовах установы ў Глыбокім — тры кароткія спатканьні на год. Асуджаным турмаў — ад аднаго да двух кароткіх спатканьняў. У калёніях, ва ўмовах строгага рэжыму — ад аднаго да двух кароткіх і ад аднаго да двух працяглых (ад адных да трох сутак у турэмным гатэлі), на ўзмоцненым — ад двух да трох кароткіх і два працяглыя спатканьні на год, ва ўмовах агульнага — ад двух да трох кароткіх і ад двух да трох працяглых спатканьняў на год.

Паводле апублікаванай некалькі гадоў таму статыстыкі, паказчык наведваньня сваякамі зьняволеных жанчын складае максымум 7–8%. У мужчынскіх калёніях ён разоў у 10 вышэйшы.

Ня ўсім па сродках паездка дзеля некалькіх гадзін кароткай сустрэчы, асабліва калі турма на ладнай адлегласьці ад дому. Пакоі для тэлефонных перамоваў у калёніях, як правіла пустуюць. Затое, калі браць мужчынскія зоны, турэмныя гатэлі для працяглых спатканьняў заўсёды занятыя цалкам. Звычайна арыштантам прывозяць хатнія пачастункі, вольную вопратку, што стварае хай кароткае, але адчуваньне адрыву ад зоны.

## Гісторыі з турэмных гатэляў

Алёна Красоўская ўзгадвае тыя часы, калі сама езьдзіла на сустрэчы з асуджаным мужам. Паводле жанчыны, абодва ўсьведамлялі, што «стаць на шлях выпраўленьня — гэта адзіная магчымасьць, каб атрымліваць дадатковыя спатканьні і каб час разлукі такім чынам праляцеў хутчэй».



Акрамя трох належных працяглых спатканьняў у іх было некалькі заахвочвальных (за добрую працу, вучобу, удзел у спартовым жыцьці), а таму Алёна Красоўская езьдзіла далёка не на ўсе «кароткія».

### *Ад Алёны Красоўскай*

**— Ехаць дзеля кароткай размовы шмат гадзінаў на аўтобусах, цягніках, бо сярод сваіх не было нікога з машынай — для мяне гэта было і цяжка, і вельмі накладна.**

Трохдзённыя спатканьні адбываліся ў турэмных «гатэлях». Там агульны калідор, агульная кухня, агульны душ. Алёна Красоўская кажа, што была сьведкам самых розных дачыненьняў паміж сямейнікамі. Адны пары літаральна сьвяціліся ад шчасьця, але былі і такія, ад якіх сыходзіла шмат агрэсіі. Прычым ішла яна, як правіла, ад саміх вязьняў:

**— Чуліся і маты, і розныя іншыя брыдкія абразы. Аднойчы быў выпадак, калі незадаволены чымсьці муж ударыў жонку. Гэта пры тым, што яна на сваім гарбу цягнула яму перадачу на 30 кг, з рознымі далікатэснымі прадуктамі. Тая жанчына зьехала ад яго, не дабыўшы дзень ці два з трох прызначаных... А акрамя мужа, які не працаваў, але меў вялікія запатрабаваньні, на ёй яшчэ віселі дзеці, сьвякроў. Але гэта зьвязана не з турмой, а з тым, што такія адносіны ў сям'і былі і на волі.**

**Таксама я была сьведкай, калі паміж некаторымі чужымі мужамі ды чужымі жонкамі адбываліся паходы «налева». Створаныя на кароткі час пары замыкаліся недзе ў душы, а іх сужэнцы шукалі іх на кухні, па ўсім гатэлі. У прынцыпе, усё як і на волі.**

## На спатканьне ў жаночую калёнію

Былы асуджаны Сяргей Л., які рэгулярна наведвае сваю жонку Аліну ў калёніі, кажа, што менавіта на жаночай зоне падчас спатканьняў, асабліва калі гэта тычыцца сямейных параў, няма ні скандалаў, ні адзюльтэраў. Калі мужчына прыяжджае туды на спатканьне, гэта знак вельмі вялікага каханьня, прынамсі зь ягонага боку.

На працяглае трохдзённае спатканьне з жонкай ён ужо закупіў усё, што трэба для трыццацікіляграмовай перадачы. Засталося набыць нейкіх прысмакаў — ягадаў, садавіны, марозіва. На сустрэчы ў калёнію Сяргей езьдзіць трэці год.

Яшчэ праз тры гады скончыцца і тэрмін пакараньня.

Прысуд, які атрымала Аліна, — дзевяць гадоў пазбаўленьня волі. Столькі ж атрымаў і яе першы муж, зь якім яны праходзілі па адной справе. На сёньня Аліна адседзела шэсьць гадоў. Першы яе шлюб даў расколіну яшчэ да арышту. Праз пару гадоў, калі сужэнцаў ужо разьмеркавалі па розных зонах, стала ясна, што ім нават і пісаць адно аднаму няма пра што.

Сяргей — другі Алінін муж. Пазнаёміліся на этапе. Малады мужчына атрымаў тады два гады няволі. Пачалі ліставацца. Калі лісты ідуць з зоны ў зону, гэта заўсёды праблематычна. Але наладзілі сувязь праз волю.

Пасьля адседкі Сяргей прыехаў да Аліны на кароткае спатканьне. Неўзабаве расьпісаліся. Муж імкнецца ўсяляк падтрымліваць жонку, як маральна, так і матэрыяльна. «Калі нашы блізкія за кратамі адчуваюць, што яны патрэбныя на волі, то і час у няволі ляціць нашмат хутчэй», — кажа ён. У сваю чаргу Аліна амаль у кожным лісьце да мужа піша, якая яна шчасьлівая, бо нарэшце зразумела, што значыць жыць.



Для людзей далёкіх ад турэмных рэаліяў гэтая кароткая гісторыя — нібыта з сэрыялу «Санта-Барбара». Аднак большасьць тых, хто знаёмы з жыцьцём за кратамі, скажуць вам, што ў вязьніцах здараецца і не такое.

«Калі жонкі часьцей за ўсё чакаюць мужоў, то мужчыны — нашмат менш цярплівыя, — шчыра кажа Сяргей. — Чым даўжэйшы тэрмін, тым менш шанцаў захаваць адносіны».

Сяргей перакананы, што працяглыя турэмныя спатканьні павінны быць усё ж значна часьцей, чым раз на паўгода, а таксама іх варта распаўсюдзіць і на тых, хто ня ў шлюбе.

## У зоне адчужэньня

Муж Марыны Цітовай і бацька яе чатырох дзяцей, афіцэр-забесьпячэнец беларускага войска Сяргей быў асуджаны на 12 гадоў нібыта за растрату. Летам 2013-га, пасьля дзевяці гадоў адседкі ў турме і на зоне, яго перавялі на мякчэйшы рэжым у Веткаўскую калёнію-пасяленьне.

Неўзабаве Марыне і яе дзьвюм дочкам было дазволенае першае працяглае (трохдзённае) спатканьне ва ўмовах адноснай свабоды. Тую, бадай, самую сьветлую з усіх сустрэчаў з асуджаным мужам, жанчына ў лісьце на «Свабоду» апісала так:

*Ад Марыны Цітовай*

— **У гэтай установе, што на ўмоўнай мяжы з Чарнобыльскай зонай адчужэньня, утрымліваліся як мужчыны, так і жанчыны. Асэнсаваньне таго, што побач Чарнобыль, прыйшло не адразу. У той дзень было горача, і мы вырашылі выйсьці на вуліцу ды прайсьціся па тэрыторыі. Навокал была нейкая незямная прыгажосьць — высокія хвоі, чыстае**

**блакітнае неба, сьпявалі птушкі. Адчуваньне, нібыта трапіў у пансіянат ці санаторый.**

**Там жа на тэрыторыі была каляровая альтанка, расьпісаная пэрсанажамі зь дзіцячых казак. Яркія арэлі на ланцугах. Я ўзрадавалася тым арэлям. Дочкі, сьмеючыся, назіралі, як тата пачаў разгойдваць іх маму. Яны адышлі ўбок, мабыць, каб мы з татам проста трохі пагутарылі сам-насам.**

**Калі дзеці паспрабавалі прайсьці крыху далей за арэлі, усяго крокаў дваццаць, ня больш, муж іх спыніў і сказаў, што далей нельга. Менавіта там і праходзіла мяжа ў выглядзе невялікага плота, які аддзяляў «чыстую» тэрыторыю ад радыяцыйна забруджанай.**

**У тыя тры дні мы ўбачылі шмат нязвыклага. Напрыклад, велізарных чмялёў, якія залятаалі ў наш пакой, або восаў з крыламі стракаты, якія напалохалі нас ня толькі магчымымі ўкусамі, але і дзіўным выглядам. Як толькі дочкі прыбылі дадому ў Менск, яны адразу пачалі шукаць гэты від у інтэрнэце, аднак нічога падобнага сярод кузурак, што водзяцца ў Беларусі, не знайшлі.**

**У тыя тры дні мы з мужам шмат чаго ўспаміналі з нашага супольнага жыцьця. За час таго спатканьня ў зоне адчужэньня мы нібыта наноў перажылі яго.**

Пасьля вызваленьня мужа ў Марынінай сям'і пачаўся разлад. Неўзабаве сужэнцы разышліся. Такое нярэдка здараецца зь сем'ямі, дзе мужы адбываюць працяглы тэрмін.

## Спатканьне пад наглядам

Палітвязьням, як кажуць іх родныя, «загадам адміністрацыі, у сувязі з рознымі надуманымі правінамі» нярэдка адмаўлялі як у кароткіх, так і ў працяглых



спатканьнях, або істотна скарачалі час дазволеных сустрэч.

Паводле Марыны Адамовіч, жонкі экс-кандыдата на прэзыдэнта Міколы Статкевіча, які быў за кратамі ад сьнежня 2010 да верасьня 2015 году, сядзеў то ў Шклоўскай калёніі, то ў Магілёве, яны мелі толькі кароткія спатканьні. Калі не лічыць аднаго істотна скарочанага працяглага — яго адміністрацыя Шклоўскай калёніі дазволіла, калі яны бралі шлюб.

### *Ад жонкі палітвязьня*

Як распавядала Марына Адамовіч, кароткія спатканьні цягнуліся сама болей дзьве гадзіны (супраць трох, якія лічыліся тады нормай). Турэмнікі цынічна тлумачылі гэта «тэхнічнымі магчымасьцямі, абмежаванай колькасьцю кабінак, апаратаў».

**— Сустрэчы праходзілі праз падвойнае шкло, праз краты, са слухаўкай, якая пішчыць-вішчыць, у вельмі кепска ізаляваных загародках. Хоць што гэта за ізаляцыя — вельмі маленькія перагародачкі і пяць чалавек, якія адначасова спрабуюць дакрычацца да сваіх блізкіх.**

**На кароткіх спатканьнях, акрамя праслухоўваньняў былі і дэманстратыўныя праходкі аховы за Міколавай сьпінай. Адзін раз гэта была нават пэрсона ў масцы. Я ня ведаю, што гэта азначала. Але мне, даруйце, было напляваць, што яны мяне слухаюць, бо ў мяне быў усяго адзін ці максымум два шанцы на год пабачыць Міколу.**

**Магу сказаць, што калі спатканьне кароткатэрміновае, то лічыш ня толькі хвіліны, але і сэкунды. Я памятаю кожную хвіліну нашых спатканьняў і не адмовілася б нізавошта ад ніводнай, нягледзячы на тое, што, сапраўды, пасьля іх дужа ўзрушаесь-**

**ся. Але гэта адначасова і мацавала, і давала магчымасьць жыць далей да наступнай сустрэчы.**

## «Гэта як сэкс на людзях»

Былы палітвязень Мікола Аўтуховіч у 2014 годзе вызваліўся з горадзенскай турмы № 1. У гэтую ўстанову як злоснага парушальніка рэжыму яго этапавалі з ПК-5 у Івацэвічах. Аўтуховіч расказваў, што ягоныя кароткія спатканьні ў Горадні працягваліся нават меней за дзьве гадзіны. Тэлефон, празь які вялася размова, быў сапсаваны ўшчэнт.

*Ад Міколы Аўтуховіча*

**— Адрозна ад калёніі ў Івацэвічах, дзе, як я памятаю, можна было прагаварыць дзьве гадзіны, у турме ў Горадні я меў магчымасьць раз на паўгода хадзіць на кароткае спатканьне. Мне там гадзіну давалі, можа крыху болей, як яны самі захочуць.**

**Ведаю, што ў турме былі вольныя кабінкі. А ў Івацэвічах я хадзіў некалькі разоў на кароткае спатканьне, дык увогуле выходзіла, што сяджу я там толькі адзін. У калёніі да большасьці зьняволеных ніхто не прыяжджаў, тым больш на кароткае. Мне казалі, што на аднаго там прыпадала ў сярэднім шэсьць суджанасьцяў. Збольшага гэта людзі самотныя, бязь сем'яў.**

**Што яшчэ напружвала падчас кароткіх спатканьняў? У тэлефоне, па якім я размаўляў праз шкло ў Горадзенскай турме, нейкі сталы фон быў ды шум у слухаўцы. Каб зразумець добра, што кажа жонка, трэба ўслухоўвацца. Я там неяк раз казаў: «Што ў вас за тэлефон, што не чутно? Так, вы запісваеце, слухаеце — але навошта, каб гэта перашкаджала размаўляць?» Пасьля яны нешта там падкруцілі, і стала лепей. Там стары камутатар, калі «пальчыкі» ўстаўляюць.**

**Напачатку я вельмі няёмка сябе адчуваў, ведаючы, што тваю размову праслухоўваюць. Гэта як сэкс на людзях. Потым, разумеючы, што інакш не атрымліваецца, на гэта ўжо не зважаеш і размаўляеш пра ўсё.**

**Калі б ад мяне залежала палепшыць кароткія спатканьні ў турмах і калёніях, я б зрабіў больш пільны агляд тых, хто сустракаецца, але каб сустрэчы праводзіліся ў пакоях бяз шкла. Каб блізкія маглі абняць адно аднаго, пацалавацца. Для мяне гэта дзікунства, калі чалавек ня можа абняць сваю жонку, дзяцей, калі яны за мэтар сядзяць. Гэта зьдзекі зь людзей.**



## Нетактыльная эротыка

У магію пачуцьцяў, пяшчоты, любоўнай жарсьці можна акунуцца і пры адсутнасьці фізычных кантактаў.

Ігару М. за сорак. Большая частка жыцьця праведзеная за кратамі. Жанаты ніколі ня быў. Гэта значыць, што турэмныя спатканьні дазваляліся толькі маці. Такіх, як ён, да якіх ня езьдзяць на сустрэчы блізкія жанчыны, у зонах шмат. А таму асуджаныя спрабуюць знайсьці нейкую замену праз тэлефанаваньні ды ліставаньне. Колькасьць лістоў, адрозна ад спатканьняў, перадачаў ды тэлефонных званкоў, цяпер не абмежаваная. Так было не заўсёды.

Ліміты ліставаньня існавалі яшчэ ў першае дзесяцігодзьдзе незалежнай Беларусі. Іх зьнялі толькі ў 2000-я.

***Ад Ігара М.***

Ігар М. гэткае абмежаваньне зазнаў. Калі за непадпарадкаваньне адміністрацыі калёніі ён быў пераведзены ў Горадзенскую турму, першыя паўгода яго

трымалі на строгім рэжыме і дазвалялі пісаць толькі 2 лісты на месяц. Потым быў агульны рэжым і маленькае «паслабленьне»:

**— Асуджаныя і цяпер называюць строгі рэжым «галодным» — за вялікую колькасьць абмежаваньняў. Ужо калі мяне перавялі на агульны, было дазволена пісаць чатыры лісты. Мусіў выбіраць, каму напісаць — маме або каханай дзяўчыне. Укласьціся ў гэтыя рамкі было складана.**

Ігар адзначае, што абмежаваньні тычыліся тых лістоў, якія пісаў на волю сам вязень, але ня тых, якія маглі прыходзіць да яго за краты. Тым ня менш і адміністрацыя калёніі стварала штучныя перашкоды на шляху пошты з волі. Гэта працягваецца і ў наш час.

**— Хіба ў Дэпартамэнце выкананьня пакараньняў ня ведаюць, наколькі псыхалягічна важнае ліставаньне для зьняволенага?! Таму нярэдка, каб стварыць стрэсавую сытуацыю для таго або іншага ЗК, яму цягам некалькіх тыдняў не даюць лісты. Чалавек толькі і думае пра допіс з волі, а яму проста не выдаюць пошту.**

Апошнім часам, працягваў Ігар, многія пачалі рознымі шляхамі цягнуць у няволю мабільныя тэлефоны. У зоне ёсьць і таксафоны, але колькасьць званкоў абмежаваная. Мабільны тэлефон, хоць зь ім і зьвязаная вялікая рызыка, стварае адчуваньне, што ты напалову свабодны, бо дае сувязь з блізкімі. Але ж лістоў усё роўна нішто не заменіць.

**— Калі я атрымліваў лісты ад каханай дзяўчыны, то чытаў паміж радкоў тое, што яна хацела б сказаць, але не напісала. Дык мне гэта нават цікавей. Я разумею яе. Я бачу ўсё па яе почырку. Лісты можна перачытваць, а тэлефонныя размовы — не. Многія вязьні бяруць самыя дарагія ім лісты з сабой на волю.**



**Што да мяне, то я і на волі захоўваю ўсе самыя дарагія мне допісы. Гэта дзесьці 500–600 паштовак. Ёсьць з гарадзенскай «крыткі». Нават са «Свабоды» ёсьць. Па ўсіх гэтых лістах можна вывучаць гісторыю беларускіх турмаў. Напрыклад, калі дзень народзінаў у турме, то кожная з камэраў падпісвае табе паштоўку і ўпісвае свае імёны. Па гэтых паштоўках можна даведацца, хто на той момант сядзеў у вязьніцы.**

## Паштовыя флірты

З часу вызваленьня палітвязьня, пэнсіянэра МУС Сяргея Парсюкевіча прайшло амаль дзесяць гадоў, але ён захоўвае сваю тагачасную перапіску. Для яго гэта разам з турэмнай алюмініевай конаўкай — «матэрыяльнае сьведчаньне непрацяглай адседкі».

### *Ад Сяргея Парсюкевіча*

Усе лісты, якія ён дасылаў родным з-за кратаў, Сяргей абавязкова нумараваў. Ён вымае са стоса адзін з аркушаў:

**— Вось тут лісты, які прыйшлі да мяне за краты, а тут — тое, што пісаў на волю я. Бачыце, ліст пад нумарам 8? Я заўсёды ставіў нумары. Каб мае родныя маглі ведаць, што нешта і не дайшло. Вы бачыце самі, ёсьць № 6 і № 8, а сёмага няма.**

Былы палітвязень адзначае, што часу на ліставаньне за кратамі больш чым дастаткова. Можна хоць цэлы дзень пісаць. А на «Валадарцы» для гэтага яшчэ існуе і ноч.

**— Ёсьць і такія, хто строчыць ня толькі за сябе, але і за іншых. Гэта свайго роду спэцы эпісталярнага жанру. На «зонах» яны вельмі запатрабаваныя. Асабліва тыя, хто ўмее рыфмаваць. Напрыклад, хоча ЗК павіншаваць кагосьці, дык спэцы заўсёды ў гэтым дапамогуць са сваімі вершамі. На любы густ. Сам я, праўда, ніколі не зьвяртаўся.**

**Некаторыя зачытвалі свае лісты іншым. Я належаў да тых, хто прыватнае пакідаў выключна сабе, а вось тыя лісты, якія прыходзілі мне ад цэлых калектываў (іх было шмат) і маглі быць цікавымі ўсім, я чытаў уголас. Гэтым можна было дзяліцца зь іншымі. Бо сярод зэкаў былі і вельмі самотныя людзі, якія нічога ні ад кога не атрымлівалі.**

### *Ад Андрэя Пачобута*

Іншаму былому палітвязьню, горадзенскаму журналісту Андрэю Пачобуту, асуджанаму за паклёп на кіраўніка дзяржавы, запомнілася, як зьняволеныя наладжваюць міжкамэрную паштовую сувязь і пішуць эратычныя лісты.

**— Мой сукамэрнік у сьледчым ізалятары актыўна перапісваўся з жаночай камэрай, што была пад намі. У яго гэта займала амаль увесь дзень. Ён пісаў лісты эратычнага характару, на дзьве старонкі расьпісваў, як яны сустрэнуцца зь дзяўчынай, якой, дарэчы, ня бачыў. Яна адказвала яму такімі самымі лістамі.**

**Тая дзяўчына была маладзейшая за яго гадоў на дваццаць. Калі яна выйшла пасьля арышту, ужо зь ім ніяк не кантактавала. Ён быў распалены: раптам яму перадачу прынясе, а для яе гэта было проста баўленьне часу. Але ўсё ж нейкія эмоцыі ў тваім шэрым жыцьці.**



Як зазначае Андрэй Пачобут, паміж калёніямі перапісвацца нельга, а вось гэтая міжкамэрная сувязь — яна нелегальная, ажыцьцяўляецца з дапамогай «коней», значыць — вяровак.

**— За дзесяцігодзьдзі выпрацавана сыстэма сувязі паміж камэрамі. Нягледзячы на ўсе спробы адміністрацыі спыніць яе, яна існуе, хоць увесь час ідзе змаганьне.**

Што да ліставаньня паміж турмамі ды калёніямі, то гэта афіцыйна могуць рабіць толькі муж і жонка, значна радзей браты ці сёстры.

## Аднаполае каханьне. Пра гэта. У мужчынскай турме

«Павальная гомасэксуальнасьць у зоне» найчасьцей абмяркоўваецца тымі, хто ніколі не сядзеў. Вакол гэтай тэмы — найбольш мітаў, яна — найвялікшая «пужалка» для тых, хто ўяўляе сабе жыцьцё за кратамі па фільмах, кнігах і анэкдотах.

«Ізаляванасьць зьняволеных паводле полавай прыкметы, адсутнасьць кантактаў з процілеглым полам спрыяе ў большай ступені, чым на волі, пашырэньню розных спосабаў самазадавальненьня і аднаполых сэксуальных кантактаў», гаворыцца ў амэрыканскім дасьледаваньні Вудэна — Паркера пра сэксуальныя паводзіны мужчын-вязьняў у турмах ЗША (Men Behind Bars: Sexual Exploitation in Prison, Wooden&Parker).

Згодна з апытаньнямі, якія праводзілі Ўэйн Вудэн і Джэймс Паркер у адной з мужчынскіх турмаў ЗША, гомасэксуальны кантакт у няволі мела прыкладна палова рэспандэнтаў, прычым каля 55% зь іх называлі сябе гетэрасэксуаламі і вызначалі гэты кантакт як вымушана замяняльны, але добраахвотны. Арыштантаў-

гетэрасэксуалаў, якія засьведчылі, што іх гвалтоўна ўцягнулі ў аднаполы сэкс, было 14%.

Усе апытаныя прызналіся, што займаюцца ў турме мастурбацыяй, прычым больш-менш рэгулярна. Усё гэта, сьведчылі зьняволеныя, стварае ў вязьніцах атмасфэру сэксуальнага напружаньня.

Дасьледаваньні, падобныя да амэрыканскіх, у Беларусі, якая займае адно зь вядучых месцаў у сьвеце паводле колькасьці зьняволеных на сто тысяч насельніцтва, ніколі не праводзіліся. Але відавочна падобная тэндэнцыя не абмінула і яе.

У адкрытым друку, аднак, можна знайсьці некаторыя зьвесткі на гэты конт, прадстаўленыя Дэпартамэнтам выкананьня пакараньняў МУС Беларусі: аднаполы сэкс (дадзеныя за 2008 год) у беларускіх турмах практыкуюць ад 7 да 12% мужчын-арыштантаў. Наколькі адпавядаюць гэтыя лічбы рэальнай сытуацыі? Ці добраахвотна становяцца партнэрамі? Ці платныя ў вязьніцах сэксуальныя паслугі? Ці адбіваецца вымушанае сэксуальнае ўстрыманьне на здароўі зьняволеных?

Як мяркуюць колішнія вязьні з працяглым турэмным стажам, беларускія дасьледаваньні хутчэй за ўсё рабіліся ў сувязі з вывучэньнем праблемы ВІЧ у беларускіх турмах, якое вялося на ўзроўні ААН. Сёньня гэтая хвароба пашырылася і за кратамі, а вязьні-геі належаць да групы рызыкі.

Каб паспрыяць барацьбе з праблемай ВІЧ, у папраўчыя ўстановы Беларусі па лініі Глябальнага фонду ААН паставілі вялікія партыі прэзэрватываў. Вязьні, якія вызваліліся зусім нядаўна, адзначаюць, аднак, што цяпер на зонах прэзэрватывы ў дэфіцыце, бо арыштанты выкарыстоўваюць іх зусім у іншых мэтах — каб праносіць у прамой кішцы што-небудзь забароненае ў штрафны ізалятар. Такі спосаб называецца «тарпэда».



## Паслугі прастытутак

«Мужчынская турэмная прастытуцыя існуе, і яна нават не хаваецца», — кажа Барыс А., якому няма і трыццаці. 20–30-гадовыя сёньня складаюць амаль палову кантынгенту беларускіх турмаў. З гледзішча Барыса, у закрытых мужчынскіх супольнасьцях сэкс — вострая праблема. Асабліва сярод людзей ягонага веку.

### *Ад Барыса А.*

**— Для мяне гэты недахоп быў вельмі адчувальны. І я неаднойчы думаў на гэтую тэму. Часам гэтая сытуацыя заводзіла ў тупік і выбівала з раўнавагі. Гармоны «скачуць», і ў нейкіх канфліктных сытуацыях гэта можа згуляць злы жарт. Калі ты ў спакойным стане — яшчэ цярпіма, а калі нешта ня так, то ўсё гэта гіпэртрафуе агрэсію**

Барыс сядзеў двойчы, як ён кажа, за крадзеж і «дур». Першы раз, калі трапіў за краты жанатым і на кароткі тэрмін, было лягчэй, бо меў так званыя працяглыя (да трох дзён) спатканьні з жонкай. На час другой суджанасьці, як і большасьць вязьняў, Барыс быў адзінцом. Пра тое, як ратаваўся ад спакусаў, ня кажа. Што да сяброў-натуралаў, то некаторыя ішлі на нерэгулярныя аднаполыя сэксуальныя кантакты.

**— Ідуць на гэта. Чаму не? Зразумела, нічога не афішуецца. Хоць, напэўна, пра такія патаемныя кантакты адміністрацыя ўсё ж ведае, а потым пры магчымасьці і шантажуе, каб зрабіць зь вязьня інфарматара. Ясна, што ўсё робіцца не за «дзякуй». За гэта плацяць — цыгарэтамі, падарункамі, заступніцтвам. Такое практыкуецца паўсюль. У тым ліку і ў СІЗА, сярод падсьледных.**

**Сэкс прапануюць ня толькі так званым «апушчаным», якія ад пачатку пазыцыянуюць сябе як геі, але і розным маладым ды прыгожым вязьням-гетэрасэксуалам. Ня хоча чалавек — ніхто яго гвалтаваць ня будзе. Проста тут, як і на волі, вядзецца гандаль. Ну, напрыклад, прапануюць болей цыгарэтаў. Не захоча — яшчэ болей. Усё па добрай волі.**

Як кажа Барыс А., турэмныя геі-путаны ня маюць справу абы з кім:

**— Увогуле, яны ня пойдуць з кожным. Шукаюць больш крутых ды багатых. Там скіраванасьць выключна матэрыяльная. Дарэчы, яны самыя розныя. Ёсьць вельмі прыгожыя, я нават такіх дзяўчат ня бачыў. Ёсьць такія, якіх пабачыш па тэліку на розных заходніх гей-парадах. У нашай калёніі яны нярэдка рабілі сваё трансвэстыцкае шоў. Калі дзяжурыла нармальная зьмена кантралёраў, яны ў цёплае надвор'е надзявалі спадніцы, парыкі і рабілі прамэнад па ўсёй зоне. Вярталіся назад зь мяхамі цыгарэтаў. З тым, што зарабілі.**

Барыс кажа, што «апушчаныя» добра ведаюць свае правы. Шмат у каго зь іх ВІЧ, і зьвязанымі з гэтым правамі яны таксама карыстаюцца. Часам могуць нават маніпуляваць апэратыўнікамі. Кажа, сам назіраў, што калі ў некага ўзьнікалі праблемы з наглядчыкам, «пакрыўджаны» мог палезьці да яго цалавацца.

**— А які міліцыянт захоча, каб яго пацалаваў «пятух»? З такім «мянтом» ніводзін зэк ня будзе вітацца. То бок зэкаўская ідэалёгія і на «мянтах» адбіваецца.**



### *Ад Сяргея Парсюкевіча*

Пра тое, што большая частка зьняволенай моладзі ўвесь час шукае, як зьняць сэксуальнае напружаньне, сьведчыць і былы палітвязень Сяргей Парсюкевіч. Сам ён трапіў за краты, калі яму было за 40, і, як кажа, уся ягоная сэксуальная энэргія была пераключаная на маральныя перажываньні.

**— Маладым пацанам на зоне цяжка. У хлопца пэрыяд гіпэрсэксуальнасьці, а яго пасадзілі ў турму. Калі я на працоўнай зоне ў Шклове аднойчы пайшоў у прыбіральню, там стаяў хлопец ля ўваходу і папрасіў мяне туды не заходзіць нейкі час. Я спытаўся: «А што здарылася?» Ён патлумачыў: там займаюцца іншымі справамі. Так, гэта практыкуецца на зонах.**

**Калі казаць пра так званых «апушчаных» ці «адсаджаных», то жывуць яны ня так ужо і кепска, атрымліваюць розныя падарункі. Хоць я не сказаў бы, што гэта нейкае прывілеяванае становішча. Згодна з зэкаўскімі традыцыямі, да іх ставяцца адмоўна, яны робяць самую брудную працу — напрыклад, мыюць тыя самыя прыбіральні. Жывуць паасобку. Іхняе месца ў атрадзе агароджанае фіранкай. Аднак ніхто іх ня гвалціць. Яны заўсёды могуць адмовіцца.**

## Хлопчыкі па выкліку

З выпадкамі такіх «выклікаў» сутыкалася колішняя мэдсястра Рэспубліканскага турэмнага шпіталю Алёна Красоўская.

**— Калі я працавала ў «бальнічцы», некалькі разоў пад выглядам хворага туды прывозілі хлопца для крутых «смотрящих». У шпіталі ўсе пра гэта ве-**

**далі. Па сутнасьці, хлапчук быў заняты цэлыя суткі, у палаце яго відаць не было. Напэўна, абслугоўваў многіх. Глядзець на яго па выхадзе было цяжка.**

Дарэчы, у нулявыя, як сьведчаць былыя вязьні, у калёніі, маючы грошы, можна было празь міліцыянтаў выпісаць за хабар і «традыцыйных» жанчын-прастытутак. Такі бізнэс, напрыклад, квітнеў у колішняй калёніі № 1 на Кальварыйскай.

Аднак найчасьцей турэмная моладзь ідзе на самы распаўсюджаны спосаб замены сэксуальных патрэбаў — мастурбацыю. Зразумела, ва ўмовах, дзе няма індывідуальнай прасторы, гэта ня можа быць чымсьці інтымным, кажуць былыя вязьні.

## Ад лекара-уроляга

Як сьведчыць былы зьняволены Генадзь Б., лекар-уроляг паводле прафэсіі, многія з маладых сядзельцаў вельмі часта зьвярталіся да яго з пытаньнямі: а ці не адаб'ецца такое працяглае ўстрыманьне ад сэксу на патэнцыі, ці змогуць яны пасьля гэтага вярнуцца да інтымнага жыцьця?

**— У размовах я спасылаўся на тысячагадовую гісторыю манаства. Будысцкія манахі з дапамогай розных усходніх мэтадаў пераводзяць сэксуальную энэргію ў фізычную і разумовую, а таму лёгка перажываюць усё. Але ж калі дарываюцца, то жанчыны на іх у крыўдзе не бываюць.**

**Па вялікім рахунку, патэнцыя і здольнасьць чалавека да паўнавартаснага сэксу — гэта хутчэй пытаньне псыхікі, а не фізіялёгіі. Галоўнае — не нагружаць сябе рознымі фантазіямі, менш зацыклівацца на летуценьнях, а болей працаваць фізычна. Калі ж зусім няўсьцерп, то ёсьць, урэшце, і рукі.**



## Пра гэта і ня толькі. У жаночай зоне

Любая жанчына на зоне мяняецца. Большасьць зэчак мала хто чакае на волі, а таму за кратамі, асабліва сярод рэцыдывістак або асуджаных на доўгія тэрміны, узьнікаюць свае «сем'і». Як сьведчаць пэнітэнцыярныя псыхолягі, сама зона падштурхоўвае жанчыну да аднаполага каханьня.

## Лесьбійскае каханьне

Паводле дасьледаваньняў мэдычных псыхолягаў з Маскоўскага навуковага цэнтру псыхічнага здароўя, якія праводзіліся ва ўстановах расейскай пэнітэнцыярнай сыстэмы, з прычыны адсутнасьці эмацыйных сувязяў ды тактыльных кантактаў з блізкімі жанчына ў турме «ломіцца» яшчэ хутчэй, чым мужчына. Жаночая псыхіка не вытрымлівае ўжо пасьля двух гадоў прымусовага адрыву ад сям'і, дому, родных, а ў мужчыны гэта здараецца пасьля трох — пяці гадоў.

Нярэдка ў тых умовах замест сапраўднага пачуцьця жанчына, якая мае ў ім патрэбу, пачынае шукаць нейкі сурагат. Як лічаць расейскія дасьледнікі, вымушаным лесьбійскім каханьнем ахоплена больш за палову сядзеліц турмаў.

*Ад Марыі П.*

«Гэткая карціна характэрная і для беларускіх жаночых папраўчых установаў», — кажа былая асуджаная Марыя, маладая жанчына, якая пасьля трохгадовай адседкі вярнулася ў сям'ю, дзе яе чакалі муж і дачка. Як падаецца Марыі, такія нетрадыцыйныя сувязі маюць многія асуджаныя жанчыны.

**— Асабліва гэта тычыцца тых, хто сядзіць доўга. Тыя, у каго кароткія тэрміны, могуць крыху толькі паспрабаваць гэткае каханьне. Хтосьці абыходзіцца ўвогуле бяз сэксу. Але сярод тых, хто сядзіць доўга, гэткія сувязі маюць больш за палову. Усе гэтыя стасункі ўзьнікаюць добраахвотна. Ніхто нікога ня гвалціць.**

Марыя мяркуе, што 90% аднаполых пар не былі гомасэксуальнымі да таго, як трапілі за краты. І, напэўна, ніколі б імі і ня сталі. Калі маладая жанчына села гадоў на 20, і ў яе гэта атрымліваецца, то чаму б не?

Паводле былой асуджанай, у жаночым турэмным сьвеце распаўсюджаныя два віды такога партнэрства:

**— Адзін зь іх — калі партнэркі выконваюць жаночую і мужчынскую ролю. Гэтыя апошнія вельмі падобныя да мужчын. Калі я ўпершыню ўбачыла такую жанчыну ў камэры СІЗА, я падумала, што да нас памылкова пасадзілі нейкага хлопца.**

**Гэтых жанчын называюць «каблы».Твары ў іх у шрамах, валасы кароткія, голас грубы. Ня ведаю, як такое атрымліваецца, што жанчына мяняецца цалкам. Яны аказваюць знакі ўвагі той або іншай дзяўчыне. І гэта сапраўдная сямейная пара. Яны жывуць паасобку, харчуюцца паасобку.**

**Так званы «мужчына» аберагае сваю каханку, раўнуе яе. Сцэны рэўнасьці праходзяць канкрэтныя, бойкі-спрэчкі. Тыя самыя «каблы», ведаю выпадкі, пасьля вызваленьня з зоны нярэдка рабілі ўсё, каб вярнуцца на яе. Бо там заставалася так званая жонка. Такое было моцнае каханьне. Калі абедзьве на волі, я гэта ведаю, яны працягваюць жыць разам.**

**Ёсьць выпадкі, калі пары, вяртаючыся на волю, працягваюць свае стасункі на сталай аснове. Калі адна з жанчын мае на волі мужа, то сыходзіць ад яго. Нярэдка пара супольна выхоўвае дзіця адной з жанчын. Бывае, што і народжанае ў калёніі.**



Былая асуджаная адзначае, што «каблы» звычайна маюць вельмі добрыя адносіны з адміністрацыяй, іх прызначаюць на пасады брыгадзіраў, іншых нізавых начальнікаў. У брыгадзе яна можа як сьлед і гаркнуць на работніц. На некаторых гэта ўзьдзейнічае.

## «Палавінкі», прыватны досьвед

Другі від аднаполых сувязяў — калі ў пары абедзьве выглядаюць па-дзявочаму і абедзьве ідэнтыфікуюць сябе як жанчыны. Іх на зоне завуць «палавінкамі».

Сваю «палавінку» мела за кратамі і Марыя. Гэты абсалютна новы ў яе жыцьці сэксуальны досьвед цягнуўся два гады і скончыўся з вызваленьнем.

Прайшоўшы вязьніцу, жанчына ня лічыць такія стасункі капрызам ды распустай, хоць распусты за кратамі хапае, як, дарэчы, і на волі, кажа яна.

Паводле Марыі, сустрэча з «палавінкай» Кацяй стала для яе сапраўдным ратункам. На жаночай зоне, каб выжыць і не звар'яцець, прынята аб'ядноўвацца ў так званыя «сем'і».

Галоўнае ў такім саюзе — зусім не лесьбійскі сэкс, можна абысьціся і безь яго, а падтрымка адна адной. Гэта супольнае харчаваньне, лепшая арганізацыя вольнага часу, паколькі ўдзень нельга ляжаць на ложку, спаць або проста чытаць кніжку. Бо за кратамі з прычыны незанятага вольнага часу нават кароткія тэрміны ў два-тры гады часам падаюцца вечнасьцю. І жанчыны прыстасоўваюцца, вучацца ў такіх умовах адчуваць, сябраваць, кахаць.

Каця была маладая, прыгожая, сэксуальная. Жанчыны расказвалі адна адной пра сябе. У Каці рана ня

стала бацькоў, і яна выхоўвалася ў інтэрнаце, дзе аднаполая эротыка сярод дзяўчат была распаўсюджанай. Маша вырашыла паспрабаваць гэта зь цікавасьці.

Ці можна назваць гэта каханьнем? Ва ўсялякім разе захапленьне было ўзаемным і моцным. Каця вельмі раўнавала, калі на працяглыя спатканьні да сяброўкі прыяжджаў муж. А сама Марыя падчас трох дзён разлукі лічыла хвіліны, каб хутчэй вярнуцца да Каці. Мужу свой настрой тлумачыла стомленасьцю.

З калёніі Марыя вызвалілася раней за сяброўку. Напачатку сумавала, чакала лістоў, ледзь не штодзень пісала сама. Потым усё пакрысе сьцішылася. Нават калі Каця выйшла на волю, жанчыны так больш ніколі і не сустрэліся.

Як глядзіць на такія стасункі адміністрацыя? Афіцыйна гэта забаронена. Тым ня менш, устойлівыя пары імкнуцца не чапаць, бо інакш могуць узьнікнуць канфліктныя сытуацыі, а на зоне гэта нікому ня трэба. Распусьніц, якія мяняюць партнэрак — «ганяюць». Жанчыны-опэры маюць дакладную інфармацыю, хто ёсьць хто, да таго ж яны някепскія псыхолягі.

## Адкуль бяруцца дзеці?

Гомельская калёнія — адзіная ў краіне, дзе ва ўмовах беларускай пэнітэнцыярнай сыстэмы ёсьць дом для дзяцей асуджаных мацярок. Колькасьць малых выхаванцаў (дзеткі да трох гадоў) кожны год розная. Часам яна дасягае паўсотні. Часам істотна меней.

Паводле Марыі, характэрныя для грамадзтва дэмаграфічныя праблемы ніколькі не закранулі жаночых зонаў. Зэчкі ня робяць абортаў, добра ведаючы, якія льготы могуць мець на зоне як маці. Большасьць зацяжарвае яшчэ на волі. Некаторыя — пасьля працяглых спатканьняў з мужамі. Бываюць і іншыя варыянты.

Ці здараюцца сэксуальныя сувязі з мужчынамі на зоне? Марыя кажа, што чула пра такое. Напрыклад, гэта было з вольнанаёмнымі рабочымі. Калі на тэрыторыі дзесьці ішла будоўля. Праўда, гэткія выпадкі найчасьцей засякаліся. У выніку тых рабочых звальнялі, жанчыны атрымлівалі розныя штрафныя спагнаньні.



Марыя памятае, што калі ў калёніі будавалася мэдычнае памяшканьне, то дзяўчатам забаранялася нават блізка падыходзіць да тых рабочых, надзяваць кароткія спадніцы і такім чынам правакаваць мужчын.

Марыя згадвае, як некаторыя дзяўчаты спрабавалі уступіць у кантакт на швачнай фабрыцы калёніі з так званымі «хімікамі». Стараліся арганізаваць званок, каб сустрэцца ў нейкіх падсобных памяшканьнях. Але апошнім часам на фабрыку набралі вельмі маладых і напалоханых, якія ад гэтых дзяўчат літаральна ўцякалі.

Раней, як расказвалі зэчкі са стажам, у СІЗА ў асобнай камэры можна было сустрэцца з мужчынам-вязьнем за 50 у. е. Цяпер гэта практычна немагчыма — усё пад відэаназіраньнем.

## «Мамкі»

Вялікая частка асуджаных нараджае дзіця дзеля розных прывілеяў, зазначае Марыя. Гэта прагулкі без абмежаваньняў на сьвежым паветры, палепшанае харчаваньне — малочныя прадукты, больш сьвежай гародніны і садавіны. Плюс рэгулярнае мэдычнае абслугоўваньне. Такое, праўда, можна сказаць пра зону. У СІЗА цяжарным нашмат складаней — яны жывуць, як і ўсе астатнія.

**— Акрамя таго, маці малых могуць нават разьлічваць на ўмоўна-датэрміновае. Пры вызваленьні яны атрымліваюць матэрыяльную дапамогу — рэчы, грошы, цацкі. А самі, калі выходзяць, нярэдка проста кідаюць сваіх дзетак... Найчасьцей на вакзалах. Такое здараецца ў першыя гадзіны пасьля вызваленьня.**

Марыя не прыгадвае, каб некаторыя з гісторый турэмнага мацярынства мелі шчасьлівы канец. Сама сыстэма ў краінах былога СССР пабудавана так, што для чалавека, які вызваліўся з турмы, няма ўмоваў, каб знайсьці месца ў жыцьці. Таму звычайна былыя асуджаныя жанчыны, у якіх разьвітыя мацярынскія пачуцьці і якія нікому не зьбіраюцца аддаваць сваё народжанае ў вязьніцы дзіця, з настальгіяй узгадваюць на волі час, праведзены разам з малым у калёніі. Няхай гэта была несвабода, але ў іх маленькай сям'і было ўсё неабходнае.

### *Ад спонсара калёніі*

Менская прадпрымальніца Тацяна зналася цягам некалькіх гадоў з жанчынамі з гомельскай «чацьвёркі», паколькі спансіравала некаторыя праекты калёніі. З ацэнкамі былой асуджанай Марыі яна пагаджаецца часткова:

**— Сапраўды, ёсьць за кратамі і такая катэгорыя жанчын, якім па вялікім рахунку не патрэбныя іх дзеткі. У калёніі яны маглі нават дрыжаць над сваімі малымі, а выходзілі — і спакойна прапівалі ўсе дзіцячыя рэчы. Бо калі маці зь дзіцем вызваляюць з калёніі, дзіця забясьпечваюць і вазком, і адзеньнем, і харчаваньнем на першыя тыдні. Бываюць такія маці, якія адразу прапіваюць гэта.**

**А што — хіба на волі некаторыя мамашы не нараджаюць, каб атрымаць сацыяльную дапамогу? А потым адмаўляюцца ад гэтых дзяцей, прадаюць іх.**

Аднак усё ж, адзначае Тацяна, Дом малюткі стымулюе жанчыну. Каб стаць адказнай за яго лёс, вызваліцца, працягваць жыцьцё разам зь ім, бо нічога іншага добрага, акрамя як гэтае малое, у яе няма.

# МОЎНАЯ ЗОНА

**Гэта яшчэ адна сфэра турэмнага жыцьця, пра якую на волі ведае кожны. Мова зоны настолькі глыбока пранікла ў «вольнае» грамадзтва, што ўражаньне, быццам сядзелі ўсе.**

Савецкае лягернае жыцьцё выпрацавала за дзясяткі гадоў сваю асаблівую субкультуру, якая ўсё яшчэ застаецца ўнівэрсальнай для зьняволеных з краін былога СССР. Тут і свая крыптамова — феня, і асаблівая культура чаяваньня, і арыштанцкія байкі пра вынаходлівых крымінальнікаў і дурных «мянтоў», і многае іншае. Хоць апошнім часам, сьведчаць былыя ЗК, чый стаж утрыманьня за кратамі цягнецца з канца 1980-х — пачатку 1990-х, шмат што мяняецца ды забываецца. XXI стагодзьдзе — іншы сьвет, іншая культура.

## Мова турмы — расейская

Разам з нацыянальнымі мовамі расейская па-ранейшаму зьяўляецца так званай «лінгва франка» ў турмах постсавецкіх краін. Яе разумеюць як турэмнікі, так і большая частка крымінальнікаў.

З гледзішча моўных прэфэрэнцыяў беларуская турма істотна адрозьніваецца ад вязьніцаў былых савецкіх рэспублік. Адзінай афіцыйнай яе мовай лічыцца расейская. Што тычыцца другой нацыянальнай мовы краіны — беларускай, то на ёй, паводле розных прычынаў, размаўляюць адзінкі. Як узгадвалі ў размовах са «Свабодай» некаторыя былыя зьняволеныя, і ахоўнікі, і пераважная большасьць вязьняў жадаюць, каб вакол «разгаварывалі на нармальнам языке».



## Васіль, журналіст

### *Ад журналіста*

Журналіст Васіль Сямашка беларускай мовай валодае пасіўна, у штодзённым жыцьці карыстаецца расейскай. У другой палове 1990-х, калі ў краіненазіраўся ўсплёск нацыянальнага адраджэньня, быў асуджаны за хуліганства. Сядзеў на Акрэсьціна, «Валадарцы», у былой менскай калёніі на Кальварыйскай. У 2000-я наведаў беларускія папраўчыя ўстановы ўжо як карэспандэнт незалежных СМІ. Кажа, што ў 1990-я за кратамі беларускай мовы ня чуў. Таксама ня чуў, каб хтосьці размаўляў на ёй і ў 2000-я, калі ў вязьніцах сядзела нямала палітвязьняў.

**— Пры мне ўсе — як зэкі, так і турэмнікі — размаўлялі на так званай расейскай. Або моўным міксьце з савецкай турэмнай тэрміналёгіі (кшталту слова «зэк»), мату, блатных выразаў («феня») ды невялікай колькасьці нэўтральнай, а калі размова ішла пра крымінальныя справы — юрыдычнай расейскай лексыкі. Па сутнасьці, у турме гучыць такая самая мова, што і на волі, з тым самым беларускім акцэнтам.**

*— Калі б хто зь вязьняў пачаў раптам гаварыць па-беларуску, як бы да гэтага паставіліся?*

**— Цалкам літаратурнай тая мова быць не магла б. Яе носьбіту так або інакш у мэтах паразуменьня прыйшлося б выкарыстоўваць тэрміны з турэмнага арго: «прымыльнік» (рукамыйнік), «прадол» (турэмны калідор), многае іншае. Напэўна, калі б сярод вязьняў знайшоўся чалавек, які б пачаў размаўляць на добрай беларускай мове, зэкі паставіліся б да яго як да дзівака. Калі б такі чалавек зьвярнуўся па-беларуску да кантралёра, то, думаю, той адрэагаваў бы на гэта спакойна і ад-**

**казаў бы, зразумела, па-расейску. Калі б зьняволены пачаў патрабаваць, каб турэмнікі размаўлялі зь ім па-беларуску, то, мяркую, што ў 99% гэта было б успрынята як зьдзек з боку ЗК з рознымі наступствамі, якія з гэтага вынікаюць.**

## Вадзім, праграміст

### *Ад праграміста*

26-гадовы Вадзім працуе лінгвістам-праграмістам. За краты трапіў пасьля чатырох курсаў унівэрсытэту. Выйшаў на волю летась пасьля пяцігадовай адседкі. Падчас зьняволеньня на дадатак да базавай ангельскай самастойна вывучыў беларускую, польскую ды партугальскую мовы. Усе іх выкарыстоўвае ў працы і лічыць, што менавіта моўныя заняткі, а таксама пільнасьць што да культуры мовы дапамаглі яму рэсацыялізавацца і не выдаваць сваё турэмнае мінулае.

**— Культура мовы — як своеасаблівы гігіенічны фактар для жыцьцёвага посьпеху. Яго наяўнасьць ня надта моцна павышае верагоднасьць посьпеху, але ж калі моўнай культуры няма, такая верагоднасьць рэзка зьніжаецца.**

Так званую «расейскую» мову беларускай турмы Вадзім называе проста жахлівай:

**— Турэмныя насельнікі — гэта збольшага маладыя людзі ад 18 да 30–35 гадоў, пераважна з глыбінкі, зь няпоўнай сярэдняй адукацыяй. Дэградацыя адбывалася на вачах.**
**Калі на пачатку тэрміну яны размаўлялі на трасянцы, у якой адчуваўся добры беларускі каларыт, то зь цягам часу, абсьмяяныя больш дасьведчанымі крымінальнікамі ды турэмнікамі, яны пачыналі саромецца сваіх беларускіх словаў ды выразаў і разам з тым як губка ўбіралі ў сябе рознае моўнае сьмецьце, якое гучала ў тым асяродзьдзі. Расейская мова ў выніку рабілася яшчэ больш прымітыўнай, аднак беларуская фанэтыка пры вымаўленьні як была, так і застаецца.**



Паводле Вадзіма, калі б нешта залежала ад ягонай волі, ён паспрабаваў бы ўвесьці за кратамі выкладаньне беларускай мовы, хаця б на факультатыўнай аснове:

**— Я ўпэўнены, што пры добрым выкладаньні навучаньне беларускай далося б той моладзі значна лягчэй, чым расейскай. Гэтыя людзі зь дзяцінства валодаюць аўтэнтычным беларускім вымаўленьнем, маюць дастатковы слоўнікавы запас, хоць з часам гэта ўсё больш асядае на самым дне іх памяці.**

Вадзім узгадвае, што на просьбу сулягернікаў ён пакінуў у калёніі некаторыя кнігі на беларускай мове, якія яму перадавалі з волі. Сярод іх кніжка з сэрыі «Бібліятэка Свабоды» — «Турма і здароўе» лекара і палітвязьня Юрыя Бандажэўскага, выдатныя пераклады з ангельскай твораў Артура Конан Дойля ды іншае. Пазьней адзін са знаёмых сядзельцаў напісаў Вадзіму, што ягоную беларускамоўную літаратуру зачыталі ня толькі зэкі, але і ахоўнікі, ды прасіў даслаць за краты яшчэ што-небудзь такое, бо выбар у мясцовай бібліятэцы ня надта разнастайны.

## Мікола, анархіст

### *Ад анархіста*

Былы палітвязень, анархіст Мікола Дзядок на волі ўжо некалькі гадоў. З 2010 да 2015 году сядзеў у розных беларускіх калёніях ды турмах. Падчас зьняволеньня размаўляў па-беларуску зь беларускамоўнымі вязьнямі, аднак такіх за ўвесь час ягонага тэрміну былі адзінкі. Актыўна карыстацца беларускай мовай пачаў пасьля вызваленьня.

Са свайго досьведу Мікола Дзядок не прыгадвае праяваў дыскрымінацыі за кратамі ў сувязі з мовай:

**— Калі б за кратамі пачалі выкладаць мову, то, думаю, знайшліся б цікаўныя, хаця б таму, што няма чаго рабіць. Напрыклад, беларускамоўныя газэты, што мне прыходзілі, чыталі дзясяткі людзей, у тым ліку зь іншых атрадаў. Падыходзілі самі, прасілі. Напачатку многія сапраўды скардзіліся, што «цяжка чытаць па-беларуску», але ўсё роўна бралі. Галоўнае — зьмест, і тады ўсё пачнеш разумець, а беларуская мова стане нечым неабходным.**

## Зьміцер, эмігрант

### *Ад эмігранта*

Зьміцер Вольны кажа, што матчынай мовы за кратамі ня чуў ніколі. Грунтоўна вучыць беларускую Зьміцер пачаў толькі зьехаўшы пасьля вызваленьня за мяжу.

**— Калі ўзяць мову сучасных беларускіх зьняволеных, то, пагаджуся, гэта збольшага мова неадукаванага чалавека з малым слоўнікавым запасам.**



**Вельмі сумна, што ў нашых турмах бракуе гуманітарнай адукацыі, ня вучаць мовам, у тым ліку і роднай, а таксама гісторыі, традыцыям, культуры свайго народу. Такія веды вельмі працуюць на самаацэнку асобы.**

**Ведаю нямала хлопцаў, якія за кратамі разумелі, як ім бракуе базавых школьных ведаў, ішлі ў школы пры калёніях. Аднак узровень выкладаньня там традыцыйна невысокі. Зразумела, усё гэта ідзе ад таго, як ставяцца да гэткіх пытаньняў ва ўладзе.**

Зьміцер Вольны мяркуе, што калі б у Беларусі на тым самым строгім рэжыме нейкі асуджаны пачаў размаўляць па-беларуску, то «зэкі, калі б убачылі ў ім чалавека шчырага, паставіліся б да гэтага нармальна»:

**— Магчыма, і ня ўсе, але бальшыня дакладна. А вось наконт мянтоў ня ўпэўнены. Нават на адрас тых, з чыіх вуснаў гучалі асобныя сакавітыя выразы на беларускай, ад аховы можна было пачуць «разгаварывай на нармальнам языке» ды іншыя абразьлівыя заўвагі. Такое дазвалялі сабе, вядома, ня ўсе, але бальшыня дакладна. Лічу, што вязень павінен быць вельмі ідэйным чалавекам і, безумоўна, асобай, каб размаўляць у зьняволеньні па-беларуску. Калі ён такі, то нават у тых умовах ня будзе саромецца сваёй мовы, а будзе ўдасканальваць яе.**

## Мікола, бізнэсовец

### *Ад бізнэсоўца*

Двойчы палітвязень Мікола Аўтуховіч пачаў грунтоўна займацца беларускай мовай падчас сваіх адседак, хоць у дзяцінстве і размаўляў па-беларуску. Кожнае лета ён праводзіў у вёсцы ў бабулі, а потым

дома яшчэ доўга па інэрцыі карыстаўся роднай мовай, атрымліваючы кпіны.

Шмат пазьней, трапіўшы ў няволю, Мікола ў сваіх лістах сябрам пісаў: «Спатрэбілася апынуцца за кратамі, каб зразумець, хто ты ёсьць. Мы беларусы, мы нарадзіліся не ў 1917 годзе. Нам не патрэбна гісторыя камуністаў. Мы ўжо ведаем пра сваіх продкаў. І на знак павагі да іх мы павінны вярнуць сваю мову, культуру ды традыцыі».

Паводле палітвязьня, усё гэта ён адкрыў для сябе менавіта ў вязьніцы, а гады, праведзеныя ў турме, сталі для яго парою «запойнага чытаньня».

Беларускамоўных за кратамі Аўтуховічу давялося сустракаць надзвычай рэдка. Разьвіцьцё моўных навыкаў, лічыць ён, залежыць ад таго, як шмат чалавек за кратамі чытае і наколькі ён можа займацца самастойна. Паводле палітвязьня, які падчас другой адседкі ўтрымліваўся ня толькі ў калёніі, але і на турэмным рэжыме ў Горадні, «у турме не атупець цяжэй, чым у калёніі, бо вязень знаходзіцца ў чатырох сьценах. Аднак калі ўсё добра з галавой, чалавек сам сабе вызначыць нейкі плян жыцьця ў камэры».

Паводле Міколы Аўтуховіча, у гарадзенскай турме ён «налёг» на беларускую клясыку. Грунтоўнае вывучэньне мовы пачалося з твораў Караткевіча. Першымі кнігамі сталі «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Каласы пад сярпом тваім». Напачатку чыталася вельмі цяжка. Шмат было незнаёмых слоў, даводзілася неаднойчы перачытваць, каб зразумець. Палітвязень нават склаў уласны слоўнік да твораў Караткевіча.

**— Чытаў і адчуваў сябе ў той эпосе. І вельмі б хацелася ў тым часе пажыць. Праз кнігі і прыйшоў да мовы.**



# Зьміцер, палітык: беларускамоўны за кратамі

## *Ад палітыка*

Двойчы палітвязень Зьміцер Дашкевіч размаўляў за кратамі па-беларуску з усімі без выключэньня вязьнямі ды турэмнікамі. Скаргі ў вышэйшыя інстанцыі таксама пісаў толькі на беларускай мове. Тычыліся яны ў тым ліку і ягонай моўнай дыскрымінацыі ў Жодзінскім СІЗА.

Зьдзекі ды абразы ў гэтай сувязі ён сустракаў ня раз як ад турэмнікаў, так і ад сядзельцаў. У лепшым выпадку гэта былі прапановы-папярэджаньні: «Я цябе разумею, але гавары на нармальнай мове».

У сваім турэмным апавяданьні «Гумовы тапак» ён расказаў пра выпадак, які здарыўся зь ім на пачатку 2011 году ў адной з камэраў «Валадаркі». Размаўляючы з сукамэрнікам Валодзем па-беларуску, ён атрымаў ад яго за гэта моцны ўдар па твары.

Зьміцер Дашкевіч задаецца пытаньнем: «Дык дзе ж корань нацыянальнага нігілізму?» — і адказвае:

**«Корань — у нас саміх!.. Перш за ўсё самі і вінаватыя ў бяспамяцтве гэтым. Падумаць сабе: толькі за апошні месяц толькі ў гэтай камэры сядзелі тры барацьбіты за новае жыцьцё (уключна з кандыдатам на прэзыдэнта. — *Аўтар*), і ні ад кога — ні ад кога зь іх! — не пачуў Валодзя беларускага слова! Дык а чаго мы патрабуем ад людзей паспалітых? Мы дамагаемся іншых законаў, канстытуцыйных фармулёвак і нават улады, прыкрываючы ўсё гэта ідэаламі адраджэньня Бацькаўшчыны, тады як для адраджэньня Бацькаўшчыны ня трэба нічога — ні законы, ні Канстытуцыя, ні нават улада. Для адраджэньня Бацькаўшчыны трэба толькі адно — каб патрыёты мовы пачалі на гэтай мове**

**размаўляць. І ўсё! І з гэтым лічыліся б і тыя, хто Беларушчыну ненавідзіць.**

**Аднак якой можна трызьніць беларусізацыяй, калі самыя пасьвячоныя адважваюцца на геройства размаўляць па-беларуску толькі ў партыйных офісах?! Дзіка? Дзіка. Дзічэй і не прыдумаць».**

## Мат і «феня». Карыстальнікі і перакладчыкі

Як язык — люстэрка арганізму, гэтаксама і мова, у якой задзейнічаны язык, — адлюстраваньне кагнітыўнай сыстэмы чалавека. Бо мову ня зубраць, а пазнаюць, і, акумулюючы ўласны досьвед, зьвязваюць тую або іншую зьяву з пэўным найменьнем. Наколькі эфэктыўнымі могуць быць захады, скіраваныя на забарону ненарматыўнай лексыкі, уведзеныя, напрыклад, у суседняй Расеі, дзе да арыштанта-парушальніка ўжываюць штрафныя санкцыі, у тым ліку і пакараньне ШЫЗА?

## Рэцыдывіст: «Турэмную лексыку ведае ўсё грамадзтва»

«Што тычыцца ўвядзеньня ўсялякіх моўных табу за кратамі, то тут можна толькі сьмяяцца», — кажа былы крымінальнік Зьміцер Вольны.

*Ад Зьмітра Вольнага*

**— І мат, і «феня», як ужываліся раней зэкамі ды турэмнікамі, так і будуць ужывацца. Ніякія забароны тут нічога ня зробяць. Часам можна прачытаць у СМІ, што нібыта блатныя ў турмах мат не ўжываюць, бо гэта забаронена зладзейскімі законамі. З гэтым не пагаджуся. Што яны, нейкія асаблівыя? Зразумела, ня лаюцца як рамізьнікі, гэта ўсё паміж сабой.**

**Ну як вы сабе ўяўляеце зону бяз мату? Калі адзін зэк кажа другому: «Аляксандар Пятровіч, шаноўны, ці ня знойдзецца ў вас лішняй заваркі гарбаты, а то мае харчовыя запасы зусім канчаюцца?» Фігня нейкая. Там жа ў многіх адукацыі тры клясы або ўвогуле няма ніякай.**

**Што тычыцца мяне, то, вядома, гады, праведзеныя там, даліся ў знакі. І «феню» ўжываў, і матам лаяўся. Цяпер адвык. І карыстаюся нецэнзуршчынай тады, калі па-іншаму не атрымліваецца выказаць уласную экспрэсію. Увогуле любы нармальны ЗК, блатны ён ці не, ня будзе карыстацца матам праз слова.**



Зьміцер Вольны кажа, што сустракаў людзей, якія ўмелі і лаяцца, і размаўляць на «фені» прыгожа. У Глыбокім, калі старыя рэцыдывісты, якія прайшлі ГУЛАГ, пачыналі гаварыць, то можна было заслухацца. Маладзейшыя так не маглі. Цяпер у размовах сучасных зьняволеных гучаць толькі рэшткі той «фені».

**— Цяпер памятаю толькі асобныя словы, — узгадвае Зьміцер Вольны, — кшталту «мянты», «чэрці», «крытая» (у сэнсе турма), «кулямёт» (у сэнсе карты), «баланда», «шлёмка» (гэта міска), «вясло» (лыжка), «шконка» (ложак), «кармушка» (акенца ў дзьвярах, празь якое падаюць ежу), «кіча» (вязьніца), «БУР» або барак узмоцненага рэжыму.**

**Баракаў даўно няма, цяпер гэта ПКТ (штрафное памяшканьне камэрнага тыпу), але назва засталася і ўжываецца дагэтуль. Далей: «кум» (апэратыўнік), «гаспадар» ці, як правіла, прыніжана — «гаспадыня», то бок начальнік калёніі. Калі паважаны начальнік, то будуць казаць «гаспадар».**

**Але, мне здаецца, гэтыя слэнгавыя словы ведаюць таксама і звычайныя грамадзяне. Бо ў Беларусі заўсёды было і ёсьць шмат турмаў і лягераў. Бадай у кожнай сям'і знойдуцца свае сядзельцы.**

## Лінгвіст Сяргей Ямшчыкоў: «Я мушу перакласьці ўсё»

Што такое мат і «феня» з гледзішча прафэсійных лінгвістаў? Выпускнікі Менскага інстытуту замежных моваў, што сёньня завецца Менскім лінгвістычным унівэрсытэтам — Сяргей Ямшчыкоў і Валеры Шчукін (падвойны цёзка вядомага беларускага апазыцыянэра) — на працягу дзясяткаў гадоў прафэсійна працуюць з крымінальнай мовай, перакладаючы на судовых працэсах у Нямеччыне ды ЗША.

Сяргей Ямшчыкоў жыве ў Нямеччыне без малога 30 гадоў, ён запатрабаваны перакладчык з расейскай мовы. На пачатку 1990-х, калі амбасадарам Беларусі там быў Пятро Садоўскі, Сяргей перакладаў зь нямецкай на беларускую і зь беларускай на нямецкую на перамовах з рознымі віп-пэрсонамі, у тым ліку і з былым кіраўніком МЗС Нямеччыны Гансам-Дзітрыхам Геншэрам. Таксама перакладаў, але ўжо з расейскай, будучую нобэлеўскую ляўрэатку Сьвятлану Алексіевіч, працаваў зь Віктарам Ерафеевым, Міхаілам Хадаркоўскім, многімі іншымі.

Былога менчука нярэдка запрашаюць на судовыя працэсы ў якасьці перакладчыка па лініі абвінавачаньня ці абароны тых выхадцаў з былога СССР, якія парушылі законы Нямеччыны. Працуючы з гэтымі кліентамі, ён мусіць мецьсправу як з матам, так і зь «феняй».

З гледзішча лінгвістыкі, кажа ён, гэта ня тое самае. Мат належыць да сацыяльна непрымальнай табуяванай лексыкі, аднак тым ня менш зразумелай у грамадзтве. А «феня» — гэта таемная мова, у якой, адрозна



ад мату, сэнс сказанага шыфруецца. Гэтую мову «для ўнутранага карыстаньня» пачалі ўжываць у сярэднявечнай Русі вандроўныя гандляры (так званыя афені), а ад іх пераанялі злачынцы.

І ў першым, і ў другім выпадку трэба перакладаць адэкватна: як форму, так і зьмест. Калі мат удаецца перакласьці сяк-так, наколькі дазваляюць магчымасьці нямецкай мовы, то пераклад крыптамовы выходзіць нашмат больш дакладны. Паводле колішняга менчука, ні мат, ні «феню» забараніць немагчыма. Яны бесьсьмяротныя. Прычым ня толькі на постсавецкай прасторы, але ва ўсім сьвеце. Бо заўсёды будуць тыя сацыяльныя пласты, у якіх яны функцыянуюць.

### *Ад Сяргея Ямшчыкова*

**— Тое, што ў постсавецкіх краінах завецца «феняй», у лінгвістыцы мае афіцыйную назву — арго. Не жаргон, не дыялект, а сацыялект, мова, якой карыстаецца сацыяльна замкнёная група. Прадстаўнікі гэтай групы ня хочуць, каб чужынцы разумелі, што яны кажуць. Вось гэта і ёсьць арго. А «феняй» гэта завецца па-расейску. У нямецкіх крымінальнікаў таксама ёсьць сваё арго, свой сацыялект, ён таксама паходзіць зь сярэднявечча і завецца *Rotwelsch*. Мяшанка нямецкай мовы, у тым ліку дыялектнай, з габрэйскімі, цыганскімі ды іншымі элемэнтамі.**

**Што да расейскай «фені», то тут лексыка збольшага расейская. Разумець яе немагчыма, калі ты не выхоўваесься і не жывеш у пэўным асяродзьдзі або рэгулярна не глядзіш каналы расейскага тэлебачаньня зь фільмамі пра якую-небудзь «маліну»... Але цяпер зьявілася нямала добрых тлумачальных аднамоўных расейскіх слоўнікаў ды падручнікаў, якія для перакладчыкаў служаць добрымі дапаможнікамі.**

*— Перад тым, як пачаць працаваць з сваімі кліентамі, вы неяк рыхтуецеся?*

Абавязкова. Я рыхтуюся прафэсійна, як лінгвіст, але галоўным чынам эмацыйна. Бо, паверце мне, камунікацыя з гэтымі людзьмі дае ўсё, што хочаце, але ня радасьць. Што тычыцца моўнага боку, то гэта праца са слоўнікамі, і да таго ж мне дасылаюць у якасьці ўзору гэтак званыя «малявы» — цыдулкі падсудных, дзе яны паведамляюць нейкую інфармацыю на волю сваім «карашам» (сябрам). Такім чынам, я ўяўляю сабе, што гэта за асобы і якую мову яны будуць выкарыстоўваць. Як для прафэсіянала для мяне пераклад «фені» — гэта тое самае, што пераклад мэдычнай, будаўнічай, хімічнай і рознай іншай спэцлексыкі. Аплата гэтых перакладаў вядзецца паводле закону аб аплаце працы экспэртаў суду. Як перакладчык я лічуся экспэртам суду.

*— Якім перакладчыкам даручаецца гэтая праца?*

Тым, хто даў прысягу на Канстытуцыі. Перад кожнай справай мне ў судзе зачытваюць мае правы і абавязкі, і я прысягаю на Канстытуцыі Нямеччыны ні пры якіх абставінах не выдаваць інфармацыі, пра якую змагу даведацца падчас працэсу альбо падчас перакладу пісьмовых дакумэнтаў... Я не магу расказваць пра сваіх кліентаў і пра падрабязнасьці іхніх спраў.

*— Крымінальнікі бываюць розныя... «Злодзей у законе» Япончык трымаў у амэрыканскім судзе самае працяглае па часе апошняе слова, якое цягнулася гадзіну сорак сем хвілін. Паводле тых, хто працаваў на працэсе, гэта была стылёва і граматычна бездакорная прамова. Гэтак жа бездакорна Япончык, як сьведчылі людзі зь ягонага кола, валодаў і крымінальным арго. Зразумела, ёсьць іншыя злачынцы — тыя, хто ўжывае «феню» таму, што проста ня ведае, як сказаць на нармальнай мове...*



— Адзначу, што ва ўсіх злачынцаў, якія знаходзяцца пад сьледзтвам або паўсталі перад судом, толькі адна мэта — каб іх не зразумелі звонку. У Япончыка, паводле ягоных сьведчаньняў, было некалькі адукацыяў. А ў маёй цяперашняй турэмнай кліентуры ў лепшым выпадку — клясы чатыры. Узровень адукацыі, сама гаворка — проста непараўнальныя.

Мая цяперашняя кліентура — гэта так званыя позьнія перасяленцы з Казахстану і іншых частак СССР, этнічныя немцы. Яны забыліся на расейскую мову, а новай так і ня вывучылі і размаўляюць на нейкай трасянцы з расейскай, паўнямецкай і паўфені. Дарэчы, за гэтыя амаль 30 гадоў, што я ў Нямеччыне, мне ні разу не даводзілася перакладаць крымінальнікаў зь Беларусі. Яны мне не сустракаліся.

*— Многія з вашых кліентаў, як я разумею, прыехалі ў Нямеччыну зусім малымі. У прынцыпе, яны не павінны ведаць ні СССР, ні савецкіх лягераў... Адкуль у іх такая мова?*

Трэба проста паглядзець на іх сацыяльнае паходжаньне, іх сацыяльны досьвед, каб зразумець, што па-іншаму яны размаўляць ня могуць. На якой мове чалавек размаўляе дома ў сям'і, на такой мове ён будзе размаўляць і выйшаўшы адтуль.

Для многіх маіх землякоў зь Беларусі родная мова — гэта мат уперамешку з прымітыўнай трасянкай у 30–50 словаў. Гэта гучыць на кожным кроку ў спальных раёнах вялікіх гарадоў, райцэнтрах, вёсках. У цэнтры Менску, дзе я час ад часу бываю, лаянку можна пачуць рэдка. А вось у спальным раёне — я жыў ва Уруччы — там як лаяліся, так і лаюцца. Але пераважна п'яныя або нападпітку.

Увогуле слуханьне гэтай жывой мовы — тое, што чуеш у грамадзкім транспарце, крамах, па тэлебачаньні або інтэрнэце — дапамагае ў прафэсіі,

**гэтак жа як спэцыялізаваныя слоўнікі. Але такое гучыць ня толькі ў Менску. І ў Нямеччыне, і ў іншых краінах Эўропы ёсьць раёны, дзе жывуць сацыяльна ня надта прасунутыя людзі. І там гэтыя словы гучаць на розных мовах.**

*— Аднак паглядзім зь іншага боку. Чалавек выхоўваецца ў нармальнай культурнай сям'і, але, тым ня менш, ён ведае, што «маліна» — гэта ня толькі ягада, «прэс-хата» — гэта ня Дом прэсы і г. д.*

**— Шмат што ідзе ад расхістанасьці пэўных моўных табу, якія да 1990-х падтрымліваліся ня столькі цэнзурай, колькі культурай. (Такі моўны трэш, што даводзіцца чуць сёньня, не гучаў ні ў тэлебачаньні, ні ў кіно, пагатоў не ўжываўся ён у публічных прамовах высокіх дзяржаўных дзеячоў.) Цяпер з таго самага тэлевізара можна пачуць, як прэзыдэнт адной вялікай дзяржавы кажа «мачыць у сарціры» — а гэта нішто іншае, як «феня», — дык чаго дзівіцца, што яна папулярызуецца ўсё больш і больш.**

*— Якая розьніца паміж матам нямецкім і расейскім?*

**— Нямецкая лаянка — яна фэкальна-анальная. Расейская больш каітальная. Я чытаў працу аднаго нашага лінгвіста, які вывучаў гэтую табуяваную мову, дык ён напісаў вельмі вобразна: нямецкая лаянка — гэта фэкальная выспа ў моры сэксу.**

**Як лінгвіст магу сказаць, што мат — частка мовы. Яна была, ёсьць і будзе, хоць некаму можа падабацца, а некаму і не. Мы ведаем гэтыя словы, але ведаем таксама, што гэта табу. У літаратуры мат можа несьці сваю стылістычную функцыю. Таксама ў камунікацыі паміж людзьмі мат адыгрывае яшчэ і функцыю сублімацыі. Калі пэўныя эмоцыі, якія ўціскаліся нейкі час, можна выразіць адным брыдкім словам — дзеля таго каб выпусьціць пару.**

*— Наколькі часта вы адчувалі цяжкасьці зь перакладам?*



**— Што тычыцца маіх кліентаў, так званых апошніх перасяленцаў з былога СССР, то іх мова была драбязой у параўнаньні з тым, што могуць казаць беларускія міліцыянты... Аднойчы я праслухаў выстаўленую ў сеціве ненарматыўную размову меркаванага экс-кіраўніка беларускай міліцыі са сваімі падначаленымі і зразумеў, што тут для перакладу патрабаваўся б найвышэйшы пілятаж. З уласнага досьведу магу сказаць, што такога моўнага экстрыму мне за сваё жыцьцё перакладаць не даводзілася.**

**Але ж праца перакладчыка — гэта ня праца цэнзара ці папы рымскага. Мы павінны казаць тое, што чуем. Гэта завецца адэкватным перакладам. Даваць жа ацэнку, у тым ліку маральна-этычную — гэта ўжо не мая мэта.**

## Лінгвіст Валеры Шчукін: «Шукаў дапамогі сярод братвы»

Колішні мянчук, у мінулым выкладчык ін'язу Валеры Шчукін зьехаў у ЗША ў 1980-я. Трыццаць гадоў працуе судовым перакладчыкам у Нью-Ёрку. За гэты час у якасьці судовага экспэрта-лінгвіста Шчукін узяў удзел у тысячы працэсаў. Яго кліенты — расейскамоўныя злачынцы, ад дробных вулічных хуліганаў да мацёрых бандытаў ды аўтарытэтаў, сярод якіх быў і вядомы «злодзей у законе» Вячаслаў Іванькоў па мянушцы Япончык.

Гэты крымінальны аўтарытэт пражыў 69 гадоў. Пачынаў з кішэнных крадзяжоў. Калі распадаўся СССР, ён сядзеў. У 1991 годзе аб яго вызваленьні пачалі хадайнічаць вядомыя людзі, сярод якіх называюць сьпевакоў Ёсіфа Кабзона, Аляксандра Разэнбаўма, афтальмоляга Сьвятаслава Фёдарава.

Япончыка выпусьцілі, і ў 1992-м ён выехаў за мяжу. Неўзабаве ў ЗША яго арыштавала ФБР паводле абвінавачаньня ў вымаганьні вялікай сумы грошай — 2,7 мільёна даляраў — ад двух бізнэсоўцаў расейскага паходжаньня. На пачатку 1997-га ён атрымаў дзевяць гадоў і сем месяцаў зьняволеньня за вымагальніцтва і фіктыўны шлюб з грамадзянкай ЗША. Пакараньне адбываў у амэрыканскай турме.

У 2004-м быў дэпартаваны ў Расею. У 2009-м на яго зрабілі замах. Праз два месяцы ён памёр ад раненьняў.

### *Ад Валерыя Шчукіна*

У размове з журналістам Сяргеем Астраўцовым Валеры Шчукін успамінаў:

**— У вялікай справе Япончыка — Вячаслава Іванькова — мяне абралі ягоным галоўным перакладчыкам. Гэта быў для мяне вялікі камплімэнт, калі ён мне сказаў: з васьмі перакладчыкаў абароны я выбраў цябе.**

**Перакладчык абароны ня мае права нават гутарыць зь перакладчыкам абвінавачаньня — як правіла, гэта перакладчыкі ФБР. І часта бываюць «бойкі», нават суд можа прызначыць асобнае папярэдняе слуханьне перад судовым працэсам, цалкам прысьвечанае перакладу той або іншай фразы або слова. І тады судзьдзя выслухоўвае перакладчыка абароны, перакладчыка абвінавачаньня, можа запрасіць трэцяга спэцыяліста. Але толькі так вырашаюцца праблемы.**

*— А якія гэта могуць быць праблемы? Якія канкрэтна бываюць выпадкі?*

**— Я вам прывяду такі прыклад. У справе з Іваньковым ягоныя адвакаты, іх было два, паехалі ў Маскву дапытваць сьведку, які, як яны лічылі, мог**



**дапамагчы Іванькову-Япончыку. І паехалі зь няправільна складзеным лістом.**

**У нас ёсьць такое паняцьце — «добраахвотная дача паказаньняў»: калі нейкі сьведка можа даць іх добраахвотна, яны могуць запісвацца на відэа. Але перакладчык тут, у Нью-Ёрку, да мяне няправільна пераклаў гэтую фразу — як «добраахвотны допыт». І калі яны зьвярнуліся ў Маскве ў пракуратуру з просьбай дапамагчы ім арганізаваць у амэрыканскім пасольстве такую дачу паказаньняў, пракурор абурыўся і сказаў: гэта глупства, няма такога «добраахвотнага допыту». Допыт не бывае добраахвотны, і мы не дазваляем замежнікам дапытваць нашых грамадзянаў. І яны зьехалі, змарнаваўшы шмат грошай.**

**А калі вярнуліся, было асобнае слуханьне ў Бруклінскім фэдэральным судзе, куды мяне запрасілі. І я сказаў, што гэта няправільны пераклад. Што гэта трэба перакладаць як «добраахвотная дача паказаньняў». Карацей, мы зьмянілі дакумэнты. Яны зноў паехалі ў Маскву, і тады пракуратура дазволіла ім апытаць аднаго важнага сьведку па справе Іванькова.**

**Іванькоў пры размове ў турме ніякай «фені» не ўжываў. Больш за тое, ён карыстаўся самым высакамоўным, літаратурным стылем, каб паказаць сваю адукаванасьць. Гэта мне таксама было няпроста перакладаць.**

**Прыклад: «Вось кароткі мартыралёг усіх забітых маіх сяброў». Альбо: «Вось чым займаюцца клеўрэты ад КДБ». Ён казаў, што скончыў чатыры ўнівэрсытэты. Калі я спытаў: якія чатыры ўнівэрсытэты? — У турме! Так, яго цяжка было перакладаць.**

**На «фені» крымінальнікі размаўляюць толькі паміж сабой. І гэта фіксуецца, калі праслухоўваюць тэлефон або нехта побач зь імі робіць запіс, пакуль яны яшчэ не арыштаваныя. І ў судзе, калі слуха-**

**юцца запісы, трэба перакладаць гэты крымінальны жаргон.**

Паводле Валерыя Шчукіна, у працы з кліентамі яму часьцей даводзіцца перакладаць крымінальнае арго або «феню», чым мат. А гэта для яго як лінгвіста ёсьць вельмі цікавай справай. Мат у практыцы Шчукіна сустракаўся лічаныя разы.

Так аднойчы ў судзе злачынца Слава Любарскі ўсклікнуў: «Якога х... судзьдзя задае тое самае пытаньне пяты раз?» Валеры Шчукін кажа, што для яго гэта быў цяжкі момант: рашэньне трэба было прыняць вельмі хутка, за паўсэкунды. Ён успомніў правіла перакладчыкаў: ніколі не зьмякчаць мову. І пераказаў пытаньне даслоўна.

Чатырнаццаць прысяжных, судзьдзі і ўсе прысутныя ў залі паглядзелі на яго са зьдзіўленьнем. Падумалі, мабыць, спачатку, што ў пачутым вінаваты перакладчык. Аднак пасьля паседжаньня судзьдзя падышоў да Валерыя Шчукіна і пахваліў за добрую працу. А Любарскі сваім воклічам нашкодзіў сабе.

Яшчэ быў у перакладчыка выпадак, калі ён пачуў ад падсуднай абразу на свой адрас. Гэта здарылася падчас стандартнай працэдуры, калі судзьдзя запытаўся ў абвінавачанай, ці мае яна адводы — для судзьдзі, пракурора, адваката, перакладчыка? У адказ жанчына, якая дагэтуль сядзела ў вар'ятні, сказала нешта брыдкае. Шчукін пераклаў даслоўна. Выслухаўшы, судзьдзя прыняў рашэньне: паддаць кабету псыхіятрычнай экспэртызе.

**— Кожная этнічная група мае сваіх бандытаў. Вось толькі зь Беларусі не было. Хіба што адзінае выключэньне: Цімоха Гомельскі, які ў мінулым уваходзіў у бліжэйшае атачэньне Япончыка і нейкі час быў «смотрящим» за Беларусьсю і Нью-Ёркам. Яго некалькі гадоў таму застрэлілі ў Расеі. Але каго тут толькі не было.**



Абавязак перакладчыка ў амэрыканскім судзе — перакласьці штосьці незразумелае зь іншай мовы на ангельскую, кажа Валеры Шчукін. Даводзіцца ўвесь час карыстацца слоўнікамі крымінальнага жаргону, аднак яны не заўсёды могуць дапамагчы, прызнаецца ён:

**— На жаль, гэтыя слоўнікі даюць нармальны, літаратурны пераклад. Дапусьцім, слова «мусор» у слоўніку будзе — паліцыянт, міліцыянт, работнік праваахоўных органаў. Але ёсьць слова pig, сьвіньня, гэта на жаргоне азначае абразьліва «паліцыянт». «Пошел к мусорам» — «He went to the pigs». Слоўнікі, на жаль, не прыводзяць раўназначных словаў на ангельскай мове, якіх вельмі і вельмі мала.**

**Калі прыняць усю расейскую «феню» за сто працэнтаў, то ў ангельскай мове будзе ўсяго тры ці чатыры працэнты. Няма такой красамоўнай «фені», як у расейскай мове: ксіва, малява. Амэрыканскі жаргон вельмі прымітыўны. Такога «багацьця» ў амэрыканскім няма.**

**Самае цяжкае для нас — перакладаць касэты, запісы іхніх размоваў, зробленыя да арышту. Калі яны яшчэ не падазраюць, што іх арыштуюць. Такіх запісаў можа быць пятнаццаць, а можа быць і пяцьсот. У Амэрыцы яны прымаюцца як рэчавы доказ. Добры перакладчык не павінен перакладаць «феню» на стыль літаратурны, культурны. Суду трэба паказаць яркасьць, культурны ўзровень альбо падаплёку падсуднага і перакладаць у тым стылі, што ён гаворыць.**

**Была некалі буйная справа маскоўскіх прастытутак, якіх арыштавалі ў Нью-Ёрку. І там на запісе адна дзяўчына кажа другой: вой, слухай, хадзем у ін-**

**шае агенцтва, там не абражаюць, там паважаюць нас і там няма ніякіх «суботнікаў». Як гэта перакласьці? Так, «суботнік» на іх жаргоне — гэта калі «дзяўчаткі» абавязаныя спаць або з уладальнікам, альбо зь ягонымі сябрамі бясплатна. Але, на бяду, у слоўніках па «фені», а ў мяне іх недзе шаснаццаць, гэтага слова няма.**

**Мне давялося зьвярнуцца да вядомага крымінальнага журналіста Ўладзіміра Казлоўскага зь Бі-Бі-Сі. Ён якраз тады езьдзіў у Маскву і гутарыў там з прастытуткамі. Я яго і цытаваў у судзе. А самі «дзяўчаткі» казалі мне: «суботнік» — гэта таму, што мы мусім мыць вокны, падлогу і ўсё такое.**

Валеры Шчукін адзначае, што пераклад многіх «паняцьцяў» — справа зусім няпростая.

**— Нялёгка было перакласьці, напрыклад, такое паняцьце як «вор в законе». Я нават шукаў дапамогу на Брайтан-Біч у рэстарацыі, дзе бандыты з былога СССР зьбіраюцца. Я пытаўся ў іх, што значаць тыя або іншыя словы. У мяне шмат было складаных выпадкаў.**

«Феня» — гэта як «рыфмаваны слэнг» лёнданскіх кокні, рэзюмуе Валеры Шчукін: вазакі ў Лёндане паміж сабой размаўлялі, і ўсім было зразумела, апроч паліцыянтаў. Што да мату, то падсудныя могуць карыстацца ім у турме, калі, напрыклад, апынуцца са сваімі. Але ніколі ў судзе. Бо ніхто ня хоча пагоршыць сваё становішча падчас працэсу, нашкодзіць самому сабе.

# ЗОНА ТАЛЕНТАЎ

Пісьменьнік-афэрыст Генадзь Паркін
«Я і наш абраны — мы нечым падобныя»
Аўтабіяграфічная авантурная аповесьць «Куля з Ваганькава»
Фальшываманэтчыкі
Уладзіслаў Ліпскі

**Кажуць, таленавіты чалавек — таленавіты ва ўсім. Таму ня дзіўна, што крымінальныя таленты адкрываюць у сабе за кратамі розныя творчыя здольнасьці.**

## Пісьменьнік-афэрыст Генадзь Паркін

Ва ўступах да кніг з дэтэктыўнымі раманамі менчука Генадзя Паркіна ад выдаўцоў можна прачытаць, што сама біяграфія гэтага аўтара нагадвае дэтэктыў. Мабыць, таму, што многія сюжэты ягоных твораў аўтабіяграфічныя. Пісаць Генадзь Паркін пачаў за кратамі, калі ў 1990-я адседжваў за махлярства трэці па ліку пятнаццацігадовы тэрмін у калёніі асаблівага рэжыму ў Глыбокім. Невыпадкова, што апавяданьне ў ягоных кнігах вядзецца не ад асобы сьледчага або журналіста, а ад асобы злачынца.

Паркін любіць параўноўваць сябе з О. Генры. Як і ягоны ўлюбёны амэрыканскі пісьменьнік, ён таксама пачаў пісаць у 37 гадоў, таксама ва ўмовах няволі. Таксама як О. Генры, і Паркін да сваіх пасадак быў бухгальтарам. Першы раман менчука «Куля з Ваганькава» заснаваны на рэальных фактах. Наступныя кнігі — «Схаваны ўдар», «Падарваць Калінінград», «Стральба па жывёлінах».

Гэтаксама як і О. Генры, Паркін памёр даволі маладым, крыху за сорак.

Генадзь Паркін валодаў некалькімі «бяскроўнымі» крымінальнымі прафэсіямі, якія патрабавалі найвышэйшага пілятажу ды артыстызму. Ён быў «каталам» — картачным шулерам, «кукальнікам» — махляром, які падсоўваў замест грошай «куклу» (пачак нарэзанай паперы), «кідалам» — дзякуючы галоўным



чынам прыроднаму абаяньню, пасьпяхова вымагаў у самых розных людзей немалыя грошы.

## Ад кінадакумэнталіста

Ашуканца Паркіна добра ведаў карэнны мянчук, кінадакумэнталіст Леанід Міндлін. Паводле яго, гэта быў вядомы пэрсанаж, які паміж сваімі адседкамі ў пэрыяд 1970–1990-х круціўся ў цэнтры беларускай сталіцы:

**— Ён быў маладзейшы за мяне недзе гадоў на 10. Трэба было бачыць таго хлопца. У яго былі вялікія блакітныя вочы, пульхныя вусны. Давер да яго зьяўляўся адразу. Ну як такі чалавек можа падмануць? Я ведаў, што Гена — афэрыст і што ў яго было некалькі «ходак» за махлярства. З майго глядзішча, афэрыст — гэта тры ў адным: сцэнарыст, рэжысэр, актор. Усё гэта ў ім сумяшчалася. Аднак, як высьветлілася потым, ён яшчэ і літаратар. Пачаў пісаць менавіта на зоне. Гады за тры Паркін напісаў у вязьніцы дзесяць баевікоў, якія потым выйшлі ў розных выдавецтвах. У сваіх кнігах ён адчуваў сябе абсалютна вольным чалавекам.**

Паркін памёр у канцы 1990-х ад невылечнай хваробы крыві. Незадоўга да яго сьмерці, калі ён толькі выйшаў на волю, Леанід Міндлін вырашыў зрабіць фільм пра яго. Урыўкі зь некаторых зазьнятых інтэрвію Паркіна Леанід дазволіў выкарыстаць у праграме «Свабода ў турмах» ды ўключыць у гэтую кніжку.

## «Я і наш абраны — мы нечым падобныя»

На відэа Паркін свабодна глядзіць у відэакамэру, шчыра ўсьміхаецца, трымаецца вельмі натуральна, безь ніякай заціснутасьці.

*Ад Генадзя Паркіна*

— Маё пісьменьніцтва пачалося з таго, што было моцнае жаданьне выжыць. Грошы, якія былі — а я сядзеў за махлярства, хоць шмат чаго было не даказана — грошы былі, але... зьберагчы тую суму я ня змог, усё паляцела, і я застаўся голы ды босы. Гады два правёў на зоне па інэрцыі. Потым зразумеў, што далей так нельга. Заставалася або гуляць у карты, або заняцца літаратурнай дзейнасьцю, пісаць кнігі.

Я пачаў трэніравацца на лістах у розныя арганізацыі. Першым быў ліст у амбасаду ЗША ў Менску. У 1992 годзе нібыта скончыўся камунізм, пайшла расслабуха, усе пачалі сябраваць паміж сабой. Паколькі я ня ведаў ангельскай мовы, я зьвярнуўся да дарадцы па культуры амэрыканскай амбасады, каб хто-небудзь у іх пераклаў маё пасланьне да вязьняў амэрыканскай турмы і адаслаў яго далей па адрасе. Гэта была турма Сінг-Сінг, з максымальна строгім рэжымам. Наша калёнія тады таксама мела самы жорсткі асабівы рэжым.

Я пісаў: хлопцы, вы там у сябе чаліцеся, і мы тут чалімся. Вы крыху багацейшыя за нас, што натуральна. Гэта тое самае, што ў перасыльнай турме, калі побач дзьве камэры. У адной сядзельцы сядзяць даўно, атрымліваюць перадачы ды ўсё маюць. У другой камэры, якая транзытам ідзе, людзі нічога ня маюць, галодныя, падзяліцца зь імі — сьвятая справа. Я ў двух словах апісаў наша



жыцьцё. Што мы курым, што ямо. Прасіў пра драбязу: скінуцца па пары даляраў ды даслаць пару пасылак.

Ліст у амбасаду быў накіраваны праз надзейныя крыніцы. І я ўпэўнены, калі б той дарадца атрымаў яго, ён бы сам даслаў нам у Глыбокае прынамсі цыгарэты. Аднак рэакцыі не было аніякай. Хутчэй за ўсё, той ліст не прапусьцілі амэрыканскія ахоўнікі зь меркаваньняў бясьпекі. Бо я магу пераканаць чалавека, што тое і тое зрабіць трэба, прычым так, што ён сам захоча зрабіць гэта...

Ніякіх наступстваў за той ліст з боку адміністрацыі Глыбоцкай калёніі не было. Затое былі наступствы ў сувязі з наступным лістом — да Паўла Якубовіча. Ён лічыўся тады журналістам № 1 у Беларусі, гэта быў час, калі абралі нашага ўсенароднага... І я напісаў Пашу па старой дружбе, не разьлічваючы на нейкую публікацыю. Гэта быў проста сьцябок. Я пісаў штосьці кшталту, што я, Генадзь Паркін, і наш абраны — мы нечым падобныя. Напрыклад, яго папулізм і маё махлярства, мы маем аднолькавыя тэрміны — па пяць гадоў. Ну, і дадаў некаторыя іншыя падабенствы.

Атрымаўся прыкольны ліст. Да Якубовіча, упэўнены, ён дайшоў. Апэрчастка за гэта мяне тузанула. Ну, а потым я з газэты атрымаў вельмі такі гнеўны водгук.

Але вось так з тых лістоў усё пачалося. Стаў пісаць маленькія апавяданьні. Пачалі плаціць. Прычым плацілі пераважна бульварныя выданьні, а дзяржаўныя, куды я накіроўваў нешта лепшае, нічога не плацілі. Першую сваю аповесьць я пачаў пісаць як апавяданьне. Пра Ваганькаўскія могілкі ў Маскве, дзе мне давялося крыху папрацаваць.

## Аўтабіяграфічная авантурная аповесьць «Куля з Ваганькава»

Першая, амаль аўтабіяграфічная авантурная аповесьць Генадзя Паркіна «Куля з Ваганькава» зьявілася ў друку, калі яе аўтар яшчэ быў у калёніі. Праз кароткі час — гэта было ў 1996-м — ён выйшаў на волю. Тады ў Леаніда Міндліна і зьявілася ідэя зьняць фільм пра гэтага чалавека.

**— Калізія ягонага жыцьця была вельмі цікавай. Мы зьнялі 2/3 матэрыялу, але ён нечакана зьнік. Потым раптам празь нейкі час патэлефанаваў, што едзе ў Менск зь Піцеру, каб мы сустрэлі яго на вакзале. За свае апавяданьні ён атрымаў ад выдавецтва недзе 10 тысяч даляраў. Зь цягніка выйшаў увесь абарваны, пабіты. Расказаў нейкую байку. Здымаць яго ў тым стане было нельга. А мы так хацелі павезьці яго ў Глыбокае, была адна пастановачная ідэя. Мы дамовіліся пачакаць, калі Гена адновіцца і прыйдзе ў сябе. Аднак ён зьнік ізноў. Празь нейкі час я даведаўся, што ў Гены невылечная хвароба крыві. А хутка яго ня стала. Такі лёс.**

*— Калі чалавек, так бы мовіць, мог «разьвесьці» любога, ці не было такога адчуваньня, што такое элемэнтарна можа здарыцца і з вамі?*

**— Тое, што ад Гены можна было чакаць усяго — гэта пэўна. У нас былі здымкі ў Маскве на Ваганькаўскіх могілках. Гена купіў букет гвазьдзікоў. Сьпярша паклаў дзьве кветкі на магілку, дзе была пахаваная Сонька Залатая Ручка. Выпіў з фляжкі каньяку. Пайшоў далей. У другой магілцы была пахаваная артыстка Зоя Фёдарава. Ізноў паклаў два гвазьдзікі, выпіў каньяку і сказаў: вось гэтыя дзьве жанчыны адыгралі ў маім жыцьці фатальную ролю. Дзякуючы вобразу першай я прыйшоў у прафэсію. Праз другую мяне ледзь не «замачылі», але ад гэтага я набыў іншую прафэсію.**

**Потым Гена на разьвітаньне запрасіў мяне і апэратара адзначыць нашу працу ў рэстаранчык. Быў такі «У Тыграныча» ля Беларускага вакзалу. Гена папярэдзіў, што плаціць будзе ён. Дастаў салідны пачак банкнотаў. Потым высьветлілася, што гэта была так званая «кукла». Калі я спытаўся ў Гены: ну чаму? Ён адказаў: прабач, спрацаваў рэфлекс.**

**Махляры — гэта асаблівы род крыміналітэту. Некалькі гадоў я езьдзіў на поўнач СССР. Там працавала шмат тых, хто сядзеў у лягерах. Яны жывуць паводле сваёй этыкі, «паняцьцяў». Тое, што належыць тым, хто ўваходзіць у іхнюю карпарацыю, — гэта сьвятое. З астатнімі можна рабіць усё што заўгодна.**

**Аднак сярод гэтай публікі я сустракаў шмат цікавых людзей. Адукаваныя, таленавітыя ды яшчэ рызыкоўныя пры гэтым. Набор вельмі добры, калі накіраваць на добрую справу... Той самы Паркін. Ягоныя кнігі — гэта гатовыя сцэнары для сэрыялаў. Цяпер, калі ў модзе розныя баевікі, гэта быў бы шыкоўны сцэнарыст. Талент там ёсьць, але ж маралі няма ніякай. Ніколі ня трэба імкнуцца быць зь імі на роўных. Гэта відавочна, што ты ня іхні, і яны не твае.**

## Фальшываманэтчыкі

Да «зладзейскай арыстакратыі», якая ўжо адыходзіць, належаць і фальшываманэтчыкі. Здаўна гэтая крымінальная прафэсія лічыцца адной з самых ювэлірных. Справа патрабуе і таленту, і вялікіх ведаў, у тым ліку навуковых. Сёньня, калі ў асноўным разьлічваюцца карткамі, на зьмену фальшываманэтчыкам

прыходзяць кібэрзлачынцы. Гісторыя колішніх найбольш крэатыўных ашуканцаў усё больш становіцца здабыткам розных спэцархіваў ды музэяў.

А за савецкім часам, калі не было кампутараў, прадпрымальнікі-злачынцы, паводле розных сьведчаньняў, праводзілі доўгія месяцы ў найлепшых сталічных бібліятэках — у тым ліку ў маскоўскай «ленінцы» — каб дасканала вывучыць нюансы паліграфічных працэсаў. Здавалася б, цяпер, пры разнастайнай кампутарнай тэхніцы падрабляць грошы стала прасьцей. Але гэта памылковая думка. Для абароны грашовых знакаў выкарыстоўваецца мноства найноўшых тэхналёгій, так што банкаматы ды сартавальныя машыны могуць адсейваць фальшыўкі па розных прыкметах.

### *Ад літаратара*

Былы палітвязень, асуджаны за ўдзел у акцыі пратэсту пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году, літаратар Аляксандар Фядута, прыводзіць прыклады фальшыўманэтніцтва з больш далёкай гісторыі.

**— Я шмат працаваў у гістарычных і літаратурных архівах. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ляжыць справа махляра па прозьвішчы Цэйсік. Вельмі вядомая была асоба. Ён падрабляў купюры: так маляваў, што іх нельга было адрозьніць ад сапраўдных. Яго пасадзілі ў рэшце рэшт. А калі ў Менск прыехаў імпэратар Аляксандар I, ён вырабіў для імпэратара падарунак — такі прыгожы, што той вельмі расчуліўся. Тым больш, што гэта зрабіў чалавек, які знаходзіўся ў няволі. Але прысуд быў прысудам, і нават імпэратар не наважыўся яго адмяніць. Але калі той Цэйсік паехаў у Сыбір, там было крыху лагадней для яго.**

**У Дзяржбанк яго, зразумела, не ўзялі б працаваць, але быць настаўнікам маляваньня ён бы мог. Тым больш, наколькі я памятаю, ён быў вучнем знакамітага віленскага жывапісца Яна Рустэма.**



## Уладзіслаў Ліпскі

Пра крымінальны талент беларуса Ўладзіслава Ліпскага я пачула ў сярэдзіне 2000-х ад калегі з Berliner Zeitung — нямецкага журналіста Мартына Клесмана (Martin Klesmann). Ён тады асьвятляў для свайго выданьня судовы працэс над міжнародным злачынным групоўкай, якая дзейнічала на тэрыторыі Нямеччыны і галоўным героем у якой быў наш зямляк.

Уладзіславу на той момант было 33. Ён меў беларускі ўнівэрсытэцкі дыплём хіміка-тэхноляга, і суд прызнаў яго «тэхнічным мозгам» групы фальшываманэтчыкаў. Крымінальны талент Ліпскага, чые вырабы нямецкія крымінолягі назвалі хіба не найлепшымі падробкамі эўра за ўсю гісторыю гэтай валюты, быў абсалютна выпадкова выкрыты ў 2005 годзе ў Патсдаме. Мясцовы пэнсіянэр паведаміў у паліцыю, што побач зь ягоным домам у старой аранжарэі нелегальна вырошчваюць каноплі. Акрамя наркотыкаў, паліцыянты выявілі і вытворчасьць дасканала фальшаваных 50-эўравых купюраў. Затрыманы Ліпскі і на допытах, і на працэсе сьцьвярджаў, што трапіў у Нямеччыну паводле заданьня КДБ і што ягонай задачай нібыта было ўкараніцца ў банды фальшываманэтчыкаў з постсавецкіх краін і прасачыць, як банкноты трапляюць у Беларусь.

### *Ад нямецкага журналіста*

Тады, падчас працэсу, Клесман хацеў пагутарыць зь Ліпскім. Але не ўдалося.

**— На жаль, я ня мог зь ім размаўляць, калі наведваў турму, бачыў яго на працэсе. У яго была вельмі моцная ахова, прычым узброеная. Недзе чатыры**

**чалавекі. Калі я ўпершыню пачуў на працэсе яго паказаньні адносна таго, што ён мусіў выконваць даручэньні КДБ, я ў гэта не паверыў. Але потым былі паказаньні яго хаўрусьніка, які вучыўся ў Менску. Зразумела, што суд правёў вельмі грунтоўную экспэртызу. Выснова была такая: кантакты з КДБ у Ліпскага мусілі быць. З боку нямецкай пракуратуры быў накіраваны запыт у адпаведныя беларускія структуры наконт супрацы абвінавачанага зь дзяржбясьпекай. Атрымалі адказ: гэты чалавек КДБ невядомы, аднак, згодна з прыкладзенай даведкай ваенкамату, Ліпскі свайго часу быў адхілены ад службы ў войску ў сувязі з шызафрэніяй. У сваю чаргу, нямецкія адмыслоўцы-псыхіятры вельмі грунтоўна праверылі беларуса. Паводле іх вэрдыкту, ніякай шызафрэніі ў гэтага чалавека не было і дадзеныя беларускага боку абсалютна не адпавядаюць рэчаіснасьці.**

Зробленыя беларусам эўра некалькі гадоў хадзілі як у Нямеччыне, так і ў іншых краінах ЭЗ. Прадстаўнік Bundesbank, які тады прысутнічаў на працэсе і даваў свае тлумачэньні судзьдзям, назваў падробкі бездакорнымі. Журналіст Клесман таксама гутарыў з экспэртам, і той сказаў не для прэсы, што больш чым уражаны якасьцю фальшывых купюраў.

На пытаньне, які вэрдыкт чакае Ліпскага, Клесман тады адказаў:

**— Наколькі я ведаю, такія людзі атрымліваюць новую легенду, імя, біяграфію, новы пашпарт, новую зьнешнасьць, новае месца жыхарства і жывуць пад прыкрыцьцём нямецкай крымінальнай паліцыі і спэцслужбаў.**

Што цяпер з нашым былым земляком — невядома.

# ЗОНА ВОЛІ

З турмы на волю. У чым, як і куды
Каб ня стаць бамжом
«Міліцыі прасьцей ізноў пасадзіць»
Ад чаго залежыць сацыяльная адаптацыя
Эміграцыя як шанец пачаць новае жыцьцё
Заходні досьвед.

**У Беларусі 47% раней суджаных ізноў вяртаюцца ў месцы пазбаўленьня волі.**

Згодна з дадзенымі пракуратуры, на момант учыненьня паўторных злачынстваў нідзе не працавалі і не вучыліся 67,7% былых ЗК. Болей за траціну раней асуджаных ішлі на парушэньне закону ў стане алькагольнага ап'яненьня.

Лічыцца, што найбольш схільныя да рэцыдыву вязьні, якія выходзяць на волю, ня маючы родных ды блізкіх. Яны учыняюць новыя злачынствы ледзь ня ў першы дзень па вызваленьні. Крадуць, рабуюць — галоўным чынам таму, што хочацца есьці.

## З турмы на волю. У чым, як і куды

Далёка ня ўсіх былых асуджаных сустракаюць пасьля вызваленьня ля калёніяў іх родныя ды блізкія. Для таго, каб чалавек дабраўся дадому ды пражыў там пару дзён — тэарэтычна да ўладкаваньня на працу — яму набываюць квіток дадому па месцы адседкі і разам зь ім на рукі выдаюць таксама стандартныя для Беларусі сутачныя памерам 3,5 рубля.

За гэтыя грошы можна купіць адзін пакунак булёну «Ролтан», адзін літровы пакунак кефіру «Траецкі», адну бутэльку піва «Аліварыя» — усё па рублі, а таксама нейкую булку за 50 капеек. Гэтулькі ж, як і булка, каштуе адзін праезд у грамадзкім транспарце. А чалавеку ў першыя дні пасьля вызваленьня давядзецца паезьдзіць у розныя канцы не адзін раз, ня кажучы ўжо пра іншыя выдаткі.

У перадачы «Свабода ў турмах» гучала нямала гісторыяў пра вяртаньне былых асуджаных дадому. Так, напрыклад, адзінокі зьняволены Сяргей расказаў, што дабіраўся праз усю краіну зімой з Мазырскай калёніі ў родны Верхнядзьвінск у красоўках ды швэдры.



Яшчэ адзін чалавек з той самай калёніі вызваліўся ў сьнежні ў спартовых штанах і кашулі. На складзе ў яго была свая цёплая вопратка. Але кладаўшчыка на той момант на месцы не было, склад быў зачынены.

Зразумела, можна выйсьці на волю і ў казённым, але ў такім выпадку чалавек з самых першых хвілін рызыкуе натрапіць на вельмі насьцярожанае і недаверлівае стаўленьне з боку практычна кожнага стрэчнага.

Кіраўнік аднаго з цэнтраў рэабілітацыі і сацыялізацыі былых зьняволеных расказаў «Свабодзе ў турмах» пра мужчыну, які, вызваліўшыся з Глыбокага, праз адсутнасьць сродкаў пешкі прыйшоў да іх на Гарадзеншчыну. Вядома, ня кожны пасьля турмы мае такую матывацыю — дый фізычную сілу.

Але як дабрацца дадому і за што праіснаваць першы час на волі — гэта не адзінае пытаньне. Некаторыя вяртаюцца дадому — і аказваецца, што дома ў іх няма.

### *Ад Вадзіма Д.*

Вадзім Д. з Гомельшчыны сядзеў за кратамі тройчы. Апошнім разам адбываў два з паловай гады ў мазырскай ПК-20:

**— Калі мяне судзілі, дом яшчэ стаяў, а калі вярнуўся, дома не было. У сувязі зь перапляніроўкай тэрыторыі, якую праводзілі мясцовыя ўлады перад абласнымі «Дажынкамі», нават і фундамэнту не засталося. Зраўнялі ўсё. Асабліва шкада, што разам з домам закапалі і дарагія мне рэчы: граматы па шахматах, па бегу, падзякі, фоты, дакумэнты. Я знайшоў на пустцы толькі мячык, зь якім гуляў у дзяцінстве. Усё пайшло ў зямлю.**

Нейкі час мужчына «бамжаваў на аўтобусным прыпынку», пакуль не прытуліў школьны сябар.

Вадзім зьвяртаўся і ў сельсавет, і ў райвыканкам. Там патлумачылі, што «манэўранага» жыльлёвага фонду ў іх няма, інтэрнату таксама. Адзіная надзея — адміністрацыя прэзыдэнта. Можа, там дапамогуць. Былы асуджаны, дарэчы, Лукашэнку паважае і на чарговых выбарах ізноў будзе галасаваць за яго. «Паглядзіце, як мы няблага жывём, — заўважае хлопец, — а цяжкасьці паўсюль ёсьць».

Вадзім марыць аб тым, што будзе вучыцца, знойдзе жанчыну ды створыць сям'ю. Ён лічыць, што турма яго выправіла.

## Каб ня стаць бамжом

У райцэнтры Круглае на Магілёўшчыне былы асуджаны Аляксандар Лапуцін намагаецца ня стаць бамжом. За плячыма ў яго тры «ходкі». За кратамі 38-гадовы мужчына правёў больш за 10 гадоў. Апошні раз яго асудзілі на 12 гадоў, але за добрыя паводзіны пасьля паловы тэрміну зьмянілі калёнію на вольнае пасяленьне. Адбываў яго ў Круглым, дзе працаваў у мясцовым ПМК.

Сюды, а ня ў родны Магілёў, прыйшлося вярнуцца пасьля адбыцьця тэрміну. Справа ў тым, што пакуль Аляксандар быў за кратамі, бацькі памерлі. У бацькоўскую хату яго не пусьцілі. Як сьцьвярджае Аляксандар, гэтага не захацела родная сястра, якая пазьней праз суд выпісала яго з кватэры.

Паводле Аляксандра, праблемаў з працаўладкаваньнем у Круглым не было, бо раней ён «тут працаваў і добра сябе зарэкамэндаваў». Аднак калі б не мясцовая жанчына, якая яго прытуліла, без сумневу, зноў апынуўся б у месцах пазбаўленьня волі. Менавіта дзякуючы ёй стаў больш-менш на ногі. Заняўся індывідуальным прадпрымальніцтвам. Узяў крэдыты, каб закупіць тавар.



Пра праграмы сацыяльнай адаптацыі былых асуджаных Аляксандар чуў яшчэ на зоне, але на пытаньне, ці дапамагалі яму адпаведныя органы, калі ён вызваліўся, адказвае адмоўна. А некаторыя міліцыянты, кажа, дакаралі і жанчыну, якая дала яму прытулак.

### *Ад Аляксандра Лапуціна*

**— Нам у турме неаднойчы казалі: «А чаму вы рабуеце, крадзяце, што вас на гэта штурхае? Вось прыйдзіце, вам усе дапамогуць». Мне ніхто не дапамог. Акрамя вось гэтай кабеты. Я не хачу болей у турму. Большасьць людзей выходзяць адтуль, хочуць працаваць, але ж зэк — гэта як кляймо. Я не хачу сказаць, што сярод нашага брата ўсе добрыя, але ж многія з нас ня хочуць сядзець за кратамі.**

Мужчына лічыць: за доўгі час, праведзены ў турме, асуджаны прызвычайваецца да рэжыму такога жыцьця. Свабода для яго як невядомы сьвет, зь якім трэба яшчэ зжывацца:

**— Ты можаш тут нічога не ўчыніць кепскага, але зь цябе зробяць усё роўна ахвярнага казла. Прасьцей за ўсё сьпісаць нешта на зэка. Там, за кратамі, ёсьць нейкія абмежаваньні, рамкі — кожны ведае, што яму можна, а што нельга. Там, праўда, даводзіцца прагінацца, каб выжыць. А на волі вельмі цяжка без падтрымкі. Вось, крый Божа, закрыюць нас, прыватных прадпрымальнікаў. На мне вісіць 65 мільёнаў крэдыту. Дзе мне ўзяць такія грошы? Дзе знайсьці такую працу, каб выплаціць крэдыт? Тым больш, што ў мяне няма свайго жытла, нічога.**

Калі чалавеку пасьля вызваленьня «даць жытло, працу — нейкую стабільнасьць — ён болей ня пойдзе назад», перакананы Аляксандар.

**— Але ў нас такога няма. Выходзіш — і «на самацёк». Мяне хоць перавялі на пасяленьне, і я змог крыху адаптавацца да свабоды. Уладкаваўся на працу, зарабіў крыху грошай. А вось выпусьцілі б мяне з турмы на волю, дзе б я што ўзяў для таго, каб элемэнтарна пераапрануцца? Тут ты нікому не патрэбны.**

## «Міліцыі прасьцей ізноў пасадзіць»

Для жыхаркі Круглага Зінаіды Мілешчанкі аповед Аляксандра пра ягонае прывыканьне да свабоды — не навіна. Яна сама выйшла замуж за асуджанага.

### *Ад Зінаіды Мялешчанкі*

З мужам Зінаіда пазнаёмілася празь ліставаньне. Разам ужо 32 гады. Маючы досьвед абыходжаньня з былымі зэкамі, яна дапамагае цяпер іншым — і Аляксандру таксама. На пытаньне, ці дапамагае былым асуджаным міліцыя, Зінаіда Мілешчанка адказвае:

**— Яны не зацікаўленыя ў гэтым. Для іх нават прасьцей чалавека зноў пасадзіць, каб не было праблемаў. Бо гэта ўсё ж няпростая праца — прафіляктыка, гутаркі. А былы зэк — гэта чалавек, які ўжо баіцца міліцыянта і ў любым выпадку не ўспрымае яго як таварыша. У нас у Круглым нават няма псыхалягічнай службы пры міліцыі.**



Паводле Зінаіды, адмоўнае стаўленьне міліцыі да былых зэкаў пераносіцца і на тых, хто зь імі побач:

**— Я ведаю шмат сем’яў, дзе ёсьць былыя зэкі. Міліцыянты зьневажаюць іх. Тую самую жанчыну, якая прытуліла Сашу, яны лічаць нібыта дурной. А ў нас, калі проста сказаць, і замуж няма за каго выйсьці. Кожны чацьвёрты мужчына — былы зэк альбо сядзіць. А для міліцыі самі зэкі — другі гатунак нашага насельніцтва, а ўсе тыя, хто зь імі мае ўзаеміны, практычна іх саўдзельнікі. Выйсьці замуж за зэка — як учыніць злачынства.**

У Круглянскім раёне на 16 тысяч насельніцтва — больш за паўтары тысячы асобаў, якія мелі ці маюць суджанасьць. Больш як шэсьцьсот чалавек лічацца рэцыдывістамі.

## Ад чаго залежыць сацыяльная адаптацыя

Як кажа вэтэран МУС, былы палітвязень Сяргей Парсюкевіч, які атрымаў свой прысуд за бойку зь міліцыянтам, вярнуцца да нармальнага жыцьця ўдаецца мала каму.

### *Ад Сяргея Парсюкевіча*

**— Пакуль не запрацуе эканоміка, не запрацуюць і структуры, якія займаюцца пытаньнямі сацыяльнай адаптацыі былых зьняволеных. Яны ж не прымусяць нейкага кіраўніка прадпрыемства забясьпечыць працоўным месцам таго, хто вызваліўся з-за кратаў. Нават калі ў гэтага чалавека ёсьць высокая прафэсійная кваліфікацыя. То бок працоўныя месцы чалавеку прапануюць. Аднак**

**тыя, вакол якіх няма ніякай канкурэнцыі. Ты проста ня зможаш жыць за гэтыя грошы.**

**Большасьць былых ЗК выбірае шлях вяртаньня да ранейшага. Зьвязана гэта найперш з тым, што яны не разумеюць, што неабходна працаваць. За доўгі час адседкі ў выніку вымушанага гультайства адвыкаюць ад працы.**

**Па-другое, асяродак, у які яны трапляюць пасьля вызваленьня. Не заўсёды побач блізкія людзі, якія ў стане не дапусьціць кантактаў з ранейшым колам. І, зразумела, шмат што залежыць ад стаўленьня грамадзтва да гэтага пытаньня. Нават калі чалавек хоча рэінтэгравацца, яму пастаянна нагадваюць, што ён другога гатунку. Так званая «зэкафобія» ў нашым грамадзтве ўсё яшчэ застаецца вельмі вялікай.**

Былы палітвязень, у мінулым вядомы ваўкавыскі бізнэсовец, двойчы асуджаны Мікола Аўтуховіч, які вызваліўся з-за кратаў на пачатку 2014-га, кажа, што ён спрацаваўся б з тымі мужыкамі. Калі б не пяцігадовая забарона на прадпрымальніцкую дзейнасьць і калі б не канфіскацыя яго маёмасьці, ён бы абавязкова паспрабаваў рэалізаваць гэтую ідэю:

**— Калісьці я зьбіраўся купіць калгас. Нават была дасягнутая дамова, намесьніца міністра падпісала мой праект... Але калі наверсе даведаліся, што гэта хачу зрабіць я, адразу звольнілі таго старшыню. Шмат маю розных ідэяў. Напрыклад, вычысьціць нашы лясы. А для гэтага патрэбна шмат працоўных рук. Ці сэзонная праца: збор клубніц, потым цыбулі, потым памідораў. Толькі засадзі, а потым аднясі на рынак. Гэта ж прыбытак. Пастаў вагончыкі, ствары ўмовы для сэзоннай працы. Плаці людзям. Зэкі пойдуць, усе пойдуць.**



## Эміграцыя як шанец пачаць новае жыцьцё

Ці можа былы крымінальнік, тым больш неаднойчы суджаны за ня самыя сур'ёзныя злачынствы, аднойчы пасьля сваіх шматлікіх працяглых адседак стаць «нармальным грамадзянінам»? Ці яму гэта ўвогуле ня трэба, бо менавіта крымінальны лад жыцьця для яго і бліжэйшы, і больш арганічны?

Сталы аўтар «Свабоды ў турмах», у мінулым неаднойчы асуджаны Зьміцер Вольны, каля дзесяці гадоў таму, падчас апошняй адседкі, сказаў сабе, тады крымінальніку са стажам: больш турмы ў маім жыцьці быць не павінна, трэба вырывацца з гэтага заганнага кола. У тым ліку і з краіны, бо ў Беларусі шанцаў пачаць новае правільнае жыцьцё ён ня бачыў.

Вось ужо каля дзесяці гадоў Зьміцер Вольны жыве на Захадзе (назву краіны, як і яго сапраўднае імя, мы, як ён прасіў, не агучваем). Нядаўна былы мянчук наведаў радзіму. Падчас нашай сустрэчы расказаў, як на чужыне пачынаў усё з чыстай старонкі. Гледзячы на гэтага спартовага, маладжавага, сымпатычнага чалавека, ніколі ня скажаш, што за ягонымі плячыма — бурная крымінальная біяграфія з досьведам адседак на ўсіх турэмных рэжымах.

### *Ад Зьмітра Вольнага*

**— Я думаю, што нармальны, недурны, з больш ці менш разьвітым інтэлектам чалавек заўсёды задумваецца над пытаньнем аб правільнасьці свайго жыцьця: каб была прыстойная праца, добрая сям'я, дзеці.**

**Рэцыдывісты — не выключэньне. Разважаючы над усім гэтым, мала хто хоча вяртацца ў тое самае кола. Аднак у кожнага складаецца па-рознаму.**

Асабіста я быў настроены рашуча. Ну, напрыклад, мяне зусім не задавальняла тое, што я, здаровы і дастаткова малады чалавек, у якога ў парадку з галавой і рукамі і які хоча пачаць усё спачатку, пры самым вялікім маім жаданьні і самых шчырых намерах буду вымушаны працаваць за 200 даляраў на месяц максымум ды ня мець пэрспэктывы нармальна забясьпечваць сям'ю.

Таксама ў якасьці «крымінальнай спадчыны» я, сярод іншага, меў і нарказалежнасьць. З гэтым таксама вырашыў завязаць раз і назаўсёды. Таму мне тым больш трэба было зьехаць чым далей ад дому. Апынуўшыся за мяжой, я, дарэчы, ня стаў лячыцца, праходзіць розныя рэабілітацыі. Проста сказаў сабе: «Не». Усьвядоміў, што яно мне не патрэбна, калі я хачу жыць.

*— У вас быў нехта там, куды вы зьехалі?*

— За мяжой у мяне жылі сваякі. Яны апынуліся на Захадзе яшчэ падчас маёй апошняй адседкі, але працягвалі падтрымліваць мяне, пакуль я быў за кратамі. Я люблю сваю сям'ю — гэта вельмі годныя людзі.

Увогуле мой выпадак — гэта хутчэй выключэньне з правілаў, таму што большасьць маіх былых сукамэрнікаў або зноў сядзяць, або ўвогуле на могілках. Вядома, кожны робіць свой выбар сам. Аднак многія губляюцца на волі.

Ня ведаю, чаму з савецкіх часоў застаецца менавіта такая сыстэма, якая цалкам разбурае псыхіку чалавека, не рыхтуе яго да вяртаньня ў соцыюм. У выніку ў рэцыдывіста існуе гэткая самая залежнасьць ад турмы, як у наркамана ад наркаты. Гэта толькі першы раз ёсьць боязь. Пазьней няма ніякага страху, калі парушаеш закон. Ты заўсёды ўпэўнены, што пранясе, бо ты самы разумны і самы хітры. Але, аказваецца, ня самы разумны.



Далей усё абсалютна вядомае. СІЗА, чаканьне суду, этап у калёнію, карантын, атрад. А там зноў усё вядомае — гуляй сабе ў футбол, калі хочаш, у карты — хто ў што. Страх ёсьць, толькі калі ня ведаеш. А так усё банальна ды прадказальна.

*— За кратамі, бадай, кожны ЗК кажа, што ён «бязьвінна асуджаны»?*

— Усе кажуць, што не вінаватыя. Насамрэч, як і ва ўсім сьвеце, невінаватых сядзіць недзе працэнтаў дзесяць. Аднак усе будуць казаць пра ўласную невінаватасьць, пра «падставу», «заказуху», ды верыць у гэта.

Выпадковы чалавек на зоне — гэта той, у каго злачынства па неасьцярожнасьці або за перавышэньне самаабароны. Таксама ня ўпісваюцца ў турэмнае асяродзьдзе палітвязьні. Хоць сам я разам з палітычнымі не сядзеў, але выснову раблю на падставе таго, што чуў ад іншых. Палітзьняволеныя заставаліся людзьмі, апынуўшыся ў абсалютна чужародным для іх ваўчыным асяродзьдзі. Збольшага паводзілі сябе годна. Так, некаторыя пісалі прашэньні прэзыдэнту і г. д. А як яны павінны былі сябе паводзіць? Прытрымлівацца нейкіх блатных «паняцьцяў»? Навошта?

*— У вашым новым жыцьці ў новай краіне што-небудзь спатрэбілася з ранейшага турэмнага досьведу?*

— Абсалютна не (сьмяецца). Хіба могуць спатрэбіцца ў нармальным жыцьці такія навыкі, як «ганяць коней праз краты» (у перакладзе на нармальную мову — гэта перадаваць «пасылкі» «па паветры» з адной камэры ў другую. — *Аўтар*)? Або ўменьне здабыць агонь, круцячы вату падэшвай абутку? Або як здабыць зь лямпачкі электрычнасьць, каб згатаваць той самы чыф ці проста гарбату (гэта калі кідаеш плюс на лямпу, а мінус на батарэю ці трубу)?

**Хіба што патрэбны такі досьвед, як уменьне «чытаць людзей». Пра рэцыдывістаў нярэдка можна пачуць, што яны вельмі нядрэнныя псыхолягі, бо ў іх перад вачыма праходзіць столькі самых розных тыпаў людзей. І ты вучысься адрозьніваць сапраўднае ад несапраўднага. І за кратамі, і ў жыцьці сустракаецца нямала тых, хто імкнецца пад выглядам дружбы спагнаць зь цябе па поўнай праграме. Уменьне трошкі разьбірацца ў людзях — гэта, бадай, адзіны плюс з турэмнага досьведу. Там, дзе жыву я, абсалютна іншае жыцьцё.**

*— Ваша інтэграцыя ў такое незнаёмае грамадзтва пачалася з вывучэньня мовы?*

**— Акурат з мовай было ня так ужо і цяжка. У мяне пасьля заканчэньня роднай беларускай школы была вельмі нядрэнная база. Але ўсё роўна я пайшоў на моўныя ўрокі ў школу, дзе навучаюцца эмігранты. Бо інакш немагчымы ніякі прафэсійны рост.**

**Кепска ведаючы мову краіны пражываньня, ты, тым ня менш, ня будзеш галадаць, у цябе будзе дах над галавой, ты будзеш апрануты ды абуты. Але максымум, на што ты зможаш разьлічваць, — гэта нізкааплатная праца. А я хацеў расьці прафэсійна. Я і цяпер удасканальваю сваю мову, бо шмат працую з кліентамі з карэннага насельніцтва.**

**У мяне нядрэнны, запатрабаваны бізнэс. Думаў спачатку нават паступаць ва ўнівэрсытэт. Але ўсё-ткі пайшоў па шляху найменшага супраціву. Думаю, гэта правільнае рашэньне, трэба было наладжваць жыцьцё, зарабляць грошы. На самым пачатку прыйшлося працаваць па 10–12 і нават па 18 гадзін у суткі. Але мне гэта падабалася. Я, па сутнасьці, упершыню пачаў рэальна зарабляць.**

**Наагул, я не баюся ніякай працы. Я ўпарты. Мне падабаецца мой цяперашні бізнэс, але калі яго ў мяне ня будзе, вазьмуся за іншую працу. Тут я набыў некалькі спэцыяльнасьцяў. Праца тут — галоўнае.**

*— Што вам падабаецца на новым месцы жыхарства?*

**— Там вельмі шануюцца такія паняцьці, як «твая сям'я» і «твая краіна». Я палюбіў гэтую краіну. Калі я там упершыню апынуўся, я зразумеў, што гэта тое месца, дзе мне вельмі хацелася б жыць.**

**Мне падабаецца, калі мне ўсьміхаюцца. Няхай гэта часам фармальна, але гэта лепш, чым агрэсія. Яшчэ за гады, што я жыву ў гэтай краіне, у мяне рэзка памянялася атачэньне. Чалавек цесна кантактуе з тымі, хто яму блізкі. Узгадваючы тое сваё жыцьцё, я разумею, хто быў вакол мяне і кім быў я сам. Я знаходзіўся, паводле Горкага, на дне, самым-самым. Цяпер я ў зусім іншым сьвеце, побач са мной зусім іншыя людзі.**

**Я далёкі ад містыкі чалавек. Але ўсё часьцей задумваюся над тым, што менавіта так і мусіла быць — пасьля доўгага і няпростага шляху чалавек прыходзіць да таго, што было закладзена ў ім першапачаткова.**

Істотны момант: у краіне, дзе цяпер жыве Зьміцер, грамадзтва ня робіць з былых асуджаных ізгояў. Пра чалавека мяркуюць паводле таго, што ён сабой уяўляе ў дадзены момант. Большасьць новых знаёмых Зьмітра ня ведаюць пра яго былое жыцьцё. Па сутнасьці, гэта іх і не хвалюе.

## Заходні досьвед

Паводле палкоўніка міліцыі Алега Алкаева, які ад 2001 году жыве ў Бэрліне, прыкладна такое самае стаўленьне да «былых» і ў Нямеччыне. Чалавек, які выходзіць на волю, адчувае сябе дастаткова ўпэўнена. Яго чакае нармальны сацыяльны пакет.

*Ад Алега Алкаева*

— Тут, сядзеў ты або не, калі ў цябе законнае права на пражываньне, ты атрымаеш кватэру і дапамогу, ня меншую, чым у іншых, хто не сядзеў у турме. Аднак перанесьці гэта ў беларускія ўмовы, зразумела, нерэальна.

У часы маёй працы ў Беларусі са 100% «першаходаў» у рэцыдывісты, на строгі рэжым, «плаўна перацякалі» недзе 80%. У выніку толькі 20% назаўсёды «завязвалі» з турмой, яшчэ меншая колькасьць зь іх станавілася законапаслухмянымі грамадзянамі. Сёньня рэцыдыў сярод асуджаных (47%) істотна меншы, чым тады, але ўсё ж не такі нізкі, як мог бы быць.

Што застаецца нязьменным у пэнітэнцыярнай сыстэме — дык гэта надзвычай нізкі стан сацыяльнай адаптацыі асуджаных пасьля вызваленьня. Практычна дзяржава гэтым не займаецца. І гэта галоўная прычына, якая спрыяе высокаму адсотку рэцыдыву.

# ЗОНА ГІСТОРЫІ

**Галоўныя функцыі любога музэю — гэта зьбіраць, ахоўваць і адукоўваць.**

У гэтым сэнсе музэі турмы, якія дзейнічаюць сёньня шмат у якіх эўрапейскіх краінах і традыцыйна вабяць багата экскурсантаў-турыстаў — не выключэньне. Месьцяцца гэткія экспазыцыі ў старых адрэстаўраваных вязьніцах. Вылучаюцца тым, што прапануюць наведнікам ня толькі пабачыць нейкія старыя дакумэнты і рэчы, але і акунуцца ў турэмную атмасфэру мінуўшчыны.

Формы падачы той або іншай турэмнай гісторыі могуць быць самымі рознымі, аж да папулярных цяпер квэстаў. Усё, каб адлюстраваць і данесьці да цікаўных турэмную атмасфэру мінуўшчыны, характар злачынстваў і пакараньняў у пэўнай краіне ў пэўны час.

На тэрыторыі Беларусі ёсьць сама меней чатыры помнікі культурна-гістарычнай спадчыны, у якіх тэарэтычна маглі б быць створаныя музэі турмы. Гэта самая старажытная вязьніца ў краіне — Горадзенская, дзе ўсё яшчэ дзейнічае турма № 1; калёнія ў Глыбокім, што ў Беразьвецкім кляштары; сьледчы ізалятар у Бабруйску, што ў крапасным форце ў вежы Апэрмана; і менскі Пішчалаўскі замак, дзе месьцяцца сьледчы ізалятар № 1 і Рэспубліканскі турэмны шпіталь.

Дыскусіі, ці надаць гэтым месцам новае жыцьцё, вядуцца даўно, а будынкі тым часам памалу разбураюцца. Адмыслоўцы мяркуюць, што некаторых помнікаў, можа, наступныя пакаленьні ўжо і ня ўбачаць.



*Ад Антона Астаповіча*

У інтэрвію «Свабодзе ў турмах» у студзені 2015 году, калі рыхтавалася адмысловая передача пра ўсе гэтыя чатыры вязьніцы, старшыня Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч сказаў:

**— З усіх чатырох вязьніц толькі Пішчалаўскі турэмны замак выконвае сваю функцыю ад самога пачатку (дваццатыя гады XIX стагодзьдзя) і да сёньня. Бабруйская крэпасьць страціла сваё стратэгічнае значэньне ў 1850–1860-я гады, і пасьля гэтага фартыфікацыйныя збудаваньні пачалі выкарыстоўваць у якасьці турэмных. Тая самая вежа Апэрмана ўжо сто пяцьдзясят гадоў выкарыстоўваецца як турэмны будынак. А збудаваньні ў Глыбокім і Горадні сталі турэмнымі пры бальшавіках, хоць адпачатку мелі зусім іншае прызначэньне.**

**У самым жахлівым стане Пішчалаўскі замак. Ён разбураецца на вачах, і каб захаваць яго, патрабуецца якасная рэстаўрацыя ды капітальны рамонт.**

На той час (студзень 2015 году) Антон Астаповіч меў зьвесткі, што нібыта гарадзкія ўлады, якім належыць будынак, рыхтуюць тэндэрную прапанову на праектныя працы па турэмным замку. Тэндэр меліся абвясьціць, як толькі турэмны комплекс пераедзе з цэнтру гораду ў Калядзічы. Дагэтуль Менгарвыканкам выступаў з прапановай ператварыць турму ў гатэль, аднак інвэстара так і не знайшоў.

Што да пераезду СІЗА № 1 разам з Рэспубліканскім турэмным шпіталём з вуліцы Валадарскага ў Калядзічы, то новы комплекс указам прэзыдэнта належала збудаваць за 2010–2015 гады. Аднак у 2013-м у СМІ зьявіліся зьвесткі пра карупцыйны скандал на турэмнай будоўлі і пра тое, што здача аб’екту пераносіцца на некалькі гадоў.

## «Думаю, «Валадарку» аддадуць пад бізнэс-праект»

Менскі гісторык, фігурант «справы Плошчы», былы палітзьняволены Зьміцер Дрозд адседзеў на «Валадарцы» паўгода. Потым адмыслова вывучаў архіўныя дакумэнты, зьвязаныя з гісторыяй Пішчалаўкі. Кажа, што яшчэ на пачатку XIX стагодзьдзя, на стадыі праектаваньня, архітэктары ды будаўнікі дапусьцілі сур'ёзныя памылкі, і ўжо праз досыць кароткі час менская турма пачала патрабаваць ад турэмнага ўпраўленьня Расейскай імпэрыі грошы на рэканструкцыю і рамонт.

### *Ад гісторыка*

**— Пішчалаўскі замак быў звычайным для тагачаснай Расейскай імпэрыі тыпавым праектам. Падобныя турэмныя збудаваньні захаваліся ў розных гарадах сучаснай Расеі ды Ўкраіны. Пішчалаўка была пабудаваная, паводле мерак таго часу, з шэрагам памылак. Як вынікае з архіўных дакумэнтаў, ёй пастаянна патрабаваўся рамонт, і ў будынак увесь час укладаліся фінансавыя сродкі. Зь іншага боку, турэмны статус ратаваў замак ад заняпаду і нават зьнішчэньня. Калі б у нейкі момант зь яго зрабілі нешта менш «карыснае», чым вязьніца, яго б ужо не было.**

Паводле Зьмітра Дразда, у турэмным Пішчалаўскім комплексе захаваўся на сёньня хіба што белы мур, якім быў абнесены замак, ды яшчэ стайні — пры Саветах іх перарабілі на жаночыя карпусы, і гэтую функцыю яны выконваюць аж дагэтуль.



**— Сёньня сам Пішчалаўскі замак як турма фактычна не функцыянуе. Асноўная нагрузка сёньня кладзецца на пабудаваныя пры Саветах новыя карпусы, дзе сядзеў я і сядзяць іншыя ЗК. Аднак падчас майго паўгадавога зьняволеньня я штодня мог глядзець на замак з акна і бачыў яго, прынамсі адну яго палову, вельмі добра. Там абсалютна пустыя вокны, дзе ніколі не загараецца сьвятло. Там няма ніякага жыцьця. А сам будынак сьцягнуты такімі зялёнымі мэталічнымі сьцяжкамі, якія яго трымаюць, каб ён канчаткова не разваліўся. Як і адна зь вежаў, рэстаўраваць якую, на мой погляд, ужо немагчыма.**

**Па сутнасьці, у самім замку пры мне функцыянавалі толькі падвалы. Шэсьць месяцаў мы хадзілі празь іх на прагулку ў турэмны дворык. У прынцыпе, там можна было і па вуліцы прайсьці, але прынята ўсё ж спускацца і ісьці на прагулку праз сутарэньне. Цяпер там захоўваюцца матрацы, падушкі. Памяшканьне ўвесь час залівае, і туды кладуць насьцілы. Пры мне было, падалі, пасьлізнуўшыся на тых дошках, арыштанты і разьбівалі сабе насы, ілбы ці што іншае.**

**У самы першы дзень, калі мяне павялі на прагулку, сукамэрнікі паказалі мне ў падвале на адны зачыненыя дзьверы. Яны сказалі, што гэта памяшканьне, дзе расстрэльваюць людзей. Я ня ведаю, наколькі гэта праўда. Але бадай усе вязьні ў гэта вераць. Там ёсьць сьцены 70-сантымэтровай таўшчыні, і калі расстрэльваць, ніхто нічога не пачуе. І гэтая рэальная рэч узьдзейнічала нашмат больш, чым розныя самыя страшныя турэмныя легенды.**

Як перакананы Зьміцер Дрозд, Пішчалаўскі замак, калі яго рэстаўраваць і зрабіць зь яго музэй, мог бы шмат расказаць людзям пра 200-гадовую гісторыю зьняволеньняў у Менску. Тым больш што ў беларускай

сталіцы вельмі мала гістарычных помнікаў. Аднак ці здарыцца такое, Зьміцер ня ўпэўнены.

**— Так, гісторыя гэтай турмы вельмі цікавая, бо там сядзела шмат вядомых людзей, арганізоўваліся ўцёкі. У Менску, дзе захавалася вельмі мала гістарычных помнікаў, музэй такога кшталту меў бы шмат наведнікаў. Аднак для гэтага патрэбныя вялікія ўкладаньні. Патрэбная таксама нейкая палітычная воля. Пры цяперашняй сытуацыі я думаю, што «Валадарку» аддадуць пад нейкі бізнэс-праект. Месца тут для продажу вельмі добрае.**

## «Сьцены псуюцца ня надпісамі, а больш праз волкасьць»

Былы палітвязень Зьміцер Дашкевіч сядзеў і на «Валадарцы», і ў гарадзенскай турме.

*Ад былога вязьня*

**— Стан «Валадаркі», калі глядзець на разваленыя вежы, жахлівы. Я першы раз быў зьмешчаны на «Валадарку» ў 2006 годзе, і ўжо гэта быў такі дабіты будынак, змацаваны скобамі жалезнымі, каб не развальваўся. Стан такіх гістарычных збудаваньняў, як глыбоцкая турма-калёнія або гарадзенская турма, — ён троху лепшы. Ня ведаю, з чым гэта зьвязана. Можа, з тым, што там меншыя патокі людзей, чым у Менску.**

**Ну, напрыклад, той корпус у Горадні, дзе я адбываў пакараньне ў «крытай турме» — ён вельмі добра аздоблены з гістарычнага пункту гледжаньня, то бок зробленая рэстаўрацыя. Там на некаторых калідорах адмыслова пакінулі, каб былі бачныя камяні муроў, якія пры будаваньні выкарыстоўваліся. І я нават сустракаў інфармацыю, што водзяць экскурсіі па гарадзенскай турме. Мажліва, яна ў нейкім пляне выкарыстоўваецца — нягледзячы на тое, што там адбываюць пакараньне людзі, — як гістарычны аб’ект.**



*— А што ўнутры? Ці робіцца рамонт? У якім стане сьцены? Ці могуць вязьні на іх нешта пісаць, пазначаць, колькі яны праседзелі? Або гэта будзе парушэньне?*

**— Трэба разумець, што чалавек не заехаў на пару сутак ці на месяц. Тая самая гарадзенская турма або камэры глыбоцкай калёніі — месца, дзе людзі сядзяць па 3, 5, 10 гадоў. Гэта фактычна іх дом, і яны зацікаўленыя ў тым, каб там ніякіх надпісаў не было. Ну і, натуральна, адміністрацыя на гэта зьвяртае ўвагу.**

**Там сьцены псуюцца ня нейкімі надпісамі, а больш праз волкасьць. Напрыклад, у гарадзенскай турме калідоры аздобілі, зрабілі рэстаўрацыю. А камэры ў жахлівым стане: фарба ад вільгаці аблазіць, вэнтыляцыі няма, таму што вялікія памяшканьні падзялілі на 2, 3, 4 камэры. Калі ў такім стане будынак пабудзе яшчэ дзясятак-другі гадоў, то мала што там застанецца.**

## «Бабруйская турма захавалася знутры ў някепскім стане»

Што тычыцца Бабруйскага СІЗА, які месьціцца ў вежы Апэрмана, то, паводле былых яго вязьняў, унутры турма захавалася значна лепш, чым тая самая «Валадарка». Магчыма, гэта зьвязана з тым, што Бабруйскую крэпасьць узводзілі не паводле тыпавога праекту, а на адмысловую замову расейскага імпэратара Аляксан-

дра. Будавалі яе найлепшыя інжынэры, выкарыстоўваючы самыя трывалыя матэрыялы з усяго сьвету. У савецкія часы (1960-я гады), калі тут пачаў дзейнічаць сьледчы ізалятар, у ім, адрозна ад іншых турмаў, што месьцяцца ў гістарычных будынках, правялі татальную рэканструкцыю.

Былы палітвязень, які атрымаў прысуд за ўдзел у пратэстах прадпрымальнікаў, маладафронтавец Арцём Дубскі правёў у вежы чатыры месяцы. Ён успамінаў:

**— Паводле памераў гэтая пабудова ня надта вялікая. Прыкладна такая, як Белдзяржцырк. Чаго толькі ў гэтай вежы не было: і розныя стайні, і склады снарадаў падчас Другой сусьветнай вайны, і даўгавая турма. Аднак у будынку знутры ўсё, відаць, захавалася так, як і 200 гадоў таму. То бок тут і 200-гадовая цэгла, і новая, якой спрабуюць заштукоўваць дзіркі і адтуліны, а яна не вытрымлівае кліматычнага ўзьдзеяньня і разбураецца. Знутры вежа ў добрым стане. Звонку выглядае ня вельмі.**

У архіўных дакумэнтах канца пазамінулага стагодзьдзя чытаем запіску ў Галоўнае ўпраўленьне турмаў ад прадстаўніка камісіі па праверцы, дзе стану бабруйскай вязьніцы даецца высокая ацэнка. Як адзначаецца ў запісцы камісіі па праверцы турмаў, «добры бок вязьніцаў у Менскай губэрні ў тым, што колькасьць зьмешчаных у іх арыштантаў звычайна не перавышае той колькасьці, якая закладзеная ў праект, і што турэмныя замкі ў гарадах Менску, Ігумене (цяперашні Чэрвень. — *Аўтар*), НавагрАдку і Бабруйску каменныя і зусім трывалыя».



# Калі турэмны мур у цэнтры гораду

Калі будынак турмы — помнік архітэктуры, гэта азначае, што ёсьць гаспадар і догляд. Аднак на практыцы нярэдка бывае зусім ня так. Ці трэба вызваляць гістарычную забудову ад турэмных установаў? Свой погляд на праблему выказвае Антон Астаповіч, старшыня Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

## *Ад Антона Астаповіча*

**— Гарадзенская турма № 1 — гэта палова гістарычнага кварталу, які, пачынаючы з XVII стагодзьдзя, займалі будынкі езуіцкага калегіюму. Комплекс старых камяніц — помнік архітэктуры. Другая палова кварталу — гэта будынкі дыяцэзіяльнай курыі і гмах катэдральнага сабору. Астрог тут пару стагодзьдзяў, з часоў цара Аляксандра I. Дваццаць гадоў таму на гарадзкой ускраіне быў выдзелены пляц, каб пабудаваць новую вязьніцу, бо з цэнтру гораду турму вырашылі нарэшце прыбраць.**

**Новую турму плянавалася пабудаваць на землях за прадпрыемствам «Хімвалакно». Грошай тады не знайшлі, і праект паклалі пад сукно. Аднак патрэба вынесьці турму з гістарычнай забудовы ня зьнікла. Цярпіць турыстычная прывабнасьць гораду. Многія сьвяты, канцэрты праходзяць пры самых турэмных мурах.**

## Ад суседзяў

Гарадзенка сталага веку, што жыве ў цэнтры гораду на вуліцы Савецкай, каля турмы № 1, дзеліцца сваімі ўражаньнямі ад такога суседства.

**— Вось я тут жыву шмат гадоў, і ў мяне ўвесь час нейкі цяжар на сэрцы ад гэтага муру. Калі тут праходжу, то настрой заўсёды псуецца. Заўсёды не па сабе, калі бачу машыны, якія прывозяць ці некуды адвозяць зьняволеных. Часта бачу, як іх выводзяць фарбаваць сьцены. Яны ў робах, адчуваюць сябе няёмка, увесь час азіраюцца. Турэмныя машыны стаяць адна за адной, а побач сабакі разам зь міліцыянтамі.**

**Дарэчы, сабакі не даюць спаць па начах — так моцна і няспынна яны брэшуць. Гэта ня можа не нэрваваць ня толькі тых, хто жыве побач. Ня ўпэўненая, што тут ёсьць магчымасьць утрымліваць у нармальных цывілізаваных умовах злачынцаў. А гэта ніяк не спрыяе таму, каб яны вярнуліся ў грамадзтва нармальнымі людзьмі.**

## «Замест аднаго лядовага палаца магла б атрымацца адна сучасная турма»

Былы начальнік «Валадаркі» Алег Алкаеў лічыць, што сёньняшняя турма павінна быць сучасным збудаваньнем, выкананым з улікам гуманных патрабаваньняў да ўтрыманьня вязьняў. Зыходзячы з эўрапейскага досьведу, дасягнуць выпраўленьня або рэсацыялізацыі ў іншых умовах немагчыма. А значыць, дзяржава проста марнуе грошы на ўтрыманьне парушальнікаў закону.



### *Ад былога начальніка турмы*

*— Пішчалаўскі замак, у якім раней, акрамя сьмяротнікаў, трымалі і іншых вязьняў, відаць, пачаў разбурацца яшчэ пры вас?*

**— Сам па сабе будынак вельмі грунтоўны. З такімі сьценамі ён мог бы прастаяць шмат. Проста перакрыцьці там драўляныя. А іх трэба было мяняць. Зразумела, турма разбуралася. Вялікія патокі вады для мыцьця, вэнтыляцыя слабая, вільгаць. Сродкі выдзяляліся толькі на касмэтычны рамонт — пабяліць, пафарбаваць.**

**У начальніка турмы займацца гэтым магчымасьцяў не было. У мяне нават ніхто і не пытаўся, як можна што палепшыць. Усё вырашалі міністэрскія чыноўнікі, якія на кароткі час наведвалі турму. Бюджэт выдзяляў капейкі, на якія ня купіш ні цэмэнту, ні цэглы. Заўсёды быў аргумэнт: усё стаіць і так, чаго яшчэ трэба.**

Алег Алкаеў перакананы, што старыя пабудовы — нават тыя, якія ствараліся, накшталт «Валадаркі», адмыслова як астрог, — павінны атрымаць новае жыцьцё як гістарычныя аб’екты. Бо гэта вельмі важны кавалак гісторыі, якую павінны ведаць дзеці і ўнукі сучасных беларусаў.

## Турэмныя байкі. Ад зэкаў беларускіх і савецкіх вязьніц

Сярод нематэрыяльных экспанатаў меркаванага музэю турмы магло б знайсьціся месца так званым «зэкаўскім байкам», як неад’емнай частцы традыцыі турэмнай культуры. Гэта кароткія гісторыі з жыцьця арыштантаў — і вясёлыя, і ня вельмі. Збольшага падзеі,

пра якія ў іх ідзе мова, адбываліся насамрэч, аднак расказчыкі заўсёды ўпрыгожвалі іх яркімі дэталямі, жывым сакавітым крымінальным арго, уласным арыштанцкім гумарам. Для нашай праграмы апавядальнікі, безумоўна, цэнзуравалі мову, а тэмаў засталося ўсяго дзьве: як хітрыя зэкі дурылі мянтоў і як спрабавалі ўцячы на волю. Самі зьняволеныя кажуць: зэк ня быў бы зэкам, калі б не абдурваў ды ня марыў.

*Ад старога рэцыдывіста Мікалая І.*

**— Сядзеў я шмат дзе. У Воршы, Горадні, у Менску на Кальварыйскай, нават у піцерскіх «Крастах» пры Саветах.**

**Хто ня ведае, у «Крастах» камэры невялікія па плошчы. Ад дзьвярэй да рэшка — 3,5–4 мэтры. У адной камэры зэкі склеілі з газэт доўгую трубу, адзін канец вывелі, адхіліўшы жалюзі, у начное зорнае неба, другі канец прыставілі да «вочка». Потым пастукалі ў дзьверы: «Камандзір! Падыдзі, камандзір!»**

**«Камандзір» падышоў неахвотна і перш за ўсё, згодна са статутам, зазірнуў у «вочка». Убачыўшы замест асьветленай камэры з зэкамі зоры на небе, «камандзір» кінуўся па падмогу. Пакуль тое, трубу спусьцілі ва ўнітаз без астатку. «Камандзіра» паслалі на абсьледаваньне да псыхіятра.**

*Ад былога рэцыдывіста Ісы А.*

Напалову чачэнец, напалову беларус — Іса сядзеў у савецкіх, расейскіх, казахстанскіх ды беларускіх турмах. Узгадвае былога сукамэрніка, які ўмеў падрабляць грошы самымі элемэнтарнымі сродкамі.

**— Гэта было за савецкім часам, калі грошы былі зь Леніным. Той мастак рабіў гэта ў якасьці прыколу. «Дзясятку» маляваў звычайнымі каляровымі**



**самапіскамі. А потым уначы даваў яе кантралёруміліцыянту, каб той нешта нам купіў. Дарэчы, куплялі. Такая падробка была выдатная.**

**Яшчэ памятаю, як, ізноў-такі пры саветах, сабраліся неяк трое дзецюкоў гарэлачкі папіць. Гарэлкі не было. Затое быў сьпірт. Сядзяць, значыць, у кацельні, бутлю зьнішчаюць. Але сьпірт — не гарэлка, у выніку ўсе трое — у нуль. Ну, думаюць, трэба разыходзіцца. Ідзе адзін да сябе ў атрад, сьценку падпірае рукой, а часам целам, каб тая ня ўпала. Засталося за рог завярнуць, пяцьдзясят мэтраў — і ўсё, ужо не запаляць. А тут з-за рога мент выходзіць. Зэк, натуральна, зьбівае яго з ног. Мент падае, вочы вылупіў, паветра ротам хапае, як рыба, а гэты па-змоўніцку падміргвае, адкрывае рот і, распускаючы па ўсёй акрузе пах сьвежага сьпірту, падносіць палец да вуснаў: «Тсссс! Ты мяне ня бачыў!»**

*Ад старога рэцыдывіста Валодзі В.*

**— За брэжнеўскімі часамі, недзе пры канцы 1960-х, у Глыбокае прыбыла камісія на чале з інструктарам абкаму партыі. Вязьні (а гэта былі асабліва небясьпечныя рэцыдывісты) вырашылі яго разыграць. З блякнотам у руках інструктар пачаў пытацца, на што скардзяцца, якія прэтэнзіі. Устае адзін зэк і кажа:**

**«Грамадзянін інструктар, чаму трэці месяц не прыходзіць часопіс «Малады камуніст»?**

**Другі спытаў пра часопіс «Пытаньні філязофіі».**

**Інструктар запісаў усе прэтэнзіі ў нататнік.**

**Тады адзін худы, хворы на сухоты зэк устаў і кажа: «Чаму ў нас такія нормы малыя, дзьве рыдлёўкі кінуў — і ўсё?! Дваццаць гадоў сяджу, а нормы тыя самыя».**

Потым той зэк дадаў: «Вось таму мы такія здаровыя, што нормы малыя».

Калі інструктар зрабіў рэзюмэ: «Які энтузіязм!», — начальнік калёніі, сагнуўшыся ад сьмеху, знайшоў прычыну вывесьці госьця з нататнікам у калідор.

*Ад Зьмітра Вольнага*

— Гэта было ў Глыбокім, ужо ў незалежнай Беларусі, на пачатку нулявых, калі яшчэ ў калёніі быў асаблівы рэжым. Нас практычна ўсёй камэрай, чалавек 15, пасадзілі за ўжываньне сьпіртных напояў.

Здарылася ўсё акурат напярэдадні маіх народзінаў. Тады ў Глыбокім часьцяком гналі гарэлку. А ў нашай «хаце» дык пастаянна, не перастаючы. Штодзённыя абходы кантралёраў, вядома ж, былі. Але гэта ня значыць, што ў камэры быў пах гарэлкі. А калі няма падставы, дык і шманаць ня будуць.

Але тым разам мы самі навялі на сябе мянтоў. Цяпер узгадваеш, дык толькі сьмяяцца хочацца.

Аднаму нашаму захацелася, каб патапталіся па ягонай сьпіне, тыпу косткі разьмяць. Нехта патаптаўся, а ў яго плячо і заклініла, нешта накшталт вывіху атрымалася. Стогне — маўляў, баліць, не магу. Ну, мы спрабавалі плячо на месца паставіць. Нічога не выходзіць. Баліць, не адпускае.

Што рабіць? Трэба доктара выклікаць, хоць разумеем, што будзе, калі выклічам. Але мы ж не зьвяры, мы людзі.

Ну, стукаем, каб доктара выклікалі. Кантралёр адчыніў. Тут адразу і пачуў пах, зараза.

Празь некалькі хвілін дзьверы адчыніліся і зайшла амаль уся іх зьмена. Нас вывелі — і на трубку ўсю «хату». Траім удалося саскочыць, трубку падманулі. Ну, а астатнія — у ізалятар на 15 сутак. Плячо, праўда, выправілі.



Ну, а потым ужо ў ізалятары мы і адзначылі маё сьвята. Гарбатка была, цыгарэты былі, а што яшчэ трэба для шчасьця ў ШЫЗА?

*Ад колішняга навукоўца, палітвязьня і двойчы зэка Міхаіла Жамчужнага*

— Неяк у Наваполацку мяне моцна абмежавалі ў кантактах з вонкавым сьветам — ні званка, ні спатканьня. Лісты таксама не даходзілі. Мусіў шукаць самыя розныя спосабы камунікацыі з воляй.

Падказку далі каты, якіх было багата на зоне. Яны прыбягалі да нас з суседняй вёскі, пад дротам прабіраліся ў калёнію і пасьвіліся пераважна ля сталоўкі. Тады і прыйшла ідэя выдрэсіраваць аднаго, каб быў нашым кур'ерам і перапраўляў карэспандэнцыю праз дрот.

Спачатку з катом пасябравалі, прыручылі, каб ён нас не палохаўся. Потым было проста — зрабілі такі мяшэчак. Адной вяровачкай прымацавалі ў яго на шыі, а другой — пад жыватом.

Выхавалі некалькі кур'ераў. Паступова каты настолькі прызвычаіліся да гэтай гульні, што спакойна на вачах у мянтоў гулялі па зоне з тымі мяшэчкамі, а потым спрытна пераскоквалі зь імі праз плот.

Наш кот-кур'ер жыў на волі, у гаспадароў. Прыбягаў да нас у калёнію ў сталоўку. Любіў паесьці. Гэта быў вельмі кантактны кот. Мяшэчак на шыю павесіць яму было элемэнтарна. Наеўшыся і нагуляўшыся, уцякаў дадому.

Асабіста я ўкладаў у такі мяшэчак карэспандэнцыю для тых, хто на волі. Бо мне было афіцыйна забаронена і ліставацца, і тэлефанаваць.

З волі на зону ішлі зваротныя лісты. Некаторым зэкам з катом дасылалі мабільнікі, цыгарэты, алькаголь. Гаспадары майго ката, як і большасьць тых, хто жыў побач з калёніяй, спачувалі зэкам.

Гэтыя людзі адсылалі нашы лісты на пазначаны адрас, наладжвалі кантакты з нашымі блізкімі, і тыя выконвалі потым нашы просьбы.

Калі на ката «стукнулі», адміністрацыя загадала іх усіх адлоўліваць. Расказвалі, што кантралёрам павыпісвалі нават прэміі — парадку 100 тысяч рублёў. На той момант, калі сядзеў я, гэта былі добрыя грошы. Амаль паўзарплаты. За аднаго ката, злоўленага ўнутры забароненай зоны.

Нейкі час на зоне ўвогуле не было катоў. Але ж зэкі не спыняліся і прыдумлялі іншыя спосабы.

*Ад рэцыдывіста Ігара М.*

— Ад старэйшых сядзельцаў Івацэвіцкай папраўчай калёніі № 5 я нярэдка чуў гісторыю, як на пачатку 1990-х дзьве галяндзкія фірмы спрабавалі наладзіць на зоне вытворчасьць па ачыстцы крэвэтак. Як казалі тыя людзі, галяндцы проста не разумелі, з кім яны будуць мець справу. Выглядала так. Пригналялі фуру, пакідалі на «промцы», задача асуджаных была — чысьціць крэвэтак ад панцыра. Уяўляеце сабе такое: галодным зэкам даюць працаваць зь ежай?! Тых крэвэтак і елі, і кралі, а замест іх ва ўпакоўкі клалі розныя балты... Зразумела, бізнэс стаў вельмі стратным для галяндцаў. Затое зэкі, якія тады прайшлі праз ПК-5, узгадваюць заходніх прадпрымальнікаў вельмі цёпла. Яны елі гэты далікатэс — зразумела, не ў сталоўках — і на сьняданак, і на абед, і на вячэру.

Больш нічога такога замежнікі ў ПК-5 ня ладзілі.



*Ад бізнэсоўца Мікалая Д.*

— Гэта здарылася ў канцы 1990-х. Я быў падсьледным «Валадаркі», і мяне павезьлі на сьледчы экспэрымэнт у Заводзкім раёне. Пра тую маю спробу ўцёкаў у свой час нават пісаў «Вячэрні Мінск».

Уцёкі я плянаваў загадзя ў СІЗА. Ісьці на суд за артыкулы, якія на мяне навесілі, не хацелася. Таму адмыслова ішоў на яўкі з павіннай і настойваў на сьледчым экспэрымэнце. І вось мяне прывезьлі пад канвоем на адну кватэру, нібыта на месца злачынства, дзеля экспэрымэнту.

Сьледчы быў са сваёй пішучай машынкай. У тыя часы такімі карысталіся, і яны былі па адной на кабінэт. Падчас допыту я ўзяў машынку ў рукі, працягнуў яе сьледчаму, кажу: «Трымай!»

Ён, вядома, узяў, ухапіўся за яе дзьвюма рукамі і трымаў. А я выскачыў у вакно. Забег у суседні пусты стары дом, які быў на рэканструкцыі. Залез на самы верх, на бэльку нейкай кватэры. Сядзеў на той бэльцы гадзіны тры і адчуваў сябе ўмоўна свабодным.

Потым зьявіліся мянты з сабакамі. Абышлі дом, але нічога не знайшлі. Усё быццам бы абышлося, каб адзін мент, які быў без сабакі, сыходзячы, не падняў галаву. Мяне раскрылі.

Залезьці наверх ніхто не рызыкнуў. Хутка прыбыло міліцэйскае начальства на чале з намесьнікам міністра. Намесьнік кажа: злазь. Адказваю — не. Чаму? Таму што, мякка кажучы, біць будзеце. Не, абяцае ён, ня будзем — усё роўна злавілі. Але ж увайдзі ў становішча сьледчага, яму тры гады да пэнсіі.

Зьлез. Тады за спробу ўцёкаў падсьледным тэрмін ня вешалі. Толькі асуджаным. Цяпер і падсьледным такое сьвеціць. У выніку ў мяне была «хімія». Тэрмін адседзеў невялікі. Вызваліўся па ўмоўна-

датэрміновым за добрыя паводзіны. Калі на судзе чыталі маю характарыстыку, судзьдзя сказаў: з такой за краты не прымаюць.

*Ад Ігара М.*

— Гэта было ў Навасадах, у калёніі № 14, ці то ў 2004, ці то ў 2005 годзе. Адзін з зэкаў сярод белага дня, гуляючы ў сваім лякальным участку, нечакана для ўсіх разагнаўся, пераскочыў адзін плот, потым другі, саскочыў у забароненую зону, разьдзіраючы скуру на руках і целе аб калючку. Ахоўнік на вышцы пасьпеў толькі адзін папераджальны стрэл у паветра зрабіць, як зэк праз апошні плот пераскочыў, што падзяляў яго ад волі. Потым з акрываўленымі рукамі схаваўся недзе ў сьвінарніку гаспадаркі, якая належала зоне. Там яго неўзабаве і знайшлі.

Далей адмысловая камісія праводзіла сьледчы экспэрымэнт, дык ніводзін з ваякаў ня змог з разгону даскочыць да краю плота, каб ухапіцца за яго рукамі, як гэта атрымалася ў несамавітага ЗК.

Былі і больш складаныя спробы ўцёкаў. Напрыклад, у Івацэвічах кемлівыя хлопцы вырашылі ўцячы проста з бараку. Яны прарылі падкоп пад усёй так званай забароннай зонай. І ўцяклі б — каб не пытаньне ўтылізацыі пяску. Так адміністрацыя і выкрыла той падкоп. Геніяльнасьць задумы была ў тым, што хлопцам удавалася выносіць пясок непрыкметна. У кішэнях, торбачках. І гэтаксама непрыкметна пазбаўляцца ад яго. Прарылі тады каля 20 мэтраў.

Яшчэ прыклад складаных уцёкаў. Два браты-блізьнюкі, адзін асуджаны калёніі строгага рэжыму, другі — вольны чалавек. Вырашылі на некаторы час памяняцца месцамі. Гэта ўдалося. Аднак хутка «вольны» выдаў сябе тым, што ня ведаў, як паводзіць сябе сярод ЗК.



А ўвогуле за час існаваньня незалежнай Беларусі на маёй памяці толькі адны пасьпяховыя ўцёкі. ПК-12, Ворша, 1992 ці 1993 год. Там турэмная лякарня для хворых на сухоты, а таксама жылая зона, дзе сядзяць здаровыя паўторна асуджаныя. Так гэта было, так гэта застаецца і цяпер. Побач з турэмным баракам там быў плот, на які паклалі дошку, прайшлі па ёй ды скочылі. У тых людзей была нейкая падтрымка. Іх хтосьці чакаў на волі.

Да таго ж і хлопцы тыя вельмі разумныя былі. Аднаго, зь Пінску, звалі Кот. Яго ды іншых не знайшлі і дагэтуль. Тыя, хто знаў яго, кажуць, што адзін час жыў недзе на поўдні Расеі. Усё нармальна было ў яго.

*Ад Зьмітра Дразда*

— У бабруйскай калёніі, калі я быў у карантыне, у нейкі момант усе заўважылі, што вакол пачалі бегаць туды-сюды ахоўнікі, потым нават прывялі сабаку. Хутка зьявілася начальства. Пазьней стала вядома, што адзін з арыштантаў паспрабаваў уцячы. Гэта быў зэк з так званым «нізкім статусам». У такіх сядзельцаў усё асобнае, нават кабінка ў прыбіральні. Туды не заходзіць ніхто, акрамя «пакрыўджаных».

І вось высьветлілася, што той зьняволены прабіў дзірку ў падлозе прыбіральні, прабраўся ў склеп, напэўна, спадзеючыся, што адтуль можна будзе выбрацца на волю. Аднак там у склепе яго і злавілі. Пра ягоны далейшы лёс нічога не вядома.

На зоне казалі, што да гэтага, аднак, была адна ўдалая спроба. Ня ведаю, калі менавіта, але тады адзін арыштант уцёк, схаваўшыся ў паддоны — прадукцыю, якая вывозілася з «промкі«.

Яшчэ, я ведаю, у сярэдзіне нулявых была спроба ўцёкаў з колішняй менскай калёніі на вуліцы Апанскага (цяпер Кальварыйская). Тады зэку ўдалося выбрацца на гарышча, але там яго і злавілі.

*Ад Зьмітра Вольнага*

— Здарылася ў Навасадах, калі начальнікам там быў Алкаеў. Тады трое арыштантаў, здаецца, напалі на ахову, і аднаго з уцекачоў паранілі. А я потым размаўляў з кімсьці з удзельнікаў. Дык вось, мужыкоў усіх трох на сьцяне ўзялі, на плоце. Скінулі са сьцяны, а гэта мэтры 3–4, зьбілі. Крыху пазьней зьявіўся Алкаеў зь пісталетам у руцэ і з крыкам: «Я вас, б..., застрэлю сваімі рукамі». Патыкаў пісталетам ім у твар, ну і пайшоў. Вось такі пэрсанаж. Ну, а ў астатнім быў ня самым дрэнным начальнікам. Турма жыла сваім жыцьцём, і на тым дзякуй.

*Ад былога «грамадзяніна начальніка»*

Былы начальнік Навасадаў, а потым «Валадаркі» Алег Алкаеў пацьвярджае гісторыю Зьмітра Вольнага: «Усё так і было...»

— Увогуле людзі розныя сядзяць, нямала дзёрзкіх. Ня ўсе ж бяскрыўдныя цяляты. Тады гэтыя трое скарысталіся няпільнасьцю аховы падчас прагулкі ў турэмным дворыку. Яны замкнулі ахоўнікаў у тым дворыку, і потым на дах, і па ім пачалі спускацца. Але вартавы спрацаваў правільна.

Памятаю спробу ўцёкаў у Воршы ў 1992-м, калі маці жонка прынесла на спатканьне мужу электраплітку. Тады дазвалялі гатаваць ежу зьняволеным. І паклала туды рэвальвэр-наган. Гэты хлопец узяў наган і неяк здолеў схавацца пад аўтобусам, які меўся выехаць з тэрыторыі ўстановы. Але тут пільны кантралёр зьявіўся і пачаў аглядаць аўтобус і пад ім. Зразумела, убачыў таго хлопца. У вязьня ня вытрымалі нэрвы, і ён застрэліўся. Але мог пальнуць і ў прапаршчыка.



Быў таксама выпадак на «Валадарцы». Імя арыштанта было Коўзун. Ён з дапамогай шаста скочыў на дах. А потым з даху адміністрацыйнага будынку скочыў уніз ды ўцёк. Але злавілі праз два месяцы.

Што тычыцца «Валадаркі», то зь яе яшчэ нікому не ўдалося ўцячы. Чуткі пра тое, што адзіным выключэньнем быў Дзяржынскі, ніякага дакумэнтальнага пацьверджаньня ня маюць.

Сам я ў свой час некалькі спробаў уцёкаў раскрыў. Прадухіляць уцёкі ўдавалася яшчэ на стадыі ідэі. Вось толькі чалавек падумаў, падзяліўся гэтым з кімсьці — апэратыўнікам пра гэта ўжо на другі дзень было вядома. Гэта адзін з момантаў прафэсійнай працы.

*Ад Ігара М. Пра тое, як уцякалі нявязьні*

Некаторыя гісторыі, якія здараюцца за кратамі, становяцца падставай ня толькі для стварэньня баек, але і больш сур’ёзных літаратурных твораў. Так гісторыя з турэмным канём, які доўгі час лічыўся на балянсе Івацэвіцкай калёніі, а потым узяў ды ўцёк, легла ў аснову апавяданьня асуджанага Ігара М. У сваім творы, напісаным зь вялікай доляй гумару ды іроніі, аўтар дае зразумець, што адбываецца ў гэткіх беларускіх установах насамрэч. Апавяданьне было разьмешчана на сайце «Свабоды» ды атрымала шмат добрых водгукаў.

## *Уцёкі каня. Апавяданьне*

Дзесьці паміж Варшавай і Масквой зь непапраўчай калёніі строгага рэжыму зьбег конь.

Конь быў на балянсе калёніі ўжо шмат гадоў, быў пабіты конскім жыцьцём і досыць мацёры. Звычайна, калі ў агульную сталоўку калёніі конь цягнуў воз бульбы ці капусты ў караване зь іншымі, маладзейшымі коньмі, шыхт зэкаў, якія пахмурна крочылі есьці, пасьпешліва пераходзіў на ўзбочыну, далей ад морды, бо за канём цягнулася дурная слава.

Бачачы шыхт зэкаў на сваім шляху, конь, як правіла, красамоўна прыціскаў вушы, нядобра глядзеў на таго, хто не пасьпяваў адступіць, і пнуўся ўхапіць зубамі ўсякага, хто пазяхаў.

Пагаворвалі, што, трапіўшы на службу ў стайню поўным дабрыні і веры ў чалавека маладым жарабцом, а гэта было ў тыя дрымучыя часы, калі зэкі клаліся спаць з заточкай у рукаве і пры ўсіх абставінах сьпінай шукалі сьцяну, конь на ўласнай скуры адчуў усё «хараство» лягернага жыцьця «не па паняцьцях» і абгрунтавана азьвярэў.

Аднойчы, калі паміж двума зэкамі выйшла спрэчка за заварку гарбаты, адзін, па мянушцы «Дурнаморды», які славіўся выключна трывалым мускульным «каркасам», у спробе чарговы раз заявіць пра сябе ды заваяваць, як яму здавалася, павагу ды страх у вачох злачынцаў усіх гатункаў, заявіў, што пасадзіць гэтага каня на пятую кропку адным ударам кулака ў лоб.

Прадчуваючы відовішча, другі прыняў заклад. Стаўка была хутчэй сымбалічная. Ласкава падвабіўшы маладога яшчэ тады каня акрайцам хлеба ды пераканаўшыся, што паблізу няма кантралёраў, «Дурнаморды» шпарка ступіў насустрач даверлівай жывёле і з усяго свайго дуру ўрэзаў ёй у лоб.

З тых часоў конь зьдзічэў. Толькі аднаму рэцыдывісту, які меў працяглы тэрмін, конь дазваляў наблі-



жацца і браць сябе за аброць, і той суправаджаў воз, аж пакуль ня выйшаў ягоны тэрмін.

І вось конь уцёк.

Загадкавая конская душа. Сышоў упрочкі. Ці то ўночы, ці то ўдзень — невядома.

Рота аховы, якая акружала калёнію, сабакі — ня ўгледзелі, праваронілі.

Жарт, ці што? Грандыёзнае надзвычайнае здарэньне з улікам палітычнай абстаноўкі і эканамічнай сытуацыі ў краіне. Прыблізны кошт жывёліны, якая стаіць на забесьпячэньні — 12 мільёнаў рублёў.

У шэрагах кіраўніцтва калёніі — шок. Пытаньне кар'еры і рэпутацыі. Адно да аднаго. Дамоклавым мечам — адмысловая камісія пры кіраўніку дзяржавы па скарачэньні колькасьці дзяржслужачых на 30–40%.

Кіраўніцтва калёніі па-вайсковаму ўзяло сябе ў рукі, стварыла апэратыўна-аналітычны штаб, у які ўвайшлі найлепшыя стратэгі з супрацоўнікаў установы ды тыя, з кім проста «можна хадзіць у выведку».

Штаб сабраўся ва ўмовах строгай сакрэтнасьці, пасьля каманды «адбой». Афіцэры зьгрудзіліся над мапай мясцовасьці ў пазыцыі «выбары — падлік галасоў».

Укормлены прапаршчык адрапартаваў:

— Дакладваю: пошук па гарачых сьлядах не прынёс вынікаў. Апытаньне мясцовых жыхароў і абыход двароў паказалі, што жыхары зь недаверам сустракаюць мерапрыемствы па вышуку каня, якіх-колечы істотных зьвестак не даюць, а некаторыя падазрона задаюць наводныя пытаньні. Такія асобы пастаўленыя на ўлік і забясьпечаныя «наружкай» сіламі ўчорашняй зьмены.

Слова ўзяў вусаты начальнік штабу:

— Мужыкі, уцёкі жывой адзінкі паказалі, што нам кінуты сур'ёзны выклік. У нас ёсьць два дні, а далей я павінен дакладваць наверх. Думаю, тлумачыць ня трэба, што могуць быць за наступствы.

— Таварыш начальнік штабу, дазвольце далажыць, — адарваўся ад падлікаў начальнік спэцад-

дзелу калёніі. — Я тут спраўдзіў дакумэнтацыю і зрабіў папярэднія разьлікі, паводле якіх папярэдні кошт каня-ўцекача ў памеры 12 мільёнаў завышаны, бо ня ўлічаны яго фактычны ўзрост. А з улікам фактычнага пажылога ўзросту ўцякач выпрацаваў свой рэсурс. Гэта раўназначна таму, што конь у сілу свайго ўзросту яшчэ застаўся вінен калёніі і, адпаведна, дзяржаве пэўную суму, для падліку якой патрэбныя прыкладна суткі...

— Адставіць! — перапыніў яго начштабу. — Лічыць будзеце, калі конь будзе ў нас. Я сам падазраваў, што ня мы за яго вінныя, а конь нам. Трэба прызнаць: сваімі сіламі адшукаць каня не ўяўляецца верагодным. З аднаго боку, на захад — пушча, дзе ён можа далучыцца да зуброў і згубіцца ў пагалоўі. З другога боку — палескія балоты, дзе сам чорт нагу зломіць. Да людзей ён ня пойдзе. Ведаю маёра Быкава як прафэсіянала, і складзены ім матэрыял па ўцекачу сьведчыць на карысьць маёй вэрсіі. Чакаю прапаноў, таварышы.

— Ільіч, я па-свойску, без фамільярнасьці, — падаў голас адзін з ДПНК (дзяжурных памочнікаў начальніка калёніі). — У мяне калега па баявых дзеяньнях на тэрыторыі дружалюбнай дзяржавы займае пасаду на заходнім напрамку войскаў СПА. Я яму жыцьцё ўратаваў у гарачай кропцы.

— Падключайце, але строга канфідэнцыйна!

Сустрэча адбылася ў прыдарожнай кавярні на трасе Варшава — Масква.

— Сямён, форс-мажор! Упершыню за 20 гадоў прашу дапамогі, — пачаў выкладаць праблему ДПНК.

Так, брат, ну і задачу ты задаў! Каня ж радарам ня выявіш, а табе нават невядома, у якім квадраце працўнік... б..., уцякач. Зь бесьпілётнікамі пэўна не атрымаецца... Не магу, мы іх нядаўна толькі тры адзінкі атрымалі з Францыі, дзьве яшчэ не тэставалі. Модуль трэба прашываць на расейскую мову. Французскі пастаўшчык загрузіў праграму на беларускай — паводле кантракту, на мове краіны-замоўцы. Дылема. У нас жа



базавая расейская. Бесьпілётнікі шалёных грошай каштуюць. Ты не ўяўляеш, у колькі складоў з раставральнікамі яны абышліся. Не, браце, а калі гэтая чарговая інтэрвэнцыя з плюшавым дэсантам? Мне тады пагонаў ня знасіць. А то і галавы.

А ў гэты час калёнія жыла рэдкімі хвілінамі лагаднейшага жыцьця. Па атрадах а 6-й раніцы больш ня бегаў афіцэрскі склад у пошуках парушальнікаў каманды «пад'ём». Не было штогадзінных абходаў і кантролю, ці правільна на зэдліках складзеныя рэчы, ці роўненька вісяць ручнікі і г. д., што трымала абодва бакі ў нэрвовым стане. Заканчваўся вечар другога дня.

Уражаньні зэкаў былі супярэчлівымі.

Старажылы асьцерагаліся, што пасьля гэтага рэжым заціснуць яшчэ больш. Маладыя ўпіваліся рызыкай ды дзёрзкасьцю конскага ўчынку. Некаторыя на плячах і грудзях парабілі татуіроўкі з выявай дзікага мустанга і надпісам «Freedom».

Па-асеньняму цямнела рана. У штаб, які лічыўся сакрэтным, уляцеў загадчык гаспадаркі 30-га атраду:

— Хутчэй уключайце тэлік, «Зону Фікс»!

З экрана азьвярэла вяшчала Віялета Сэксаловіч. Відэасюжэт уражваў. Па МКАД, у праліўны дождж, па сустрэчнай паласе, у сьвятле аўтамабільных фар свабодна і незалежна крочыў конь з горда ўзьнятай галавой. Не зьвяртаючы ўвагі на пранізьлівыя сыгналы аўтамабіляў, якія сьпешна зьяжджалі на ўзбочыну, на дождж, на агні мільённага гораду, на яркія ўспышкі рэпартэраў, якія прыбеглі па «смажаны» матэрыял...

Хай чытач сам вырашыць, што ў гэтай гісторыі праўда, а што выдумка. Магчымыя супадзеньні з рэальнымі пэрсанажамі, падзеямі, фактамі. Рэальны ўчынак каня, які вырваўся зь нявол, натхніў на гэты аповед, у аснову якога леглі рэальныя падзеі, якімі яны бачацца з-за кратаў.

# Ці патрэбны музэй турмы ў Беларусі

## *Абмеркаваньне сярод слухачоў «Свабоды ў турмах» і наведнікаў сайту svaboda.org*

Ці патрэбныя Беларусі музэі турмы? Прычым, ня вузкаведамасныя, а даступныя шырокім колам наведнікаў? Гэтая тэма вельмі актыўна абмяркоўвалася і на інтэрнэт-форумах «Свабоды ў турмах».

Толькі адзінкі не падтрымалі падобную ідэю, палічыўшы яе «блюзьнерствам». Некаторыя назвалі прапанову цалкам правальнай, бо, маўляў, музэі ў Беларусі ўвогуле не карыстаюцца папулярнасьцю.

Большая частка нашай аўдыторыі, аднак, ухваліла ідэю, адзначыўшы, што найлепшым месцам для такой экспазыцыі мог бы стаць Пішчалаўскі замак. Зразумела, пры ўмове, што гарадзкія ўлады не аддадуць «Валадарку» пад нейкі бізнэс-праект — гэта было б шкада, пісалі нашы чытачы. Бо і ў Менску, і ў Горадні, і ў іншых цэнтрах, дзе турмы ўсё яшчэ месьцяцца ў помніках культуры, турэмныя музэі маглі б даць «дадатковы імпульс разьвіцьцю культурна-турыстычнай індустрыі».

Вось некаторыя з тых камэнтароў.

### *Глеб (Глыбокае)*

Я не спэцыяліст у музэях, але мне здаецца, што турма ў Глыбокім магла б стаць своеасаблівым ключом да разуменьня гісторыі гэтага рэгіёну, які быў рэгіёнам розных рэжымаў, мноства падзеяў, вельмі часта трагічных, рэгіёнам злачынстваў акупацыйных уладаў над мясцовым насельніцтвам. У гэтай самай закрытай на сёньня калёніі ў Беларусі ўчынялі злачынствы супрацоўнікі савецкага НКВД, нямецкія фашысты, пасьляваенныя ўлады. Пакуль ёсьць яшчэ жывыя сьведкі, трэба ўсё запісваць. Рана ці позна, але такі мэмарыял будзе.



### *Галіна Ўладзімераўна (Менск)*

Мне было ўсяго два з паловай годзікі, але я памятаю, як з НКВД прыйшлі арыштоўваць бацьку. У сямейным архіве захаваліся яго турэмныя лісты да маці. Добра, што тыя часы мінулі, але памятаць пра іх варта. Такія музэі турмаў патрэбныя. Магчыма, найлепшым месцам для такой экспазыцыі магла б стаць «Амэрыканка».

### *Ільля, Ворша*

Цяпер у Воршы дзьве турмы, а да нядаўняга часу дзейнічалі ажно тры. У розныя часы там сядзелі ня толькі крымінальнікі, але і паўстанцы, ахвяры рэпрэсіяў і шмат нявінных людзей. Цягам 150 гадоў зьняволеныя ўтрымліваліся ў падвалах езуіцкага калегіюму. Гэтыя сутарэньні і цяпер выглядаюць як турэмныя камэры, а ў некаторых месцах можна нават знайсьці сьляды ад куль. Хіба нашчадкам ня трэба ведаць гэтай старонкі ўласнай гісторыі?

### *Abrykos (Менск)*

Я б у сьпіс дадаў Гайцюнішкі. Рэдкі ўзор гісторыка-архітэктурнай спадчыны, дзе ўтрымліваюць псыхічна хворых, у тым ліку забойцаў. І ў тым ліку, як варыянт, — невінаватых. Гайцюнішкі маглі б стаць унікальным музэем карнай псыхіятрыі. Адразу дзьве праблемы ў адным месцы.

### *Ананім*

Такі музэй павінен быць ня толькі палітычным музэем. Ён павінен стаць музэем ПРАВА чалавека, адлюстроўваць характар злачынстваў і пакараньняў у незалежнай Беларусі. Як экспанаты павінны быць элемэнты рознай турэмнай субкультуры — гульні зэкаў (шахматы, нарды, карты), нейкі стэнд, дзе б было прадстаўленае турэмнае арго. Спэцыяльная экспазыцыя павінна быць прысьвечана тым арыштантам, якія сядзелі па палітычных матывах. І тут могуць быць відэа- і аўдыёсьведчаньні былых вязьняў «Амэрыканкі», «Валадаркі» ды іншых вязьніц.

### *«Былы»*

Думаю, што павінен быць такі зборны музэй, дзе б былі аб’яднаныя экспазыцыі з розных турмаў. Бо ў нас усе турмы — прыклад зьнявагі, зьдзекаў, катаваньняў ды забойстваў уласных грамадзян. І «Валадарка», на мой погляд, — гэта найлепшае месца для музэю. Яна найстарэйшая зь беларускіх турмаў, дый людзей празь яе прайшло шмат, а расстрэлы з катаваньнямі выконваюцца тут і дагэтуль. Экскурсантам можна будзе паказваць камэры ды карцэры, у тым ліку і камэры сьмяротнікаў. Іншая справа, што пры цяперашняй уладзе гэта немагчыма, бо, па вялікім рахунку, музэй беларускай турмы — гэта так ці інакш асуджэньне таталітарызму. Мне шкада людзей, якія гэтага не разумеюць...

### *Мінак*

Згодны. Немагчыма пры цяперашняй уладзе, але хто перашкаджае рабіць тыя самыя выставы? Дагэтуль былі выставы лістоў палітвязьняў, здаецца, у БНФ паказвалі карціны аднаго мастака. Але ж можна выставіць і шмат чаго іншага. Нейкія копіі позваў, пратаколаў... тыя самыя кнігі, якія напісалі ў турме ці пасьля турмы былыя асуджаныя. Паказаць розныя побытавыя рэчы. Шахматы, зробленыя зэкамі з хлеба. Турэмны посуд з алюмінію. Тыя самыя футаралы ад зубных шчотак, якія даводзіцца выкарыстоўваць замест лыжак, і г. д.



### *Алег Краўчанка*

За музэй. І менавіта ў Пішчалаўскім замку. Цягам двух гадоў (2012–2013 гг.) я быў тут падсьледным па эканамічнай справе і, пакуль яе не закрылі з прычыны адсутнасьці складу злачынства, адседзеў у некалькіх камэрах. Недзе зь месяц сядзеў у камэры № 20 з «палатачнікам» Глебам Бядрыцкім. Там умовы нагадваюць бальнічныя, няма надта высокай вільгаці, таксама цякучкі, як у звычайных камэрах. Мне далі зразумець, што можна сядзець добра, калі пайсьці на зьдзелку са сьледзтвам.

Побач, наколькі ведаю, была пара камэраў для V.I.P. — здаецца, 23–24. Кажуць, там утрымліваўся былы пракурор Менскай вобласьці Сьнягір, сядзелі і сядзяць былыя мянты, розныя іншыя «былыя», у якіх свае сувязі з уладамі. Таксама ёсьць палепшаныя камэры на чатыры чалавекі, напрыклад, на адным паверсе з «бальнічкай». Там шмат месца, рукамыйнік, унітаз, тэлек, лядоўня. Па сутнасьці, гэта тыя камэры, якія, хай па мерках нашай краіны, адпавядаюць патрабаваньням другога дзесяцігодзьдзя XXI стагодзьдзя.

Пасьля месяца ў «дваццатцы» мяне перавялі ў першую палову XX стагодзьдзя, у камэры 57 і 63, што ў сутарэньнях. Яны самыя вялікія ў СІЗА і зваліся «Шанхаем» за вялікую колькасьць людзей на квадратны мэтар, дрэнную вэнтыляцыю, вільгаць і г. д. Сапраўдны кітайскі квартал. З 35 квадратных мэтраў — 2 мэтры

прыбіральня і 3 мэтры — месца для прыёму ежы. На астатнія 30 мэтраў — 18 ложкаў.

При мне сядзела да 25 арыштантаў. Гэта значыць, што даводзілася спаць па чарзе. Асабістая прастора чалавека — ложак. Рухацца няма дзе. Калі не глядзець сябе, то гемарой і атрафаваньне цягліц забясьпечаныя. Прусакоў — мора. Здараліся мышы. Іх імкнуцца лавіць, абы не паўзьлі пад падлогу і не здыхалі там. Часам сьмярдзела нясьцерпна.

У кампаніі з такімі самымі, як я, «эканамістамі», па волі адміністрацыі, а часьцей тых, хто вышэй за адміністрацыю, утрымліваліся розныя забойцы, маньякі, вар'яты, наркаманы, алькаголікі, бамжы. Адзін ЗК з дырэктараў, якому «шылі» хабар, праз год плюнуў на ўсё, узяў на сябе віну і пайшоў пад амністыю. Амністыю ўлады робяць ня з жалю да вязьняў, а для сябе, каб закрыць розныя недаказаныя справы-вісякі.

### *Z/K (Менск)*

Сядзеў шмат. Нават пачаў пісаць кнігу... Для гісторыі. У 2002–2003 быў вязьнем на «Валадарцы». Давялося тады пабываць і ў так званым спэцкалідоры, дзе ўтрымліваліся сьмяротнікі і пажыцьцёвікі. У тыя часы адміністрацыя кідала ў гэты калідор і парушальнікаў рэжыму. Асабіста мяне ў спэцкалідор кідалі двойчы. Адзін раз да прысуду, а другі — пасьля. Памятаю, гэта быў склеп, здаецца, 13 камэр, з 5-й па 18-ю. Я быў у камэрах 5, 6 і 9. Адрозьненьне камэр сьмяротнікаў ад звычайных — дадатковыя замкі, а так усё тое самае.

Зразумела, мы імкнуліся «навесьці масты» са сьмяротнікамі і пажыцьцёвікамі, ліставаліся зь імі, вядома, не з усімі, а толькі з тымі, хто сам гэтага хацеў. Калі атрымлівалася, а гэта залежала ад ахоўніка, то перадавалі газэты, цыгарэты, гарбату, печыва, цукеркі. Часам траплялiся людзкія ахоўнікі. Седзячы ў тым калідоры,



пачынаеш усьведамляць, наколькі тонкая мяжа паміж жыцьцём і сьмерцю.

Мы чулі, калі некага са сьмяротнікаў выводзілі. Па начах, каб ніхто ня бачыў. Гэта мог быць апошні шлях чалавека. Пры мне такое практыкавалася па серадах. Аднойчы адзін сьмяротнік перадаў нам ліст-споведзь, у якім апісаў сваё жыцьцё і паспрабаваў асэнсаваць яго. Самае жудаснае ў ім — усьведамленьне і пастаянныя думкі, што яго ў любую хвіліну ня будзе. Вось так я сутыкнуўся з гэтым бокам турэмнага жыцьця.

### *Лявон Белы (Менск)*

Хто ведае больш пра цяперашнія расстрэльныя камэры пад сквэрам з помнікам Адаму Міцкевічу, якія ідуць з-пад Пішчалаўкі да Нямігі, а таксама пра такія самыя падземныя камэры ад Бэрыеўскай вежы ў КДБ у сквэр пад помнікам галоўнаму чэкісту-кадэбоўцу «жалезнаму» Фэліксу ў бок стадыёну?

### *Ірына Н.*

У такіх музэях рэчы павінны называцца сваімі імёнамі, а таксама ўказвацца характар злачынстваў ды пакараньняў. А то ў мэнталітэце нашага грамадзтва чым далей, тым больш умацоўваецца ідэалізацыя вобраза злачынца.

### *Рыма Нікалаенка (Смалявічы)*

Шмат гадоў таму мой брат быў жорстка забіты трыма падонкамі, якім спатрэбіліся яго грошы. Яны ня проста забілі яго, яны зьдзекаваліся зь яго, як маглі, перад сьмерцю, яшчэ жывога рэзалі на кавалкі. На «Валадарцы» расстралялі аднаго з траіх, двое ўжо вызваліліся і жывуць у нашым горадзе. Калі наша мама

сутыкнулася на вуліцы з адным з гэтых дваіх, у яе здарыўся інфаркт.

Хто заклікае маю сям’ю даравацъ гэтым вырадкам? Хто хоча, каб мы спачувалі гору матулі расстралянага? Толькі той, хто лічыць, што яго сям’ю такая бяда ніколі не закране. Той, хто ведае шмат тэорый і законаў, але ніколі не адчуваў жах ад неадступнай думкі пра тое, што родны чалавек адчуў перад сьмерцю! Той, хто ня бачыў цела брата, на якім не было жывога месца! Той, каму тэорыі і эўрапейскія каштоўнасьці замянілі здаровы сэнс! Спыніцеся, «праваабаронцы», каго вы робіце героямі?!

Паважаныя рэдактары, вельмі прашу вас не выдаляць мой камэнтар. Ён жорсткі, але немагчыма маўчаць, калі дзеецца такая несправядлівасьць, сваякі забойцаў становяцца большымі ахвярамі, чым сваякі ахвяраў, і ледзь ня ўзводзяцца ў сьвятыя.

### *Visioner*

Турма — люстэрка грамадзтва. Чорнае, непрыгожае, але гэта якраз люстэрка. Вось так выглядае наша грамадзтва — узлаванае, загнанае, маўклівае... А калі гэтае грамадзтва пачынае гаварыць, то ў мове такая сумесь зэкаўскага слэнгу, саўковай бюракратычнай шалупіны, трасянкі, што вушы вянуць. А гэта ж так і гаворыць сёньня народ. Так сьпявае масавая культура. Так думаюць нават вельмі многія людзі, якія нічога іншага ні дома, ні ў школе ня чулі. У музэі турмы, хай бы такі быў на «Валадарцы», проста неабходна ўказваць на падобныя прычынна-выніковыя сувязі.

### *Прапанова (Менск)*

Трэба зрабіць музэй-гатэль на «Валадарцы» і сяліць людзей па 40–50 чалавек у 20–25-мэтровую камэру без вэнтыляцыі, гарачай вады, магчымасьці



памыцца. Хай з тыдзень пасядзяць, больш нічога не захочуць. Для асаблівых экстрэмалаў можна ў карцэр на 10 сутак заехаць, з харчаваньнем як раней, дзень «лётны» (калі неяк кормяць) — дзень «нялётны» (калі толькі хлеб ды гарбата). Вось гэта будзе забаўка на ўсё жыцьцё, людзі будуць баяцца трапіць у такія ўмовы ў рэальным жыцьці.

### *Яўген*

Музэй... музэй... Што вы як дзеці малыя? Ня будзе ніякага музэю. Пакуль не пераселяць турму ў Калядзічы, будынак Пішчалаўскага замку разбурыцца ўшчэнт. Яго зьнясуць, пабудуюць элітны квартал.

### *Хай усё застаецца (Менск — Горадня)*

Магчыма, камусьці турма ў цэнтры гораду «муляе вочы» і навявае непрыемныя думкі. Але, можа, ня так ужо гэта і дрэнна? Ня выключана, што хтосьці падумвае пра злачынства, але, праяжджаючы міма гэтай установы, ён усьвядоміць, што ў выніку апынецца па другі бок плота, і адмовіцца ад сваіх шкодных задум.

### *Чытач-беларус*

Чаму вы сваімі артыкуламі штурхаеце людзей на пошукі праўды? Няўжо дагэтуль не зразумела, што яе, гэтай праўды, проста няма? Гэта сыстэма, а чалавек адзін супраць гэтай сыстэмы нічога ня зробіць. Хай чалавек адседзіць спакойна свой тэрмін і выходзіць. Калі ў нас на волі ўсюды парушаюцца нашы правы, амаль ніводзін чалавек ня можа знайсьці справядлівасьць, што ўжо казаць пра турму!

## Пасьля зоны

СІЗА № 1, дзе, паводле неправераных зьвестак, усё яшчэ расстрэльваюць, застаецца ў цэнтры беларускай сталіцы. Як паведамілі ў Менгарвыканкаме, СІЗА вызваліць будынак, які мае статус гісторыка-культурнай каштоўнасьці, да 2020 году.

Што менавіта разьмесьціцца ў памяшканьнях пачатку XIX стагодзьдзя, дагэтуль усё яшчэ ня ясна. Ці будзе створаны на тэрыторыі Пішчалаўскага замку адмысловы музэй турмы, паводле чыноўнікаў, будзе залежаць ад таго, хто стане заказчыкам праекту, і, зразумела, ад памераў фінансаваньня рэстаўрацыйных работ. У 2014-м, сыходзячы з разьлікаў адмыслоўцаў, агучвалася лічба 83 мільярдаў рублёў (каля 4,1 мільёна даляраў паводле тагачаснага курсу).

Тым часам восеньню 2015-га ў Горадні, у аднапавярховым адміністрацыйным будынку насупраць тамтэйшай, самай старажытнай у краіне турмы № 1, з асабістай ініцыятывы міністра МУС адкрылі першы ў краіне турэмны музэй. Сярод экспанатаў з параўнальна нядаўняга мінулага — асабістыя рэчы, дакумэнты і ўзнагароды былых супрацоўнікаў турмы, фатаграфіі вядомых зьняволеных. Больш раньні пэрыяд турэмнай рэчаіснасьці прадстаўлены прыладамі катаваньняў і клеймамі для зладзеяў і ўцекачоў з катаргі. Пускаюць у музэй толькі па заяўках арганізацый.

Былы палітзьняволены Мікола Аўтуховіч, які сядзеў у гарадзенскай турме, ставіцца да ідэі стварэньня гэткага музэю вельмі крытычна. Маўляў, такія музэі можна было б рабіць, калі б «мы жылі ў нармальнай дэмакратычнай дзяржаве, калі б у Беларусі не было палітвязьняў, а ў турмах не катавалі б людзей».

За тое, што гэткія турэмныя музэі павінны найперш дэманстраваць палітычную сутнасьць рэжымаў у тую або іншую эпоху, каб «дапамагаць людзям зразумець, што гэта быў за час», выказаўся яшчэ адзін былы палітзьняволены і ў мінулым вязень гарадзенскай турмы — Зьміцер Дашкевіч.



Магчыма, сёньня шмат хто зойме такую пазыцыю. Але ці сапраўды варта адмаўляцца ад усяго, што цяпер на гэтую тэму «сабрана ды захоўваецца»? Хто ведае, якую асьветніцкую ролю адыграе для нашчадкаў той або іншы самы прарэжымны, з сучаснага гледзішча, турэмны дакумэнт, нейкае іншае, хай самае мізэрнае, матэрыяльнае сьведчаньне пра сыстэму пакараньня пачатку XXI стагодзьдзя? Ці мог нехта на пачатку Другой сусьветнай вайны чакаць, наколькі важнымі акажуцца для гісторыі кіназдымкі гітлераўскіх ды сталінскіх фатографаў і кінаапэратараў, наколькі інакш, чым задумана было прапагандай, убачаць нашчадкі, што гэта быў за час?

Наступныя пакаленьні могуць пераасэнсоўваць гістарычныя падзеі не ў апошнюю чаргу таму, што маюць у сваім распараджэньні значна больш, чым сучасьнікі, архіўных крыніцаў, навуковых працаў, музэйных экспанатаў, самых розных дакумэнтальных споведзяў, хай вельмі суб'ектыўных і часам эмацыйных.

Такіх, як, да прыкладу, лісты арыштантаў ды іхніх блізкіх, дасланыя на «Свабоду ў турмах», расказы відавочцаў арыштанцкага жыцьця ў Беларусі пачатку трэцяга тысячагодзьдзя.

Ці тэксты старых арыштанцкіх песьняў пра цяжкую долю беларускага вязьня ды жанчыны, якая засталася ў яго на волі. Песьні старыя, крыху наіўныя, але іх надрыўная туга дагэтуль вярэдзіць душу чалавека за кратамі

Ня сьпіцца і не ляжыцца.
І сон мяне не бярэ
Прыйдзі ж да мяне, дарагая,
І супакой мяне

Ня раз я прыхадзіла
К цюрэмным варатам
Усе камеры былі закрыты
І стража стаяла ўся

А ў цюрме акно высока
Два жалезныя замка
Сьцены камеры высокі
Ня відна сонца ані дня.

*(З альбому «Беларускі гарадзкі раманс 20–30-х гадоў XX стагодзьдзя» з крымінальна-арыштанцкімі песьнямі Заходняй Беларусі).*



# Паказьнік асобаў

**А**

К



Л







М



Н

О



П



Р



С







Т



У



Ф



Х



Ц

# Паказьнік установаў

## ТУРМЫ



## СЬЛЕДЧЫЯ ІЗАЛЯТАРЫ (СІЗА)



## ЗОНЫ, або ПАПРАЎЧЫЯ ЎСТАНОВЫ

КАЛЁНІІ-ПАСЯЛЕНЬНІ



ЛЯЧЭБНА-ПРАЦОЎНЫЯ ПРАФІЛЯКТОРЫІ (ЛТП)



СЬЛЕДЧЫ ІЗАЛЯТАР КДБ

# Пра аўтарку

Алена Струвэ нарадзілася і жыве ў Менску. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ, вучылася сацыяльнай пэдагогіцы ў Дортмундзе (Нямеччына). Працавала на Белдзяржтэлерадыё, у эканамічным часопісе «Дело», супрацоўнічала з замежнымі СМІ, ад 1995 — з Радыё Свабода. Удзельнічала ў дабрачынных беларуска-нямецкіх праектах. Пад яе рэдакцыяй у сэрыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» выйшла кніга Юрыя Бандажэўскага «Турма і здароўе». Сябра БАЖ. Ляўрэатка нацыянальнай праваабарончай прэміі «Журналіст году» за перадачу «Свабода ў турмах», якую вяла ў 2011–1017 гг.



# Summary

“Prison, Man, Woman: Serving Time in Today’s Belarus” is a collection of interviews with former Belarusian prison inmates and jail officials, culled from the Radio Liberty series “Svaboda in Prisons”, which the station aired from 2011 through 2017.

In 2014, midway through its run, the series earned its author Alena Struve the title “Journalist of the Year” from an umbrella group of Belarusian human rights organizations. (Apart from her work as a journalist, Struve is also a highly respected educator whose name is associated with many German-Belarusian charitable projects.)

Belarus has one of Europe’s largest prison populations, and Struve’s research uncovers all the mores and traditions of that populace. Here are stories of despair and joy, evil and nobility, love and hate, disease and death, political and social conflicts, creativity and humor — all as experienced by those whose lives have been touched by the Belarusian penal system.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2002. —
464 с.




**Дарога**
**праз Курапаты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2002. —
464 с.: іл.




**Poems on Liberty:**
**Reflections for**
**Belarus.**
*Пераклады Веры*
*Рыч.*
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў
клясыка беларускай
літаратуры ў этэры
Радыё Свабода.
Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004.




**Дуліна**
**ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА**
**ў Беларусі.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд.,
дапоўненае.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская**
**Атлянтыда.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2006. —
504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—**
**25.03.2006.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2006. —
400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.



**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода.
Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар.
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак
і песень 100
удзельнікаў
перадачы
«Барды Свабоды».
Мультымэдыйны
DVD-дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.**
Міжнародная
падтрымка
беларускай
дэмакратыі.
Мультымэдыйны
DVD-дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
330 с.




**Саўка ды Грышка.**
**Год першы.**
Калекцыя 50
песьняў – падзеі
году ў сатырычным
дуэце Лявона
Вольскага з самім
сабой на Радыё
Свабода.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька.**
**Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2012. —
400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня.**
**Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2012. —
464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2012. —
516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




**(НЕ :) вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.